# ЗАЗІМАК

## 1

На настаўніка Ігнатовіча звалілася бяда. Ну, форменнае няшчасце. Не думаў, не чакаў, што можа так быць, а яно вось здарылася.

Некалькі дзён запар у школу прыходзіў Галавацкі Антон, белабрысы, з вялікімі залысінамі, з блакітнымі, крыху пацямнелымі вачыма, сам невысокі, але даволі ёмкі ў плячах мужчына. У грудзях у яго, у лёгкіх, яшчэ з вайны сядзелі асколкі, Антон гаварыў усім аб гэтым, як бы раскрываючы прычыну таго, чаму ён не берог сябе і часта напіваўся. П'яны ж — адчайваўся, плакаў, крыўдзіўся на лёс, на жонку, якая нараджала яму дзяцей, не даўшы ім ні розуму, ні таленту да вучобы. А яго дзень — век. Сягоння ходзіць, а заўтра можа быць у бярэзніку, што значыла на могілках,— памрэ.

Ён не хваліў жонку, што яна дзень прападала на саўгасным кароўніку, даглядаючы і доячы дваццаць кароў, а дома ўночы гатуючы дзецям, у тым ліку і яму. Яна разы ў тры-чатыры больш прыносіла дадому за месяц заработку, чым ён атрымліваў сваёй пенсіі, але ён не гаварыў нікому аб гэтым, наўрад сам ці ведаючы, што гэта так, мыслячы даўно забытымі катэгорыямі: мужчына —

гаспадар, кармілец, жанчына — рабыня, нахлебніца. Яна заставалася ў яго дурной, негаспадарлівай, ганчуркай і чым толькі хочаце.

Гэты Антон зачасціў нешта ў школу.

Вось і цяпер.

Стаяў на калідоры, каля кабінета дырэктара.

І ў Ігнатовіча нешта ёкнула пад самым сэрцам.

Скажы пасля гэтага, што няма прадчування. Ёсць прадчуванне.

На перапынку паклікаў дырэктар Ігнатовіча ў свой кабінет.

І калі Ігнатовіч зайшоў туды, там акрамя дырэктара быў ужо Галавацкі і яго сын-вучань, белы, лабаты, выліты бацька.

Дырэктар сядзеў за сваім сталом, на якім быў ліст тоўстага сіняга шкла, на шкле — якаясьці папка.

— Іван Іванавіч, вось,— Зярніцкі паказаў рукой на Галавацкага,— гэта таварыш Галавацкі, будзьце знаёмы, калі незнаёмы яшчэ. Ну, а гэта яго сын, наш будучы вучань,— дырэктар на яго паказаў левай рукой, склаўшы пальцы ў акуратны кубарык.— Возьмеце яго ў свой клас.

Ігнатовіч адказаў, што таварыша Галавацкага ён ведае даўно, і Галавацкі Ігнатовіча, мусіць, не менш даўно ведае, толькі Ігнатовічу незразумела было, дзе дасюль быў вучань, бо на дварэ ўжо кастрычнік.

— У школе-інтэрнаце,— адказаў дырэктар.— Во тут яго асабовая справа. Я дам вам яе, пазнаёміцеся,— і дырэктар палажыў сваю руку на папку.

— У якім? — запытаў Ігнатовіч, хоць гэта да справы, можа, і не мела дачынення, аднак ён запытаў, забягаючы наперад, шукаючы загадзя такіх-сякіх звестак пра хлапца, з якім ён, як класны кіраўнік, павінен будзе трымаць сувязь.

— Смілавіцкім,— адказаў бацька, пры гэтым чамусьці акінуўшы сына вачыма з ног да галавы, нібы ён быў у нечым вінаваты.

Канешне, вінаваты. Толькі так глядзяць бацькі на сваіх дзяцей, калі яны зробяць што-небудзь нядобрае. Смілавіцкі інтэрнат не ў нашым раёне.

— Чаго ён там быў?

— Перавялі туды.

— Чаго?

— Чаго? Халерны такі. Дамоў уцякаў. Возьме і прыбяжыць.

— Чаго?

— Чаго? Бізуна там не даюць.

— А дома давалі?

— Чаму, давалі.

— Памагала?

— Мусіць, малавата давалі.

Празвінеў званок: перапынак скончыўся, трэба было ісці на ўрок.

Дырэктар падняўся з-за стала і падаў Ігнатовічу папку, якая ляжала ў яго, дырэктара, на стале.

— Пазнаёміцеся.

І да Галавацкага:

— Усё. У нас урок.

Ігнатовіч павёў па калідоры хлапца ў клас. Побач з ім ішоў Галавацкі і гаварыў:

— Вы толькі пасадзіце яго дзе-небудзь...

— За краты? — пажартаваў Ігнатовіч.

— Хіба каб...— адказаў бацька.

— Няма ў нас.

— А я скажу вам, Іван Іванавіч: лупіць іх трэба было ў школе. Пекануў каб катораму, нябось, ведаў бы.

— Не маем права. Слухайце: каб вашага сына набілі, што б вы запелі?

— Дзякуй сказаў бы. Чэснае слова, Іван Іванавіч. Калі людзі настаўляюць на добрае,— што я магу гаварыць?

— Вы ж кажаце, што білі?

— Біў. Паверце мне, як ката драў. Але дзеці бацька-

вай бойкі не баяцца. Бацькава рука не баліць. О, людзі каб далі. Чужое — баліць.

— Ну і дагаварыліся: чужое — баліць. Навошта мне, каб ваша не балела, а маё балела? Век будзе мне злосць гнаць.

— А, чорт яму даў. Дзеці забываюцца. Мяне, думаеш, ніхто не біў? Там у агародзе зловяць, там у яблыках. О-о, каб я помніў усё!

— Добра, дык што ён натварыў там, ваш сын?

— Што натварыў? Нічога, Іван Іванавіч, ён не натварыў. Раз злавіла міліцыя ў Мінску, тады другі раз злавіла ў Мінску. Возьме і ўцячэ з гэтага самага інтэрната. Хочацца яму на прастор. А там сядзі, кажа, як пад замком якім. Нікуды не пускаюць. Каб на смех куды пусцілі. Яно падумаць, дык і праўда. Падрос хлапец. Хочацца, каб на рэчку збегаць, зімой — на каўзель, на людзей паглядзець. А тут няволя і няволя. Дык выклікае мяне дырэктар і кажа: «Забірайце, іначай у калонію здадзім». А дурны такі, як пень.

— Хто? Дырэктар?

— Ну. Я і падумаў: дурню закон не пісан. Возьме і здасць. Шкода яму чужога? А мне, як ні гавары, сын, свая кроў. Узяў я. Дзе міргам, дзе кіем — як-небудзь будзем гадаваць, калі ўжо на свет радзіўся і калеліца не ўзяла малога.

— Дурны, кажаце, дырэктар?

— Дурны як бот.

— Чаму вы так думаеце?

— Я ж не вінават, што ён гэткі. Як звер. Ніякай у яго спагады да чалавека.

— Мусіць, у яго не адзін такі, як ваш.

— Ну і што, што не адзін? І ў мяне ён не адзін,— пяцёра. Усіх шкода. І большых, якія ўжо не ў школе, і меншых, якія яшчэ ў школу не ходзяць. Які палец ні ўкусі, усё роўна баліць. Дырэктар павінен быць як бацька. Усіх павінен шкадаваць і настаўляць, як жыць. Што, калі

якое дзіця не такое, вешаць яго? Дрэвы ў лесе не роўныя, а людзі горш таго. Дрэва можна ссеч, а чалавека не ссячэш. Усякаму трэба жыць. А ён сваю шкуру беражэ. Каб яго не знялі, вымову не далі. Ты, брат, калі ўзяўся за што, глядзі сваё дзела. Не страхуйся.

— Вам так здаецца.

— Я не веруюшчы.

— Што?

— Кажуць, калі здаецца, дык трэба хрысціцца. А я кажу, што я не веруюшчы.

Ігнатовіч моўчкі глянуў Галавацкаму ў вочы і знік з яго сынам за дзвярыма класа.

Галавацкі ціха пайшоў па доўгім школьным калідоры да выхада, як бы зваліўшы са сваіх плячэй нешта вялікае і цяжкае, не жадаючы чакаць званка з урока, калі б можна было паглядзець на сына, як ён там уладкаваўся ў класе, і перакінуцца такімі-сякімі думкамі з Ігнатовічам.

Дзень быў трошкі хмуры, але мяккі, жаўталісты, такі, які робіць чалавека лагодным і чыстым у сваіх думках.

## 2

Пасля свайго апошняга ўрока, які быў пятым, Ігнатовіч сеў у настаўніцкай за доўгі агульны стол і пачаў чытаць асабовую справу Галавацкага Тараса Антонавіча.

У першым класе быў вучань як вучань. Нават са здольнасцямі: ціхі, удумлівы, з добрай памяццю.

Памяць. Для навукі, бадай, яна — галоўнае.

Ціхі. Гэта і тактоўны, і паслухмяны, што патрэбна для добрых і нават прыкладных паводзін.

У другім класе з паспяховасцю быццам нармальна, у паводзінах — «упарты».

Ігнатовіч паставіў палец пад гэтым словам і доўга думаў. Упарты... Як растлумачыць гэтае слова? Педагогікай, псіхалогіяй, біялогіяй? Добра ці дрэнна, калі чалавек упарты? У школе — не, а ў рабоце? Настаўнікі любяць падатлівых, як замешаную гліну, з якой можна ляпіць усё, што ўздумаецца.

Ігнатовіч не гаварыў нідзе нікому, але глыбока ў душы заўсёды адчуваў сімпатыю да ўпартых вучняў, пачалавечаму пацяшаючыся з гэтай іх рысы.

Калі б нават не прачытаў характарыстыкі, Ігнатовіч сам паспеў заўважыць, што хлопчык — «падлобнік». Такіх менавіта вучняў, скажам адкрыта, не любяць настаўнікі, надзяляючы іх адмоўнымі мянушкамі нават у пісьмовых характарыстыках.

Цікава, як павёў бы сябе любы настаўнік, калі б напісаць на яго паперку з мянушкамі і палажыць гэтую паперку ў яго асабовую справу? Ісці, скажам, па вуліцы і адчуваць, што на цябе глядзяць ззаду вочы нядобразычлівасці,— гэта цяжка.

Пасля другога класа пайшло яшчэ горш. Характарыстыкі былі такія, што хоць за галаву хапайся. Мянушкі пладзіліся, як пустазелле, у геаметрычнай прагрэсіі. Нікому і нічога было не сорамна. Гультай, абібок, грубіян, неслух, мазіла,— і хоць бы адна якая-небудзь чалавечая рыса.

І так — да сёмага класа. А ў сёмым класе, у якім ён вучыўся ўсяго адзін месяц, аддаючы асабовую справу бацьку, паўтарылі ў сціслай форме амаль усё тое, што было сказана за шэсць год, дадаўшы, што за месяц зрабіў два ўцёкі ў Мінск, дзе быў абодва разы затрыманы міліцыяй.

Калі празвінеў званок з апошняга ўрока і школа крыху аціхла, у настаўніцкую зайшоў дырэктар.

— Ну як, Іван Іванавіч?— сказаў ён, падышоў да Ігнатовіча, смеючыся маладым смуглым тварам, паказваючы частыя зубы.

— Та-ак,— пакруціў галавой Ігнатовіч, пазіраючы на разгорнутую перад сабой папку.

— Прыплыло, кажаш?— Зярніцкі ўсіх маладых настаўнікаў называў на «ты».

Ігнатовіч не паўтарыў гэтага слова, не, ці гэта прыплыло шчасце ці няшчасце. Ён адказаў:

— Напісана,— пазіраючы ўсё ў тую ж папку.— Чыталі?

— Як жа я мог не чытаць? Чытаў.

— Навошта ўзялі?

— А як я мог не ўзяць? Усенавуч.

— Навучальны год пачаўся месяц таму назад. Больш. Не ўзялі б, і ўсё. Хай бы вучыўся там, дзе пачаў.

— Праўда што,— умяшаліся некаторыя настаўнікі.— Клас перапоўнены. 37 чалавек, ён 38-ы.

— Усё гэта, таварышы, страляніна з халастых. Бацька жыве ў нашым школьным раёне, і не ўзяць мы не маем права. Пабачым.

— Няма чаго бачыць. Не ведаем Галавацкіх? Збіраецe, Раман Пятровіч, усякае смецце,— са злосцю сказала Вера Макараўна, заўсёды трошкі рэзкая, знешне грубаватая, як бы кімсьці і за нешта пакрыўджаная.

— Людзі, Вера Макараўна, а не смецце. Якое гэта смецце? Нехта і на нас з вамі можа сказаць: смецце. А якое мы смецце? Мы — людзі. І вы чалавек, і я чалавек,— хапіла вытрымкі ў дырэктара, каб тактоўна адказаць выкладчыцы беларускай мовы Веры Макараўне, з якой у яго часта бывалі непрадбачаныя сутычкі.

— Дадуць табе гэткага чорта, а ты пакутуй з ім. Клас увесь баламуціць, табе нервы падымае, а ты маўчы, не маеш права нічога зрабіць.

— Што?.. Што, па-вашаму?..

— Што? Не браць. Нідзе месца няма, дык ён у нашу школу. Які ж нам аўтарытэт?

— З вашай мараллю, Вера Макараўна...

— А што мая мараль?

— Добра, спынім нашу перапалку. Гэта ўжо сварка. З кім вы яго пасадзілі, Іван Іванавіч? — звярнуўся дырэктар да Ігнатовіча.

Вера Макараўна ўвесь час нешта бубнела сама сабе, пакуль брала з вешалкі і апранала сваё паліто, трошкі мешкаватае, хоць была яна не з худых, пакуль брала сумку, напханую сшыткамі, зашпілілася адной левай рукой і выйшла, не вельмі ціха зачыніўшы за сабой дзверы настаўніцкай.

— З кім я яго пасадзіў?— Ігнатовіч адарваў вочы ад папкі, якая ляжала перад ім разгорнутай, загарнуў яе і выпрастаўся на стуле, не кранаючыся яго невысокай фанернай спінкі. Барты шэрага пінжака яго былі адпрасаваныя, каўнер чорнай сарочкі і шэрага гальштука — таксама. Твар — малады, прадаўгаваты, маленькая гарбінка на носе, бровы густыя, русыя, вочы адкрытыя, сінія.— З Цюхаем пасадзіў, на задней парце, дзе было незанятае месца.

— Расцём, Іван Іванавіч?

— Расцём, Раман Пятровіч. 38 чалавак стала ў класе. Вялікі клас. Мне незразумела, Раман Пятровіч: чаму гэта ў вышэйшых навучальных установах група студэнтаў набіраецца ўсяго да 25 чалавек, а ў школе, дзе займаюцца дзеці, не дарослыя, да сарака двух вучняў?

— Ну што вам сказаць, Іван Іванавіч. Закон такі.

— Чаму такі закон?

— Закон, калі ён існуе, трэба выконваць, і ўсё.

— Абмеркаванню не падлягае?

— Выходзіць.

— Добра. Скажыце мне, Раман Пятровіч: навошта дзецям пісаць такія характарыстыкі?

— Як гэтаму?

— Ну.

— Школьная характарыстыка. Як гэта — навошта? Каб ведаць, якія рысы ў характары вучня, як яго выхоў-

ваць, на якія, так сказаць, педалі націснуць. Не мы ж іх выдумалі.

— Я ведаю, што не мы. І не мы іх адменім. Але калі чытаць такія характарыстыкі, мароз па скуры праходзіць. Чалавек нічога не зрабіў яшчэ, расце толькі, а на яго ўжо столькі навалена, праўды і няпраўды, што хоць на расстрэл вядзі. Без суда. Цалкам адмоўны тып. Як у літаратуры. А? Ну, як гэта?

— Паглядзім, Іван Іванавіч, што вы на яго ў канцы навучальнага года напішаце. Так, дарагі Іван Іванавіч? Не памром, дык дачакаемся, як людзі кажуць.

— Не памром, дык дажывём, пабачым. Я не пра гэта. Я, мусіць, напішу не лепш і не горш таго, што напісалі ўжо. Я не адкрываю і не закрываю нічога. Я толькі кажу: як гэта можна на дзіця наваліць такога, чаго яно і ў сне не бачыла? Ну, скажам, табель паспяховасці. Хай ён будзе ад першага класа і да апошняга.

— А характарыстык класных не трэба? — дырэктар уставіўся ў Ігнатовіча вачыма-вішнямі. Ён, відаць, не разумеў, чаму Ігнатовіч супраць таго, што ўсталявалася ў школе гадамі.

— Табель паспяховасці дастаткова характарызуе вучня. Гэта яго працоўная дзейнасць. Уявіце, каб такое напісалі на вашага сына. Вы разумееце?

— Майго сына?

Сыну Зярніцкага было пяць год, і ён хадзіў у дзіцячы сад.

— Майго сына?— паўтарыў ён.

— Вашага сына,— глядзеў на яго Ігнатовіч і чакаў адказу.

— Даслужыцца, і напішуць,— адказаў ён, порстка глянуўшы на Ігнатовіча. Відаць было, што нешта ў яго, у Зярніцкага, дрогнула ў душы, зрушылася некуды, калі напомнілі яму, што ў яго ёсць сын і што з ім, з сынам, могуць быць у жыцці розныя акалічнасці і на яго, сына, могуць гаварыць і пісаць абы-што. Гэта не так проста, ка-

лі быць бацькам, мець сына і шкадаваць яго, як шкадуюць наогул усе бацькі сваіх дзяцей. Ого, паспрабуйце чуць пра сваё дзіця нядобра!

— А я б не хацеў, каб на майго гэтак пісалі.

— Колькі вашаму?

— Тры.

— Ну, хай падрасце.

— Не ведаю, ці чытаў гэты Галавацкі, што пра яго сына напісана. А калі і чытаў, дык чаму ён такі абыякавы? Вясёлы, нібы так усё і павінна быць.

— Слухай. Між намі гаворачы, а куды падзенешся? Вышэй сябе не падскочыш? Лёс.

— А што такое лёс?

— Абставіны, у якія пападае чалавек.

— Стыхія?

— Амаль.

— Я не фаталіст. Чалавек прыстасоўваецца да абставін актыўна, яму дала прырода розум.

Да дырэктара нехта прыйшоў, і яго паклікалі.

Ён пайшоў у свой кабінет.

## 3

Са школы Галавацкі ішоў павольна, паглядаючы па баках, на чужыя хаты, вароты, платы, ступаючы на мяккую, крыху ўжо сырую асеннюю зямлю амаль новымі кірзакамі, мусіць, думаючы, як збавіць той час, які ў яго заставаўся. Планаў з раніцы асаблівых не было, акрамя аднаго — адвесці сына ў школу. Думалася, возьмуць — не возьмуць? Хоць дырэктар быццам не адмовіў, сказаўшы, што ўсе дзеці павінны хадзіць у школу, але хто яго ведае, не кажы гоп, не пераскочыўшы рэчку, а раптам гмыхне, заўпарціцца, і тады зноў хадзі, ездзі, шукай праўды і закону, а ён, зялёнае дурноцце, зусім можа адвыкнуць ад вучобы, і лыкам яго туды не завядзеш.

Выйшла ўсё якраз наадварот, добра выйшла, і ён, малы, пайшоў у клас, як да свайго статка, і дырэктар, акрамя ветлівасці, нічога такога не выказваў. Праўда, Ігнатовіч як бы трохі нечага капузіўся, але вядома — класны, яму — лішняя работа: у спіс запішы, табель складзі ды і дукуй яго, каб пад дысцыплінай быў, вучыўся добра, дзённік яго правярай. Яшчэ добра, як добры вучань, а гэткі, як мой... З такім — гора набрацца.

А ці ўзяў ён дзённік свой? Халера яго бачыў. Не, не ўзяў. Ён сумкі з сабой не браў. Так, з голымі рукамі ішоў, як я. Можа, і кніжак ніякіх няма? Там жа, у інтэрнаце, на ўсім гатовым быў, і кніжкі казённыя былі. Іх жа не далі яму з сабой.

Так, на ўсім гатовым быў, і трэба сарвацца. На сёмым годзе. Э-э, чмура чортава.

Не-э, сам вазьмуся. Я з яго шкуру зніму, як з таго сіняга зайца. Увечары кніжкі праверу, якія ёсць, а якіх нямашака, дакуплю якія, што трэба. Дзённік куплю (няма ў яго дзённіка!), сшыткаў. Э-э, цяпер усяго гэтага шкуцця хапае, капейкі каштуе, не тыя часы, калі мы вучыліся і нічога гэтага не было, хоць галасі.

Так і снаваў бы, плёў Галавацкі свае думкі, як павук павуцінне, калі б з палявой дарогі, якая ўпадала, як малая рэчка ў вялікую, у Школьную вуліцу, не выткнуўся з жалезнымі вілкамі на плячах Васіль Патупчык.

Ён быў таксама інвалід вайны (не гнулася ў калене нага), атрымліваў, як і Галавацкі, нейкую пенсію, але хадзіў на працу ў саўгас, і твар яго быў як і ўсе твары, якія ведаюць, што такое вецер, дождж, пыл і сонца. Сам ён худы, плоскі, але пруткі, жылісты, учэпісты і вынослівы, мог не спаць і не есці, калі возьмецца за якую работу і захоча яе скончыць.

— Што, скародзіш?— з пагардай глянуў Галавацкі на Патупчыкаву нагу, якая не гнулася і якую Патупчык цягнуў, калі ішоў.

Аднак Патупчык прапусціў гэты грубы жарт міма ву-

шэй, ведаючы Галавацкага, што таму ані нічога не значыла зняважыць чалавека, падкрэсліваючы яго які-небудзь недахоп. Ён перавёў размову ў другі бок.

— Салому к капцам вазілі.

— Добрая ў саўхозі бульба?

— Як заўсёды.

— Добрая?

— Добрая.

— Чорт іх: яны напруць удабрэння. І зямля свежая,— здаўся Галавацкі.

— Зямля свежая. Корань мяняюць,— згадзіўся Патупчык.

— А ў нас бульба і бульба. Парасце, як арэхі. Які дурань выдумаў гэтыя гароды! Зааралі б ужо трактарам. Адпусцілі б з саўхоза, што трэба людзям, і парадак. Няма, можа, скажаш? Ёсць. Усяго ёсць. Поўна.

— Ты б аддаў свой?

— А чаму!

— Можа, твой гарод такі.

— А-а, і твой не лепшы, хоць ты і тарчыш на ім лета з матыкай, як пудзіла,— зноў пачаў браць верх Галавацкі.

Патупчык прамаўчаў.

Колькі крокаў яны прайшлі моўчкі.

— Ведаеш, зарабляем,— першым пачаў Патупчык.

— Зарабляеш. Бог ведае, колькі ты там зарабляеш.

— Тры, калі чатыры рублі за дзень.

— Ну, а я памру, калі нічога не зарабляю. Усё роўна як драбіна, хоць на неба па табе лезь.

Гэта адносілася да таго, што Патупчык худы.

— А можа, хату другую будзеш мураваць? — працягваў калоць словамі Галавацкі Патупчыка.

— Нашто?

— Як нашто? Чалавек так: ё — мала. Каб шмат. Каб болей. Як гэты во,— Галавацкі паказаў кіўком галавы на дом, з трыма вокнамі на вуліцу, крыты гонтамі, абнесены

высокім дашчаным тынам.— Памёр — нічога не трэба. Каб хоць дзеці былі. А так каму, навошта?

— Жыў чалавек. Думаў, не памрэ.

— Не памрэ! Усе памром. І ты памрэш. І я памру. Усе памром. І з сабой на той свет нічога не забяром. На тым свеце нічога не трэба. Што тут — наша. Там — нічога не трэба.

Галавацкі смыкнуў барадой на могілкі, якія відаць былі ўперадзе злева.

— Туды ўсіх прымаюць,— працягваў ён.— От дык раўнаправія! Усе побач, усе разам. А табе дык — а! Хата і могілкі побач.

Праўда, перад самымі могілкамі відаць была Патупчыкава хата, белая, з сілікатнай цэглы, з шыферным дахам, як лялька, з выгляду.

— Не трэба мне другая хата. Дочкі замужам. Зяці хай думаюць.

— Колькі ў цябе іх?

— Тры.

— Дзе?

— У Мінску.

— Усе?

— Усе.

— Што там думаць. Там дадуць. Ванна, газ — усё, што трэба. У нас во тут ламі галаву, каб хата была свая. Ды не адна хата, пуня, стопка, павець, плот, вароты. Усякі чорт на тваю галаву. Я хацеў у горад.

— Сын — адзін. Гэтая будзе. Нашто мне другая хата?

— Добра табе: адзін. А ў мяне дачка адна, а сыноў чатыры. Чатыры хаты! Дзе я ім вазьму? Скулле! Самі хай шукаюць. Э, я не маюся. Большы ўжо пайшоў. І гэтыя пойдуць. Каб толькі трохі абламаліся. Гэта не даўнае. Бацькава займішча дзяліць не будуць.

— Дзе ён?

— Хто?

— Сын твой.
— У Варкуце.
— Гэта далёка.
— Чорт яе ведае. Не блізка. Але цяпер самалёты. Якіх паўсутак — і там. Ці далёка, ці блізка.
— Але ж бялет даражэй?
— Даражэй. Ды скідка вялікая. Далячэй — скідка большая. Твае во каля дому. Сабакі яго ведаюць, адзін каля дому, а другі на край свету едзе.
— Я б не паехаў. Чаго? Клімат не той. Людзі чужыя. Мой і сын: прыйшоў з арміі і шоферам во ў сваёй бальніцы. Добра. Блізка, дома. І абед свой, і калі што прывезці на машыне сабе — добра.
— Кажаш, не паехаў бы?
— Не.
— А мой во паехаў. І жыве. І мне во лахман які калі перакіне. І штаны яго нашу, і гэтая куртка.— Галавацкі цапнуў рукой куртку.— Мне каб мальгу падгадаваць, я б паехаў. Што тут у нас за роскаш!
— Чаго, у сваёй хаце і вуглы памагаюць.
— Галаву, калі злосць, можна разбіць аб свой вугол. Не трэба к людзям хадзіць.
Патупчык сступіў з вуліцы на сцежку, якая вяла ў двор.
— Пачакай, куды ты ўжо так? Пагаварыць не хочаш.
— Куды. Паабедаю ды зноў на поле. На работу.
— На работу ды на работу, як той удод, дзяўбеш. З работы коні дохнуць. Хай трактар працуе, у яго сто конскіх сіл. Што табе, памерці некалі будзе з-за гэтай работы? Ты мне скажы: гэтая не гнала? — Галавацкі паказаўківам галавы на старую хату цераз вуліцу.
— Хто яго ведае. Я ж не правяраю, ці хто гоніць, ці не гоніць.
— Не правяраеш. А як выпіць трэба? І сам не гоніш?
— У магазіні. Прызнацца, мы і не п'ём яе.

— О, разумны які. Святы! Не п'е і не гоніць. А я п'ю і ганю. Чорт яго накупляецца ў тым тваім магазіні. Грошы якія трэба! Хлопца завёў у школу, дык замачыць трэба б было. Прынялі.

— Усіх прымаюць. Чаму твайго не прымуць.

— О, майго. Мой жа вунь дзе быў, знаеш, у Смілавічах. І год ужо пачаўся, маглі не прыняць. А ён у мяне, ведаеш які, агонь. Смыліць на ім усё.

— Патушыць не можаш? Я б яму калі пекануў.

— Разумны, калі твой як ішак. Куды пхні яго, туды і ідзе. А майму пекані, папхні яго, калі ён не захоча. Проста сказаць — пекані. Думаеш, не пёк? Пёк. Другую заразу забі — заразай будзе.

— Не, я свайго не біў. Так, можа, калі... А баяўся. І цяпер баіцца. Каб не паслухаць? Мой паслухмяны, нашто буду казаць. І дзеўкі слухалі.

— А-а,— кракнуў Галавацкі.— Кожны цыган сваю кабылу хваліць. А мае што: дурні? І я, па-твойму, дурны? Характар, кажу, такі, а! Уparты! Ён такую табе задачу задасць, што ты і языком у роце не кранеш. Усё бача, ведае. Такі настойлівы, калі табе сказаць, чалавеча. Порсткі. Страляй у яго, а ён сваё. Вы ўсе разумныя, калі вам пашанцавала з дзяцьмі.

— Не ведаю, можа, дзе хто і гнаў, пашукай,— сказаў Патупчык і, паціху зыбаючыся, пайшоў у свой двор — за высокія вароты-брамы.

Кружачыся над могілкамі, размяшчаліся па жоўтых бярозах і цёмных соснах вароны і галкі.

## 4

Яшчэ доўга сядзеў Ігнатовіч у настаўніцкай пасля заняткаў першай змены.

У школе зрабілася цішэй — на другую змену займаліся толькі пачатковыя класы, а іх усяго было чатыры.

У малых былі не такія моцныя галасы, як у вучняў першай змены, яны не так гупалі нагамі па калідоры. Школа нібы апаражнілася ад нейкага вялікага грузу, і зараз ёй палягчэла, у яе сценах, як на моры пасля буры, наступіў штыль, і Ігнатовіч любіў гэтыя хвіліны ў школе. Прыходзілі думкі, і станавілася ўсё на сваё месца: добрае — на добрае, благое — на благое. І толькі зараз можна было па-сапраўднаму зразумець і адчуць, што ўдалося за дзень у рабоце, а што не ўдалося, які ўрок як урок, а які — нудная радоўка.

Настаўнікаў у школе амаль няма, яны пайшлі дадому.

Настаўнікі другой змены нават на перапынках былі ў сваіх класах, не прыходзілі ў настаўніцкую. Яны былі каля дзяцей, паводзіны якіх трэба было назіраць, папраўляць і накіроўваць на кожным кроку.

Тут, у настаўніцкай, было зусім ціха і ўтульна, цёпла ад добра натопленай кафельнай грубкі. На сцяне, замкнуты ў зашклёную скрынку, мякка адлічваў час маятнік, нібы жывы, сціпла несучы свае, патрэбныя людзям, абавязкі. Спачывалі шафы, адна — з вучнёўскімі сшыткамі, другая — з метадычнай літаратурай для настаўнікаў. Доўгі агульны стол, пакрыты зялёнай мяккай матэрыяй, пустыя крэслы ўздоўж яго. Не абзываўся тэлефон, трымаючы на рожках даўгахвостую чорную трубку.

Ігнатовіч праверыў цэлы стос сшыткаў з хатнімі і класнымі работамі вучняў, не ўстаючы з месца, не выпускаючы з рук шарыкавага алоўка з чырвоным стрыжнем. Дома ён не мог так прадукцыйна правяраць сшыткі, не мог так засяродзіцца на іх, як мог гэта рабіць у школе, у настаўніцкай, на самым канцы доўгага стала, з краю, бліжэй да акна. І заўсёды на адным месцы, у адзін і той час — пасля заняткаў. Таму дамоў Ігнатовіч не насіў вучнёўскіх сшыткаў, правяраў іх толькі ў школе. Гэтая звычка зрабілася ў яго як бы прыроджанай, заўсёднай неабходнасцю. І калі часамі здаралася так, што не было ча-

го правяраць, рабілася маркотна, нараджалася ў душы адчуванне ўласнай недасканаласці, калі чалавек нечага не ўлічыў і дапусціў у сваім рабочым рытме халасты ход, чаго ніяк нельга дапускаць моваведу.

Моваведу нельга цягнуцца за часам далёка ззаду. Ён павінен апярэджваць і апярэджваць яго. Калі па арфаграфічнаму рэжыму хатнія пісьмовыя работы трэба было правяраць раз у тыдзень, то Ігнатовіч правяраў два разы. Калі кантрольных дыктовак, укладанняў і сачыненняў трэба было напісаць 5—6 за вучэбную чвэрць, то Ігнатовіч пісаў у паўтара раза больш. Іначай — смерць. Іначай ты не мовавед, не настаўнік. Іначай дзеці не навучацца пісаць, будуць непісьменнымі, як ты ні майструй тэарэтычнае выкладанне, колькі ні насі на ўрокі за сабой наглядных табліц і дапаможнікаў. Трэніроўка, трэніроўка і трэніроўка. Практыка. Гэта ён ведаў. Не вычытаў дзе-небудзь у кнігах, а пераканаўся на ўласным вопыце.

Ды і работа настаўніка, калі ўгледзецца ў яе і ўдумацца, мусіць, складаны лабірынт вопыту, не гатовыя веды, якія даюць у інстытуце.

Некаторыя мовазеды крыўдавалі: сшыткі заразаюць. Ігнатовіч дзівіўся: як гэта? Ён ніколі не адчуваў цяжару сшыткаў. Ён садзіўся за іх праверку, як за чытанне самага цікавага рамана.

Не, не тое. Раман — гэта сюжэт, фантазія, уяўныя людзі. Тут — жывыя, канкрэтныя людзі. Дзеці. Што ні сшытак — свой характар, почырк, нават свае памылкі. Нават свае чарнільныя кляксы.

Ігнатовіч ведаў, якія хто робіць памылкі. Іншы на кожнай старонцы робіць адну і тую памылку, выпраўляй ці не выпраўляй. Заводзіць новы сшытак, а памылка жыве. І так — месяцы, нават гады, як прыродная пляма на скуры, супраць якой ніякія мазі не дапамагаюць. Жыве памылка як двайнік, як заўсёдны неразлучны спадарожнік.

Некаторыя метадысты павучаюць: «Рабіце ўлік па-

мылак. Заводзьце картатэку з асабовых картак вучняў і ўлічвайце памылкі кожнага вучня». Як у банку грошы. Рублі і капейкі.

О-о-о, калі б так лёгка было вучыць пісьменнасці, як улічваць рублі і капейкі ў банку!

Толькі адпетыя механісты (якія ж яны пасля гэтага метадысты?) могуць даваць падобныя парады. А гатовыя да паслуг падхалімы і кар'ерысты калі ласка: «У мяне картатэка, я прымяняю перадавыя метады». І прымяняе. А кантрольных работ за чвэрць — дзве, творчых — ніводнай. Прымяняе, каб пакрыць сваё гультайства, нежаданне і няўменне глыбока працаваць над мовай.

О-о-о, калі б навучанне мове зводзілася да простага ўліку памылак!

Ігнатовіч выраўнаваў сшыткі ў стосіку, палічыў, ці ўсе, і палажыў у шафу на сярэднюю палічку ў правы куточак, дзе ляжалі сшыткі астатніх класаў, у якіх ён выкладаў мову. Пастаяў яшчэ колькі часу, абводзячы вачыма ўсе палічкі шафы, на якіх было поўна сшыткаў, і прычыніў дзверцы шафы.

Глянуўшы на папку — асабовую справу вучня Галавацкага, якога ён пасадзіў у свой клас, крыху падумаў, занесці яе ў канцылярыю, дзе захоўваліся ў спецыяльнай шафе асабовыя справы ўсіх вучняў школы, ці ўзяць пакуль што з сабой — лепш азнаёміцца, у нейкай меры зжыцца, як зжываецца чалавек з чалавекам, прывыкаючы адзін да аднаго? І палажыў у свой партфель.

Глянуў на гадзіннік на сцяне, тады на свой наручны — так, без пятнаццаці пяць. Запазніўся. Затрымаўся.

Пятнаццаць мінут на хаду, пакуль дадому дойдзе, будзе пяць. Пакуль паабедае, туды-сюды — і жонка з сынам з дзіцячага сада прыйдзе. Яны прыходзяць у шэсць. Трошкі пазней.

І сапраўды так атрымалася. Пераапрануўся, пад'еў, прагледзеў збольшага газеты, якія ўзяў у паштовай

скрынцы, прыбітай да варот, як і жонка з сынам затупалі ў сенцах.

— Ну? — сказала жонка, Галіна Сцяпанаўна, глянуўшы на мужа, высокая, тонкая, белавалосая, светлавокая, трошкі з вяснушкамі.

— Нічога. Усё нармальна.

Сын абшчапіў бацьку за калені, радуючыся яму, нібы не бачыў цэлы год.

Бацька пачаў распранаць яго — зняў з белай галоўкі шапачку-вушанку і куртачку, якая была ўжо малаватая дзіцяці.

— Як нічога? — запярэчыла жонка, павесіўшы на вешалку сваё паліто.— Гэтага ж табе ў клас пасадзілі. Парве ён табе каўбы.

— Нічога не парве. Як гэта ён мне парве? Не хоча — хай не вучыцца. Што ён мне! Сын, ці што?

— А класны. Забыўся?

— Ну і што, што класны? У яго ёсць бацька і маці. Я буду падпісваць дзённік, калі я класны.

— Так толькі кажаш. Робіш выгляд, а ў душы, нябось, перажываеш,— гаварыла Галіна Сцяпанаўна, апранаючы хатні халат, у якім яна шуравала каля печы і рабіла ўсю работу па гаспадарцы.

— Ніколечкі не перажываю. Чаго? Што-небудзь жа з яго выйдзе? Не такі, дык гэткі.

— Нічога не выйдзе. Ён, кажуць, дужа халерны. Чаму ў школе-інтэрнаце не быў? Есці, можа, хацеў? Галодны быў? Вырадак.

— Ну во ты ўжо хапіла куды: вырадак. Глядзі, каб на твайго гэтага не сказаў хто: вырадак. А? Цяжкі, а не вырадак. Ёсць дзеці цяжкія, гэта ўсе ведаюць. У вас, у дзіцячым садзе, аднолькавыя? Не.

— У нас меншыя. Лягчэй. Можна туды-сюды, і ён пераменіцца. А ты яму што зробіш? Ён ужо сівы бык. Мужчына.

— А ў арміі што робяць? Там яшчэ большыя.

— Не раўні армію. На губу садзяць.

— Сказала: на губу. На губу ўсіх не пасадзіш. Другі падыход ёсць. Добра, гэта ўсё ясна. Адкуль ты ўведала, што ён у мой клас прыйшоў?

— Сам на вуліцы мітынгаваў, што сына ў школу завёў. Чуць на нагах трымаўся.

## 5

Толькі так гаворыцца: «Што мне! Я сам сабе, і да другіх мне няма справы».

Толькі так гаворыцца. А на душы... Сам бог ведае, што на душы.

Ігнатовіч толькі жонцы сказаў, што яму не надта баліць, будзе вучыцца Галавацкага сын ці не будзе. Каб яна не ліпла да яго назолай, не расцвельвала тое, што і без яе баліць. Баліць — значыць баліць, і гаварыць пра гэта не трэба, каб горш не балела.

Галіна Сцяпанаўна пакарміла кабана, якога заб'юць, як зіма ўсталюецца, дала маленькаму кабанчыку, якога нядаўна купілі к налеццю і якому адгароджаны ў вялікай пуні маленькі куточак, падаіла карову, згатавала ў грубцы, якую ўжо пачалі паліць, вячэру, а Іван Іванавіч ніяк не мог пазбыцца ў думках таго, чым яго ўразіў сённяшні дзень. Сапраўды, у галаве стаяў вобраз хлапца, якога ўбачыў упершыню і якога завёў як класны кіраўнік у свой клас. Жонка прыйшла з дзіцячага сада,— на табе, там таксама пра яго гаварылі, ведаюць пра яго. Дарослае чалавецтва паспела ўжо ўгадаць, што нічога з яго не будзе. З усіх дарослых выйшлі людзі, незалежна ад таго, якія яны былі ў дзяцінстве, а з яго не будзе чалавека, нічога з яго не будзе, таму што паводзіны яго не дакладна такія, якіх патрабуюць ад дзяцей дарослыя.

Думаў пасля вячэры, думаў, калі напісаў планы ўрокаў на заўтрашні дзень, калі ляглі спаць.

Жонка з сынам даўно ўжо і глыбока спалі, а пад ім яшчэ доўга спружыны енчылі, калі варочаўся з боку на бок. Сын Пеця і Тарас, сын Антона Галавацкага, стаялі побач.

І тады падумалася: «А ці не дрэнна зрабіў, што пасадзіў яго на адной парце з Цюхаём? Цюхай перарастак і абібок, часта прапускае ўрокі і вельмі дрэнна вучыцца. Ён можа падаваць яму самыя нечаканыя прыклады дрэнных учынкаў, не проста паводзін. Бацька яго...»

Зноў заенчылі пад Ігнатовічам спружыны матраца.

«Выдумаў жа нейкі дурань такія матрацы. Гэта ж чорт яго ведае што такое. Калі чалавеку не спіцца...»

Так, Цюхаёвага бацьку Ігнатовіч ведаў, не адзін раз пабываўшы ў яго хаце, у вёсцы Ялоўка, якая была за пяць кіламетраў ад школы. І ў выхадны дзень хадзіў, і пасля работы ў звычайныя дні, вяртаючыся адтуль ужо ўночы.

Бацька — страшны чалавек. Адгадаваў, як у старавера, бараду, у лахманах, рукі брудныя. Калі не п'яны — гаворыць быццам як чалавек. Але вочы хавае, вельмі часта лезе ў табакерку, робячы з газеціны цыгарку.

Тады моцна зацягваецца, плюе пад ногі, кашляе, кархае, выплёўваючы кархі таксама пад ногі.

Гэта калі не п'яны.

А калі п'яны, тады лепш не пачынаць з ім гаворку і не сустракацца. Такое скажа пры людзях і дзецях, туды пашле, што ўсім, хто чуе, няёмка робіцца.

Жонку падтаптаў, прынізіў, слова баіцца яму сказаць. Чорту ўладзіш?

Сын большы пайшоў з дому дачасна, не скончыўшы сярэднюю школу. Дачка, што была за ім,— таксама. Недзе ў нейкай сталоўцы посуд мые.

І гэты хлапец не хоча вучыцца. Туляецца абы дзень да вечара, нібы чакаючы, калі стукне нейкая гадзіна і прынясе яму збавенне ад школы, настаўнікаў і бацькі.

«І я пасадзіў Галавацкага з Цюхаём».

Цюхай не тое што хуліган, а проста зацяты лайдак. Не ўведаеш, дзе ён быў на мінулым уроку, а не ў класе, чаму спазніўся, чаму ўхіліўся ад фізкультуры, прыйшоў у школу без адзінага сшытка і падручніка.

Каб нягеглы, недарослы, хілы — не. І росту хапае, і дужы, і ў твары чырвоны, валасы — пыжыкам. Хлопец з выгляду хоць куды. Сядзіць у ім нейкі чарвяк усярэдзіне. Як у тым яблыку: чырвоны, а ўсярэдзіне чарвяк.

У чацвёртым класе сядзеў два гады. Не ў гэтай, а ў Ялоўскай школе. А тады выпхнулі. Куды было пакідаць на трэці год! Непрыстойна! Школе і настаўнікам, якія яго вучылі, сорам. А вучыцца ён павінен. Усенавуч.

У гэтай школе ў пятым класе сядзеў два гады. Пяты клас — пераходны, цяжкі для вучняў. Асабліва для тых, якія дрэнна вучыліся ў пачатковых класах, а ў пятым падленьваліся. А Цюхай — гультай, і ў шостым класе такі быў.

І яму ўжо не трынаццаць, як усім сямікласнікам, а пятнаццаць гадоў. Бугай. «І я пасадзіў яго з Цюхаём».

Добра, калі яны не знойдуць агульнай мовы і не пойдуць побач. Здаецца, што ён ужо нячысты. Такі нейкі «засакрэчаны», як дарослы, што прайшоў агонь, ваду і медныя трубы.

«І я пасадзіў яго з гэтым нядобрым хлопцам».

...У Ялоўцы шмат добрых хат. Так, людзі адбудаваліся! Усе пяцісценкі. Усё шыфер. Усё вялікія расфарбаваныя налічнікі на вокнах.

Адміністрацыйныя будынкі саўгаса, казённыя жыллёвыя дамы — цагляныя, двух-і трохпавярховыя. Горад!

І недзе на нейкім былым прыгуменні не дом, а шпакоўня, змайстраваная пасля вайны на хуткую руку, каб мець хоць які прытулак. Дах страпавіты, палаплены дзе дошкамі, дзе кавалкамі толі, а дзе — фанерай. На дзве сцяны з тонкіх круглых паленцаў — тры невялікіх, як людзі ставяць у стопках або ў шчытах хат, акенцы. І ду-

маецца: няўжо за дваццаць пасляваенных год нельга было прыдумаць што-небудзь больш прыстойнае?

Праўда, і ганкі, і падлога ў сенечках і ў хаце — чыстыя. Усё вымыта да габёлкавай белізны.

Тут — стараннасць гаспадыні.

Калісьці прыгожая, статная ў стане, яна, з маршчынамі-барознамі на твары, вельмі асцярожна гукае мужа, які адсыпаецца на невялічкай печы:

— Сцяпан, слухай. Настаўнікі да цябе прыйшлі,— думаючы, што слова «настаўнікі» ўтрымае яго ў рамках прыстойнасці. Тым не менш Сцяпан разануў па ўсіх прысутных (з Ігнатовічам была таксама яшчэ адна настаўніца) такім рыкашэтам непрыстойнасцей, што было не то смейся, не то ўцякай з хаты, пакуль з печы, услед за словамі, не паляцела што-небудзь больш небяспечнае.

І настаўнікі выбралі апошняе, паціху зачыніўшы за сабой дзверы і ледзь чутна сказаўшы добрай гаспадыні:

— Да пабачэння.

На бацькоўскія сходы Сцяпан не хадзіў.

І жонка яго Хадора не хадзіла, бо яна была не ў стане зрабіць што-небудзь лепшае для выхавання сваіх дзяцей, як ужо паспела зрабіць жыццё.

А была яна, як відаць, жанчына шчырая, сумленная, надзвычай чулая і глыбока, хоць трохі затоена, перажывала сваё няўдалае замуства. Жыццё чалавеку адно дадзена, і дзеці адны, другіх дзяцей не будзе. І маці балесна, усякай маці балесна, калі яна нарадзіла дзяцей, ад якіх адмаўляюцца людзі.

Нельга, нельга, каб на адной парце сядзелі Цюхай і гэты новенькі. Яны могуць спрэгчыся, факт, і тады кожны скажа, чаму іх не рассадзілі заўчасна, калі яны яшчэ адзін аднаго добра не ведалі, не адкрыліся адзін аднаму як сябрукі.

Думка гэтая выспела ў Ігнатовіча канчаткова, і ён рашыў: «Заўтра ж перад урокамі рассадзіць».

І пад ім скрыпнулі са звонам спружыны.

Толькі якую пару разбіць?

Трэба будзе пагаварыць з самімі вучнямі, з класам. Можа, знойдуцца ахвотнікі? Бывае. Сярод дзяцей заўсёды знаходзяцца ахвотнікі. Чаго б гэта ні каштавала.

За вокнамі, якія выходзілі на агарод, на вуліцу, было ціха, цёмна. Ігнатовіч убачыў гэтую цемнату і адчуў цішыню, калі адхінуў беражок занавескі акна і, не падымаючыся з ложка, глянуў, як у чорны акіян, у ноч.

## 6

Устаў Ігнатовіч рана, не было яшчэ шасці. Ды так трывожна падхапіўся, аж скрыпнулі ўсе спружыны матраца. Думаў, праспаў.

Уключыў святло, працёр вочы і недаўменна глядзеў на будзільнік, які стаяў на этажэрцы. Не было яшчэ шасці. Дваццаць шостага. Нават няпоўных дваццаць. Стрэлка стаяла недзе паміж лічбамі тры і чатыры. Устаў на сорак мінут раней, чым заўсёды.

Але не лёг. Хай будзе так, як атрымалася. Калі легчы, можна так заснуць, што і на заняткі спознішся. Жонка сама не ўстане. Яна спадзяецца на яго.

Устане Іван, як яна яго называе, загрыміць на кухні вёдрамі, ідучы вады, тады і яна ўстае, тупаючы каля печы, шкрэбаючы чыгункамі, мыючы свінням бульбу, якую прынесла ў хату ў кошыку са стопкі нанач.

Іван пасядзеў колькі часу на стуле ў ніжнім адзенні, стрэлка перайшла ўжо лічбу чатыры, набліжаючыся да пяці, тады апрануўся, як звычайна, у сваё рабочае хатняе адзенне, каб было зручна прынесці вады з калодзежа, бярэма дроў з-пад павеці, і выйшаў у пярэднюю палавіну хаты.

Тут улез у кірзавыя боты, заплікнуў ватоўку на ўсе пяць гузікаў, цёплую і зручную, і выйшаў у сенцы, намацваючы выключальнік, каб уключыць электрычнасць.

У сенцах, пасля ночы, праведзенай у хаце, моцна пахла яблыкамі, якія былі на столі.

Іх яшчэ трэба будзе, як і кожны год, прысыпаць зверху пілавіннем, і яны ўсю зіму будуць свежыя.

У Ігнатовіча сад невялікі: тры антонаўкі, пепінка, адна салодкая, дзве вінных жытніцы. Салодкія і вінныя жытнікі звычайна разыходзяцца за жнівень — верасень, а гэтыя, антонаўкі і пепінкі, не выходзяць аж да сакавіка, калі яблык становіцца навіной і далікатэсам. Два-тры яблыкі на дзень, і хапала.

Малы чвэртачку яблыка, болей не з'ядае. І тую абчысці — выраж костачку, зрэж шкурку.

Пад павеццю электрычнасці не было, і дровы прыйшлося браць вобмацкам, па памяці. Помніў з дня, дзе якое палена, і браў так, ложачы па аднаму на левую руку. Сасновыя былі лёгкія, альховыя і бярозавыя цяжэйшыя.

І ў стопку, і ў пуню, і пад павець святло трэба будзе правесці. Абавязкова. Некаторыя ўжо даўно паправодзілі. А то настаўнік Жыркевіч з Гацца (Ігнатовіч бачыў яго анадась у Бярэзані) пайшоў вось так пад павець браць дровы ўпацёмку, а палена папалася з суком, і гэты сук торк яму ў вока, і чалавек застаўся аднавокім. Дзікі выпадак!

Неба было хмарнае, у двары — цёмна.

— Папала крапівіна пад хвост? — гаварыла жонка, закручваючы свае белыя валасы на патыліцы, калі Іван прынёс дровы.

— Чаму? — не зразумеў ён.

— Не спіцца.

— Во ты што!

— Не пячалься, Іванка,— жартаўліва сказала яна, па-свойму вымавіўшы слова «пячалься», як яно гучыць у песні пра Іванушку, які сумаваў па свайму каханню.

— Ы-ы. З тваёй галавой нізка быць выхавацельніцай дзіцячага саду. Такая разумная, што...

— А школа, думаеш, вышэй?

— Не дужа вышэй, але ж не дзіцячы сад.

— Сад, можа, яшчэ лепш. Я паабедаю там. Дзіця мае за парадкам.

— А тых, што ў садзе не працуюць?

— Ну, не кажы. Я сама бачу, як яно гуляе, як яно есць.

— А за абед з цябе ж грошы ўтрымліваюць.

— Колькі?

— Я не ведаю, але ж утрымліваюць.

— Не ведаеш. Ты добра ведаеш. Ідзі паабедай у сталоўцы за трыццаць капеек. Што там табе дадуць? Падымай.— І жонка паказала мужу на вялікі чыгун намытай бульбы, наліты вадой, каб ён падымаў яго на прыпечак і ставіў на вілках у печ.

Падчапіўшы вілкамі здолку, Ігнатовіч падняў чыгун на прыпечак і пасунуў у печ, у самае пекла агню, які крuціўся, салыпаў туды-сюды, агінаў чалеснікі і тыркаў чырвонымі языкамі ў чорнае сапло коміна, шукаючы выйсце ўгору.

— Ганчуркай бы падняў на прыпечак, а тады вілкамі ў печ. Падарвацца можаш.

— І-і-і, валтузні болей. Падарвуся — тады не буду.

— Позна будзе. І жонцы не трэба будзеш.

— Чаму тады жонка прымушае рабіць усё цяжкае мужа?

— Таму што ён муж.

— Разумная, яй-права.— І Ігнатовіч кранууўся яе лобу.

— Я думаю,— жартавала сабе Галіна Сцяпанаўна,— інакш не ўзяў бы. Марока мароку бача здалёку.

Сына будзілі к васьмі і садзіліся разам з ім снедаць, выпаліўшы да гэтага часу печ і пакарміўшы свіней.

Пеця не надта кідаўся на яду: рана. Ламаўся, цёр вочы, сіліўся заплакаць, ступаў няпэўна, быццам п'яны, і Галіна Сцяпанаўна з вялікімі цяжкасцямі прымушала

яго глынуць разы са тры з кубачка свежага, толькі што ад каровы, малака. Карміла па-сапраўднаму ўжо ў садзе, гадзін у адзінаццаць, калі ўсім дзецям давалі перакусіць, каб яны не зацерпіліся да абеду.

Іван Іванавіч ішоў у школу хутка, з думкай знайсці на парце з кім-небудзь месца для Тараса, абы толькі не з Цюхаём. Па дарозе ён зусім не звяртаў увагі на навакольны свет, нават не глянуў, якая чарада варон кружыла і крычала ў паветры, а ўсё думаў, каго пасадзіць з Цюхаём, а на месца перасаджанага — Тараса.

У настаўніцкай сказаўшы: «Добры дзень» (там ужо быў дзяжурны настаўнік з чырвонай павязкай на левым рукаве і яшчэ чалавекі са два з ім), ён хуценька, з бачнай паспешнасцю, распрануўся — і ў клас.

Дзяжурны настаўнік, выкладчык хіміі Стык, заўважыўшы такую паспешлівасць, запытаў:

— Куды так?

— Трэба.

Стык яшчэ ўздагонку паспеў сказаць, калі Ігнатовіч адкрываў ужо дзверы настаўніцкай:

— Добра ўстаў?

— З левай нагі.

— Гэта, кажуць, кепска.

— А мой ложак стаіць так, што я ўстаю толькі з левай нагі,— гаварыў Ігнатовіч ужо з калідора, зачыняючы за сабой дзверы.

Вучняў у класе было яшчэ мала, каб пачынаць якую-небудзь гаворку з імі. Ігнатовіч абвёў вачыма клас. Усё як быццам было на сваім месцы і мела належны выгляд: стол, стул перад ім, парты, дошка, шафа з табліцамі па мове, партрэты Леніна, Купалы, Горкага, белая столь, падмеценая падлога, насценная класная газета. Памяшканне было асветлена шасцю электралямпачкамі ў белых плафонах, і святло было прыемным, мяккім, не калола вачэй.

На дварэ ранішні змрок уступаў месца дню, не летня-

му, праменна-яркаму, смеламу, але дню, чуць ружоваму ў надхмар'і.

Дзеці часцей пачалі адчыняць і зачыняць дзверы класа, заходзячы па аднаму, па два, а часамі і групкамі, вітаючыся з настаўнікам і не здзіўляючыся таму, што ён да званка тут, бо прывыклі бачыць яго ў сябе, як класнага кіраўніка, і да ўрокаў, і на любой перамене.

Калі ўсе вучні сядзелі на сваіх месцах (дзіўна, і Цюхай не спазніўся!), Іван Іванавіч паправіў стул каля стала і, стаўшы за сталом каля яго, пачаў:

— У нас новы вучань, таварышы, і яго трэба недзе пасадзіць. Я пасадзіў яго з Цюхаём часова. Можа б, хто перайшоў да Цюхая, уступіў месца навенькаму?

Вучні да аднаго павярнулі галовы назад, дзе сядзеў побач з Цюхаём навенькі, нібы глядзелі на яго ўпершыню, хаця ўчора ён сядзеў ужо на тым месцы цэлых чатыры ўрокі.

— Мне тут добра,— паспяшаўся адказаць за ўсіх навенькі, выказаўшы гэтым самым сваю сціпласць. Ён нейк нават крыху засаромеўся і нават пачырванеў, не спяшаючыся садзіцца за партай (ён устаў, калі гаварыў гэтыя словы), водзячы вачыма па класу, нібы просячы ў сяброў прабачэння.

— Кажаш, добра? А можа, і нядобра. Можа, далёка дошка і ты дрэнна бачыш, што там напісана. Чуеш, можа, слаба. А, Галавацкі? — гаварыў Іван Іванавіч.

— Не, я чую і бачу добра,— адказваў вучань, на гэты раз утупіўшыся ў парту. Ён не хацеў, каб у класе падумалі, што ён глухі або блізарукі. Дзеці занадта баяцца фізічных недахопаў і не прызнаюцца, калі нават маюць якія-небудзь з гэтых недахопаў.

— Чуеш і бачыш? Добра. А Цюхай пад бакі не будзе табе тоўхаць? Ён жа большы.

— Не таўхане! Я здачы дам,— падбадзёрыўся Тарас, падкрэсліўшы гэтым, што ён не баязлівец.

— Здачы, кажаш, дасі? Я і сказаць табе нічога не

магу на гэта. Здачы давай, калі сілу маеш. Толькі глядзі, каб на свайго не наскочыў. А то, бывае, здача на здачу, і можа дайсці чорт ведае да чаго. Бойка да дабра не даводзіць. У наш час самы моцны кулак — гэта закон. На яго трэба пакладацца, не на здачу. Хто ж усё ж такі, таварышы, уступіць сваё месца Галавацкаму, а сам пойдзе да Цюхая? — гаварыў ужо Іван Іванавіч усяму класу.

Дзеці маўчалі, не жадалі, відаць, развітвацца са сваімі звыклымі месцамі і сябрамі па парце і ісці на самую заднюю, на левы крайні рад.

— Няма добраахвотнікаў? — стараўся глянуць класны кіраўнік у вочы кожнага вучня.— Няма? — паўтарыў ён сваё пытанне.

Вучні пачалі паглядаць на клас, шукаючы вачыма сярод сваіх сяброў тых, хто падымуць рукі.

Раз, два, тры — падняліся рукі.

Гэта былі дзяўчынкі, самая паслухмяная частка ўсякага вучнёўскага калектыву.

— А хлопцы?

Ніхто.

— Эх, вы,— пачаў з лёгкім жартам сароміць іх Іван Іванавіч.— Якія ж вы пасля гэтага будзеце мужчыны? Не хочаце дапамагчы свайму таварышу? Хаваецеся за дзяўчат? Хлопцы вы, хлопцы.

Аднак хлопцы рук не падымалі і маўчалі, пазбягаючы сустрэчы сваімі вачыма з вачыма настаўніка.

— Іван Іванавіч,— зноў падняўся на сваім месцы новенькі,— мне добра тут. Я не буду яго чапаць.— Глянуў ён пры гэтым на свайго суседа Цюхая, чырвонага, з дзікімі непрычэсанымі русымі валасамі.

— Заступаешся? Яны, бач, не хочуць табе дапамагчы, а ты за іх заступаешся. Гэта дружба! Верная. Добра. Бяры, Каця, свае кніжкі і ідзі да Цюхая. З ім будзеш сядзець. А ты, Галавацкі, ідзі на яе месца.

Высочанькая, з піянерскім гальштукам, з вузкім носікам, трошкі рабкаватая Каця ўзяла з парты разам з

партфелем увесь свой вучнёўскі рыштунак і ўжо стаяла каля парты Цюхая, чакаючы, калі новенькі дасць ёй месца.

А ён не спяшаўся, нешта корпаючыся, нібы штосьці хаваючы, у сваёй парце.

— Ну, уставай. Чаго ты? Бяры сваю сумку,— гаварыў яму Іван Іванавіч.

З-за парты вылез на клас вучань, неахвотна, у сіняй пакамечанай сарочцы з расплікнутым каўняром, у кірзавых ботах, разношаных, з аплыўшымі, дзіравымі на костачках, халявамі, трымаючы ў руцэ згорнуты ў трубачку сшытак, апушчаны ўніз, каб не заўважыў, мусіць, настаўнік.

— Сумку бяры. Дзе твае кнігі? — падышоў да яго Іван Іванавіч.

— У мяне нічога болей няма,— прыбеднена адказаў вучань, глянуўшы ўніз на свой сшытак, згорнуты трубачкай.

— Пакажы?

У сшытку былі работы ўчарашніх чатырох урокаў: нямецкай, беларускай, рускай мовы і арыфметыкі.

Празвінеў званок на ўрок, і Іван Іванавіч паспеў толькі заўважыць, што выкананы яны былі неахайна.

## 7

Роўна праз тры дні пасля таго, як Галавацкі прывёў свайго сына ў школу, Ігнатовіч пайшоў да яго, да бацькі. Пагаварыць, паглядзець, як, што. Галавацкага ведаў, паўз хату не раз ішоў, бачыў якая, а вось у хаце не быў.

Кантакты з бацькамі даюць карысць настаўніку. Хаця б у тых адносінах, што, наведаўшы бацькоў, настаўнік ведае, у якіх умовах жыве вучань. Чаго яму не хапае

і што перашкаджае. У чым бацькі дапамагаюць дзіцяці, а ў чым шкодзяць.

Так, так, няма ніякага дзіва, Ігнатовіч добра ведаў, што бацькі, якія любяць сваё дзіця і зычаць яму дабра, часамі, не ўсведамляючы гэтага самі, моцна перашкаджаюць свайму дзіцяці і ў вучобе і ў паводзінах. Асабліва ў апошнім, у паводзінах. Хай гэта не будзе для тагосяго парадоксам, хоць сама выснова на першы погляд, калі не ўдумацца ў яе, гучыць парадаксальна.

Ну і, трэба сказаць, інтарэсы бацькоў і інтарэсы настаўнікаў у выхаванні і навучанні дзяцей не заўсёды супадаюць. Як бы сказаў вучоны, не канвергентныя.

Ды і не можа быць тут ніякай канвергенцыі. Бацькі не хочуць чуць пра сваё дзіця дрэннае, і часта атрымліваецца так: не дзіця вінавата, якое зрабіла благі ўчынак, а той, хто сказаў бацькам пра адмоўны ўчынак іх дзіцяці. У настаўніка цэлы клас дзяцей, і ён не можа закрываць вочы на нядобрыя ўчынкі паасобных дзяцей, каб гэтым папярэджваць благія ўчынкі астатніх вучняў, гэта значыць большасці. Такім чынам, у настаўніка агульны інтарэс, грамадскі, у бацькоў — вузейшы, свой, асабісты.

І не дзіўна, што бацька Цюхая аблаяў настаўнікаў, маці не ходзіць на бацькоўскія сходы, бо ёй балюча чуць пра свайго сына нядобрае.

Ігнатовіч гэта ведаў і меў на ўвазе, калі ішоў да Галавацкіх.

Ён таксама помніў выпадак, як Вера Макараўна мела неасцярожнасць з адкрытай душой пагаварыць з бацькамі аднаго вучня, зайшоўшы да іх у хату.

— Вон,— сказаў бацька,— і каб ваша нага не была ў маёй хаце, раз мы нядобрыя.

«Мы нядобрыя». Тут ясна. Нядобры я, нядобрае і дзіця маё. Калі вы пакрыўдзілі дзіця, дык яшчэ ў большай меры пакрыўдзілі бацькоў. Ігнатовіч гэта ведаў і заўсёды вельмі асцерагаўся зачапіць бацькоў.

Пайшоў да Галавацкіх увечары, калі ўжо дома і гас-

падыня, управіўшыся з каровамі на саўгаснай ферме.

Вокны хат свяціліся яркім святлом электрыкі, выстаўляючыся то гардзінамі, то розных узораў і форм фіранкамі. У некаторых вокнах проста сінела: людзі выключылі электрыку і глядзяць тэлевізар.

Ігнатовіч не любіць глядзець тэлевізар упацёмку, выключыўшы святло. У яго дома — і ён сам, і жонка — глядзяць тэлевізар пры святле. Ды і чытаў ён недзе, што тэлевізар трэба глядзець пры святле.

Там-сям на вуліцах гарэлі электралямпачкі на слупах. Гэта каля магазінаў, каля клуба, каля бальніцы.

У баку жывёлагадоўчай фермы — як у горадзе: слупы сваіх праменняў далёка кідалі вялікія лямпачкі і пражэктары.

Прайшоўшы Школьнай вуліцай ад цэнтра, Ігнатовіч убачыў, што на перакрыжаванні, дзе яму трэба было звярнуць на вуліцу ўправа, было цёмна — лямпачка на слупе перагарэла. Якраз у гэтым месцы, перасыхаючы толькі ў самыя сухія дні ўлетку, была вялікая лужына, і абыходзіць яе трэба было з вялікім акрабатычным майстэрствам, прыціскаючыся да плота. І якім ні рабіўся спрытным і лёгкім Іван Іванавіч, усё-ткі зачарпнуў левым туфлем трохі бруднай жыжы — холад яе непрыемна пайшоў ад нагі па целе.

Далей вуліца была сухая. Крокаў праз некалькі прыйшлося зняць з нагі туфель. Вады ў ім не было, але шкарпэтка на назе была мокрая і ўсярэдзіне сам туфель быў мокры. Уссунуў вобмацкам яго на нагу, не ведаючы, аб што выцерці рукі, і пайшоў далей.

На вуліцы нехта сустрэўся, але тут было цёмна, і Ігнатовіч не пазнаў яго.

Насупраць хаты Галавацкіх спыніўся.

Старая, пастаўленая яшчэ да вайны, яна была паўз самую вуліцу, без расадніка пад вокнамі, і ў іх можна было глядзець, прыліпшы да шкла, з самай вуліцы, не так, як новыя хаты, якія пахаваліся ў двары, у глыбіню

сяліб. З невялікіх акон праз звычайныя белыя фіранкі прабівалася яркае электрычнае святло.

Падышоўшы да веснічак, дастаў з кішэні насоўку і выцер рукі.

Пераступіў высокі парог хаты. На яго глядзелі гаспадар, гаспадыня з вачыма, як пралескі, і двое малых дзяцей — дашкольнікаў. Гаспадыня стаяла пасярод хаты, гаспадар сядзеў на лаўцы каля стала, а дзеці, белагаловыя, з вачыма як у маці, на шырокім драўляным ложку паўз глухую сцяну.

— Добры вечар,— сказаў Ігнатовіч, як чалавек, які мае справу да другога чалавека, таму і прыйшоў да яго.

Над сталом гарэла сотка, і ў хаце было відна. Стол быў засланы даўнім саматканым абрусам, падлога не фарбаваная, але не надта саследжаная, мытая, відаць, не так даўно, сцены былі абклеены шпалерамі толькі на куце, а астатняя іх частка, як і столь, былі счарнела-бурымі ад часу і рознага дыму, якому даводзілася стаяць тады-сяды пад столлю.

Адказаўшы Івану Іванавічу на прывітанне, Галавацкі паслужліва падхапіўся з лаўкі, нібы даўно чакаў яго, паказаў, дзе садзіцца, а сам перайшоў на другі бок стала, на больш вузкую і кароткую лаўку на растапыраных ножках, якая стаяла паўз сцяну ад двара.

— Вы не дзівіцеся, Іван Іванавіч, што ў нас так,— сказаў гаспадар, калі Іван Іванавіч сеў.— Схадзі-тка, Сцепаніда, гурка якога прынясі, мы з Іванавічам прапусцім па чарцы. Госць, як ні кажы. Першы раз у нас у хаце. Хванарык вазьмі, а то яшчэ носам дзе тыцнешся.

Калі жонка, пашарпаўшы рукой на паліцы, узяла пад паху нейкую пасудзіну і пстрыкнула кішэнным ліхтарыкам, спрабуючы, ці гарыць, гаспадар растлумачыў:

— Сын мне прыслаў. Добра. Ці ў стопку схадзіць, ці так куды. У мяне былі гэтыя, што батарэйкі ўстаўляюцца,— дрэнь. Пагарыць дні два, тры, і хоць за плот выкідай. Батарэйкі перагараюць. А гэты — о, не! Штука!

Уткнуў у разетку, набярэцца электрыкі, і свяці колькі хочаш. О, гэта хванарык! Маладзец мой сын, яй-права! Толькі кажуць такі-сякі. Можа, і гэты гэткі будзе? Як вы думаеце, Іван Іванавіч?

— Як і вы. Як я іначай магу думаць? З усякага дзіцяці павінен выйсці чалавек. Добры, як і мы з вамі. Рабочы, калгаснік, машыніст — адным словам, нейкі будаўнік камунізма. А работы ў нас — о-о-о, хоць з другіх краін наймай. Беспрацоўных няма. Правільна я думаю.

У гэты час вярнулася са стопкі з міскай кіслых гуркоў Сцепаніда, пстрыкнула ліхтарыкам ужо ў хаце, тушачы яго.

## 8

Ігнатовіч быў, як кажуць, перад фактам: на стале на белым абрусе, які гаспадыня толькі што засцяліла, зняўшы той, што ляжаў, была эмаліраваная міска кіслых гуркоў, горка нарэзанага нятоўстымі скібамі хлеба, з паўдзесятка сырых яек, абмытых вадой і абцёртых ручніком, невялікі графінчык з самагонкай. Ну і ласка гаспадароў, так сказаць, іх запрашэнне.

Пырскнуць і пайсці, сказаўшы, што я самагонкі не п'ю і наогул не п'ю, за выключэннем вялікіх дат і надзвычайных выпадкаў, што прыйшоў да вас не ад нечага рабіць, а па сур'ёзнай справе, можна сказаць, на работу, так, на работу, не дзеля зусім непатрэбнага знаёмства з вамі ці збліжэння, а па прынцыповаму, можна сказаць, службоваму, пытанню, для рашучай гутаркі з вамі як з бацькамі, якая, можа, зробіць нас ворагамі, затое гляне на вас і мяне вачыма праўды? Такі варыянт быў ужо гатовы ў галаве Ігнатовіча, і ён ужо быў памкнуўся ўстаць з лаўкі. Гэта гарантавала недатыкальнасць яго яшчэ ні-

чым не збэшчанай рэпутацыі: нідзе, ні з кім, ніякай, асабліва самагонкі.

І тым не менш, нешта перашкаджала яму падняцца з лаўкі, і ён не падняўся, хоць бачыў і разумеў, што рыхтуецца рытуал выпіўкі.

І калі з'явіліся на стале тры сіняватыя шклянкі, Галавацкі, адсунуўшы трохі ад лаўкі стол, каб можна было за яго залезці, сказаў, паціраючы рукі:

— Залазьце, Іван Іванавіч.

Іван Іванавіч залез за стол ад вуліцы, Галавацкі сядзеў ад двара. Гаспадыня села на зэдлік насупраць Ігнатовіча.

З ложка дзеці ўважліва глядзелі на чужога дзядзьку, які сеў за стол. Ігнатовіч гэта ўбачыў і ўвесь час, калі сядзеў за сталом, адчуваў на сабе іх позіркі, як адчувае чалавек святло, нават не пазіраючы на яго.

— Можа, ужо адкалоў што мой малы там? — сказаў Галавацкі, усеўшыся за сталом ужо як мае быць, лагодна глянуўшы на Ігнатовіча, тады на жонку.

— Гэта вы пытаеце таму, што я прыйшоў?

— Ну.

— Не. Я прыйшоў проста папытаць у вас, што яму лепш купіць?

— Як купіць? — не разумеў Галавацкі.

— Як купіць? У нас у школе ёсць фонд усенавуча. Таму-сяму мы дапамагаем з гэтага фонду, калі бачым, што трэба дапамагчы. У яго боты, я бачу, ужо няважныя. І штаны, і сарочка заношаныя. Пайшлі б у магазін і купілі.

— Вы самі?

— Грошы на магазін пераводзім. На рукі не даюць. Мы з вамі пайшлі б. Ці з ім. Ці во з імі,— Ігнатовіч глянуў на гаспадыню.— Вы ж інвалід Вялікай Айчыннай вайны?

— Гэта звесна.

— Дапаможам. Дзе ён сам?

— Сам? — глядзеў вакол па хаце Галавацкі, нібы спалохаўшыся, што таго, каму школа збіраецца купіць тое-сёе з вопраткі, няма дома.— Пайшоў урокі вучыць. Кніжак сваіх няма.

— Няма ў яго кніжак. Гэта я ведаю. І сумкі няма. Сшытак толькі адзін.

— Купім. Усё гэта купім. Я ездзіў у Бярэзань. Няма. Распрадалі, кажуць.

— Калі ты ездзіў? — запытала жонка, углядаючыся ў твар мужа.— Мань.

Ён незалюбіў.

— Што ты каркаеш, як варона тая: мань, мань, мань! Ну не ездзіў, ну. Што ты хочаш гэтым сказаць? Дык ён сам ездзіў. Грошы яму даваў, і ён ездзіў. Я яго пасылаў, з майго разрашэння ён ездзіў. Гаварылі, якія кніжкі трэба купіць. Не было, і не купіў. Разабралі даўно. Калі тыя заняткі ў школе пачаліся! Каб веданне, дык бы ўлетку купіў, як усе дзеці куплялі. Чорт яго ведаў, што гэтак яно палучыцца. Ты хочаш, каб я сваймy дзіцяці не давяраў.

— Дзецям трэба верыць, канешне,— падтрымаў Галавацкага Ігнатовіч, каб той не нагаварыў абы-чаго на жонку і не быць сведкай нядобрай сутычкі паміж людзьмі.

— Іван Іванавіч, ён дзіця. Во пабег, і няма. Урокі, кажа, пайду к хлопцам вучыць. А ці ён іх вуча, ці сабак па вуліцы ганяе. І гэта: паехаў — няма. А ці праўда, што няма, ці хлусіць, каб лішні раз з'ездзіць.

У тоне голасу, вельмі мяккага і трошкі глухаватага, у сініх, як пралескі, вачах, у выразе твару, ужо немаладога, але прыемна-мяккага, белага, быў папрок бацьку. Канешне, мог бы і сам з'ездзіць у раённую кнігарню, дык ён пасылае сына, за якім трэба глядзець і глядзець, пасвіць і пасвіць, як авечку.

— Добра, я пазваню ў кнігарню, засталося там што з падручнікаў ці не засталося. Хто яго ведае, восень, мо-

жа, і не засталося, распрадалі. Але кнігі яму трэба шукаць, прапытваць. Можа, у каго старыя дзе валяюцца. Без кніг нельга. Якая вучоба без кніг? Я-ткі сам паспрабую пашукаць яму кнігі.

— Во-о-о,— заключыў гаспадар.— А то яна каркае. Што ты панімаеш? Налівай во. Да поўначы будзем хвіласофію разводзіць.

І тут жа, не чакаючы, пакуль гэта зробіць гаспадыня, узяў графін і напоўніў з яго тры шклянкі.

Падняў адну з іх і глядзеў на Ігнатовіча, каб і ён зрабіў тое ж.

Чокнуліся.

Галавацкі выпіў адразу, сказаўшы: «Пасуда любя чыстату». Гаспадыня — не ўвесь. Ігнатовіч толькі паспытаў.

— Іван Іванавіч, не пакідайце зла. Што гэта вы? Выпіце.

— Праўда, выпіце,— прасіла ўжо гаспадыня.

— Злая,— пакруціў галавой Ігнатовіч і пачаў закусваць хлебам з кіслым гурком.

— Я ж кажу, нічога, удалася,— задаволены быў гаспадар, што госць пахваліў гарэлку, і сабе ўзяўся закусваць, парэзаўшы ў агульнай місцы гурок на скрылікі і наколваючы кожны скрылік на відэлец.

— Яечка бярыце, Іван Іванавіч.— І гаспадыня палажыла перад ім сырое яйцо, узяўшы з пятка, які ляжаў пасярэдзіне стала.

— Добра, напіцца можна і патрошкі,— згадзіўся гаспадар з тым, што Ігнатовіч не выпіў адразу.— Немцы глыткамі п'юць, як куры ваду. Толькі радзей. Глыне і сядзіць, чорт яго ведае чаго чакаючы. Халера іх ведае, мусіць, дужа скупыя. Я не магу так. Мне глынуць дык глынуць — стакан адразу. Ці гэта самагонка, ці руская горкая, ці віно — мне каб стакан. Адна ў мяне мера. Вы б маглі, Іван Іванавіч, выпіць. Здароўе ёсць, на вайне не згубілі, малады. Стрымліваецеся.

— Магу, калі трэба. А цяпер мне не трэба. Заўтра рабочы дзень.

— Праўда, у вас рабочы дзень. Гэта ў мяне дні пустыя, не лічаныя. Ідзе — хай ідзе, не бачу я гэтых дзён. Яны мне не трэба, не зважаю я на іх, як сляпы. У яе дні рабочыя. Цяжкія,— паказаў Галавацкі на жонку.— Думаеш, я не разбіраюся, Іван Іванавіч?

— Вы ж не без галавы. Чаму вы павінны не разбірацца? Я думаю, што разбіраецеся. Жонка ваша залаты чалавек.

— Разбіраемся, Іван Іванавіч. Усё бачу. І панімаю. Глыбока панімаю, Іван Іванавіч. Усё панімаю. Усё! Вы думаеце, я б жыў з ёй, каб не панімаў? Панімаю! Ох, панімаю!

І ён узяў графін і напоўніў сваю шклянку і даліў, каб была поўнай, Ігнатовічаву. Жонцы не наліваў, сказаў:

— Яна болей не будзе піць.

— Не буду,— сказала яна, глянуўшы ў вочы Ігнатовічу і палажыўшы абедзве рукі з локцямі на стол.

Пальцы яе былі парэпаныя, з чарнатой, якая не адмываецца, а сыходзіць разам са скурай. Цэўкі рук былі плоскія, тонкія, адсвечваліся бурым глянцам. Аднак белая блузка, якую яна апранула перад тым як сесці за стол, ляжала на ёй — і на плечуках, і на грудзях — даволі ёмка і, можна сказаць, нават прывабна.

Галавацкі ізноў выпіў, а Ігнатовіч толькі, як кажуць, прыгубіўся.

— Не п'яце? — спытала яна.

— Не, заўтра на работу,— адказаў ён і адставіў шклянку далей ад сябе, убок, каб паказаць гэтым: брацца за яе болей не будзе.

— Няважна,— заключыў Галавацкі.— Нельга, значыць, нельга, калі чалавеку трэба на работу. Маёй таксама заўтра на работу. А я вып'ю, мне не трэба заўтра на работу. Я толькі адно скажу, Іван Іванавіч. Вам заўтра на работу, і ёй на работу. Вы працуеце, і вас любяць.

А мяне не любяць. Чаму? Яна, жонка мая, залатая, а я...— ён выразна і падкрэслена гучна вымавіў слова на «г».— Чаму? Хто мяне зрабіў ім? Вот, і крыўдна мне, што вы ўсе людзі, а я не чалавек.

— Чаму вы не чалавек? Вы чалавек. Ветэранаў вайны ў нас паважаюць. На каго вы можаце крыўдаваць?

— На каго? Не на савецкую ўласць. Не! Я гэта панімаю. На вайну, во!

— А хто яе развязаў?

— Не мы. Панімаю!

— І вы не адзін такі інвалід.

— Панімаю. Характар у людзей не адзін. Я як ланцугамі скручаны. Вот мяне і мучыць. Мне каб прастор, каб рабіць, а прастору няма. Злосць проста. І з сабой не ведаеш, што рабіць. Мы вам заваявалі, а сабе...

Настаў час, калі трэба было нешта рабіць. Што? Чытаць мараль? Бацьку па гадах! У яго хаце?

А ці не занадта гэта будзе? Ці меў на гэта Ігнатовіч права?

І, галоўнае, ці дапаможа? Карысць якая будзе?

Ён глянуў на гадзіннік, на ручны свой.

— Палавіна адзінаццатай,— сказаў быццам сабе.

— А на нашым? — углядаўся Галавацкі на верхнюю паліцу ў парозе, дзе стаяў будзільнік.— Так і на нашым. Аднолькава.

І да Ігнатовіча:

— Гэта мы ад дзяцей хаваем яго туды. У-у, паб'юць. Як піць даць.

Потым да жонкі:

— Дзе ж Тарас? Тыя дні ў гэты час ён ужо спаў. Пекану яму я сёння, яй-богу.

Устаўшы з-за стала, Ігнатовіч пачуў, што нага яго мокрая.

«Пайду кругом, паўз магілкі, каб зноў у лужыну нагой не каўзануцца. Другой, часамі»,— падумаў і, даўшы гаспадарам дабранач, пайшоў дадому.

## 9

Выйшаўшы з двара, Ігнатовіч павярнуў улева, у процілеглы канец ад Школьнай вуліцы, на якой ён жыў і па якой ішоў сюды. Можа, і не лужына была прычынай, у якую ён трапіў нагой, як ішоў сюды, да Галавацкага. Можа, чалавеку захацелася проста пабыць больш на дварэ, падыхаць вільготным паветрам асенняй ночы, добрай ночы, ціхай і спагадлівай, як маці, выйсці на сваю вуліцу з другога боку і глянуць на начную вёску, на яе асветлены цэнтр, з другой ускраіны.

Ніхто не сустракаўся, і можна было ісці і думаць, як у полі або ў лесе на прагулцы.

Хутка і могілкі, у якія ўпіралася вуліца. Імі ўжо запахла (старым бярэзнікам уперамешку з цёмнымі соснамі), хоць іх яшчэ не відаць. Як падраўняныя і падстрыжаныя, яны ўжо ўсталі дружнай купкай дрэў перад вачыма, дакладней — у свядомасці, бо вочы іх не бачаць упацёмку, памяць — у любы час відушчая.

Вось і яны, могілкі. Зараз трэба павярнуць направа і ісці паўз іх метраў сто, а можа, і дзвесце, аж да самай наступнай вуліцы, якая і выведзе Ігнатовіча на яго Школьную вуліцу. Гаркавы пах набраклай бярозы, крушынніку, лазы, проста пажухлай асенняй травы і нейкі велічны лясны спакой, дзе надзвычай прыемна маўчаць і не перашкаджаць гэтаму спакою,— вось і ўсё, што значылі для Ігнатовіча могілкі, у працілегласць тым людзям, для якіх могілкі былі звязаны з рознымі страхамі.

І раптам спалохаўся недарэчнай думкі. Яна нечакана мільганула ў мазгах, як мільгае маланка ўночы, нешта рассякаючы сабой на часткі і нешта асвятляючы. У Галавацкага асколкі, ён хворы і ўжо немалады, і пры такіх няўважлівых адносінах да сябе (піць — горш чым працаваць) ён можа сёння ж памерці, і яго будуць хаваць на гэтых могілках. І будзе плакаць змардаваная нялёгкім жыццём жонка, малыя дзеці, тыя,

што сёння сядзелі на ложку, гэты, што недзе пабег на сяло і не было, пакуль Ігнатовіч пакінуў іх хату, хай нават рыхтуе з кім-небудзь урокі, і прыедуць большыя, дачка і сын, што недзе на свеце, збярэцца радня, блізкія, суседзі, і будзе гора, і будуць плакаць не толькі тыя, каму гора, а тыя, хто будзе падзяляць з імі яго. Застанецца ўдава, дзеці-сіроты, не стане чалавека, сведкі і ўдзельніка вялікіх гістарычных падзей. Сведак — удзельнікаў гэтых, Ігнатовіч разумеў, з кожным годам станавілася менш і менш, у іх адкрываліся старыя раны, і яны паміралі.

З цэнтра, дзе зарывам біла ў неба электрычнасць, хлынула раптам музыка, свежая, маладая, бадзёрая, самая сучасная ў сваёй рытміцы, ад якой не сядзіцца на месцы, якая ўзмывае, узносіць цябе чорт ведае куды і кружыць цябе чорт ведае на якой адлегласці ад роднай вёскі.

Гэта скончыўся другі сеанс кіно і ўключылі прайгравальнік. Так было заўсёды, за выключэннем панядзелка, калі ў клубе быў выхадны. Рэпрадуктар незвычайнай музыкай склікаў у кіно і праводзіў з кіно.

Ігнатовіч спыніўся. Злева могілкі, справа гучала музыка, даносячыся сюды і як бы памацняючыся ў веццi голых дрэў.

Перамянілі пласцінку, а Ігнатовіч стаяў каля могілак. Нехта ўпрошваў людзей падзяліць з ім адчуванне мора, ветру і сонца, радасць жыцця, імкненне ў нязведанае і цудоўнае. Нехта маліў ноч (гэта ўжо была новая пласцінка), каб яна не так хутка канчалася, бо цяжка было развітвацца з любым.

Музыка зачароўвала, яна была ўсеўладнай, тут, на ўскраіне вёскі, на могілках, за якімі поле і лес, уночы, калі гук становіцца адзіным гаспадаром прасторы.

Музыку наогул любіў Ігнатовіч, ва ўсе часы свайго жыцця, у любых абставінах. І чым болей сталеў, тым больш абвастралася пачуццё музыкі. Часамі так рабілася

сумна, да слёз балюча, але гэта быў сум па прыгожаму, слёзы шчырай любові да вялікага духоўнага жыцця чалавека. Праз музыку ён адкрываў у сабе самога сябе. І яшчэ болей пранікаўся сімпатыяй да ўсяго сапраўднага, што рабіла жыццё змястоўным і цікавым.

І стаяў да таго часу, пакуль не пачуў гаворку людзей, якія ішлі з кіно. Рушыў і выйшаў на вуліцу, дзе гаварылі. Вуліца гэтая ад Школьнай — на шашу.

Ігнатовіч павярнуў направа і, улажыўшы рукі ў кішэні паліто, пайшоў насустрач людзям, што ішлі з кіно, ціха, не спяшаючыся, як на шпацыры, да ўсяго прыглядаючыся і прыслухоўваючыся.

Тут вуліца была заселена густа, ведама — адна з асноўных вуліц, старая, і на ёй ад вокнаў хат амаль на ўсёй было відна, не так, каб збіраць іголкі, але відна.

Насустрач ішла адна група людзей, якія жылі ў новым пасёлку, забудаваным двухпавярховымі дамамі нядаўна, своеасаблівым мікраараёне вёскі.

Другая група: ляснічы, лесатэхнікі, іх бухгалтар, якую ўсе клікалі адным імем: Вера.

— Добры вечар. На паляванне хадзілі? — пажартавала яна.

— Прыходзіцца,— адказаў Ігнатовіч.

— Упацёмку?

— А калі ўдзень часу няма?

Старшакласнікі, якія жылі ў вёсцы за шашой. Яны ішлі хутка, як бы спаборнічаючы ў хадзе.

— А танцы? — кінуў ім Ігнатовіч.

— Панасіка няма,— не паскупавалі на адказ і яны. Панасік — баяніст. Прозвішча яго не Панасік. І імя не Панас. Мянушка ў яго была такая.

Дзе ж быў Панасік? Пажартавалі.

Рэпрадуктар грымеў яшчэ мацней. Але дзіўна: на адлегласці слухаць музыку было прыемней.

На плошчы Ігнатовіч стаў: каля клуба чулася нейкая валтузня.

Ігнатовіч спыніўся каля асветленага ў сярэдзіне і знадворку сельмага, і слухаў у той бок, дзе чулася валтузня моладзі.

Немаведама адкуль, ці не з веснічак сельпоўскага двара, вырасла перад ім, як у якой казцы, Адэля, якая вартавала гандлёвы цэнтр вёскі: сельмаг, культмаг, прадуктовы магазін, магазін розных гаспадарчых прылад і посуду, магазін нарыхтовак. Яна была ў паддзёўцы, у штанах і ботах, у дзвюх хустках — адна была відаць на лобе да самых вачэй, светлая, другая — на ёй, шарсцяная, тоўстая, чорная. Трэба было прабыць на дварэ ноч, а ноч была асенняя, марудная, і жанчына гэта разумела.

— Вашы? — кіўнула яна галавой у бок клуба, трымаючы рукі, як мужчына, у ніжніх кішэнях паддзёўкі.

— Мусіць,— няпэўна адказаў Ігнатовіч, акінуўшы поглядам Адэлю.

— Анягож чэрці. А ты яшчэ «мусіць». Мазгі мне муціш,— і яна нягучна засмяялася.— Я тут кожны дзень і бачу, што вашы. О-о-о, цяпер, вучынічкі пайшлі! А гэты, во, што з антарнату прагналі, Антонаў, о-о-о!

— Ён тут?

— Не, яго тут няма. Не дужа даўно пабег. Ух, як на шыллі. Як чорт які ў ім сядзіць.

— Пабег, гаворыце?

— О так пабег.— І Адэля паказала рукой, куды Тарас пабег.— Дамоў, мусіць, панесла, можа, не вячэраў? Нешта як пекануў яго хто. А гэта галасок... Чуеце?

Ігнатовіч ціскануў плячыма — хто яго ведае, чый гэты голас?

— Не ведаеце? Я за вярсту іх разлічаю. Я іх як аблупленых ведаю. Максіма Супонькі сынок. Бач, галасок куды дзярэцца?

— Якога Супонькі?

— Якога Супонькі? Не ведаеш, што Максіма Дзюбайлу дражняць Супонькай? Яго сынок. Конюха нашага саўгаснага. Супонька дражняць яго. У нас, брат, што ні

хата, сваё імя чалавеку дадуць. Не так, як запісаны ён у сельсавеце ці поп ахрысціў. А ў вас, адкуль ты, не гэтак?

Ігнатовіч не адразу адказаў, падумаў.

— Бывае, мянушкі даюць.

— У нас тры Мікіты. Успомні іх хвамілію, тады бацькоў. Іх і назвалі: аднаго Куль, другога Смык, а трэцяга Багор. О, проста і ясна. Які Мікіта? Куль. Ніхто і не заве яго Мікітам. Проста Куль. А тады Смык. А тады Багор. Толькі на выбары спіскі складаюць, тады ўжо іх запісваюць як трэба.

— Чалавек можа пакрыўдзіцца: як гэта, даваць яму абы-якое імя?

— Хай крыўдзіцца, калі дурань. Разумны не пакрыўдзіцца. А мяне, ведаеш, як дражняць? Хай дражняць. Баліць мне, ці што? Ніколечкі. А твайго цесця як дражнілі?

— Чэснае слова, не чуў.

— А ты спытай у Галі. Скажа.

— От не чуў.

— Яго жывога няма. Дзе ты пачуеш? Я б не рабіла настаўніцай. Не. Хай іх агні спякуць.

— А тут ноч прастаяць?

— Э-э-э, лягчэй. Я ані. Прывыкла. Туды, сюды.

— А як Пятрок да другой пойдзе? Ты ж тут, не ўбачыш?

Адэля махнула рукой.

Ігнатовіч зноў вярнуўся да гаворкі пра Тараса.

— Ён, можа, што адкалоў калі? Не ведаеш?

— Гэтага я не чула. Не, мусіць. Пачула б. Але так дужа, як на іголках.

— Я ведаю, што ён на іголках.

Зноў загучала музыка з рэпрадуктара, вальс «На сопках Маньчжурыі», шырокі, уладны, магутны, і Ігнатовіч, не развітваючыся з Адэляй, пайшоў на музыку, у бок клуба.

## 10

Калі Ігнатовіч падышоў да свайго двара, з вялікіх вокнаў праз мярэжныя фіранкі біла на вуліцу моцнае электрычнае святло.

Цераз вуліцу насупраць сусед Васіль Крук ужо спаў.

Суседзі побач не спалі яшчэ, святло ў іх вокнах гарэла.

Хата Ігнатовіча сярод звычайных хат гэтай часткі вёскі была як велікан сярод ліліпутаў. Яна дасталася яму ад цесця, які два гады таму назад памёр на адным тыдні з жонкай. І немалады ўжо быў, як будаваў яе. Навошта старому была такая будыніна? І дах страпавіты, і падмурак высокі, можа, на метр ад зямлі. І налічнікі на вокнах — куды, амаль пад самы шчыт.

Ігнатовіч любіў хаты невялікія.

Сенцы былі зашчэплены, і калі Ігнатовіч пастукаў у дзверы, неўзабаве пачуўся знаёмы голас жонкі:

— Хто там?

— Чужы,— пажартаваў ён, але жонка адшчапіла і чужому, бо голас быў не чужы, да яго яна прывыкла, нібы чула яго з нараджэння.

— І ты не спіш? — сказаў ён сыну, які сустракаў бацьку на кухні.

— А калі ён спаў? — адказала за сына маці.

Сапраўды, калі бацькі не было дома, Пецю ніяк было не ўкласці спаць: ён чакаў бацькі. Нават тады, калі згаджаўся легчы, не засынаў.

Сёння маці і не спрабавала ўгаворваць яго легчы, бо ведала, што бацька доўга не затрымаецца, павінен во-во прыйсці. Яна ўключыла тэлевізар і, прыглушыўшы гук, пачала глядзець.

Аднак Пеця не мог уключыцца ў падзеі фільма, каб разабрацца, што да чаго, як і ўсе дзеці яго ўзросту, працягваў грымець на падлозе сваімі цацкамі, якіх у яго

было цэлая кардонная скрынка, і задаваў маці безліч пытанняў, на якія яна, каб не згубіць сюжэт фільма, па меры магчымасці не адказвала.

Было недзе пад дванаццаць.

— Ага, затрымаўся,— гаварыў Ігнатовіч, распрануўшыся.

— Можа, дзе п'янстваваў? — жартавала Галіна Сцяпанаўна.

— Не гавары: было.

— Што?

— Добрая самагонка. Толькі, дурань, не выпіў.

— Трэба было. Пашлі б спяваць па Лагах «Шумел камыш».

— Старая песня. Цяпер ужо не пяюць яе. Вунь з рэпрадуктара каля клуба, калі пусцяць пласцінку... Што твой «Шумел камыш».

— Не піў?

— Не.

— Як там яны?

— Як людзі. Толькі малога не было дома. Дзе яго насіла да такой пары?

— Бацька што кажа?

— Урокі пайшоў вучыць.

— Яны ведаюць, дзе ён ходзіць? Не будзе з яго нічога.

— Баба, будзе!

— Што? Злодзей?

— Не. Тое, што з усіх людзей. Што ты. Што я.

— Ніколі.

— Будзе.

— Кажу, што не будзе.

— Ну, хай не будзе.

Хуценька пачалі класціся спаць.

Ігнатовіч, ужо ў пасцелі, думаў:

«Ясна, судзіць лягчэй, чым стаяць перад судом. Але і без суда нельга, бо што было б, калі б людзі не судзілі

другіх людзей за іх дрэнныя ўчынкі і не каралі злачынцаў?»

Заўтра трэба будзе грунтоўна пагутарыць з Тарасам, дзе яго чорт насіў да такой пары, што так позна не было дома, як ні чакаў Ігнатовіч, каб паглядзець на яго і пагаварыць з ім у прысутнасці бацькоў, дома, бо, вядома, усякі чалавек дома выглядае іншым, чым на людзях, і паводзіць сябе інакш сярод сваіх, чым сярод чужых. Не ўбачыў яго Ігнатовіч дома і не пачуў яго голасу ў прысутнасці сваіх, а вярней — у сваёй хаце.

Але ж Адэля сказала, што быў каля клуба? Ну, вядома. Дзе ж яму яшчэ быць? Клуб як магніт, каля якога дзеці таўкуцца, хоць і ў кіно не ідуць (на другі сеанс да восьмага класа не пускаюць), пакуль не патухне святло ў яго вокнах.

Любая сям'я — як і любая хата. Выгляд звонку не заўсёды адпавядае выгляду з сярэдзіны. Знадворку быццам хата хоць куды. А зойдзеш у яе — кісла і мутарна робіцца. Бывае і наадварот. Знадворку нягеглая хатка, а зойдзеш — усё на сваім месцы, душа радуецца.

Збоку, бывае, глядзіш — нікудышная сям'я. Пазнаёмішся, пабудзеш у ёй — сям'я як сям'я.

Старэйшы сын іх, Ігнат, кінуўшы школу і дом, жыве аж у Варкуце, працуе, прысылае абноскі бацьку і, хваліўся бацька, вучыцца ў вячэрняй школе. Будзе з яго чалавек ці не будзе? А ён стаў ім. Бацькі і рады за яго.

Дачка, што ішла за старэйшым, Тамара, Ігнатовіч добра помніць яе, пакінула школу з дзевятага класа, доўга ездзіла па гарадах да знаёмых і далёкай радні, каб тыя дзе-небудзь уладкавалі на работу, і яны не адзін раз уладкоўвалі яе, то афіцыянткай у сталовай, то прыбіральшчыцай у магазіне. Але ні на адной з гэтых работ яна не затрымлівалася, нечага ёй не хапала, нечым яна была незадаволена, кідала гэтыя работы, прыязджала дадому, груба гаварыла з бацькамі, пакуль не пайшла на курсы экскаватаршчыкаў і не стала экскаватаршчы-

цай. Добра працуе. Праўда, не дома жыве. Ды ўсякая птушка сваё гняздо ўе, ні адна не выводзіць дзяцей у матчыным гняздзе.

Маці супакоілася, што дачка ўрэшце на нечым спынілася і мае свой хлеб і сваю вопратку.

Прафесія не жаночая? Калісьці і дактарамі былі адны мужчыны. А зараз?

Сям'я... Кожная сям'я — суд у поўным складзе, каб судзіць другую сям'ю.

Канешне, сам Антон Барысавіч Галавацкі грубаваты. Ніколі не схадзіў на ферму, каб хоць чым памагчы жонцы. Паднесці, падаць, патрымаць, папільнаваць. Другім даяркам памагаюць. Мужыкі, дзеці. Абы-хто з сям'і ідзе, абы свой. Чалавеку не толькі лягчэй, але весялей. А ён не памагае сваёй жонцы. Наадварот, абы-што скажа на яе, зняважыць. Дзеці не любяць гэтага. Ой, не любяць! Нажом рэжуць па сэрцу ім сваркі бацькоў.

Трэба будзе паспрабаваць Тараса прывучыць, каб ён памагаў на ферме сваёй маці.

...Паплыў ложак, і паплылі думы і клопаты, якія непакоілі чалавека дзень. Заўтра яны будуць толькі ўспамінамі, следам на зямлі, па якой прайшоў чалавек.

## 11

Такое надвор'е ўвосень Ігнатовіч заўсёды любіў: хмарнае, ціхае, цёплае. Удзень хмары будуць трошкі ружавець. Дождж не пойдзе.

Э-э, сонца ўвосень не да спадобы. Куды яно? Восень і павінна быць трошкі сумная. А як жа, ідзе цяжкае развітанне з летам.

Калі ішоў у школу, рыкалі на вуліцы каровы, якіх выганялі на пасту, грымелі, фыркалі трактары і машыны, пачынаючы свой рабочы дзень, кружыла, дзівячыся на вёску, чарада варон.

Некаторых дзяцей, што ішлі ў школу, Ігнатовіч пераганяў, некаторыя яго пераганялі.

Да драбніц знаёмая дарога, знаёмыя людзі і хаты, платы і вароты, завулкі, якія перасякалі вуліцу.

Бяроза, старая, расахатая, з чорным — на варгулях — камлём, за парканам, пад акном у старой, як і бяроза, акушэркі. Яе ніхто ў вёсцы не заве іначай, як Мар'я Іванаўна. Тыя, каго яна спавівала ў маладосці, ужо пенсіянеры. Ні адна жанчына ў ваколіцы не нарадзіла без яе дзіцяці. Пад бярозай у расаднічку ніколі нічога не расло вакол яе камля, Мар'я Іванаўна не садзіла, ведаючы, што тут ніколі нічога і не парасце. А дрэва яна любіла і не псавала яго насечкамі, з якіх вясной цячэ салодкі бярозавік.

А вось і Змітрова таполя, якая сваім стромкім верхам бачыла не толькі ўсю вёску, але і далёка за ёй. Яна была за плотам на гародзе, па левы бок вуліцы, як ісці ў школу. Улетку яна пералівалася серабром сваіх лісцяў, на ёй крычалі птушкі, і было прыгожа.

Ёсць людзі — мастакі, ёсць. Дрэва адбірае з яго сялібы добрую частку ўраджаю, а чалавек любуецца ім, не думае ссякаць і не падлічвае, колькі каштуе яму гэтае любаванне.

У Ігнатовіча побач з дваром паўз вуліцу садок. Яго садзіў цесць. Толькі адны яблыні. Разлік на большую карысць. Ігнатовіч пасадзіў паўз паркан на гародзе радок маладых ліп. Хай глядзяць на вуліцу, самі радуюцца людзям і людзей радуюць. Ліпа — цудоўнае дрэва.

Вось і школа, абгароджаная нізкім зялёным штыкетнікам, пад цынкавым дахам, доўгая, прысадзістая, з вялікімі вокнамі ў прыгожых зялёных налічніках.

Не даходзячы крокаў некалькі да веснічак, Ігнатовіч спыніўся, прапускаючы ў веснічкі гурт дзяцей, пераважна пяцікласнікаў і шасцікласнікаў. Яны спяшаліся, каб не спазніцца. Старшакласнікі — тыя пачыналі валіць у школу пазней, мінут за пяць перад званком.

У настаўніцкай быў ужо выкладчык хіміі Стык, які першым заўсёды прыходзіў у школу, рыбак, паляўнічы, добры шахматыст; сядзеў за агульным настаўніцкім сталом дырэктар Раман Пятровіч Зярніцкі, далёка, як і заўсёды, выцягнуўшы перад сабой на стале складзеныя ў адзін кулак рукі, ад чаго манжэты белай нейлонавай сарочкі павысоўваліся з рукавоў пінжака, нібы хто адтуль іх павылупліваў.

Ігнатовіч палажыў на стол жоўты скураны партфель з дзвюма бліскучымі засаўкамі, павесіў на драўляную плешку вешалкі цёмна-сіняе паліто, на плашчак вешалкі палажыў белую клятчастую кепку, прычасаў угору русыя густыя валасы.

— Усё? — пажартаваў дырэктар, які назіраў за ім, як той распранаўся.

— Да бою гатовы,— адказаў жартам Ігнатовіч, усміхнуўся, паказаўшы прыемныя белыя зубы.

— Як піянер: заўсёды гатовы,— засмяяўся настаўнік Стык. Зубы яго жаўтаватыя, бо ён з курцоў.

— Так, бой. Бой без бойкі. Бой душ і за душы. А гэты ваш лайдак ходзіць у школу як на шпацыр.

Ігнатовіч здагадаўся, пра каго гаворыць дырэктар.

— Галавацкі?

— Ён самы. Ні сумкі, ні кніжкі.

— Ведаю. Гаварыў учора з бацькамі.

— Дома ў іх былі?

— Хадзіў.

— Ну і як?

— Малога не было дома.

— Позна?

— Гадзін да адзінаццаці я ў іх быў. Урокі, кажуць, пайшоў вучыць.

— А сумку з кнігамі думаюць яму купіць?

— Ездзілі, кажуць, у Беразіно. Няма ў кнігарні.

— Можа і не быць. Парой лыкі дзяруць. Вы б дзенебудзь самі яму дабылі. Хоць бэву. Яму што: няма —

і няма. Яшчэ рад будзе. Ёсць чым адгаварыцца. «Дзе быў?» — «Урокі хадзіў вучыць».— «Чаму ўрок не вывучыў?» — «Кнігі не было». Як у анекдоце.

— Цяпер я ўжо яму дабуду. Ці бэву, ні не бэву, а дабуду. Канешне, за яго трэба ўзяцца.

— Ды яшчэ як! Раз ні ў адным інтэрнаце не мог утрымацца, ясна што за птушка.

— Заморская,— пажартаваў Стык, закурваючы сігарэту з фільтрам.

— Дапусцім, Галавацкага мы ведаем, не з-за мора ён, але, як відаць, сын — цаца. У яго і самога характар. Жонка працуе, а ён толькі гарэлку п'е. Не паставіў вам?

— Паставіў.

— Сур'ёзна?

— Не жартую, не. Графін на стол — хоць пуп развяжы. Самагонка во! — Ігнатовіч выставіў угору вялікі палец.— Толькі настрою не было піць. Можна было нарэзацца.

— І чаму не нарэзаліся?

— Э, Раман Пятровіч. Настрою не было.

— Тады б і настрой падняўся.

— Штучнага настрою не хачу,— і Ігнатовіч махнуў рукой.

Дзверы адчыніў Бондзік.

— Добры дзень,— глуха павітаўся ён.

— Добры дзень, Станіслаў Вакулавіч,— за ўсіх адказаў дырэктар.

Бондзік паставіў свой стары чорны партфель да сцяны на падлогу і стаў углядацца ў вешалку, прыбітую да сцяны, дзе лепш павесіць яму свой пабялелы ад дажджоў і сонца калісьці сіні плашч і не менш вынашаную кепку.

Ён быў без пінжака, у талстоўцы, у галіфэ і ботах.

Стык устаў з-за стала.

— Станіслаў Вакулавіч, мы тут гаварылі пра гарэл-

ку. Чаму гэта адзін любіць піць, ну, утапіўся б у ёй, а другі — не, супіцца, як п'е?

Бондзік пацёр далонь аб далонь, як часта ён любіў церці, і адказаў:

— Гарэлка — раздурства. Чаму даўней не было п'яніц у вёсках? Не было за што піць, вот.

— Ну, а вы самі калі-небудзь п'яным былі?

Ён глянуў сваімі маленькімі шэрымі вочкамі на Стыка, апусціў іх уніз і ўхмыльнуўся:

— Быў. Сястра ішла замуж. Мне было гадоў дванаццаць. Паехалі мы за ёй да сватоў — кухар павезлі ўжо. Як напаілі мяне там, дык за нежывога рвала. І цяпер смяюся, як успомню.

Карыстаючыся тым, што ў настаўніцкую зайшоў новы чалавек і з ім пачалася гаворка, Ігнатовіч непрыкметна пакінуў настаўніцкую, каб паглядзець, ці прыйшоў у школу Галавацкі.

Па калідоры, з класа ў клас, з кнігамі, сшыткамі снавалі вучні. Хто пазычаў падручнік, каб паўтарыць урок, хто нёс пазычаны. Большасць са сшыткамі звярала сваё рашэнне задач з рашэннем мацнейшых вучняў, значная ж частка спісвала з чужых сшыткаў у свае. Звычайны школьны аўрал перад пачаткам заняткаў.

Ігнатовіч адчыніў дзверы свайго сёмага класа. Зайшоў у яго. Вучняў было ўжо шмат. Кожны быў заняты сваім, таму хто павітаўся з настаўнікам, а хто і не павітаўся, утупіўшыся ў кніжку або сшытак — бачачы перад сабой адно: урок.

— Галавацкага не было яшчэ?

Вастраносая дзяўчынка пакруціла вакол галавой, шукаючы, дзе ж той Галавацкі, і адказала:

— Быў.

Ігнатовіч пайшоў да парты, на якой было месца Галавацкага, нахіліўся над ёй і дастаў з яе некалькі сшыткаў, якія былі ў агульным сшытку. Перагартаў сшытак

па беларускай мове, тады па рускай, тады па матэматыцы.

Хатнія заданні былі. Дата выканання ўчарашняя. Выкананы не надта акуратна, але выкананы. Почырк быў непрыгожы,— відаць была паспешлівасць,— занадта буйны, але чытаўся лёгка, адну літару не зблытаеш з другой літарай. Калі верыць, што па почырку пазнаецца характар, дык Ігнатовіч прачытаў бы адну добрую рысу ў гэтым характары: шчырасць.

У хатнія заданні Ігнатовіч не ўчытваўся, не было часу правяраць правільнасць іх выканання, зараз трэба было ўбачыць вучня і запытаць, дзе ён учора вечар быў, так позна і доўга не вяртаючыся дамоў. Палажыўшы ўсе тры сшыткі з хатнімі заданнямі ў парту, Ігнатовіч выйшаў з класа і стаў на калідоры, каля акна, залажыўшы рукі назад і ўзіраючыся праз акно на туалет.

Так, адтуль час ад часу вырываўся ўгору з дзвярэй дым. Ясна, курцы рабілі ўжо сваю справу — курылі. Там і павінен быў быць Галавацкі. Ён курыць, канешне. Ігнатовіч ведае, што ён курыць. Ад яго часта смярдзіць табачным шкумэрдзеннем.

Ігнатовіч і накіраваўся туды, адкуль час ад часу вырываўся ўгору дым.

І не памыліўся. У туалеце курылі. Курыў і Галавацкі.

— Ну? — сказаў ім усім Ігнатовіч, якога яны не чакалі.

Некаторыя пакідалі свае цыгаркі і, паапускаўшы вочы, пачалі так-сяк выслізгвацца з туалета, Галавацкі ж зусім не спалохаўся, глядзеў Ігнатовічу ў вочы, усміхаўся і трымаў перад сабой у пальцах папяросу.

— Пакажы, што ты курыш?

— Глядзіце, во: «Беламор». Добрыя папяросы.

Туалет апусцеў. Засталіся ў ім толькі Ігнатовіч і яго, як класнага кіраўніка, вучань.

— Многа ты ў месяц пракурваеш?

— Не-э. Хлопцы далі.
— Заўсёды даюць? Ці сёння толькі?
— Як калі.
— Калі дык і ты ім даеш?
Вучань маўчаў.
— Пайшлі адсюль. Я не ведаю, як табе не сорамна, Тарас. Скажы мне, навошта ты курыш? Ты ведаеш, што курыць шкодна? Асабліва дзецям.
Ужо ідучы з туалета па цэментнай дарожцы ў будынак школы, ён адказаў:
— Я не малы.
— Дарослым сябе лічаш? Чаго ты тады ў школу ходзіш?
— У школу ўсе ходзяць.
— Чаго?
— Вучыцца.
— А курыць?
Тарас не адказваў.
— Добра. Застанься пасля ўрокаў, мне трэба з табой пагаварыць.
— Што куру?
— Не, пра другое. Дзе ты ўчора вечар прападаў? Я ў вас быў. Чакаў цябе, а цябе не было.
Размову абарваў званок на ўрок.

## 12

Заняткі скончыліся, і па калідоры пацякла на двор рэчка людзей.
Цесна зрабілася і ў настаўніцкай. Настаўнікі першай змены прыйшлі з урокаў, настаўнікі другой змены — на заняткі.
Ігнатовіч стаяў з боку ад шафы з нішамі, у якія клалі класныя журналы (на кожны журнал — свая ніша),

і чакаў, калі людзей паменшае і ў настаўніцкай і ў калідоры і можна будзе без штурханіны пайсці ў клас.

Нарэшце і ў настаўніцкай і ў калідоры, куды выйшаў, пацішэла і пасвятлела.

Тарас сустрэў яго каля дзвярэй, якія выходзілі на школьны двор.

— Зноў хадзіў курыць? — нязлосна запытаў ён у Тараса.

— Не-э-э. У мяч пасаваліся.

Без шапкі, з ускудлачанымі, крыху дзікімі, як рыжаваты сівец, валасамі. У руцэ, апушчанай уніз, трымаў знаёмы ўжо Ігнатовічу агульны сшытак з калянай цёмна-сіняй вокладкай, у ім — некалькі звычайных вучнёўскіх сшыткаў.

— Пусціце, Іван Іванавіч, я болей не буду.

— Што ты болей не будзеш?

— Курыць.

— Не люблю, калі людзі гавораць няпраўду. Маняць. Курыць ты будзеш. Ты ўжо ўцягнуўся. А курэнне — хвароба. Калі чалавек уцягнецца, ніяк не можа кінуць. Ты ўжо не кінеш. Хутка будзе ў грудзях хрыпець, як у старога дзеда. І памяць будзе тупець. Нічога запамінаць не будзеш. Разумееш? Я цябе не адгаварваю. Куры сабе, раз прывык.

— А вот, каб захацеў, і кінуў бы. Бацька мой кінуў.

— Бацька кінуў? А чаму ён кінуў, я табе кажу?

— У яго ў лёгкіх асколкі. Як стане кашляць, дык плюе тады кроўю.

— Я табе што сказаў? Шкодна. Кашляць чалавек пачынае. Ты сабе куры. Мне цябе не шкода, калі ты сам сябе не шкадуеш. Калі чалавек сам сябе не шкадуе, што людзям да яго! Хадзем у клас. Мне трэба з табой пагаварыць.

— Я...

— Не пра курэнне, не. Я ведаю, што калі сам чалавек не захоча кінуць, ніякая бойка не дапаможа. Бі, за-

рэж, а ён будзе курыць. Ты тут сам сабе гаспадар. Грошы яшчэ пачнеш у маткі красці на папяросы. Крадзеш, не?

Тарас пачаў глядзець на падлогу.

— Добра, сядай на гэтую во парту.

Ігнатовіч паказаў на пярэднюю парту, да якой прыпіраўся настаўніцкі стол. Сам сеў за стол.

Тарасу было нечага трохі няёмка, нібы нешта з ім хацелі зрабіць, а што — ён і сам не ведаў. Пачаў пазіраць на дзверы, назад, дзе ён пастаянна сядзеў.

Не, у гурце смялей, у гурце ніхто нічога яму не зробіць. Наадварот, ён сам можа такога коніка адпаліць, што ўвесь клас выбухне рогатам. А тут — цішыня, нікога. Навошта каму твая смеласць і штукарства.

«Дзе ты ўчора ўвечары быў?» — ледзь не запытаў Ігнатовіч, але тут жа спахапіўся. Яму здалося, што пытанне надзвычай катэгарычнае, такія пытанні задаюць следчыя, якія бачаць перад сабой злачынцу, і ён паправіў сябе ў думках.

— Я ўчора ў вас быў, але цябе не было дома. Я пытаў у бацькі: што табе лепш купіць: боты, чаравікі, касцюмчык які ці ватоўку? Школа табе можа купіць. Мы кожны год купляем, каму трэба. Пагавары з бацькам і маткай. Мы купім. Пойдзем з табой у магазін, памераеш там, і купім.

Хлопец ажывіўся, выпрастаўся ў плячах, але настаўнік перапыніў яго:

— Пасля скажаш. Падумай. Што табе дома скажуць. Дарагога і добрага мы не можам купіць, і ўсяго купіць не можам, а тое-сёе купім. Звычайнае, каб у школу можна было хадзіць.

Тарас у вачах палагаднеў і глянуў імі, сінімі, не апускаючы ўніз, на Ігнатовіча, як бы загадзя дзякуючы свайму класнаму кіраўніку за добрую паслугу і ласку.

— Я б учора табе гэта сказаў, але цябе дома не было. Можа б, мы там і рашылі.

— Я хадзіў урокі вучыць.
— З кім ты вучыш урокі?
— З Васем Баранавым.
— У яго дома?
— Ага.
— У яго ўсе падручнікі ёсць?
— Усе.
— А не дурэеце, не?
— Не-э-э. Як павучым, тады тэлевізар глядзім.
— Тэлевізар.
— Ага.
— Не скруціце?
— Не-э-э. Што там ё: уключыць у разетку стабілізатар, тады кнопку ўправа, і глядзі. Можна падкручваць цямней ці святлей, сплюшчыць экран ці ўгору выцягнуць. Не скруцім.
— Можа, вы і не вучыце ўрокі, толькі і круціце тэлевізар?
— Вучым.
— Як? Раскажы.
— Зробім пісьмовыя. Тады — вусныя.
— Як?
— Ён пачытае, а я слухаю, тады я пачытаю, а ён слухае.
— А расказваеце?
— Расказваем.
— Хто лепей расказвае?
— Калі ён, а калі я.
— Гэта добра, што ты ходзіш урокі вучыць. Толькі як будуць у цябе ўсе падручнікі, дома вучы. Сам. Усё трэба рабіць самому: і чытаць, і пераказваць, і задачы рашаць, і пісьмовыя па мове.
— Няма ў мяне сваіх кніг.
— Як дастанем. Я табе дапамагу дастаць. Якi новы, якi стары. Дастанем! Толькі во што, Тараска...
— Не завіце мяне так.

— Чаму?
— Не хачу.
— Чаму не хочаш? Ты ж Тарас?
— Тарас. А вы кажаце Тараска.
— Ну і што.
— Я не маленькі.
— Добра, ты не маленькі. Усё разумееш? Чаго ты так позна каля клуба бегаў?
— Я не бегаў. Я толькі паглядзеў.
— Што табе там глядзець? Клуба не бачыў? Ішоў другі сеанс. Не павінен ты там у гэты час быць? Не павінен. Ведаеш, а парушаеш школьны рэжым.
Тарас павярнуў убок галаву і крактануў.
Ігнатовіч хацеў сказаць: «Ведаеш, што такое рэжым?», але не сказаў. Ён сказаў мякчэй.
— Рэжым — закон. Нічога не папішаш: трэба трымацца яго.
— Я дамоў ішоў рана. Але мне сказалі, што вы ў нас.
— Ну і што, што я ў вас? Ты мяне не ведаеш? Ці я прыйшоў забіраць цябе куды?
— Сорамна мне стала.
— Чаго?
— Бацька крычаць пачне.
— Якраз і не пачаў бы. Я прыйшоў проста пагаварыць. У цябе падручнікаў няма. І сумкі няма. І без дзённіка ты. І боты ў цябе старыя. І штаны во, глянь, якія ўжо ў цябе. А?
Хлопец чамусьці лёгка разжаліўся і заплакаў. Спачатку пакаціліся з вачэй, густа, як боб, слёзы, а тады ўпаў тварам на руку і захліпаў.
Бачыць слёзы вучня для Ігнатовіча не было навіной. Вучні плачуць, калі адчуюць сябе нечым пакрыўджанымі. Гэта бывае на ўроках, у гутарках адзін на адзін. Хай паплача. Слёзы ў вучня — пачатак шчырасці.
Ігнатовіч глянуў у акно, на двор.
Алея на школьным двары паўз вуліцу была дзіўнай.

Вастраверхія таполі, голыя, высока ўзнімаліся ўгору, пакінуўшы нізка на зямлі клёны і рабіны. На рабінах ліст пакруціўся, не было яго, толькі буйна гарэлі і звісалі гронкі янтарных ягад. Клёны былі ў крыклівым убранні жоўта-залацістых лісцяў, якіх хапала ўжо і на зямлі. Сонца не было, але клёны ўсё роўна нібы свяціліся ім. Было прыгожа!

— Не плач. Не трэба. Сам гаворыш, што ўжо не малы. Мужчыны не плачуць. Я ж не крычу на цябе. І бацька не крычаў бы. Не плач. Слёзы не памогуць. Сам будзь добры, і ўсё будзе добра.

Тарас выцер рукавом слёзы і, як здалося Ігнатовічу, з вялікай крыўдай і недаравальным дакорам глянуў яму ў вочы.

— Вы не ведаеце, які мой бацька,— і зноў пачаў далонямі рук выціраць слёзы.

— Б'ецца?

— Яшчэ як!

— Маці б не дала.

— Яна сама яго баіцца.

— Я не даў бы.

— Вы б дамоў пайшлі.

— Не плач. Не будзе ён цябе біць. Я пагавару з ім. Ты толькі сам слухай.

— Я слухаю.

— Па вуліцы не трэба ноч бегаць.

— Я тады хутка прыбег, думаў, вы пайшлі ўжо, а вы выпіваеце.

Ігнатовіч насцярожыўся.

— Ты бачыў? Як?

— Праз занавеску.

— Дык ты пабег хлопцам расказваць?

— Не пабег. Я пайшоў пад павець і стаяў там, пакуль вы пайшлі.

Ігнатовічу зрабілася быццам трохі і нялоўка.

— А ты не п'еш гарэлкі? Не даваў табе бацька?

— Трошкі адліў з вашага стакана.

— З майго стакана?

— З вашага. Бацька казаў, што вы не пілі.

«Ты любіш гарэлку?» — хацеў запытаць. Але не запытаў. Дзецям такія пытанні не задаюць. У іх і густы, і звычкі яшчэ неакрэсленыя. Усё ў іх, як і яны самі, пачатак. Яны і самі яшчэ добра не ведаюць, што яны любяць, а чаго не любяць.

— Хай бы ты, Тараска, маме памагаў на кароўніку, а? Збегаў бы, тое падаў, тое ўзяў ад яе. Ёй бы і лягчэй было. Кніжкі я табе дабуду, і ўрокі будзеш дома ўвечары вучыць. Ты б мог. Што табе. Туды, сюды. Энергіі хапае. Не зломак. Мaлады, здаровы. Тамара памагала. Я помню, памагала. Сястра твая. Вот папытай у мамы. Памагала. Папытаеш?

Тарас памаўчаў, падумаў, тады, зусім сур'ёзна глянуў Ігнатовічу ў вочы, адказаў:

— Папытаюся.

— Папытай. Саўгас боты гумавыя дасць. Маме будзе лягчэй.

Тарас думаў. Вочы яго нікуды не глядзелі, ён думаў.

— Усё, ідзі дамоў,— сказаў нарэшце яму Ігнатовіч, калі ўбачыў, што Тарас думае.

## 13

Каця выглядала цудоўна. Удаюцца прыгожыя дзяўчаты. Не, не, ды і падорыць прырода такую людзям. Наце, любуйцеся, дзівіцеся, якое я ўмею ствараць хараство. Канешне, калі захачу.

У Каці ўсё было незвычайнае. Рост такі, калі гавораць: «Калі б яна была высокая, яна была б непрыгожая». Рост у яе свой. Менавіта яна і павінна быць такая, не большая і не меншая. Валасы белыя, з бліскучай жаўцізной. І не ў гэтым, мусіць, галоўнае, што белыя. Ці

мала на свеце людзей з белымі валасамі, а глянеш — прыгажосці ні на капейку. Галоўнае, што яны былі Каці да твару, як бы чуць трошкі рыжаватыя, у нейкія ледзь прыкметныя кропінкі. Зачэсвала яна іх угору, ледзь закрываючы крайкамі прычоскі кончыкі маленькіх кволых вушэй, звязваючы ззаду ў прыгожы шыньён. Лоб быў адкрыты, і не высокі і не вузкі, а вочы, з маленькай раскосінкай, такія светлыя і чыстыя, хоць бы калі-небудзь памуціліся.

Што ні апранала, усё было на ёй адпрасаванае, свежае. Нават піянерскі гальштук, які яна завязвала ў школу як піянерважатая, выглядаў на ёй зусім не такім, як выглядаў на дзецях, хоць быў таго ж, чырвонага, колеру.

Ігнатовіч памятае яе з пятага класа, з таго часу, як прыехаў пасля сканчэння інстытута працаваць у Лагоўскую школу. Тады яна была проста сонечным зайчыкам, проста беленькай дзяўчынкай, нават крыху як бы недалужнай, здавалася — занадта кволенькай, адно дужа шчыра ўмела смяяцца, і не стрымаць было, калі чаго рассмяецца. «Пустасмех»,— казалі на яе. А смех яе быў не пусты, у ім было шмат жыцця і радасці, як у веснавым ручайку, што звініць і коціцца, звініць і коціцца.

Дзяўчынкі сталеюць і прыгажэюць недзе к дзевятаму, к дзесятаму класу. Мяняюцца. О, так мяняюцца! За пяць год сваёй працы ў школе Ігнатовіч у гэтым пераканаўся.

І Каця пасталела і папрыгажэла вось іменна ў гэтых класах. Асабліва ў дзесятым. Ды яшчэ вясной.

Тут, мусіць, мела значэнне таксама і тое, што чалавек пачынае адчуваць пачатак новаму жыццю, незалежнасці і сваёй волі. У школе — не, у школе цяжка, асабліва старшакласнікам. Усё табе няможна, усё табе забаронена, нягледзячы на твае пачуцці і твае погляды, нават калі яны ў цябе зусім сталыя, добрыя і правільныя і маюць права на жыццё. У школе ты дзіця, ці табе сем, ці семнаццаць.

Не паступіўшы ў педінстытут на факультэт пачатковых класаў, куды яна паступала, Каця засталася ў сваёй школе піянерважатай, балазе старая піянерважатая, якая працавала перад Кацяй, паступіла нарэшце некуды, і Каці, як спецыяльна хто падрыхтаваў, выйшла вакантнае месца.

І яе ўзялі. Займалася яна нядрэнна, разумная, апошнія два гады была сакратаром агульнашкольнай камсамольскай арганізацыі і мела ў школе рэпутацыю добрай арганізатаркі.

Калі Ігнатовіч, адпусціўшы дамоў Тараса, вярнуўся ў настаўніцкую, там сядзела за сталом Каця.

— А-а, добры дзень, Кацярына Міхееўна.

— Добры дзень, Іван Іванавіч, добры дзень,— заўсміхалася яна, ківаючы ў такт словам галавой,— хоць мы і бачыліся з вамі ўжо. Незразумела нешта мне...

— Што незразумела?

— Два разы на дзень вітаецеся са мной,— і заўхмылялася.

— Другая змена — новы дзень. Што тут незразумелага? Вы ж на другую змену прыйшлі?

— На другую.

— Ну вось. А вы ўпікаеце мяне ў нечым. У старэчай памяці? — жартаваў Ігнатовіч.

— Во, стары знайшоўся.

— Тады ў чым? Павінен жа я быў вам нешта сказаць, калі зайшоў у настаўніцкую? І, нарэшце, лепш пяць раз на дзень павітацца, чым ні разу. Так, Кацярына Міхееўна?

— Вы б яшчэ як мяне назвалі.

— Магу. Шаноўная, паважаная — як вам лепш?

— Вы таго не скажаце.

— Адкуль вы ўзялі? Можа, і скажу. Больш не ведаю, чаго б вы хацелі.

— Бацька. Муж. Што вы ўжо мне можаце сказаць?

— Ну і што, што бацька і муж? Можна быць бацькам і мужам і гаварыць людзям самае прыемнае.

— Дык гаварыце. Чаму вы не скажаце?

— Я ўжо, здаецца, сказаў вам. Што можа быць прыемней, калі чалавека называюць шаноўным.

— Ой, Іван Іванавіч. Хітры вы. Нашы дзяўчаты ў дзесятым класе ох заглядаліся на вас.

— Вучаніцы? Вы што, Кацярына Міхееўна, хочаце, каб мяне ў турму пасадзілі?

— За гэта, Іван Іванавіч, не садзяць.

— Вучаніц — не. А настаўнікаў могуць. Калі мяжу перайсці.

— А вы і не пераходзьце. Навошта вам тая мяжа? За мяжой дрэнна. А што датычыцца мяне, дык я ўжо не вучаніца.

Кампліменты... Іх усе і ўсюды любяць, старыя і маладыя. Праз іх лепш пазнае чалавек чалавека.

Не, Каця была прыгожая, і з ёй прыемна было пажартаваць, паглядзець у яе ясныя, чыстыя-чыстыя вочы, прайсціся па жыцці як бы спачатку, па жыцці, яшчэ нічым не заплямленым. Яна любіла жарты і разумела іх. З ёй было прыемна, як прыемна бачыць перад сабой добра апранутае, толькі што памытае дзіця, якое пачынае хадзіць і вучыцца гаварыць. Прыемна было.

— Добра, Каця. Уверцюра скончылася. Цяпер справа.

— Можа, злева?

— Не, справа. Вось якая справа. У майго піянера Галавацкага ніводнага падручніка.

— Ён піянер?

— Павінен быць. Усе дзеці-школьнікі да восьмага-дзевятага класа павінны быць піянерамі. Недзе нехта іх прымаў, надзяваў ім гальштукі.

— Якраз і няма ў яго гальштука. Не носіць ён яго.

— Будзе насіць! Даю вам слова. У школу будзе насіць, ну?

— Ну?
— Дык вось якое ну. Вазьміся пашукаць яму сярод вучняў падручнікі. Новых, кажуць, няма ў продажы. Абы можна было па іх займацца. Дагаварыліся?
— Не.
— Чаму?
— Якія?
— Усе для сёмага класа.
— Якія?
— Ці ты не вучылася ў сёмым класе?
— Вучылася. Але забыла ўжо.
— Во памяць: дзявочая.
— Правільна. А якая ў мяне павінна быць памяць? Хлапечая?
— Добра. Давайце пісаць. Ёсць папера?
Каця дастала з сумкі звычайны вучнёўскі сшытак, разгарнула яго (у ім былі ўжо нейкія запісы) і сказала, пстрыкнуўшы шарыкавай ручкай, падрыхтаваўшы яе, ручку, для пісання:
— Давайце.
— Беларуская мова. Запісалі?
— Запісала.
— Руская мова.
— Руская мова.
— Беларуская чытанка.
— Бе-ла-рус-кая чытанка,— паўтарыла Каця.
— Ну і руская чытанка.
Калі ўспомнілі ўсе кніжкі, якія патрэбны былі для сёмага класа, Ігнатовіч сказаў:
— Пакуль усё. О, ужо чацвёртая гадзіна,— глянуў ён на свой наручны гадзіннік, тады на насценны, які быў у вялікай драўлянай скрынцы.
— А навошта жаніліся? Час быў бы.
— Не кажы.
Празвінеў з урока званок, і калідор запоўніўся дзіцячымі галасамі, тупатам ног.

Каця пайшла з настаўніцкай да дзяцей.

На стале засталася яе сумка, ладная, чорная, новая, у якой ляжаў сшытак з рознымі запісамі.

Ігнатовіч паглядзеў на яе, як на рэч знаёмага чалавека, і стаў сабе апранацца, каб ісці дадому.

Надвор'е стаяла ціхае, ружовае, клёны ўрачыста віталі яго амаль такім жа ружовым сваім лісцяным убраннем.

І настрой быў ружовы і добры, і нараджалася ў душы песня з песень, з тых, што чуў і ведаў,— новая.

У Тараса будуць усе свае падручнікі, і яму не трэба будзе бегаць па чужых хатах вучыць урокі. Ён абавязкова будзе хадзіць на ферму і памагаць маці. Будзе насіць гальштук, як толькі школа купіць яму новую вопратку, у тым ліку і гэты самы гальштук.

Адчуваў, што пражыты дзень наблізіў яго на кроплю да нечага значнага, адкуль відаць далей.

Але для другіх хай гэта будзе пакуль што сакрэтам. Хай пабудзе здабыткам толькі яго душы. У такім разе яно даражэйшае.

Канешне, такое засваенне не моцнае. Той чытае, а той слухае. Здаецца, усё ясна, зразумела, а пройдзе мінута, ён і забыў усё. Трэба, каб і зрок, і слых, і памяць працавалі саўладна, адначасова, у комплексе, як гавораць сучасныя інжынеры. І змацоўваліся ўсе віды памяці думкай. Трэба, каб асвятляліся ёй. Я цябе, Тараска, прымушу думаць. От тады ты ў мяне станеш чалавекам.

І на ўроку, мне здаецца, мы тлумачым з такой паспешлівасцю, што дзеці не паспяваюць за намі думаць. О, калі б дзеці паспелі над тым, што мы тлумачым, падумаць.

Слабасць нашай метадычнай навукі. Недасканаласць.

І яшчэ з'явіліся на свет паборнікі так званага рацыянальнага выкарыстання на ўроку часу. Гэта значыць разумнага. Але, каб жа разумнага! Пад разумным тут ра-

зумеецца «гані». Гані як найхутчэй. Болей задач, болей практыкаванняў, болей рашы пытанняў.

Дурню, здавалася б, ясна: чым прадмет болей пабудзе перад вачыма, тым ён лепш запомніцца. Тут жа наадварот. Мітусня прадметаў, пры якой нічога нельга схапіць і запомніць.

Не, Тарас, я цябе прымушу думаць дома. Толькі падручнікі хутчэй дастаць. Каця маладзец, яна дастане.

З такімі думкамі Ігнатовіч і ўпёрся ў веснічкі свайго двара.

## 14

Хата Веры Макараўны стаяла глухой сцяной на вуліцу — не так, як усе астатнія хаты на Школьнай вуліцы. Калі хто-небудзь казаў ці ўсур'ёз, ці жартам, чаму гэта яна павярнулася тылам да людзей, яна адказвала:

— А што мне людзі? Хлебам мяне кормяць? Мне трэба, каб у хаце было сонца. А калі я захачу паглядзець на людзей, дык я выйду на вуліцу.

Сапраўды, левы бок Школьнай вуліцы, на якім была хата Веры Макараўны, меў свае нязручнасці: хаты стаялі задамі на поўдзень, і сонца ў іх вокны пачынала заглядаць толькі пасля абеду; вокны ж ад вуліцы ніколі не бачылі яго, бо глядзелі на поўнач.

Вось і папракай пасля гэтага Веру Макараўну, што яна паставіла сваю хату не так, як дагэтуль усе ставілі.

Дарэчы, хата яе была не проста хата: дом. Доўгі, высокі, шырокі, накрыты гонтамі з падшыўкай, з абшытым дошкамі нямецкім вуглом, з верандай, якая была ўся са шкла, падзеленага на дробныя рамачкі.

Не, кватэра сучасная, што там гаварыць.

— Недапіла, недаела, але пабудавала такую, якую

хацела,— адказвала Вера Макараўна, калі хто-небудзь заўважаў, як гэта яна рашылася на такую будыніну.

І ў самой хаце: бліскучыя ручкі, французскія замкі, усё пад тынкоўкай, пад «слановай косцю». Адным словам, культурна.

Мы сказалі: дом Веры Макараўны, быццам яна жыла адна і не было гаспадара ў яе. Быў, быў. О-о-о, ды яшчэ які гаспадар! Тактоўны, памяркоўны, разумны, працавіты, ростам, тварам, хадой хоць куды. Настаўнік, як і Вера Макараўна, з дыпломам, яшчэ большым, як у Веры Макараўны. Выкладаў у школе гісторыю, добра выкладаў, не абы-як, як які, абы ўрок адбыць. У кніжку ніколі не падглядаў, калі новы матэрыял тлумачыў, усё ў галаве трымаў, помніў, і вучні паважалі яго за гэта, цанілі.

Здаўся ён жонцы таму, што ўбачыў яе характар. Не пераставіш! Каб яе верх быў, і толькі.

Ну і хай! Хай яе будзе верх, клопату менш будзе, хай сама клапатуе, калі ёй так хочацца. Максіму Іванавічу больш часу застанецца на кніжкі. А насіў ён іх усе тоўстыя, то сінія, то жоўтыя, у, як плашчакі, вокладках. Тым больш каб яна што-небудзь дрэннае рабіла. Не! Ціснула на прыгожае, сучаснае і моднае.

Праўда, муж не ў дарагім касцюме хадзіў, але ў адпрасаваным, пад гальштукам, і выглядаў досыць інтэлігентным чалавекам. І сама не плюшкай хадзіла, хоць зімовых паліто ні ў самой, ні ў мужа не было. Яна казала на гэты конт:

— Зімой так-гэтак, а дзевяць месяцаў у гаду мы людзі.

І валёнак ніколі не надзявалі — не было.

Дзве дзяўчынкі іх, школьніцы, якія хадзілі ў трэці клас, выглядалі лялькамі. Адразу відаць было, што ёсць у іх маці. І банцікі, і каўнерыкі — на што ні кінь вокам, дык люба. Блізнятамі радзіліся і падобныя былі, як адна.

Толькі Ігнатовіч параўняўся з веснічкамі двара Веры Макараўны, як і яна з іх:

— Добры дзень.
— Добры дзень.
— Хоць раз з чужым прыйду. Ды і з маладзейшым.
— Не надта.
— Усё-такі. Гадоў, мусіць, на дзесяць.
— Ну.
— Мой ужо пайшоў. От чалавек. Ніколі разам не пройдзеш.
— Трэба.
— Трэба. Нікому, мусіць, не трэба, а яму трэба. Што, у яго два раты? То ён дыяграмы малюе, то падбірае карты. Я кажу: «Птфу, праваліся ты са сваёй гісторыяй». Каб гісторыю ды так выкладаць? Я дзе ні вучылася, дзе ні бачыла, дык гісторык прыйдзе рукі ў брукі, адчытае ўрок і пайшоў. Казкі, што там гісторыя. А яму каб нагляднасць, каб запомнілася, у галаву само ўлезла.
— Мала што чалавек хоча, каб лепш.
— Э-э-э, лепш, лепш. Дужа трэба каму гэтае ваша лепш. Я гляджу, дужа людзі стараюцца. Кожны рве, цягне, каб сабе больш было. Няпраўда?
— А праўда?
— Праўда. Не верыце гэтаму?
— Не зусім. Жылі б у старой бацькавай гніліне, навошта вы новы дом будавалі?
— Не гаварыце. Не тое. Дом — гэта дом. Не маглі мы жыць ужо ў бацькавай хаце. Калі-небудзь задушыла б.
— Чаго там, не задушыла б. Вунь Дзюк і жыве, і нічагусенькі, хоць бы хны. Як лось.
— А-а, маўчыце вы са сваім Дзюкам. Я б такіх у аддзельную калонію. Дык ходзіць яшчэ ў сельсавет, у саўгас, каб яму далі не лесу, гатовую кватэру. Во хітрун.
— Ну, здароўя, можа, у чалавека няма.
— Ага, няма, можна паверыць. Дзе ён згубіў тое здароўе? Спрацаваўся?
— Я быў у яго ў хаце. Бэлькі на падпорках.
— О, баіцца, каб часам не абваліліся. Жыць жа хо-

чацца. Век хітрасцю жыве. Сельсавет даваў яму лес. Будуйся! Не ўзяў. Дакаціцца ўжо да гэтага, як Дзюк?

— Я і кажу, чалавеку хочацца, каб лепш. І апрануцца, каб лепш. І зрабіць, каб лепш. І сабе, і другому добра.

— А я дужа на рабоце не. Эт, збольшага.

— Вы няпраўду гаворыце.

— А што, я вас баюся?

— Вы мяне не баіцеся, я вас не баюся, але вы няпраўду гаворыце. Каб я не ведаў вас...

— Ведайце сабе. Але каб я рабіла ад душы!

— Тады я не знаю, якую трэба мець душу чалавеку. Вялікая ў вас душа, Вера Макараўна. Я бачыў сшыткі вашых вучняў. А сшытак вучня — гэта і ёсць душа настаўніка. На сто працэнтаў! Я вам кажу.

— Камплімент, Іван Іванавіч. Вы іх гаварыце Каці. Яна яшчэ ўсяму паверыць. А я, скажу вам, не ганаруся сваёй прафесіяй. Я казала тады свайму: давай пераедзем у горад. Як не будаваліся яшчэ.

— І ў горадзе настаўнікі трэба.

— Я б змяніла прафесію. У горадзе не працавала б настаўніцай. Там работ усякіх. А тут куды пойдзеш?

— Чаму куды? Ы-ы-ы.

— Дзякую вам. Жонку сваю адпраўце.

— Куды? Чаго вы ўсердзіліся? Я нічога такога не сказаў.

— І я нічога не сказала, мы і квіты.

Заставалася некалькі крокаў да вугла школьнай агародкі. Вера Макараўна адставіла ўбок руку, загарадзіўшы ўперад дарогу Ігнатовічу, і сама спынілася, бо ўбачыла, што яна не паспее сказаць яму тое, што павінна была сказаць за гэтую невялікую дарогу.

Вучні абміналі іх і абміналі.

— Не люблю, калі людзі чытаюць мараль, не маючы на гэта права,— гаварыла яна ў твар Ігнатовічу, быццам злавіла на месцы злачынства несумленнага чалавека і гатова тут жа расправіцца з ім.

Ігнатовіч адчуў пах яе вымытага твару і каштанавай прычоскі (Вера Макараўна ішла ў школу без хусткі).

— Вы на мяне? — не зразумеў Ігнатовіч, аб чым ішла гаворка.

— Дзіця вы. За што я буду на вас сердзіцца? Я на таго вунь, нашага маралiста, дырэктара. Ты пакажы як жыць, прыклад пакажы. Жонка дома не начавала. Суседзі за галовы хапаюцца. Які ж ты дырэктар? Як ты можаш калектыў за сабой весці?

— Чаму не начавала?

— Вы маленькі? Не ведаеце, калі жонкі дома не начуюць?

— Не ведаю, мая начуе.

— Ваша начуе? — шукала яна вачыма вачэй Ігнатовіча. А вочы яе былі чорныя, неперапаможныя.— І я начую. А яго жонка дома не начуе. Вот вам і маралiст. Бярыце прыклады, настаўнікі і дзеці. Не люблю. У вочы, здаецца б, плюнула.

— Што перашкаджае? — у жартаўлівым тоне сказаў Ігнатовіч, бачачы перад сабой яе твар, чорныя вочы, якіх ён заўсёды чамусьці пабойваўся.

— Прыстойнасць, — не задумваючыся, адказала яна і глянула ў той бок вуліцы, адкуль толькі ішлі.— Пайшлі, ідзе. Скажа: «Плёткамі займаецеся». Ён не любіць, калі я з кім-небудзь гавару,— і ўзяла Ігнатовіча падпашку, кранаючыся з месца.

І ўжо ідучы паўз штыкетнік школьнага двара:

— Ведаеце, яго бацька ў Паляне ў калгасе быў брыгадзірам. Халерны такі, заядаў людзей. Скінулі. Ідзі к чортавай мацеры, раз не можаш з людзьмі жыць. Во. Чулі? Можа, не?

Ігнатовіч чуў ужо пра гэта. Гаварылі, памятае, у настаўніцкай. Звычайная з'ява. Усяк здараецца. Ігнатовіч ніколі не надаваў значэння вось такім дробным жыццёвым супярэчнасцям. Яны былі, ёсць і будуць. Усё наперад не ўлічыш, і не разлічыш сваю хаду так, каб нікога

не зачапіць ідучы. Зачэпіш. Але каб рабіць, як кажуць, з мухі слана, не трэба. Навошта гэта?

Зачэсваючыся на хаду, Ігнатовіч спяшаўся на калідор, каб глянуць у свой клас, на вучняў, як яны там збіраюцца, чым займаюцца.

Класны кіраўнік. Увесь час ён павінен думаць пра свой клас, назіраць за ім. Ці не пабіта акно, ці не паламана парта. Ці не захварэў хто з дзяцей. Ці ўсе вывучылі ўрокі, бо за дрэнную паспяховасць у канцы чвэрці класнага цiснуць.

Чаму Вера Макараўна памянула яму Кацю? Ёй можаш свае кампліменты гаварыць. Падумаць можна і так і гэтак.

Фу, гэтага не хапала яшчэ.

## 15

Калі на адным з перапынкаў Ігнатовіч увайшоў у настаўніцкую, за сталом сядзела Каця, як і заўсёды, узнёслая, вясновая, радасная, а перад ёй ляжаў грудок кніг, не роўных па таўшчыні і колеру, розных па стажу сваёй службы чалавеку. Кінуў ёй «добры дзень», палажыў класны журнал у нішу і палез у партфель, дастаючы неабходную літаратуру для наступнага ўрока. У настаўніцкай зрабілася няўтульна і людна, як на вакзале, калі прыходзіць чарговы цягнік.

Каця паднялася са свайго месца, падышла да Ігнатовіча і паказала рукой на кніжкі, сказаўшы: «Вам», а сама знікла на калідоры.

Ігнатовіч не адразу асэнсаваў тое, што сказала Каця, але падышоў да яе кніг, глянуў і зразумеў: падручнікі для Тараса. Яму, значыцца, Ігнатовічу, прынесла іх Каця. Ігнатовіч прасіў яе, і яна без затрымкі, на другі ж дзень, выканала яго просьбу.

Малайчына Каця.

Ігнатовіч пачаў перакладаць кніжкі па адной і чытаць іх назвы. Гэта былі ўсе падручнікі для сёмага класа: беларуская мова, руская літаратура, гісторыя, геаграфія, фізіка, хімія, заалогія, чарчэнне, алгебра, геаметрыя, нямецкая мова — дойч, як прачытаў на вокладцы сам сабе Ігнатовіч. Усе!

Кнігі былі яшчэ зусім цэлыя, па іх можна было займацца.

Калі скончыўся дзесяціхвілінны перапынак і празвінеў званок на ўрок, Ігнатовіч згроб іх і палажыў пакуль што ў шафу, дзе ляжалі вучнёўскія сшыткі. Пасля ўрокаў аддасць Тарасу.

Каця была на калідоры. Затрымаўся на хвілінку каля яе, каб падзякаваць.

— Дасталі?

— Дастала.

— Не чакаў, што так хутка і ўсе. Вялікае дзякуй. Пацалаваў бы, каб цёмна было.

— Не трэба мне такія пацалункі. Упацёмку,— сабе пажартавала Каця.

— Бачыце, тут нельга.

Дзверы класа, у які павінен быў ісці на ўрок Ігнатовіч, былі расчынены, а на парозе, у чаканні настаўніка, стаялі вучні, хоць добра ведалі, што пасля званка павінны былі сядзець кожны на сваім месцы.

— А вы зрабіце. Хай усе бачаць.

— Са школы прагоняць.

— Я ж не вучаніца.

— Мала што! На вачах у вучняў.

Далей ні жартаваць, ні сур'ёзна гаварыць нельга было: час не дазваляў. Урок ёсць урок, і яго трэба пачынаць і канчаць мінута ў мінуту. У гэтым, мусіць, асаблівасць работы ў школе.

Толькі на наступным перапынку Ігнатовіч запытаў у Каці:

— У каго вы іх узялі?

— Кнігі? У-у-у, у мяне ў самой іх воз. Паглядзела ў кухры, а там на ўсе класы. Ад пятага да дзесятага. Людзіны і мае.

Люда — старэйшая сястра Каці, якая вучылася недзе ўжо на трэцім курсе педінстытута.

— Акуратныя кніжкі.

— А я не акуратная?

Глянула з калідора ў акно на двор. Неба праяснілася, на ўсім ляжала святло мяккага асенняга сонца. Вучні ганялі па двары мяч, на дрэвах сядзелі шпакі, развітваючыся перад адлётам у вырай з радзімай.

— Галавацкі,— клікнуў Ігнатовіч Тараса, які вырваўся з класа, нібы хто яго там трымаў, і імкліва, наўгрунь, накіраваўся да дзвярэй, што выходзілі на школьны двор.

Той, убачыўшы настаўніка, адразу змяніўся, абвяў.

— Ідзі сюды.

Неахвотна нераставаляў ён ногі, шкрэбаючы аб падлогу зношанымі кірзакамі, нібы адчуваў за сабой якуюсь віну і ішоў на чарговае пакаранне — нуднае настаўніцкае ўшчуванне.

— Не бойся, што ты нешта гэтак, быццам на эшафот ідзеш? Я што: жандар? Я кніжкі табе пасля ўрокаў аддам. Праўда. Каця табе дастала, скажы ёй дзякуй і не дзічыся. Курыць бяжыш?

— Не-э,— смялейшым зрабіўся Тарас.— На двор.

— Добра, ідзі. Толькі пакурыць ужо не паспееш,— сказаў Ігнатовіч, глянуўшы на руку, на гадзіннік.

— Я не куру ўжо. Панюхайце,— і Тарас хукнуў Ігнатовічу ў твар, нібы свайму сябруку.

Каця засмяялася. А тады:

— А гальштук чаму не носіш?

Тарас павярнуў убок галаву і апусціў вочы. Нічога не мог адказаць Каці, бо не меў гэтага самага, які так патрэбен быў Каці, гальштука.

— Нічога, не тушуйся. Можа, заўтра ўсё купім: і сарочку, і боты, і гальштук. Штаны новыя купім,— гаварыў

Ігнатовіч, акідваючы поглядам Тараса з ног да галавы.— Будзе насіць гальштук. Дзе ён дзенецца? Горшы за другіх, ці што? Толькі на ўроках паводзіш сябе не надта. Глядзі! Мне ўжо казалі настаўнікі.

— Ціха сяджу.

— Не ціха. Маўчы. Што ў цябе з Буслам было?

— Ён гаварыў няправільна. Усе смяяліся.

— А ты галасней за ўсіх?

— Не галасней.

— Што ён гаварыў няправільна? Адкуль ты ведаеш, што няправільна? Ён настаўнік.

— У кніжцы не гэтак напісана.

— Што не гэтак напісана?

— Тыя словы, што ён гаварыў.

— Ну дык табе больш за ўсіх трэба. З інтэрната выгналі?

— Мяне не за гэта выгналі.

— А за што цябе выгналі?

— На двор хочу.

— Бяжы. Пасля ўрокаў кніжкі толькі не забудзь забраць.

Каця пайшла па калідоры па сваіх піянерскіх справах, а Ігнатовіч — у настаўніцкую, каб палажыць у нішу журнал, што быў у яго, і ўзяць другі — таго класа, у які пойдзе на ўрок.

А пасля ўрокаў, перадаючы Тарасу ўсе трынаццаць падручнікаў, пытаў яго:

— Раскажы мне, Тарас, як цябе лавіла міліцыя ў Мінску?

Стаяла цішыня ў пустым памяшканні вялікага сёмага класа, і вельмі бела свяціліся сцены, столь, блішчала чорная дошка.

— Не лавіла. Я сам падышоў да міліцанера і кажу, каб ён пасадзіў на якую машыну. Не бралі машыны, позна было. На Партызанскім праспекце. Як выязджаць з Мінску на шашу.

— І пасадзіў ён цябе?
— Пасадзіў.
— Як?
— Я падышоў да яго і кажу, што не бяруць шафёры. «Куды»? — пытаецца ён у мяне. «У Смілавічы»,— гавару. «Чаго?» — «Я там жыву».— «Дзе, на якой вуліцы, фамілія?» — «У школе-інтарнаце, — кажу.— Галавацкі».— «Чаго ты тут быў?» — «На экскурсіі»,— кажу. «Ад групы адстаў? Згубіўся?» — пытаецца ён. «Не, не адстаў. Адзін ездзіў. Дзярэктар наш пасылае толькі пяцёрачнікаў, а мне і сабе захацелася ў Мінск і ў Хатынь».— «Як фамілія вашага дырэктара?» — «Шалай»,— кажу. Астанавіў ён грузавую машыну, пасадзіў мяне ў кабіну і сказаў шафёру: «Здай гэтага гражданіна дзярэктару Смілавіцкай школы-інтэрната Шалаю пад распіску». Запісаў сабе ў кніжачку нумар машыны, прозвішча шафёра і сказаў: «Яжджайце».
— Здаў цябе шафёр дырэктару?
— Здаў.
— Пад распіску?
— Не ведаю.
Ігнатовіч пакруціў галавой.
— Ой, брат.
— А што яны!
— Як «што яны»?
— Не пускаюць.
— Вучыцца трэба было, і цябе б звазілі.
— Я вучыўся.
— Дрэнна, мусіць. Не на пяцёркі.
— А яны не ставяць.
— Пяцёрак? Вучыў слаба.
— Як я ні вывучу, дык не ставяць.
— І ў нашай школе гэтак?
— Настаўнікі ўсе роўныя.
— Добра. Колькі разоў ты ездзіў у Мінск?
— Тры разы.

— І міліцыя цябе лавіла?

— Яна не лавіла. Раз толькі міліцанера папрасіў, каб ён пасадзіў мяне на машыну.

— Раз?

— Адзін раз.

— Дзе ты там быў? У Мінску.

— І ў музеі быў. Цырк бачыў. Самалёты на аэрадроме. У Хатынь ездзіў.

— З кім?

— Э-э-э-э, там людзей многа. У аўтобус які-небудзь улезу і паеду.

Што мог сказаць Ігнатовіч хлапцу, які хацеў усё бачыць і тое-сёе ўбачыў, пераступаючы рамкі школьных пaводзін?

З другога боку: школа, у дадзеным выпадку, школа-інтэрнат, не магла даць поўную волю сваім выхаванцам, каб яны ішлі і ехалі куды каму хацелася. Ясна, не магла.

— Раскажы, як ты на ўроку ў Бусла крычаў?

— Я не крычаў.

— Ты не выкручвайся, бо я ведаю. Словы якія, гавары, выкрыкваў?

Тарас маўчаў.

— Добра: глядзі, каб не было больш гэтага. А кнігі шануй. Яны чужыя. Бач, людзі па іх вучыліся, а яны як новыя. Не запэцканыя, не пашарпаныя.

— Гэта Каціны?

— Не ведаю, мусіць, яе. Старэйшага ніколі не называй адным імем. Гавары прозвішча, а лепш — імя і імя па бацьку, калі ведаеш.

## 16

Па раскладу сёння пяць урокаў, шосты — выхаваўчая гадзіна, «палітбяседа», як называлі яе вучні, хоць гаварылі на гэтым уроку не заўсёды пра

палітыку — часцей за ўсё пра самыя звычайныя справы. Якія? Ну, паспяховасць, дысцыпліна, рэжым дня.

Калі пасля званка Ігнатовіч зайшоў у клас, ён убачыў, што не было на сваім месцы аднаго Цюхая. Звычайная рэч: ён рэдка калі бываў на выхаваўчай гадзіне. Вось і выхоўвай яго, калі ён у той бок не глядзіць, дзе выхоўваюць.

Аднак дзеля прылікі Іван Іванавіч запытаў у Галавацкага, суседа Цюхаёвага на парце:

— Галавацкі, дзе Цюхай?

Галавацкі падняўся за партай, ступіў на клас.

Усе вучні павярнулі галовы назад, скіравалі свае погляды на яго. Дзіва што: ён сёння быў у новым касцюме, у новай сарочцы, з новым піянерскім гальштукам, чырвоным, як ружа, на шыі. Прычасаны. Памыты.

Учора, у нядзелю, Іван Іванавіч як класны кіраўнік павёў яго разам з маткай у сельпоўскую краму, куды былі пералічаны школьныя грошы, і купіў яму вось гэта, што сёння на ім: вучнёўскі касцюм, штаны і пінжак, светлаблакітны, у ледзь прыкметную цудоўную шашачку, сарочку, чаравікі, шкарпэткі пад іх, якіх не трэба падвязваць, самі трымаюцца на лытках, ну і гальштук, яркі, незаплямлены, ніводнай пылінкі на ім, чысты, як кроў. Маці даплаціла адных тры рублі. Так папярэдне дамовіліся: што калі не хопіць школьных, маці заплаціць. Хай ён паходзіць як дзіця, у сваім убранні, як усе школьнікі ходзяць.

Галавацкі маўчаў, не зусім патупіўшыся, час ад часу кідаючы сваімі сінімі вачыма на клас.

— Гаворыш, не дакладваў табе, куды ідзе? Добра, сядай, не ведаеш, значыцца, куды сусед твой змыўся.

Калісьці Ігнатовіч адсаджваў Галавацкага ад Цюхая, перасадзіў яго з задняй парты недзе на сярэдзіну класа. Спачатку ён быў быццам і паслухаў, пайшоў на новае месца, у суседства да дзяўчынкі. Але час ад часу, спачатку на некаторых уроках, у тых настаўнікаў, якія не звяр-

талі ўвагі, дзе сядзіць вучань, пачаў вяртацца на сваё першапачатковае месца, да Цюхая, і ўрэшце зусім не пайшоў, куды яго перасадзілі, сказаўшы Івану Іванавічу, што з «дзеўкай» сядзець не хоча.

Івана Іванавіча не здзівіла такая акалічнасць, бо ён добра ведаў, што не толькі Галавацкі, а амаль усе хлопчыкі не жадаюць мець каля сябе вучаніцу замест вучня і садзяцца, як правіла, хлопчык з хлопчыкам. Такога суседа можна таўхануць локцем, даць кухталя ў плечы, абняць за шыю, з ім можна памерыць сілы, сутыкнуць пад партай нагу з нагой. Што ні гавары, хлопчык не дзяўчынка, з ім лепш, ён свой. Дзяўчынка як шкло, не зачапі яе.

Іван Іванавіч пажартаваў толькі:

— Што, пячэцца?

Але Галавацкі ўпарта крутнуў галавой і адказаў:

— Не хачу.

У тоне голасу была настойлівасць і пратэст.

— Добра, сядзі. Толькі з Цюхаём каб...

— Які ён!..— недаказаў Галавацкі, выказаўшы гэтым сваю агіду да яго.

Цюхай не будзе для яго ні аўтарытэтам, ні сябрам, зрабіў для сябе вывад Ігнатовіч.

— Як-небудзь абыдземся і без Цюхая. Толькі ён не абыдзецца без нас.

— Нашто яму мы? Яму абы былі яблыкі.

— Якія яблыкі? — не разумеў Ігнатовіч.

— Ён бяжыць дамоў цераз саўхозны сад. Нарве пепінак.

— І моркву рве.

— А вы не рвіцё? — запытаў Ігнатовіч у тых вучняў, якія хадзілі ў школу і са школы цераз саўгасны сад, скарачаючы сабе дарогу.

— Не-э,— пакруціла галавой адна дзяўчынка.

— Не чапайце. Гэта вельмі непрыгожа, калі чалавек пачынае дакранацца да чужога.

— Крадзе,— нехта паправіў настаўніка.

— А ёсць, што крадуць,— не вытрымаў, каб не ўмяшацца, Галавацкі. Голасна!

— Не крычы, Галавацкі. Калі чалавек у гурце крычыць, стараючыся заглушыць галасы астатніх, таксама непрыгожа. Ніколі не крычыце сярод людзей. Гаварыце ціха. Я ж не крычу?

— А Бусел крычыць. Кулаком як стукне аб стол!

— Паразіцкая морда! — нехта падтрымаў Галавацкага. Ігнатовіч нават не паспеў разабраць хто.

— Вот, ты, Галавацкі, зноў пра Бусла. Па-першае, ён табе Аляксандр Веніямінавіч, не проста Бусел. Настаўнік. Трэба называць па бацьку.

З розных парт пачуліся галасы:

— Цяжка, Іван Іванавіч.

— Вы... Вынь...

— Віямінавіч.

— Мінавіч.

— Чаго цяжка? Глядзіце, я напішу.

І Іван Іванавіч напісаў на дошцы і прачытаў па складах:

— Ве-ні-я-мі-на-віч. Ясна?

Вучні пачалі чытаць хорам і ўразнабой, і трэба было супакойваць іх.

І трэба было не пакінуць без увагі словы Галавацкага «ёсць, што крадуць».

— Ёсць, што крадуць. Ведаем, Галавацкі. Каб не кралі, не было б у нас міліцыі, судоў. І турмы ёсць для тых, хто крадзе. А як жа?

— У нас у інтэрнаце...

— Што ў вас у інтэрнаце? — перабіў Ігнатовіч Галавацкага, ведаючы, што зараз пойдуць прыклады, дзе хто што краў, і кожны вучань абавязкова захоча прывесці свой прыклад, паказваючы сваю жыццёвую дасведчанасць і думаючы, што яго факт — самы цікавы.

— Супакойцеся, таварышы. Усяго не перагаворыш.

У нас ёсць тэма сённяшняй гутаркі, і мы павінны яе высветліць. А тэма нашай сённяшняй гутаркі — «Воля».

Не паспеў Ігнатовіч назваць сваю тэму, як пачуў:

— У курыцы воля.

— І ў гусі.

— І ў качкі.

— І ў індыка.

— Хто ў вас пытае? — не вытрымаў Ігнатовіч.— Па-першае, і ў гусі, і ў курыцы не воля, а зоб. Ва ўсякім разе «валлё,» або «валляк». У літаратуры такія словы сустракаюцца. Воля ёсць толькі ў чалавека, і мы будзем гаварыць пра волю чалавека. Вось, скажам, чалавек курыў, а тады задумаў кінуць курыць, і кінуў — у яго ёсць воля. А ў птушак зоб або валлё — валляк. Слова «зоб» паходзіць ад старажытнага «зобаці», што значыць есці.

Падымаецца рука дзяўчынкі.

— Што хочаш, Сілівончык?

— А ў людзей зоб бывае?

— У людзей зоб? — не адразу зразумеў Ігнатовіч.

Пытанні... Добра, калі вучні задаюць іх настаўніку. І задаюць іх шмат. Значыць, хочуць ведаць. А задача настаўніка — заахвочваць у вучняў імкненне да ведаў.

Трэба адказваць на кожнае пытанне, на адно — шырока, на другое — вузей, але адказваць так, каб адказ быў цікавым і патрэбным усяму класу, не толькі таму, хто задае пытанне. І Ігнатовіч адказваў.

А адказаўшы, падагуліў:

— Ясна, дзеці?

— Ясна.

А нехта кінуў:

— Дзеці...

Не любяць вучні, калі на іх кажуць «дзеці». У пятым класе яшчэ так-сяк міранца, а вышэй — смяюцца.

Не лепшым было ў дастасаванні да старшакласнікаў і слова «рабяты». Ігнатовіч сам не любіў яго і, трэба сказаць, ніколі не ўжываў.

Нікога не крыўдзіла слова «таварышы». Гэта не толькі ведаў, але душой адчуваў Ігнатовіч.

— Вернемся да нашай тэмы.

Але як ні варочаў настаўнік сваю тэму, як ні бяліў яе і ні расфарбоўваў, тэорыя нікольні не кранала дзяцей. Адны паглядалі ў вокны, другія знаходзілі нейкія цікавы кропкі на сценах. Гавары — не гавары, старайся — не старайся, іх увага ад тваёй гутаркі адключана. Трэба было зараз жа мяняць пласцінку, хоць уперадзе яшчэ было ў Івана Іванавіча шмат добрых выказванняў вялікіх людзей — палкаводцаў, пісьменнікаў, філосафаў — аб волі.

— Быў такі спартсмен-прыгун Валерый Брумель,— раптам зрабіў Ігнатовіч пераход, слаба звязаны з тым, аб чым гаварыў толькі што, хоць гэты пераход павінен быў адбыцца, але значна ніжэй, пасля добрай і яшчэ незакончанай апрацоўкі слова «воля». Сказаў і на хвіліну спыніўся, сочачы за тварамі і рухамі дзяцей.

Нібы хто ўшчуніў іх, адразу ажывіліся хлопчыкі, і на іх глянулі ўсе дзяўчынкі. Па класе пайшоў пошум, быццам яго жыхарам трэба было моўчкі некуды перабрацца.

— Чаго вы? — звярнуўся Ігнатовіч, смеючыся ў душы, да вучняў, зразумеўшы, як яны адразу пачалі пераключацца на слуханне нечага новага, зусім не падобнага да таго, пра што ён гаварыў момант назад.

— А ён памёр? — першым папытаў жвавы Корык, у якім, здавалася, і спорту сядзець недзе было. Аднак спорт у ім сядзеў.

— Хто? — наўмысля перапытаў Ігнатовіч, каб пераканацца, ці сапраўды што-небудзь ведаюць вучні пра Брумеля.

Вучні ведалі, што ён устанавіў у 1963 годзе сусветны рэкорд па прыжках у вышыню, пераскочыўшы планку, паднятую на 228 сантыметраў, што ён, пацярпеўшы аварыю на матацыкле, раструшчыў нагу, ведалі, што праву́ю, ведалі, што яму зрабілі 31 аперацыю, ратуючы нагу. Доктар сказаў: «Будзеш хадзіць з кіёчкам», а ён зноў па-

чаў трэніроўкі, і ў яго разарвалася сухажылле падкаленніка левай нагі, якой спартсмен штурхаўся. Людзі ў такіх выпадках кідалі спорт. А ён не кінуў.

Зноў трэніроўкі, і вышыня ў 207 сантыметраў.

— У чалавека ёсць воля,— сказаў Ігнатовіч, каб вучні ўсё ж такі хоць нешта зразумелі, што такое воля.

Пасыпаліся новыя пытанні, але іх разабраць перашкодзіў званок, які заўсёды абрывае ўсе гутаркі і ўсе ўрокі на самым цікавым.

Апранаючыся ісці дадому, Ігнатовіч падумаў: «Пагоду ў класе робяць хлопчыкі. Дзяўчынкі — гэтыя бяруць усяго патроху, што ні даюць настаўнікі. Хлопчыкі або не бяруць нічога, або ўсё бяруць».

На вуліцы пачынаў слюніць, вучыцца, як кажуць, прыемны асенні дробны дождж, які спакваля ўсё дастане і ўсё прамочыць.

## 17

Калі Ігнатовіч убачыў, што Тарас сапраўды ходзіць на ферму памагаць мацеры, ён рашыў схадзіць туды і паглядзець, што, як.

Як толькі жонка з сынам у хату, ён апрануўся і хутка надзеў на галаву кепку.

— Куды? — здзівілася жонка.

— Чаму?

— Як на пажар, спяшаешся.

— Трэба,— думаў не сказаць куды, ведаючы, што яна пачне здзекавацца з яго ідэі.

— На педсавет?

— На педсавет. Ведаеш, што педсавет раней, чым у сем трыццаць не пачынаўся, а гаворыш — на педсавет.

— А можа, які надзвычайны.

— Ну-у-у, надзвычайны...

— У вас жа ў школе гэтак. Вучань не так літару выведзе — педсавет і настаўніку вымова.

— Утрыруеце ўсё. Ну, утрыруйце, утрыруйце, што ж. Пасмяяўся шалудзівы каля пляшывага,— і ўзяўся за клямку, каб адчыніць дзверы.

— Ніхто не ўтрыруе. Пачакай. Дык куды ты? Дзе шукаць? Праўда!

— Не трэба шукаць, прыйду. Так — як кароў падояць.

Сын абшчапіў бацьку за калені і не пускаў на двор.

— Не пускай, сынок. Хай скажа куды.

— Добра. На ферму трэба схадзіць. Некалі,— і бацька ўзяў сына за ручкі каля падпашак і адвёў далей ад дзвярэй, на сярэдзіну хаты.

— Кароўю ці свіную? — не адставала жонка.

— Павінна была б ведаць, што ў Лагах даўно няма свіной фермы. Усе свінні — у Карытніцы. У Карытніцы свіная ферма.

— Праўда?

— Ну.

— Яй-богу, не ведала.

— Дзіцячы сад. Што скажаш. Навошта ведаць.

— А ты лекцыю ідзеш чытаць? Дужа ім трэба твая лекцыя. Толькі ад работы адрываць будзеш.

— Трэба! Каб не трэба, не пайшоў бы.

Не сказаў жонцы, што не лекцыю чытаць ідзе на ферму. Пачала б туды-сюды, смяяцца,— яна не верыць, што з такіх, як Тарас, будуць людзі.

Ігнатовіч верыў. Амплітуда веры ў людзей і любові да іх была ў яго такая шырокая, што яго самога часамі брала сумненне, а ці не памыляецца ён? Не ўсе людзі здольны на адно і тое. Адзін падымае пуд, а другі — дзесяць.

На вуліцы было ціха, неба не рухалася, хоць і сонца не відаць было. Ісці ў такі час і думаць вельмі прыемна.

Ужо зусім блізка была вадакачка, белыя пад шыферам кароўнікі.

Вось вагі — памост, на які ўз'язджалі машыны, трак-

тарныя прычэпы, хурманкі, калі трэба было што-небудзь ладнае зважыць. Над памостам на высокіх слупах узвышалася павець.

Блізка залапатаў трактар. Ігнатовіч павёў галаву ў той бок: з поля ішоў «Беларусь» з прычэпам.

Ён уз'ехаў на памост вагаў і спыніўся.

З кабіны выйшаў трактарыст Жук, а за ім, таксама з кабіны, скокнуў Тарас.

— Ты тут?

— Ну,— не без гонару адказаў Тарас, што едзе ў кабіне з трактарыстам.

— Так ты і трактарыстам можаш яго зрабіць,— звярнуўся Ігнатовіч да Жука, чарнабровага, высокага маладога мужчыны.

— Навука тут такая. Ён ужо вядзе трактар,—адказаў Жук, глянуўшы Ігнатовічу ў вочы.

Ігнатовіч не паверыў і прыняў словы Жука за жарт.

— Праўдзі, Тарас,— паказаў Жук кіўком галавы на незаглушаны трактар.

Тарас падняўся ў высокую вузкую кабіну трактара, сеў на сядзенне, хвіліну паслухаўшы біенне сэрца машыны, уключыў скорасць і, зрабіўшы круг па двары, акуратна ўз'ехаў на памост вагаў.

— Добра. Яй-богу, добра. Малайчына, Галавацкі. Не чакаў і не думаў,— хваліў Тараса і радаваўся за яго Ігнатовіч, быццам вучань павінен быў канчаць не школу, а курсы трактарыстаў.

— Толькі ты, Андрэй, не дазваляй яму надта. А то, чаго добрага, дзе-небудзь можа яшчэ і ўрэзацца.

— Ну, што вы, я ж ведаю. Каб хоць месяц паездзіў са мной,— адказаў Андрэй.— А то толькі заўчора я паказаў яму. Сказаць вам, рука ёсць у яго. І вока добрае. Чуе машыну.

Непадалёку ад вагаў стаяў аднапавярховы, ладны, з цынкавым дахам, домік-клуб жывёлаводаў з сілікатнай цэглы. З яго выйшаў і ішоў да вагаў, з цяжкасцю пера-

стаўляючы ногі, нібы яны былі ў яго наліты нечым, і абапіраючыся на качарэжку, вагаўшчык Клюшун Агей. Пасля кантузіі на вайне з ім так зрабілася.

Павітаўся, паставіў да слупа качарэжку (яна была крушынавая) і дастаў з-за пазухі ватоўкі сшытак. Запісаўшы прозвішча трактарыста, марку трактара і колькасць кілаграмаў буракоў у бястарцы, ён махнуў левай рукой убок, што значыла з'язджай з вагаў, і зноў уладкаваў свой тоўсты, у чорнай калянай вокладцы сшытак за пазухай ватоўкі.

Трактар пайшоў, коцячы за сабой бястарку, у глыб двара, акружанага мноствам розных будынкаў фермы, і Ігнатовіч накіраваўся за ім.

Здаецца, і не марудзіў, але пакуль падышоў да той будыніны, ля якой спыніўся трактар, бястарка ўздыбілася з пярэдняй восі цераз заднюю, і з яе загрукацелі важкія буракі ў вялікую драўляную скрынку, высунутую са сцяны, як балкон, толькі нізка.

Бястарка села на сваё месца, умасціўшыся на пярэднюю, як і на заднюю, вось, а скрынка паехала ў сцяну і знікла за ёй, нібы была жывая і ведала, што робіць. Пакуль Ігнатовіч агледзеў ход у будыніну і зайшоў у яе, у скрынцы грымела і плёскала, і ён зразумеў, што буракі мыюцца.

Са скрынкі буракі па шнэку падымаліся і падалі ў кош, гэткі, як у млыне, толькі, можа, трохі большы і не такі зграбны, і, прайшоўшы праз нажы, схаваныя ўсярэдзіне, вывальваліся здробненымі, як карове ўзяць у пашчу, з другога латка на памост у кучу.

У гэты час з'явіліся з вёдрамі ў руках, у чорных халатах даяркі. Некаторыя з іх мелі памочнікаў — хлапца або дзяўчынку, радзей — старых матак.

Прыйшоў і Тарас з маткай, у яго два бляшаных вядры, у яе — два вядры.

Тарас палажыў бокам адно вядро і далонямі нагарнуў

у яго буракоў, тады — другое і ў яго нагарнуў. Узяўшы за пачопкі, подбегам панёс вёдры.

Пакуль маці занесла раз, ён два разы справіўся. Рабіць такую работу яму лёгка, і ад таго, што лёгка,— радасна.

Ігнатовіч падумаў: «Чаму мы адгароджваем дзяцей ад працы? Яна ж ім з малых год патрэбна, як паветра. Што тыя дзве гадзіны ў тыдзень фізкультуры? Пакуль пастраяцца, пакуль падрыхтуюцца што-небудзь рабіць, глядзіш — званок. Па разу дыск не кінулі. Па разу ўмоўную канаву не пераскочылі. Падлетак павінен кожны дзень працаваць. І не проста пераліваць з пустога ў парожняе. Свядома выконваць патрэбную чалавеку работу. Бачыць карысць сваёй работы. Як Тарас зараз носіць у вёдрах буракі ў кароўі кармушкі».

— Паглядзець прыйшлі? — выйшаў з-за буракарэзкі брыгадзір жывёлагадоўчай фермы Шык Канстанта.

— Ведаеце, добра. Першы раз бачу,— адказаў Ігнатовіч.

— Ну, што вы! Калі б яны рэзалі іх рукамі. Механізацыя,— пацвердзіў Канстанта, задаволены тым, што на жывёлагадоўчых фермах становіцца працаваць людзям лягчэй.

Ішлі з паствы каровы, у большасці рабыя, пападаліся і чорныя.

Ігнатовіч заўважыў, што Канстанта так уважліва глядзіць на іх, нібы лічыць.

Калі каровы зайшлі праз некалькі дзвярэй у кароўнік, Шык хутка пакрочыў у гумавых ботах цераз двор туды, кінуўшы Ігнатовічу:

— Трэба даіць.

І не папытаў, прыйшоў ён на ферму па якой патрэбе ці так сабе завітаў на кармакухню, з-за цікаўнасці, праходзячы паўз ферму.

І ў гэты час пстрыкнула ў вокнах кароўніка электрычнае святло — на дварэ ўжо быў вячэрні асенні прыцe-

мак, і натуральная, у памяшканні была ўжо ў святле патрэба.

Крыху счакаўшы, Ігнатовіч пацiху пайшоў за Шыкам.

Зайшоўшы ў кароўнік праз шырока расчыненыя дзверы, ён спачатку разгубіўся і не ведаў, што яму рабіць, як губляецца чалавек, зайшоўшы на сход, які ўжо пачаўся. Ігнатовіч здзівіўся таму парадку, што так хутка, літаральна за дзве-тры мінуты, усталяваўся на кароўніку. Паўз сцены вялікай стадоліны стаялі рабыя, і кожная, уткнуўшыся ў сваю кармушку, ела нарыхтаваныя для іх буракі. Цвірчэла малако ў бляшаны посуд, і стаяў усеўладны яго пах, пах сырадою, вядомы і блізкі чалавеку з самага ранняга дзяцінства. І адчуў: каровы таксама пахлі малаком і зразумеў, а хутчэй — адчуў, смак буракоў, якія яны елі, задзіраючы ўгору рагатыя вушастыя галовы, часамі звонячы ланцугамі, якімі яны былі прывязаны.

Бачыў, як Тарас адно судно малака выліў у бітон, неўзабаве — другое. Бачыў, як астатнія падлеткі і жанчыны-даяркі свае бітоны напаўнялі малаком і як гэтыя бітоны, потым, па дваіх, насілі з кароўніка на двор. І як падоеныя каровы зараз жа, як па камандзе, кожная на сваім месцы, пачыналі лажыцца і хутка ляжалі ўпокат па ўсяму кароўніку.

Выйшаў на двор толькі тады, калі ў будынку патухла святло.

На дварэ стаяў вялікі малакавоз, і ў яго вылівалі бітоны.

На сценах кароўніка, на слупах па ўсяму двары гарэлі электрычныя лямпачкі, і пры іх святле Ігнатовіч добра ўбачыў, што Тарас быў у гумавых ботах і ў такім жа, як і даяркі, халаце.

Калі малакавоз плаўна крануўся з месца, а бітоны панеслі мыць на кармакухню, Ігнатовіч пайшоў дадому.

Пад нагамі было мякка, у паветры ніякага пылу, і дыхаць было прыемна і лёгка.

## 18

— Мы, таварыш Галавацкі, выклікалі вас на педсавет па сур'ёзнаму пытанню,— гаварыў дырэктар школы Зярніцкі.

— Ну,— згаджаўся Галавацкі, быццам гэтае сур'ёзнае пытанне датычылася не яго, а сына Тараса.

— Я мог бы пагутарыць з вамі адзін на адзін, у сваім кабінеце,— працягваў дырэктар.— Але мы тут параіліся, падумалі,— ён паказаў рукой на настаўнікаў, якія сядзелі за вучнёўскімі партамі па два чалавекі на кожнай,— і рашылі паслухаць вас на педсавеце. Выхаванне дзяцей — справа важная, адказная і, трэба сказаць (хто, хто, а мы, настаўнікі, гэта ведаем), даволі цяжкая.

— Не дай бог,— пакруціў Галавацкі галавой, пазіраючы на дырэктара. «Цяжка, цяжка, цяжка»,— можна было прачытаць на яго твары.— Ведаеце, затлуміў ён мяне,— паправіўся ён на лавачцы парты, перакананы, што гутарка будзе весціся пра сына.

— Чаму? Вы калі-небудзь думалі над гэтым? — пытаў дырэктар.

— Каб галава была чыгунная, і тая б трэснула. Чаму я не думаў. Думаў! Вырадзіўся такі халерны, хоць мяса з яго рэж.

Галавацкі павёў вачыма па класу, дзе сядзелі настаўнікі, нібы просячы ў іх спагады ці літасці.

— Выхаванне дзіцяці пачынаецца ў сям'і. Калі яно яшчэ во гэткае.— Зярніцкі паказаў рукой вышыню ад падлогі.— У вас і меншыя ёсць?

— А-а-а, як блізняты. Іван Іванавіч бачыў.

— Ёсць, во. Вы п'яце гарэлку, а яны пазіраюць. А калі і паспытаць ім дасцё. Дасцё, канешне: бацька. А большаму — болей. А то і сам калі ўкрадзе, глыне.

Галавацкі нешта хацеў сказаць, нават рот раскрыў,— не сказаў, толькі трошкі смыкнуў адным плечуком угору, другім.

— П'е чалавек рэдка — радзей дзеці бачаць. А калі піць кожны дзень, а? А калі гнаць самагонку? Мяшаць цеста, квасіць, смуродзіць брагай, а? Над гэтым вы не думалі, Антон Барысавіч, не. Магу з упэўненасцю сказаць, што ніколі не думалі. Я вам сын па гадах, ды не толькі па гадах — па заслугах. Якія ў мяне яшчэ заслугі? Я ў вайну, можна сказаць, пешкам пад стол хадзіў, а вы кроў сваю пралілі, інвалідам зрабіліся. Хто каго павінен вучыць: я вас ці вы мяне? А, Антон Барысавіч?

Пад Галавацкім скрыпнула парта, калі ён папраўляўся на яе сядзенні. А дырэктар глядзеў на яго і чакаў, што ён адкажа.

Галавацкі ўстаў за партай, як вучань, палажыў на яе рукі і, як вучань, які яшчэ не паспеў абдумаць адказ на пытанне настаўніка, памаленьку пачаў гаварыць:

— Канешне, вы задалі мне задачу. Я панімаю. Я тут, можа, за ўсіх старэйшы, не толькі за вас,— Галавацкі абвёў поглядам увесь класны пакой, дзе сядзелі настаўнікі.— Вучыць я вас павінен быў бы. Але ж я дурны, малаграматны, можна сказаць. Улась была дурная і народ не вучыла. Вы — вучоныя ўсе. Я цаню вучоных. Высока стаўлю вучонага чалавека! А мне ўжо позна. Ва-першых, гады ўжо прайшлі. І во,— ён палажыў руку на грудзі,— дыхаць няма ўжо чым. Інвалід я. Інвалід.

Ён, агляну ўшыся па баках, сеў.

І ўжо седзячы:

— Вучыце нашых дзяцей. Дзякуй вам.

Дырэктар пакратаў пальцамі, паглядзеў на іх, нібы правяраючы, ці суладна згінаюцца і разгінаюцца яны, і працягваў:

— Вы не сказалі нам, Антон Барысавіч, галоўнага, дзеля чаго, можна сказаць, мы сюды вас і запрасілі. Вы бацька, у вас ёсць дзеці. Нам дзяржава даручыла вучыць іх і выхоўваць. Школа і бацькі... Ну, вы ж не маленькі, разумееце мяне?

Галавацкі, расшпіляючы на грудзях куртку, зноў пад-

няўся на ногі за партай, палажыўшы на яе рукі. Тады трохі прыгнуўся, выцягнуў уперад шыю, гаворачы нібы толькі аднаму дырэктару:

— Я панімаю. Панімаю. Я — што: вокны каму пабіў? Парэзаў каго? Красці хаджу? — спыняўся пасля кожнага пытання, як бы даючы дырэктару падумаць над тым, што гаворыць.— Я калі вып'ю, за свой шчот і на свой шчот. Мне жыць ані не хочацца.— Ён палажыў руку на грудзі і ківаў зверху ўніз галавой, нібы шкадуючы дырэктара, што той, з-за свайго зялёнага ўзросту, ані нічога не разумее ў жыцці, у прыватнасці, з-за чаго людзі, такія, як Галавацкі, п'юць гарэлку.

— Антон Барысавіч, я прашу вас, вы правільна нас зразумейце: не пра вас гаворка ідзе, пра дзяцей вашых. Няўжо вам не шкада дзяцей сваіх і вы пра іх не думаеце?

Галавацкі зняверліва на гэты раз глянуў на дырэктара, як на чалавека, які ў нечым хоча абмежаваць годнасць другога чалавека.

— Ага, мне не шкода, ані, як вам. Вам шкода свайго, а? Вам шкода свайго, а мне не шкода, ані не шкода. Я звер. Спладзіў і пайшоў куды вочы глядзяць. Я зрокся, ці што, сваіх дзяцей? Што, мае дзеці лайдакі? Сын на заводзе. Дачка іскаватаршчыцай. Яны страну сваёй работай кормяць! І нас з вамі.— Апошні выраз быў сказаны зусім ціха. Хацеў сесці, глянуў назад на сваё месца і не сеў.— А што да гэтага, да малога, Тараса, абы восем класаў акончыў. Мае дзеці да работы шчырыя. Па мне. Да большага паедзе, на завод. Прашу вас, таварышы настаўнікі, каб ён толькі акончыў васьмігодку. А я, калі што якое, шкуру з яго здзяру. Як з таго зайца. Будзе ён у мяне як лыка.

Галавацкі сеў. Здаецца, ён усё сказаў.

Патрабаваць ад яго, каб ён даў слова, што не будзе піць? Дырэктар ды і ўсе настаўнікі добра ведалі, што ён

не дасць такога слова. Упарты ён, прыступіцца да яго, каб пераканаць у чым-небудзь, цяжка.

Большыя дзеці вучыліся — не надта ўчашчаў ён у школу. Не надта лічыўся з тым, што гаварылі яму настаўнікі.

Праўда, дырэктарам тады быў не гэты, што цяпер, а куды старэйшы. Бародку сівую насіў, вусы. Вайну бачыў. Ды не адну, а і папярэднія, што былі перад Вялікай Айчыннай. У яго было больш спагады да людзей, якія так ці гэтак пацярпелі ад чалавечай разні, і ён даравў ім шмат якія іх слабасці. Сам любіў у бяседзе чарку падняць. А дзеці, казаў, усе стануць людзьмі. Не такімі, дык гэткімі, але людзьмі, якім хопіць месца і работы ў Савецкім Саюзе.

Зярніцкі проці таго, што быў, блазнюк. Якое ён гора бачыў, акрамя таго, што здаваць экзамены ў школе, а тады ў інстытуце? Таму і гаварыць з ім Галавацкаму не надта хацелася. Ведама, сына ў школу трэба было неяк уладкаваць і прасачыць, як ён учэпіцца ў вучэнне разам з другімі дзецьмі.

Вучоны, канешне, з дыпломам. Але акрамя навукі трэба, каб яшчэ нешта ў душы ў чалавека было. У Канашка было яно. З Канашком, бывала, вітаешся не таму, што ён дырэктар школы, а таму, што ён табе як свой. Ты яго наскрозь бачыш, і — ён цябе. А з гэтым — трэба павітацца: дырэктар. І сын там твой вучыцца.

Зярніцкі паглядзеў на паперку, якая перад ім ляжала на стале, і сказаў, звяртаючыся да Галавацкага:

— У мяне больш пытанняў да вас няма. Мы паслухалі вас, вы — нас. Пазіцыі нашы, шчыра гаворачы, праясніліся. А цяпер мы зоймемся другімі пытаннямі, а вы можаце ісці дамоў.

— Пачакайце, Раман Пятровіч,— паднялася з-за парты і ступіла на праход паміж партамі Вера Макараўна.— Гаварыць, дык гаварыць у вочы, да канца. Я хачу некалькі слоў сказаць.

І пайшла, высокая, прыгожая ў стане, да стала, за якім сядзеў Зярніцкі, як старшыня, па праву дырэктара, педагагічнага савета.

— А мне можна ісці? — падняўся Галавацкі.

— Пачакайце,— паказаў рукой Зярніцкі, каб Галавацкі садзіўся.

Вера Макараўна абцягнула ўнізе прыгожую, малінавага колеру, вязаную кофту, абвяла поглядам сцены, столь класа, асветленага шасцю белымі плафонамі, глянула на калег-настаўнікаў, якія сядзелі за партамі, і да Галавацкага, без усякай дваістасці:

— Як вам не сорамна, таварыш Галавацкі? Вы ж мужчына, воін, салдат. Там, на фронце, з фашыстамі вы маглі ваяваць? Не дрогнула, мусіць, ні разу рука, калі цэліліся ў іх пазіцыі? А тут, калі ні куль, ні снарадаў, размяклі? Баба вы... не хачу казаць якая. Гарэлка вам зрабілася даражэйшая за жонку, за дзяцей. Скажыце: вы жонцы сваёй хоць чым-небудзь памаглі на ферме? Не, не памаглі, нічым, нічагусенькі. А маглі б. Мала гэтага. Замест таго каб сказаць ёй дзякуй, што яна нарадзіла вам і паставіла на ногі пяцёра дзяцей, вы яе зневажаеце, за чалавека не лічыце і... Вы думаеце, я не ведаю, якія канцэрты вы даяце ў сям'і? Мы, жанчыны, адна ад адной нічога не хаваем. У нас адна адной усё ад сэрца. Не мужчына вы пасля гэтага,— размазня. Крывіцеся? Груба, а? А вы сябе як паводзіце? Я б вас, п'яніц, сабрала і на бязлюдны востраў, дзе і зязюлі не кукуюць. Скажыце дзякуй нашай уладзе, што яна такая, цярпіць вас. Вы сказалі, што любіце сваіх дзяцей. Вы паверылі яму, Раман Пятровіч? Не верце, не любіць ён іх. Ні на капейку няма ў яго любві да іх. Якая гэта любоў? Так любяць? Калі мужчына ў сям'і не чалавек, дык не чалавек ён і для грамадства. Моцнае грамадства пачынаецца з добрай сям'і.— Вера Макараўна пачала імітаваць кулаком стуканне па сталу.— Той, хто ў сям'і не муж і не бацька, не патрэбен грамадству, бо жыве ён толькі для сябе. Каб,

груба гаворачы, напхаць свае каўбы, потым спакойна, без усякіх турбот вылежацца. Чаму вашы большыя дзеці не канчалі дзесяцігодку? Школа пад бокам. Добры вы бацька, нічога не скажаш. І гэтага абы з хаты хутчэй выпхнуць, не дачакаецеся, калі восьмы клас скончыць. Дырэктара школы-інтэрната абзываеце дурнем. Тады і мы ўсе, настаўнікі, дурні? І наш дырэктар, во ён сядзіць,— Вера Макараўна паказала рукой на Зярніцкага,— дурань? А?

Галавацкі нібы засаромеўся, крануўшыся туды-сюды на сядзенні, з Веры Макараўны перавёў погляд на дырэктара і загаварыў:

— Мана! Што я казаў на настаўнікаў? І на дзярэктара не казаў. Раман Пятровіч...— памкнуўся быў Галавацкі загаварыць з дырэктарам. Той паказаў яму рукой: «Сядай». Галавацкі амаль крыкнуў Веры Макараўне: — А што Шалай дурань, дык я казаў і цяпер скажу, што дурань. Страхоўшчык!

— Во, бачыце,— ухмылялася Вера Макараўна настаўнікам.

У гэты час Галавацкі ўбачыў у яе ў верхнім радзе залаты зуб. Яго ўзяла злосць, і ён, перабіваючы настаўніцу, усё сказаў, што хацелася яму сказаць пра Шалая.

— Што, мой сын паліцічаскі, што яго ў калонію? Малы, дураслівы. Кроў у ім такая: гарыць. А ён яго ў калонію. Каб разумны быў, не заікнуўся б мне пра калонію. Там што, у калоніі? Рацыдзіў розны, марфіністы, бэсція ўсякая. Любога зломюць, скалечуць. Я не бацька? Не шкода мне свайго дзіцяці? А Раману Пятровічу дзякуй. Прыняў — хай на вачах у мяне вучыцца.

Сеў. Далей, што гаварыла Вера Макараўна, не слухаў і не меў патрэбы ў гэтым. Кола думак пайшло круціцца ў адваротны бок: у вайну, у дзяцінства, у голад і бясхлебіцу. Не, той не чалавек, хто не галадаў, не еў мякіннага хлеба. Яна ўставіла залаты зуб і думае, што занадта разумная. Гаварыць можна з тым, хто сам быў

на вайне. Калі цябе перакалоціць усяго, як трасца, калі ў табе перамрэ ўсё. І не той ты ўжо пасля бою: і нічога не трэба, акрамя кавалка хлеба, вецця якога пад бокам. Хай мае дзеці толькі працу любяць, нічога ім не трэба. Дом расфарбавала. Царыца! А мне напляваць на яе дом. Хай мае дзеці жывуць у маленькіх-маленькіх пакойчыках, што казна дасць, дзе будуць працаваць. Мне не трэба займішчы. Трэба, каб у чалавека была ў руках сіла і ён ведаў, куды гэтую сілу падзець.

Дамоў ішоў без ахвоты. Ногі не хацелі перастаўляцца, і галава была цяжкая, нібы налітая чымсьці цяжкім і мутным. Быццам нешта засталося ў школе, у тым класе, дзе адбываўся педсавет. Ён нечага недаказаў ці яму недаказалі? Ці гэта была сварка ці толькі гаворка? Якая гэта ў чорта гаворка!

Вяртацца не хацелася, дамоў не цягнула. Што сказаць сыну, жонцы? Малыя, спарышы, глядзець будуць у вочы. Дурноцце, яны ані-ані нічога яшчэ не разумеюць. Галапупыя птушаняты. Хочаш іх бяры, хочаш рэж — глядзяць, нічога не разумеючы.

## 19

— Я не хачу, Іван Іванавіч, вучыць вас. Настаўнікі, кажуць, людзі адукаваныя і не любяць, калі іх павучаюць. Тым не менш, раіцца нам трэба і знаходзіць агульную думку таксама трэба. Тэорыю мы можам усе ведаць не дрэнна, а на практыцы можам памыляцца,— Зярніцкі чыркнуў рукой па зачасаных угору чорных валасах.— Як вядома, а гэта азбучная ісціна, рашаючым фактарам для чалавека (для дзіцяці тым больш) з'яўляецца асяроддзе. Асяроддзе можа падняць чалавека да вельмі высакародных і гуманных учынкаў, і асяроддзе можа кінуць таго ж самага чалавека ў брудную яму. Мне асабіста,— Зярніцкі прыклаў далонь рукі

да грудзей,— мне асабіста думаецца, што таго самага Тараса Галавацкага любымі сродкамі ізаляваць трэба было ад судакранання з негатыўнымі бакамі жыцця. Дзеці вельмі ўспрымальныя да негатываў. Тут і лаянка. Тут і курэнне. Тут, калі хочаце, і п'янка. А не — дык і на крадзу гатовыя. Нават мова будзе такая, што... Вы разумееце, калі не лексікон, то сама інтанацыя, само вымаўленне звычайных слоў бравурнае — вушы проста рэжа. Дзіця трэба павярнуць тварам да культуры, а не ад яе. Культура ёсць культура, і яе нічым не заменіш. Асабліва, калі ў яго такі бацька. А вы яго, Іван Іванавіч, яшчэ ў дадатак да ўсяго паслалі на кароўнік. Вучыся, Тараска, і набірайся розуму. Быццам школа нічаму добраму не вучыць. Трактарысты, шафёры, падвозчыкі... Гэта ж, таварышы... Ну, што вам гаварыць? Мы ўсе не дзеці і ўсё разумеем. Часамі тыя самыя даяркі такое сказануць, што, як тую самую пыжыкаву шапку, ні ў адным магазіне не купіш. Я чамусьці, Іван Іванавіч, пачынаю баяцца за падобны сродак выхавання. І, урэшце, другі бок справы: а раптам ён там скалечыцца? Тэхніка бяспекі ў нас яшчэ не такая, каб... Што нам тады скажуць там,— ён паказаў пальцам у столь.— Вам то вам, вы толькі класны. А мне? Дырэктару? Кажуць, ён ужо на трактар спрабуе садзіцца. Гэта ж чорт яго ведае што такое. Нейкае самавольства. Машына ж не конь. Мы можам мець вялікую непрыемнасць. Давайце выказвацца, хто што думае.— Зярніцкі развёў у бакі рукамі і сеў за сталом на сваё месца.

Некаторы час у класе стаяла цішыня. Потым настаўнікі пачалі перашэптвацца паміж сабой.

Дырэктар чакаў, чакаў, потым пачаў прыспешваць сваіх падначаленых.

— Давайце, таварышы, давайце. Мне падабаецца сёння Вера Макараўна. Узяла і сказала ўсё, што думала. І сказала мужна, добра сказала, як ніхто з нас не сказаў.

За партай падняўся Бусел.

4 Зак. 3548

— Аляксандр Веніямінавіч? Давайце з вас пачнём. Думаю, што вы будзеце не апошні,— Зярніцкі ўсміхаўся сам сабе.

Бусел трымаў перад сабой ліст паперы і глядзеў у яго.

— Можа, на клас выйдзеце? Не цесна вам там?

— Не-э. Я і адсюль скажу.

Быў Бусел не з тых настаўнікаў, якіх і на словах і ў душы глыбока паважаюць. Ён быў з тых, з каго паблажліва пацяшаюцца. Сам выгляд яго... Жыватом, пухнатыя шчокі, кароткая шыя, на якой галава ніяк не магла паварнуцца. Каб азірнуцца назад, яму трэба было павярнуцца ўсім тулавам. Насіў ён толькі хромавыя боты і галіфэ. Праўда, акуратна насіў: боты блішчэлі, хоць глядзіся ў іх, як у люстэрка, на вопратцы ні плямкі, ні смяцінкі. Калі ж якая пушынка і садзілася на яго і ён яе бачыў, дык асцярожна здымаў двума пальцамі, заціскаючы ў ногці, далей ад сябе адводзіў руку і здзьмухваў пушынку з пальцаў. Дзецям ён не дараваў ні дураты, ні гарэзлівасці, ні вясёласці. Школьную дысцыпліну разумеў толькі катэгарычна: нельга.

Першым чынам ён адшукаў вачыма, дзе сядзеў Ігнатовіч, і, павярнуўшыся ў яго бок, пачаў:

— Не разумею я, Іван Іванавіч, як вы церпіце такога вучня? Ніякай дысцыпліны. Глядзіць табе ў вочы і смяецца з цябе. Як ты яму не настаўнік, а чорт ведае хто. Нядаўна іду па вуліцы, а ён з цыгарэтай у зубах падняў свае зенькі на мяне і глядзіць, што я скажу. Што я скажу яму? Адвярнуўся, плюнуў убок і падумаў сабе: «Нясі цябе ветрам, хмара, ад мяне». Яму каб які хлыст, ды цераз галаву, як таго наравістага каня. Што яму тыя вашы словы? Яны не даходзяць да яго.

У Аляксандра Веніямінавіча было ў роце многа ўстаўленых металічных зубоў, здавалася, залішне многа, і яму гаварыць было цяжка, язык увесь час натыкаўся на перашкоды.

— Аляксандр Веніямінавіч, кажаце: хлыст. А тады са мной што будзе? — перабіў яго Ігнатовіч.

Бусел павярнуўся за партай у бок дырэктара, уважліва паглядзеў, які ў яго выраз твару, і адказаў Ігнатовічу:

— Ну, я тады не ведаю. Я тады яго не перавяду. Буду ставіць яму двойкі, двойкі і двойкі. Ён мне іграць на нервах не будзе.

У Бусла не было сваіх дзяцей, і ён не мог дапускаць, каб чужыя дзеці псавалі яму нервы.

— Добра, Аляксандр Веніямінавіч,— гаварыў дырэктар.— Будзеце яму ставіць двойкі, двойкі і двойкі. А гэта педагагічна?

— А чаму непедагагічна? Любы настаўнік мае права любому вучню паставіць двойку. Што ж тут непедагагічнага? Нават зусім педагагічна. Стаўлю любую адзнаку ад пяцёркі аж да адзінкі. Педагагічна!

— У дадзеным выпадку мы штосьці з вамі тут недагаварваем. Я маю на ўвазе паводзіны вучня, дысцыпліну. Так вы мяне разумееце?

— Тут няма чаго разумець. Двойка ёсць двойка.

— Вы прабачце. Кажуць, дрэнны той гаспадар, які не ведае, што ў яго робіцца ў хаце. Мне, напрыклад, вядома, як хто з настаўнікаў ставіць адзнакі. У вас, напрыклад, вучань у час урока крутнуўся, і вы яму ставіце за гэта двойку. Непедагагічна, кажу. За паводзіны ёсць свая адзнака, за веды — свая. Настаўнік — і несправядлівы. Ой, як дзеці не любяць гэтага!

— А я і не маю патрэбы ў іх любві. Ласка — любяць, а другая ласка — не любяць. Мне патрэбны іх веды. І толькі. А калі ён, другі, на ўроку круціцца, не слухае, як я тлумачу новы матэрыял, і не можа мне паўтарыць таго, што я толькі што тлумачыў, я і стаўлю яму двойку. За веды стаўлю. За што ж я тут стаўлю? Толькі за веды. Тут вы мяне не зловіце. Калі ж быць праўдзівым і ісці далей, дык трэба сказаць вам: дзе няма дысцыпліны, там

няма і ведаў. Вот. Пажывіцё больш — пераканаецеся.

— Аляксандр Веніямінавіч, я толькі зрабіў вам заўвагу. Аднаго крытыка выпраўляе, другога псуе. Я, як дырэктар, па доўгу сваёй службы, маю права рабіць настаўнікам заўвагі. Яшчэ горш: перад намі канкрэтны вучань. Галавацкі. Ён непаседлівы. Ён, мусіць, і памрэ такім. Да яго патрэбен, так сказаць, свой, індывідуальны, падыход. Што ж вы думаеце: ваша двойка зменіць яго характар? Ніколі. А веды ў яго нейкія ёсць, трэба яму даць гэтыя веды і ацаніць правільна. Не, я не згодзен з вамі, як вы сабе хочаце. І другое да вас пытанне: як вы глядзіцё на работу яго на ферме? У нас з Іванам Іванавічам, як вы можаце меркаваць, погляды на гэта дыяметральна процілеглыя.

Бусел павярнуўся за партай тварам да Івана Іванавіча.

— Разумна вы зрабілі, Іван Іванавіч, што ўламалі яго хадзіць на ферму памагаць мацеры. Чэснае слова, разумна.— Тады, павярнуўшыся да дырэктара: — Яму толькі і працаваць на ферме. Дзе ж яму яшчэ працаваць? Але каб у школу не хадзіў. Можа б, мы пражылі даўжэй.

Бусел сеў, паклаўшы перад сабой паперку, і глытнуў сліну. Апошнімі сваімі словамі ён як бы сказаў: «Далікатна трэба гаварыць пра далікатнае. А пра такіх, як Галавацкі, можна сказаць яшчэ горш».

Зярніцкі ўсміхаўся. Яму здавалася, што пахвальба Буслам Ігнатовіча была не існай, у яе Бусел уклаў як бы адваротны сэнс. А што датычыцца, «каб у школу не хадзіў», дык тут і дурню ясна: звычайная гіпербала, ужытая адносна недысцыплінаванага вучня. Таму Зярніцкі і сказаў:

— Правільна, Аляксандр Веніямінавіч. Выхоўваць трэба на прыгожым. Адзін вялікі чалавек сказаў: «У чалавека ўсё павінна быць прыгожым: і твар, і вопратка».

Ігнатовіч павінен быў узяць слова, і ён яго папрасіў.

Ідучы да стала, памацаў гальштук, ці не скрывіўся, і,

залажыўшы рукі назад, прадэкламаваў з добрай дыкцыяй вытрымку з верша. Усе настаўнікі ўважліва глянулі на яго. Твары іх пamaладзелі. У голасе Ігнатовіча і ў словах, якія ён гаварыў, заўсёды было штосьці прыцягальна-свежае. Яго прыемна было слухаць — ні адной фальшывай ноткі.

— У вершы вялікага паэта вяршыня прыгажосці — праца і барацьба з ворагамі. Прынамсі, тое, дзеля чаго існуе наша школа, усе нашы намаганні. Прыгожы фасад — гэта не прыгажосць, а так сабе, часамі такую прыгажосць называюць сусальнасцю. Словы Чэхава, прыведзеныя Раманам Пятровічам, я ведаю. Разумець іх трэба не ў адной плоскасці, а ў суадносінах усіх годнасцей чалавека. Праца стварыла чалавека, і чалавек не павінен зракацца яе, каб не перастаць быць чалавекам. Я не баюся абвінаваціць нашу сучасную школу ў тым, што яна адгарадзіла дзяцей ад працы. Тое, што ёсць у праграмах па працы і па фізкультуры, недаравальна мала. Вялікія фізічныя і псіхалагічныя страты нясе чалавек, калі не працуе з дзяцінства. Я не паслаў Галавацкага на ферму. Няпраўда. Якое права я маю пасылаць? Я прыгледзеўся да яго, пагаварыў з ім і параіў памагаць тадысяды на ферме матцы. Яму далі спяцоўку — гумавыя боты, халат,— і ён так стараецца, каб вы толькі бачылі. Я спецыяльна хадзіў на ферму паглядзець, што ён там робіць. Памагае. Добра памагае. Здаецца, яму толькі і не хапала гэтага — працы. Яго шчырасць у працы я заўважыў і тады, як школа хадзіла ў саўгас бульбу капаць. Сваю баразну вядзе, дзяўчынкам вёдры памагае насіць. Агонь, а не хлопец. Нашы дзеці не заўсёды ведаюць, што робяць іх бацькі. Як ім даецца хлеб. Хай ён пабудзе з маткай тады, калі яна працуе. Нішто так не збліжае людзей, як сумесная праца. У яго будзе больш спагады да яе. Спагада да бацькоў — пачатак вялікай чалавечнасці. Трактарыст Жук спрабуе даваць яму руль трактара. Ну і што? Дрэнна? Не лічу. Жук — кавалер трох ордэ-

наў. Апошні — ордэн Леніна. Лепшы механізатар раёна. Не толькі раёна. Неаднаразовы пераможца рэспубліканскіх конкурсаў на лепшага аратага. Апошняя яго прэмія — матацыкл з люлькай. Можа такі чалавек пашкодзіць юнаку? Ніколі. Я не кажу, што я, як класны кіраўнік, усё раблю правільна. Не памыляецца той, хто нічога не робіць. Не кажу, што ў мяне з Галавацкім (мусіць, і сынам і бацькам) усё ўжо закруглілася. Уся работа з імі, мусіць, уперадзе. Але ў дадзеным выпадку, што ён стаў памагаць на ферме мацеры, я рад. Вось так, Раман Пятровіч,— Ігнатовіч глянуў на дырэктара і пайшоў паціху на сваё месца за парту.

— Та-а-к. Ну, ясна, ясна,— сказаў дырэктар і звярнуўся да настаўнікаў: — Наступны хто?

Руку падняў Стык.

— Сідар Максімавіч? Калі ласка. Просім.

Сказаў Зярніцкі глухавата, быццам не цікавілі яго наступныя выступленні. А працягваць гаворку з настаўнікамі трэба было. На словах ён згаджаўся, што ўсякі чалавек у рабоце можа памыляцца, а ў душы ніяк не мог адчуць, што памылкі гэтыя могуць быць і ў яго, кіраўніка школы. Ён імкнецца шмат чытаць, бачыць. Бывае ў другіх школах, раіцца ў райана, у райкоме партыі, у аблана. Кіраўнік павінен далей бачыць, чым яго падначаленыя, бо ён павінен іх весці, пры гэтым куды і як весці, а яны павінны толькі ісці, самі не збіваючыся і другіх не збіваючы з нагі. Хто яго ведае. Калі кіраўнік памыляецца, тады яму цяжка.

Стык быў у шэрым касцюме з зялёным адценнем, у мяккіх цёплых чаравіках, у джэмперы пад пінжаком і ў бардовай цёплай сарочцы, на якой вельмі добра высвечваліся да самой шыі белыя гузікі. Высокі, але кашчавы. Цёмныя валасы на галаве не прысліжваліся, а ляжалі пасмамі туды-сюды.

— Я, таварышы, шмат гаварыць не буду.— Ён падняў далонь рукі і нібы ўтрамбоўваў ёй перад сабой павет-

ра — знак таго, што доўга гаварыць не будзе.— Ну, вы ведаеце, што я ўсё раблю сам. І пабудаваўся. І карову кармлю — кашу сена. Люблю працу. Нас было шэсць братоў і адна сястра. І ўсе мы такія — любім працаваць. І на паляванне хаджу, рыбу люблю палавіць. Грыбы бяру. Змалку мы дома рабілі ўсё чарадой, з бацькам. Іван Іванавіч сказаў правільна. Я таксама назіраў за ім, гэтым самым Тарасам, як капалі бульбу ў саўгасе. Калі б школа была будаўнічай арганізацыяй і трэба было выбраць лепшых рабочых, ён быў бы адзін з лепшых.— Сідар Максімавіч растапырыў рукі і махнуў імі перад сабой.— Не гультай і не хітрун — гэта раз. Самае галоўнае! — Сідар Максімавіч на ўзроўні свайго вока памахаў указальным пальцам.— За бацьку трэба ўзяцца, безумоўна. Падціскаць і падціскаць памаленьку. У сельсавет паклікаць. У міліцыю. Камень і той мелюць, Раман Пятровіч.

Стык пайшоў на сваё месца.

Зярніцкі глянуў на столь, на сцены.

— Камень малоць лягчэй, Сідар Максімавіч. Там механічная сіла машыны, і ўсё, болей нічога і не трэба. А тут? Чалавек ён. Характар чалавека складаецца паступова. І дыктуецца пэўнымі абставінамі. Вы думаеце, вайна, акрамя таго, што ён інвалід, не лягла на яго псіхіку?

— Ой, воечкі,— кінула рэпліку з месца Вера Макараўна.— Майму бацьку нагу ў вайну адбіла. Ён п'янствуе? Мала цяпер інвалідаў з вайны?

Толькі Зярніцкі хацеў нешта сказаць Веры Макараўне, як слова папрасіў Станіслаў Вакулавіч Бондзік.

Ён падняўся за партай, вылез на праход і, склаўшы рукі на грудзях, з ледзь улоўным дрыжэннем у голасе, пачаў:

— П'е, так сказаць. А што чалавеку рабіць? А? Куды, так сказаць, сябе падзець? Чаму яму работу якую не даць? Інвалід? Паставіць яго, так сказаць, вартаўніком дзе-небудзь. Можна? Можна. Але ў нас ужо, так ска-

заць, склалася нядобрая звычка: пенсіянер — ну і варыся ў сваім уласным саку. Заняць чалавека, так сказаць, трэба было. Прыгарнуць. На ласку чалавек адкажа ласкай, а на грубасць — таксама грубасцю. Чалавек бача, што ён нікому не трэба, і яго пачынае браць злосць. «Як гэта: я ваяваў і нікому не трэба?» Ну, і напіваецца. І яшчэ, так сказаць, адно пытанне ў мяне. Тут гаварылі пра твар і пра вопратку. Я лічу гэта дзяцінствам. Пра чалавека трэба меркаваць па яго працы. А падфарбоўвацца... навошта? — Ён разняў на грудзях рукі, як бы ўкрадкі глянуўшы на сваю нязменную талстоўку-плюшаўку, на штаны і боты, і сеў.

Зярніцкі крутнуў галавой, але не засмяяўся.

## 20

Педсавет пакідаў Бондзік незадаволеным. Выступаў, а сказаў не ўсё, мала. Вось неяк яно заўсёды атрымліваецца: хочацца выказаць думку вялікую, выступіш — маленькую частачку выказаў замест таго, што хацелася. Мыш, а не думка. А стаяла гара. Гара радзіла мыш. Дзіўна, яй-права...

...Празвінеў званок з урока. Заняткі скончыліся. Дзятва вываліла на вуліцу. Хлопчык паставіў на зямлю партфель, адшпіліў і, нешта выклаўшы з яго на ўзбочыну, хутка пабег, трымаючы партфель пад пахай незашпіленым. Бондзіка ўзяла цікавасць: што ён такое выгрузіў? Хлеб, памазаны маслам і загорнуты ў паперыну. Каб дома не сварыліся, чаму ён не з'еў бутэрброд, хлопчык яго выкінуў.

Хлопчык не галодны, ясна. Але ён ведае, чаго каштуе хлеб і тое самае масла?

У дзяцінстве Бондзік ніколі не пад'ядаў хлеба. Пасля яды за сталом маці ўкруціць бохан у абрус і паложыць на самую высокую паліцу, каб ні адно дзіця не дастала.

Сусед, у якога не было сваіх хлапцоў, кажа аднойчы: «Слава, вадзі пакуль што пасвіць маіх коней. Буду табе даваць у торбу лусту хлеба і кавалак сала як пад'есці».

Спакуса была неадольнай. Згадзіўся. Коні, выйшаўшы з пуні на вясновы прастор, пайшлі ўподбрыкі, і Станіслаў, разам са сваёй торбачкай на баку, у якой былі хлеб і сала, моцна выцяўся на зямлі абневашта. Мажа, з тыдзень бок балеў, хадзіць нельга было. А калі ачуняў, зноў павёў тых жа коней толькі за адзін хлеб, што давалі ў торбачку.

Пакуль не стаў на свае ногі, не паехаў з дому, хадзіў з бацькам на работу ўступня...

«...Яўгена Мікітавіча адправілі на пенсію. Добры быў настаўнік. Выключны. Праўда, ён не хацеў ісці, хацеў працаваць. Але калі сказалі: «Ідзі», ну не сказалі, а далі зразумець, каб ішоў, ён не мог не пайсці. Якая праца, калі тваёй працы не хочуць?

Пяты год ходзіць, як тручаны. Дзе тая жартаўлівасць падзелася. Так любіў з людзьмі пагаварыць. Дужы, не хворы, пісьменны, а нікому не патрэбен.

Не, калі б Галавацкі працаваў, канешне, быў бы лепшым. Бачыць, што ты нікому не патрэбен і вітаюцца з табой толькі таму, што ў дадзеным выпадку нельга не павітацца,— цяжка. А калі яшчэ ў чалавека характар круты, можна чакаць грубасцей. Грубасць — адказ чалавека за няўвагу да яго».

Дома жонка штосьці пісала.

Бондзік здагадаўся:

— Пісьмо Ларысе?

— Ты ж не напішаш.

Жонка працавала бухгалтарам у сельпо і ніколі нічога дома не пісала, акрамя пісьма дачцэ, якая жыла ў Мінску.

— Стык прасіў, каб яна прывезла, як будзе ехаць на свята, пачак з пяток добрых папярос. «Казбеку». Напішы.

— Што там на педсавеце? — запытала жонка, запячатваючы пісьмо.

— А што там магло быць? Як звычайна. Выступалі, спрачаліся. Галавацкага выклікалі.

— Што ён?

— Ён ёсць ён. Каб яго дзе на работу якую паставілі, і Галавацкі быў бы як Галавацкі. Я, так сказаць, і прапаноўваў гэта на педсавеце.

— Табе трэба было ўмешвацца. На пенсію хутка. Маўчы. Цягні сваю геаграфію памаленьку.

Бондзік глянуў на сваю не так вялікую, як вельмі каштоўную па падборы кніг бібліятэку географа і ўхмыльнуўся:

— І ты ўжо рыхтуеш мяне на пенсію? А ці ведаеш ты, што такое пенсія?

— Чаму не ведаю. Будзеш сядзець, чытаць. На прагулку сходзіш. Будзеш мне па гаспадарцы памагаць. Добра!

— Добра. А ты пагавары з Яўгенам Мікітавічам. Ён табе скажа, ці добра. Учарнеў. Як зямля. Пенсія — той свет, адкуль не вяртаюцца. Я не пайду на пенсію, пакуль буду магчы. Чалавек павінен жыць для людзей. Павінен прыносіць карысць ім, пакуль жыве. Навошта мне тады чытанне тое, калі я не буду працаваць? Каму я буду аддаваць свае веды? Нябожчыкам панясу?

— А людзі ж дужа хочуць на пенсію.

— Нічога ты не ведаеш, Марыя. Хоць і сама ўжо...

— Я адразу пайду.

— Ты як наш дырэктар.

— Што дырэктар?

— Зялёны. Верхагляд. Нахапаўся збольшага.

— Малады, канешне. Можа, і памыляцца. Затое энергічны.

— Э-э-э, калі гаварыць пра энергію, дык яе, так сказаць, больш за ўсё ў вераб'я. Але верабей ёсць верабей і ніколі не будзе буслам. Людзі ў кірзавых ботах, у ва-

тоўках нас кормяць. Перад імі трэба шапку знімаць. А ён? Што ён разумее?

Бондзік пачаў падбіраць патрэбныя кнігі, каб сесці за стол і пачаць пісаць рабочыя планы на заўтрашнія ўрокі.

Жонка не пытала ў яго больш нічога — сёння чалавеку няма часу.

## 21

Пераапрануўшыся ў хатнюю вопратку, Зярніцкі сеў на стул, аблокціўшыся на стол, і нічога не думаў. Работа ёсць работа. Пасля яе і ў галаве, і ў целе адчуваецца стомленасць.

Крыху адпачыўшы, ён устаў са стула і чамусьці падумаў пра жонку. У чыстых адпрасаваных накідках тэлевізар, радыёла, тры ложкі ў спальні, якія відаць былі праз адчыненыя туды дзверы. Жончыны рукі наводзілі тут парадак, прычым тады, калі Зярніцкі пайшоў ужо ў школу. Ён раней за яе ішоў з дому, хоць афіцыйна і яе і яго рабочы дзень пачыналіся ў адзін і той жа час — з дзевяці гадзін. Работа на работу не падобна. Зярніцкі гэта ведаў. Жонка к дзевяці толькі ўпраўлялася дома. Тады вяла сына ў дзіцячы сад. Тады ўжо ішла на работу. Работа ў бухгалтэрыі не па званку. Зрабіў чалавек сваё — і добра. Спраўляецца з работай? Спраўляецца.

А ў школе да дзевяці лінейку яшчэ вучнёўскую правядзі, а ў дзевяць празвініць званок на ўрокі.

Зярніцкі глянуў у акно на вуліцу. Цераз вуліцу відаць быў шматваконны будынак сельсавета. Злева высілася скульптура, пастаўленая ў памяць ахвяр Вялікай Айчыннай вайны. Кветак у кветніку пад вокнамі будынка сельсавета ўжо не было. Ад іх засталася або чорная сухая націна, або цёмная зеляніна, якая лягла на градкі абы-як, як палажыў яе першы мароз.

«Эт ты. Распрануцца пасляшыў. Зусім з галавы вылецела. Трэба зайсці ў сельсавет да старшыні Булойчыка ды пагаварыць наконт Галавацкага. На сесію трэба яго выклікаць, канешне. Можа, яшчэ якія ў Булойчыка будуць кандыдатуры. Цюхая з Ялоўкі таксама трэба было прабраць. Чаго ж мы чакаем. Так, Цюхай можа не прыйсці. Добра, гэта мы з Булойчыкам памяркуем, як лепш зрабіць».

На вуліцы часамі праходзілі людзі, гулі машыны, трашчэлі матацыклы.

За сельсаветам над паркам кружылася вялікая чарада варон, то садзячыся па адной на дрэвы, то зноў узлятаючы ў паветра.

Зрання было сонечна, удзень неба зацягнула хмарамі, і вароны рады былі, што яно мутнае, і дралі свае горлы.

Зярніцкі схамянуўся: «Трэба абедаць. Што ж я?» — і палез з вілкамі ў печ.

Па страве ў чыгунках убачыў, што жонка паабедала ўжо. У іх, у канторскіх работнікаў саўгаса, абед з гадзіны. У школе першая змена канчае займацца без дзесяці тры. А пакуль туды-сюды ды дамоў — амаль чатыры.

Пасля абеду доўга лістаў «Ваенныя аповесці» Быкава. Зярніцкі чытаў іх усе, калі яны яшчэ па адной, па меры часу, друкаваліся ў часопісах. І набыў кніжку, дзе яны былі сабраны ў адно месца, як бы стаўшы ў строй. Строй быў бездакорны, прыгожы, строй мужнасці.

Так, была вайна. Колькі тады было Зярніцкаму? Два гады, калі пачалася вайна. Цяпер гэта ўжо гісторыя. Вось так, дарагі Антон Барысавіч Галавацкі. Калісьці ты пайшоў за нас, малых, ваяваць, а цяпер мы павінны рабіць табе праборку — жыць не ўмееш. Чорт яго ведае, як гэта яно так атрымліваецца...

Самае галоўнае ў чалавека — настрой. А яго нешта сягоння ў Зярніцкага і не было. Учарашні педсавет вінаваты? Быццам не было нічога асаблівага. Ну, скубанулі Галавацкага. Ён трохі закапузіўся. Выказаліся настаў-

нікі. Як і ва ўсякіх спрэчках, той — тое, а той — тое. Тут думкі і павінны быць розныя. Час пакажа, чые былі правільныя, а чые — няправільныя. Педсавет як педсавет.

Ужо на вуліцы, калі ішлі з педсавета, Вера Макараўна хітра падплыла збоку і кажа:

— Кажуць, і вы, Раман Пятровіч, нічога сваёй жонцы дома не памагаеце? Праўда?

— Не быў на такой праўдзе. А хто гэта вам казаў, калі не сакрэт?

— Якія тут сакрэты. Галіна Сцяпанаўна казала, што ніколі не бачыла вас у дзіцячым садзе. Ці каб прывялі сына, ці забралі.

— Усё?

— Усё ці не ўсё, самі ведаеце. Я вам не пляткарка.

Так, Галіна Сцяпанаўна. І Іван Іванавіч, муж. І Тарас, і яго бацька. І жывёлагадоўчая ферма. І трактарыст Жук. І гэтыя выказванні на педсавеце ў карысць Ігнатовіча. Можа, каб не ўзяў тады яго, Тараса, у школу? Можа б, і канец быў бы на гэтым?

У хаце асядаў прыцемак. Зярніцкі ўключыў святло. Яно, заліўшы пакой, адразу змяніла ход думак і настрой у гаспадара. Ён рашыў: а ці не схадзіць яму ў дзіцячы сад па сына? «Як і не бацька». Што праўда, то праўда. Сягоння ён будзе бацькам. Пойдзе ў дзіцячы сад і прывядзе адтуль дамоў Барыса. Хай усе ведаюць, і выхавацелі, і дзеці, што ў Барыса ўсё ж такі ёсць бацька, не толькі маці, якую яны прывыклі бачыць. «І на Галіну Сцяпанаўну гляну. Так, збоку, быццам нічога не ведаючы»,— падумаў Зярніцкі.

І пакуль думаў, планаваў, збіраўся пераапранацца, як у хату ўвайшла жонка з сынам.

— Во праява. Толькі думаў у сад па Барыса ісці, а вы ўжо і дома.

— Можна паверыць,— азвалася жонка.

— Праўда, думаў.

— Нехта вялікі ў лесе здохне. З якой бы гэта нагоды?

— Ніякай нагоды. Вера Макараўна ўзяла на прыцэл: нічога табе дома не памагаю. Гэта так, Раечка, ці паклёп на чэснага чалавека?

— Што, не падабаецца? Чужыя недахопы лягчэй убачыць, чым свае.

Не паспеў Зярніцкі адказаць жонцы, як яна, апранутая ўжо ў хатні халат, загрымела віламі ў печы і выняла адтуль чыгун з бульбай.

— Ідзі патаўчы і занясеш кабану. А то я ды я, калі не хочаш, каб людзі пра цябе гаварылі.

— Табе ж планы ўрокаў не трэба пісаць?

— Напішаш, як мы з Барысам спаць будзем. Белаbuilding ручка.

І Зярніцкі тоўк у бляшанай балейцы паджалеўшую за дзень у печы бульбу, а жонка мыла посуд.

Калі памыла посуд, уліла памыі ў балейку, усыпала туды мукі, перамяшала ўсё гэта рукамі і, пералажыўшы цеста, таксама рукамі, у вядро, сказала мужу:

— Нясі.

Занёсшы кабану цеста, ён бразнуў на кухні, стаўляючы яго, пустым вядром.

— Што яшчэ?

— Запалі газ і пастаў гэтую во каструлю з вадой.

— Навошта?

— Рыс малочны звару.

Жонка парадкавала ў шафе толькі што памыты посуд.

У гэты час загрымеў тэлевізар. Барыс глядзеў ужо мультфільм. Ён ведаў, калі ідуць мультфільмы, і ўмеў уключаць тэлевізар сам.

Барыс стаяў на стуле на каленях, упёршыся локцямі ў стол і падпёршы рукамі бараду, калі да яго падышоў бацька.

Па экране бегалі дужа смешныя звяры, якіх не бывае ў сапраўднасці, якіх можа выдумаць толькі мастак і пусціць на экран на радасць і здзіўленне дзецям.

А калі вячэралі, Зярніцкі гаварыў жонцы, разважліва

і стрымана, каб сын не падумаў, што тата з мамай сварацца:

— Вера Макараўна кідала мне на вочы, што ты раз дома не начавала — выгнаў я цябе. Праўда гэта?

— А ты не ведаеш?

— Я то ведаю. Але ж дыму без агню не бывае. Недзе нешта ляпнула.

— І не ляпнула. Чаму ты думаеш, што ляпнула? Не маленькі, здаецца, кніжкі чытаеш.

— Каб хацела, і ты б чытала.

— Чытай, калі і так, як белка ў калясе. Вунь мыцця наскідала цэлую кучу. У лазню ж ходзіш?

— Гультай заўсёды прычыну знойдзе,— засмяяўся Зярніцкі.

— Дапусцім, праўда. Я толькі казала раз, што са сваім пасварыліся, чуць вон не выгнаў. Вунь тады, як Барыс вазу разбіў. Ты ж яго раздурыў?

— Я не я, а людзі пачулі «выгнаў». Людзі ёсць людзі. Не дай бог папасці на язык Веры Макараўне.

— А што Вера Макараўна?

— Загрызе, во што Вера Макараўна.

— А і няпраўда. Яна жанчына справядлівая.

— Слухай: яна ж мяне ўжо...

— Што?

— Ідзём з педсавета. А яна мне аднаму: «Пятровіч, дабяруся я да цябе калі-небудзь. Казалі, ты дома жонцы сваёй вады з калонкі не прынясеш». І яшчэ мне такія-сякія закіды. А ёй, ведаеш, хто гаварыў? Галіна Сцяпанаўна.

— Ну, і што тут такога?

— Я — нічога. Плёткі — як гадзюка ў траве. І не відаць было, а ўкусіла.

— Гэта калі пляткарства. А калі не пляткарства, а проста гамонка? Май на ўвазе, што жанчыны — народ справядлівы і абы-чаго на чалавека яны не наплятуць.

— Добра, хай твая Галіна Сцяпанаўна і справядлі-

вая. Я, скажам, сына ў сад не ваджу. Ты водзіш. Яна бача гэта, яна і гаворыць, што бача. А яе ж салодзенькі Іван Іванавіч пайшоў да Галавацкага пра сына пагаварыць. Той яму графін самагонкі на стол. Частуйся, настаўнічак, вучы розуму майго сыночка.

— Не разумею, што ты хочаш сказаць?

— А тое, што ты чуеш. Я не магу сабе ўявіць, каб настаўніку ставілі самагонку. Які ён пасля гэтага будзе настаўнік? Што ён можа дзецям гаварыць? Дзяцей трэба выхоўваць прыкладам. І толькі прыкладам.

— І што: Ігнатовіч нарэзаўся гэтай самагонкі? Ракам, можа, поўзаў?

— Захацела яшчэ чаго.

— А ты чаго захацеў? Усе людзі ведаюць, што Ігнатовіч не п'яніца, не самагоншчык, зусім, зусім прыстойны, добры настаўнік. Не ён жа ставіў на стол самагонку? Гаспадар паставіў? А ты хочаш — пі, а хочаш — не пі. Гаспадар частуе, як умее. І тым, што мае. Што Ігнатовічу было рабіць: у морду Галавацкага біць? Міліцыю выклікаць? Не, я цябе, Раман, не разумею.

— І за стол не павінен быў садзіцца.

— Тфу! — быццам плюнула далоў жонка.— Як я вучылася і праводзілі два настаўнікі з вашай жа школы бацькоўскі сход у нашай вёсцы, бацька мне і кажа: «Рая, запрасі настаўнікаў да сябе. Хай паглядзяць, як мы жывём. Пааобедаюць. Нябось зрання ж не елі». Я запрасіла, і яны прыйшлі. Пасядзелі, пагаварылі. І паабедалі. І бацька гарэлку ставіў. Думаеш, што-небудзь здарылася? Анічога. Я яшчэ лепш пачала ўрокі вучыць. Як падумаю, што настаўнікі былі ў нас у хаце, за сталом сядзелі, ведаюць майго тату і маму, дык вучу-вучу, каб не сорамна было ім у вочы глядзець.

— Хто?

— Яны ўжо на пенсіі.

— Былі часы, калі настаўнікам дамоў вучні каўбасы насілі. Старая звычка. Не будзем аб гэтым гаварыць.

Ты яго хваліш — хвалі. Во што ён яшчэ зрабіў. Угаварыў хлопца, каб той мацеры на ферме памагаў. Яна працуе даяркай.

— Чула я пра гэта. І пра ваш педсавет.

— Ужо?

— А чаму? Далёка тут? Правільна зрабіў Ігнатовіч. Хай памагае. Менш будзе каля клуба бегаць. Вунь Аксінніна дзеўка мацеры памагае. У дзевяты клас, здаецца, ходзіць. А Бурая Ліда набярэ дзве групы цялят і пасе іх з дзяцьмі лета. А Самраковы хлопцы? Цэлае лета на конях робяць. І брыгадзір у ведамасць уключае іх, і мы ім грошы плоцім. Не ведаў ты?

— Рая, неразбіраха ты. Што ты блытаеш боб з гарохам? Гэта якія вучні? Нармальныя. Звычайныя дзеці. Яны і ў школе звычайныя. І нічога з імі не здарыцца. Я гэта сам добра ведаю. Хай працуюць на здароўе. А Галавацкі? Ён і на трактар, ён і пад трактар. Ён абавязкова што-небудзь адколіць. Я за яго так баюся. Чаму Шалай вытурыў са школы-інтэрната? Я Шалая добра ведаю. Ён быў у нас калісьці першым сакратаром райкома камсамола. Разумны такі. Убачыў, што падвядзе яго гэты Тарас. Я не разбіраюся, па-твойму?

— Баішся, што з дырэктара здымуць? Нічога страшнага. Радавым будзеш. Як і ўсе людзі.

— Пры чым тут радавы ці нерадавы? Тут галоўнае — лінія. Каб лінія была правільная, якую ты выбіраеш у падыходзе да чалавека. Партфель тут не мае ніякага значэння. Ты згодна са мной?

— У Барыса спытай,— глянула на сына маці і засмяялася.

Устала з-за стала і пачала збіраць посуд.

Яшчэ адна злосць была ў Зярніцкага на Ігнатовіча. Але Зярніцкі не сказаў аб гэтым жонцы, хоць думаў сказаць. А сёння яна не падтрымала яго. І не падтрымае, ясна.

Можа сказаць: зайздрасць, рэўнасць.

Не, не, не: паводзіны Ігнатовіча ў адносінах да Каці (на людзях, пры настаўніках, пры вучнях) нейкія не такія, якія павінны б былі быць з боку сталага чалавека. Ды які ён сталы?

Вершыкі, флірт...

## 22

Уночы выпаў снег. Ніхто не бачыў, як ён ішоў, спалі людзі, а ўсталі — бела. Ён ляжаў на платах, на дахах, на ўсёй зямлі, здавалася. У паветры пасвятлела і нібы пасвяжэла.

Першымі ступілі на яго і праклалі сляды свае аж на ферму даяркі. Рабочы дзень пачынаецца ў іх рана, гадзін з шасці.

Потым прайшоў па вуліцы трактар «Беларусь», пакінуўшы на снезе ад гумавых колаў дзве роўненькія, як два паясы, дарожкі.

Потым пайшлі вучні, настаўнікі. Школа засвяцілася, загаманіла.

Калі ў настаўніцкую зайшоў Стык, там ужо быў Бондзік.

— Зіма, Станіслаў Вакулавіч!

— О гэтак, зіма, сказалі. Рана. На маім вяку ніколі зіма ў гэты час яшчэ не лажылася. Так, зазімак. А зазімкі бываюць. Раней яшчэ бываюць.

— А калі замарозіць?

— Адпусціць. Цыклон туды, цыклон сюды. Проста атмасферная няўстойлівасць.

На другім перапынку зайшла ў настаўніцкую Тарасава маці.

— Што? — першым сустрэў яе Ігнатовіч.

— Майго няма ў школе?

— Няма. Дзе ён?

— Не начаваў дома. Голы, без шапкі, у адной сарочцы выскачыў з хаты.

— Білі? — здагадаўся Ігнатовіч.

— Бацька за дзённік, а там двойка. Ён яго... З-за цябе, кажа, каб мяне прабіралі?

— Хто ж яму двойку паставіў?

— Не ведаю.

Ігнатовіч пачаў гартаць журнал сёмага класа.

— Не шукайце. Я яму двойку паставіў. Па прыродазнаўству,— адказаў Бусел.— Клін клінам трэба выбіваць. Адлупцаваў бацька, і варта. Няма розуму, дык трэба ўстаўляць. Можа, пасля дзякуй скажа.

— За такую педагогіку? — усміхнуўся Ігнатовіч.

Буслу не спадабалася яго ўсмешка.

— Ліберал вы, як я гляджу, Ігнатовіч. У вас жа свой сын ёсць. Цікава, як вы будзеце яго выхоўваць? А вам жа яшчэ шмат трэба працаваць у школе. Вы яшчэ зусім маладыя. Можна сказаць, сын мой.

Бусел засоп, што было прыкметай яго ўзбуджанасці. І да маці вучня Галавацкага:

— Я ведаў адну сям'ю. Быў во гэтакі, як ваш. Дома не начаваў. Не вучыўся, не слухаў. З бандай зладзейскай знюхаўся. Дык яны яго ў калонію здалі. Пайшлі ў міліцыю, афармілі, як трэба, і здалі. Што з ім было рабіць?

Жанчына нічога не адказала настаўніку.

— Дармо,— сказаў Ігнатовіч, устаўшы з-за стала і ложачы класны журнал на месца, у нішу,— ні ў калонію не будзем здаваць, ні ў міліцыю не пойдзем. Ён жа не злодзей? — глядзеў ён жанчыне ў вочы.

— Не, ён не памаўзлівы. Навошта я буду казаць. Толькі неўхалодны такі,— ажывілася яна.

— Не трэба было біць. Э-э-э, бойка не кожнаму прыстае. Ён ласку любіць. Я заўважыў: як добра з ім пагаворыш — адразу мяняецца. Вы ж самі ведаеце: работу любіць.

— На работу яго не праганяць. Любіць работу,— пацвердзіла маці і паківала галавой.

— Голы, кажаце, выскачыў? Без вопраткі?

— Голы. Як у хаце быў, так і выскачыў.

— Далёка ён, я думаю, не збег. Можа, дзе ў каго на печы сядзіць?

— Добра, калі дзе ў хаце. А як у сене ці ў саломе?

— Тады можа прастудзіцца. Бачыце, што на двара? Снег. Трэба шукаць. Мабілізуем сваю піянерыю.

Празвінеў званок на ўрок.

У настаўніцкую ўвайшла піянерважатая Каця.

— Кацярына Міхееўна, Галавацкі знік. Ні дома няма, ні ў школе. Трэба папытаць у дзяцей, можа, дзе хто бачыў яго.

Ідучы на ўрок па доўгім калідоры школы, Ігнатовіч думаў: «Яго білі, і ён ратаваўся. Зразумела, бацька жорсткі. У чым, уласна гаворачы, віна падлетка? Што на свет нарадзіўся? Не штурхайце яго, паважайце, і ён будзе чалавек, як і ўсе людзі».

І Ігнатовічу шкада зрабілася хлапца. Ён адчуў яго дзяціную цеплыню, шчырасць, быццам вучань быў побач, дакранаўся да настаўніка сваім целам, душой. Так, Тарас ніколі нічога не ўтойваў ад Ігнатовіча.

А на двара, за вокнамі, пачынаў церушыць снег. Зазімак.

# ВАЛУНЫ

## 1

Я выйшаў з вёскі, прайшоў з паўкіламетра і сеў на адзін з валуноў, якіх тут многа было паўз дарогу. Іх пасцягвалі з поля трактарам, каб не перашкаджалі ні баронам, ні плугам.

З цягам часу іх парвуць, забяруць куды-небудзь на будоўлю або патрушчаць на шчэбень.

З аднаго боку, я — селянін і рад, што ўрэшце ачысцілі поле ад камення, з другога боку, я — гісторык, і мне прыемна бачыць, што сельская гаспадарка атрымала магутную тэхніку.

Мне казалі: «Начуй», але я не застаўся нанач, мне не было чаго заставацца. Бадай, адзіная нітка, якая мяне звязвала з гэтай вёскай, парвалася. Наўрад, ці буду я цяпер калі ў Быччы.

І вось я сяджу на камені, гляджу на сваё колішняе гняздо збоку, нібы яно ўжо мне не роднае.

Я схадзіў на могілкі, пастаяў каля жоўтага ўзгорачка зямлі з белым сасновым крыжам — магілкі дзеда, зайшоў у былы свой двор і хату, дзе цяпер абсталявалася са сваімі рэчамі чужая сям'я, і ўва мне нібы нешта закамянела. Чужое, усё чужое. Далёкая радня, знаёмыя,

суседзі — не тое што дзед і баба. Жывучы далёка ад іх, я адчуваў іх, як адчувае чалавек кожны свой палец (ці на руках, ці на нагах) і можа ім у любы час пакратаць.

Я пачаў думаць, і перада мной паплылі кадры яшчэ не вельмі вялікай маёй жыццёвай аповесці.

## 2

Дзед мой жыў у вёсцы, прадзед — таксама. Бацька жыве ў Мінску, працуе механікам у аўтагаражы. Але гараджанінам ён зрабіўся пасля вайны. Не было за што ўчапіцца ў вёсцы. Глянуў, як вярнуўся з партызанаў, на чорнае цяпелішча, дзе згарэла хата, і падаўся ў Мінск. «Усё роўна дзе пачынаць будавацца. У горадзе лягчэй, гурт большы».

Мы з мамай гады са два яшчэ ў дзеда ў Быччы жылі. «Вас бацька кінуў?» — не то ўсур'ёз, не то жартам пыталі ў нас людзі. А мы і самі не ведалі, кінуў нас бацька ці не кінуў.

Маці сабе пускалася ў жарты, гаварыла што-небудзь такое, накшталт: «Яму самому няма дзе пераначаваць, жыве, казаў, у нейкай сабачай пячоры». А да мяне сэнс слоў «кінуў» зусім не даходзіў, я змалку прывык не бачыць бацькі, і такое жыццё, якім мы жылі з маткай у дзеда, здавалася мне зусім-зусім не цяжкім.

А і, скажу, не блага мне жылося тады ў дзеда. Бульбы, гуркоў, морквы, яблыкаў было ад пуза. Карова даілася — дзед усю вайну хаваў яе ў лесе, зімой — у спецыяльным будане, вялося — не ведаю як, я тады над гэтым не думаў — такое-сякое зерне на хлеб, а лапці дзед умеў рабіць з нічога, як які-небудзь чараўнік. Акрамя лыкавых і лазовых, з корду, з вяровак, з гумы, гледзячы якая стаяла на дварэ пара і дзеля каго яны прызначаліся. Зімой, напрыклад, ён шыў мне лапці толькі з корду, бо я, бегаючы ўжо ў школу, бязбожна драў іх на каўзялі.

Якая ў той час магла быць забава для дзяцей, акрамя каўзання? Ні лыж, як цяпер дзеці маюць, ні канькоў, ні футбола, ні валейбола, ні тэніса, ні веласіпедаў, ні турнікоў...

Толькі я разуюся ўвечары і шыбну лапці з анучамі на печ, як дзед за іх і пачне круціць у руках.

— Пакажы, агнісцік, пакажы? Трымаюцца яшчэ ці пракруціў ужо?

Агнісцік — гэта я, на якім усё гарыць, і адзежа і абуванне.

Дзед быў злы, але шкадаваў мяне, як сына, і клапаціўся, каб я быў апрануты, меў на нагах цэлае — не важна, з чаго яно і якое,— каб я быў не галодны і вучыўся, як вучыліся старанныя дзеці. Дзед для мяне ў той час быў як бацька.

Бацька? А ці ведаў я тады, што такое бацька? Калі часамі і наведваўся ўночы дадому, дык мне яго не паказвалі. А можа, ён сам не хацеў, каб я яго бачыў, каб не прагаварыўся пасля перад кім-небудзь, які ён і якая на ім зброя? Дзеці выдаюць сакрэты несвядома. Апамятуюцца, але ўкусі сябе за вуха, позна. Дзеці ў сваіх учынках не вінаваты, як не вінаваты ў тым, што яны не дарослыя, а дзеці.

Правільна, мусіць, рабіў бацька, калі, наведваючыся з лесу дадому, мне не паказваўся.

Але па нейкаму, уласціваму толькі дзецям, пачуццю я ўсё роўна ўгадваў, што бацька быў дома. Нават калі гэта было ўночы і не палілі святла, а я, як меркавалі дарослыя, моцна спаў у пасцелі. Здагадваўся! Па хадзе мамы, дзеда, бабы. Як яны дыхалі, шапталі паміж сабой. Як адпіралі некаму дзверы ў сенцах, як ён потым еў і як ад яго нечым такім пахла. Калі ён асцярожна ступаў па хаце нейкім незразумелым для мяне абуткам, я быў перакананы, што гэта бацька. Часамі падмывала мяне сказаць: «Не шапчыцеся, я чую і ведаю, што прыйшоў бацька»,— але стрымліваўся і нават глыбей пачынаў ды-

хаць — так, каб і дзед, і баба, і мама чулі, што я сапраўды сплю.

Не, дзяцей ашукаць нельга. Той, хто ашуквае дзяцей, ашуквае сябе. Дзеці бачаць далей і глыбей, чым пра іх думаюць.

Пасля вайны бацька ў Мінску, а мы з мамай па-ранейшаму ў дзеда ў вёсцы Бычча, глухой лясной вёсачцы, далёка ад цэнтра і вялікіх дарог. За той дзень, калі ён, бацька, часамі прыязджаў да нас, я не паспяваў зблізіцца з ім, разгаварыцца, угледзіцца ў яго твар, раздурэцца, як часта дурэюць дзеці з бацькамі.

А дзед — дзед быў кожны раз перада мной. Я яго бачыў, я ўсё ведаў пра яго. Я ведаў, дзе ляжыць яго напілак, дзе схавана піла, куды дзед клаў, вяртаючыся з лесу, сякеру. Брусок, шыла, падплятанка, малаток, бабка, мянташка, шмат іншых дробных прадметаў і рэчаў — усё гэта трэба было дзеду, было неад'емнай часткай яго жыцця. Я без слоў навучыўся ўгадваць яго жаданні. Дзед толькі падумае, павёўшы вокам па хаце, пра якую-небудзь рэч, як я падаю ўжо яму. Ён ухмыльнецца сабе ў жоўтыя вусы і скажа матцы:

— Кемлівы ён у цябе.

Так скажа, быццам і я і маці мая былі яму не радня.

Тут псіхалогія, глыбокі сэнс: цану чалавеку накладаюць не свае, а людзі.

Калі дзед чысціў скобляй зробленыя цяслой асінавыя начоўкі або састаўляў у абруч клёпкі, робячы цэбар, я што-небудзь ды і патрымаю яму. Дзед рад, што я памагаю, а я яшчэ больш рад, што ён дазваляе мне памагаць яму. Часам ён даваў мне ручку перакавой пілы, калі трэба было адрэзаць што-небудзь нятоўстае, канец дошкі ці жэрдкі якой. Лучковай жа пілы або нажоўкі не дазваляў нават браць мне ў рукі. Я не разумеў чаму.

Нешта загадала мне аднойчы маці, калі я поркаўся каля дзеда. Адзін канец чапялы паклала на прыпечак, а другі каб я патрымаў. На гэтую чапялу ёй трэба было

цягаць з начовак і вешаць маткі пафарбаваных нітак, каб яны сцякалі. Бабы дома не было, некаму было памагчы матцы. Я агрызнуўся, адказаўшы:

— С-с-са-ма можаш.

Думаючы, што я пад моцнай абаронай дзеда і маці мне нічога не зробіць.

Аднак я пралічыўся. Дзед не толькі не абараніў мяне. Схапіўшы са сцяны, з крука, кордавую дзягу, ён ёй, цяжкай і ліпкай, так пацягнуў па плячах мне, што мяне, як агнём, апякло ўсяго, і я закруціўся вакол самога сябе, то прысядаючы, то падскокваючы, нібы на патэльні.

Маці ка мне.

— Я думала, можа, палец сабе адсек.

А дзед:

— Я пакажу яму палец. Я яму язык адсяку, калі не будзе за зубамі трымаць. Хто табе маці? Хто, я пытаю?— дзед сціснуў кулакі і набліжаўся ка мне сваім тварам, вусатым, ссупленым, з чырвонымі пражылкамі ў вачах.— Старэйшых не слухаць? Мацеры сваёй так гаварыць?

Я сціх, як вады ў рот набраўшы, і, забыўшы на боль, палез на печ.

Не, мне ўжо не балела. І чаго я, дурны, сквіл падняў? Калі б я ведаў, што дзед такі звер (так, дзед — звер, цяпер я ў гэтым быў пераканаfamы!), і ведаў, што ён мяне будзе біць, я б ні піснуў, голасу не падаў бы, і ніхто б не пачуў і не ўведаў, які ў мяне голас.

Стары касматы чорт! Цяпер я не гляну ў твой бок, не пайду да цябе за стол, не падам нічога, калі чаго будзеш шукаць, хоць закруці сваю старую галаву; не патрымаю табе, калі будзеш рабіць новы цэбар, ні абруч, ні клёпку, не вазьмуся за ручку тваёй іржавай пілы, нічога не памагу адрэзаць.

Прыйшла дамоў ад суседа баба, куды яна мела звычку адзін-два разы на дзень хадзіць, каб пачуць, што робіцца на сяле і на свеце. Гэта ў яе было як чытанне газеты ў пісьменных людзей.

Яе здзівіла, што мяне не было відаць на хаце. І голасу майго не было чутна.

— Дзе гэта ён мог дзецца?

— На печы. Дзед папружкай лізнуў,— адказала маці.

— Было завошта ці так?

— Было, мусіць, раз дзед набіў,— адказала маці. У голасе яе я адчуў большае, чым яна сказала. «Будзеце ведаць! Не гэтак яшчэ дастанецца, калі...» Гэта, прынамсі, я пачуў у дрыжэнні голасу маці.

«Біце. Зарэжце, а мне не будзе балець, і я не заплачу». Я так думаў, седзячы ў самым кутку на печы.

— Мароз нанач бярэцца,— сказала баба, пачуў я, і палезла да мяне на печ.

Дзеда ў хаце ўжо не было. Я ведаў, дзе ён. Уссунуўшы на стары кажух шынялёвую світку, ён падперазаўся дзягай, той, якой біў мяне, і паклыпаў сваімі аборачнымі лапцямі, падшытымі кордам, у лес. Там, ведаў я, недзе ў ельніку за ракой, карова. І не адна наша. Многіх з Быхча. Дзед будзе яе карміць. Прынясе вядро вады з рэчкі. Вядро тое ён дамоў не носіць. Хавае там, у лесе. Там у яго недзе і сена ў стозе. І ў другіх людзей стагі ёсць.

Я там ніколі не быў і нічога гэтага не бачыў, але ведаў, што ўсё было так, быццам і быў там і сваімі вачыма бачыў. Таямніцы жыцця дарослых уваходзілі ў маю свядомасць... Я і сам не ведаю як. Як бы ні шапталіся, як бы ні хаваліся, а я ўсё роўна ведаў, пра што яны гавораць, што яны рабілі і што збіраюцца рабіць.

— Па чым ён цябе біў? — запытала баба, узлезшы на печ.— Балюча? Скажы мне, не бойся.

Бабіна ўвага і спагада так расчулілі мяне, што я ніяк не мог утрымацца, каб не пачаць усхліпваць. Усхліпванне было такім моцным, аж скаланала і працінала ўсю маю істоту, самую дробную жылку ў ёй. Я не хачу, а яно ўсхліпваецца і ўсхліпваецца, само, без майго жадання.

— Ён цябе балюча набіў? Хадзі сюды, пакажы мне, любка.

«Любка» ў бабы значыла добры, любы. Я ўсю яе мову разумеў, кожнае слова.

У хаце бралася ўжо на прыцемак, і баба дрэнна бачыла мяне на печы.

— Камкулліца, не бачыш, што ў хаце цёмна? На комінку накладзі.

І гэтае бабіна слова я ведаў. Яно адрасавана было маёй маці, якая, на думку бабы, хоць маці была бабіна дачка, рабіла ўсё надзвычай марудна.

Ці толькі гэткае слова я цяпер дараваў бы бабе! З-за яе, камкулліцы, мяне набіў дзед. Толькі з-за яе!

Маці расклала на комінку. Смалякі разгарэліся хутка, і ў хаце стала відна.

— Ён цябе дужа набіў? — баба на каленях прыблізілася да мяне ў куток і, абдаючы сваім цёплым дыханнем, пачала выпытваць і гладзіць па галаве.

— Ба-а-люча! — адказаў я голасным плачам.

— Дзе ён цябе ўдарыў? Па чым?

— Во тут. Па плячах.

Баба стала мацаць мае плечы, і як толькі кранула тое месца, дзе дзед сekануў, я некалькі раз войкнуў.

— Хадзі, любка, к комінку.

Баба знесла з печы мяне на руках, як маленькага, далоў, к комінку, задрала на маёй спіне сарочку і аж уляк-нулася, некалькі раз плюнуўшы на падлогу.

К цяплу балючае месца на плячах пякло.

— Гэта ж дурань стары, баўкун, гэтак біць дзіця. Ідзі сюды, паглядзі,— звярнулася яна да маёй маці.— Чорная паласа цераз усе плечы. Гад, душы не мець, гэтак рассцервіцца.

Баба была за мяне, на маім баку. Мне і не трэба было зараз нічога.

Я пачуў ад бабы сёння новае слова: баўкун. Што за баўкун? Гэта яна на дзеда гэтак сказала. Ясна, нядобрае слова, раз баба лаяла ім дзеда. А можа, яна сказала «ваўкун»? Не, баўкун, добра чуў, што баўкун.

У школу я пачаў хадзіць у Быччы, а скончыў у Мінску, куды забраў нас з маткай бацька.

Але мне не пашанцавала. Я не перасеў, як некаторыя, з парты школьнай на парту універсітэцкую, аб якой не проста думаў, а трызніў. Я спяшаўся. Спяшаўся на экзаменах, калі адказваў, не надта патрабавальна ставячыся да падбору слоў і выразаў, аддаючы перавагу катэгарычнасці перад разважлівасцю. Спяшаўся перад экзаменамі, калі рыхтаваўся да іх, імкнучыся зрабіць за дзень як мага больш, не думаючы аб глыбіні разумення таго, што чытаў. Па гісторыі, прафіліруючаму прадмету, мне паставілі толькі тройку, убачыўшы ўва мне чалавека ані несур'ёзнага, неўраўнаважанага брахуна, як я пасля зразумеў сваю адзнаку.

Два гады завод... Толькі пасля яго я зрабіўся студэнтам універсітэта — гістарычнага факультэта.

А з дзедам пасля расказанага мной выпадку я паладзіў. Тыдні са два ні ён мяне не чапаў, ні я яго. Асабліва ён мяне зусім не прыкмячаў. Я гляну на яго, а ён, як і на свеце не існуе для мяне.

Пачаў аднойчы дзед састаўляць новы цэбар. Я падышоў да яго, узяўся за абруч і трымаю. Абруч быў арэхавы.

Дзед, не пазіраючы на мяне, сказаў толькі:

— Во гэтак трымай.

## 3

Я падняўся па вузкай каменнай лесвіцы на другі паверх, дзе размяшчалася районa. Я ведаю, што пішу няправільна. Районa — гэта раённы аддзел народнай асветы, значыць ён, а не яно. Ды што зробіш? Так усе гавораць, і так я пішу, як гавораць.

У пярэднім пакоі районa сядзела сакратарка, клапаючы па клавішах машынкі, і яшчэ адзін чалавек, з высо-

кай шавялюрай, у чорных акулярах, плячысты, у карычневым касцюме з караткаватымі і цеснаватымі рукавамі, даўгатвары, з моцным падбародкам.

Павітаўшыся, я падаў яму сваё накіраванне. Адказаў ён ці не адказаў на прывітанне, я добра не памятаю, мусіць, не, але, прачытаўшы накіраванне, ён ажывіўся, глянуў на мяне сваімі акулярамі ў тоўстай чорнай аправе і прыемным нізкім голасам сказаў мне:

— Добра. Зойдзем да загадчыка райана,— і павёў мяне ў наступны пакой, дзе сядзеў загадчык райана.

— На работу да нас, Андрэй Іванавіч.

Пакуль Андрэй Іванавіч чытаў маё накіраванне. (а чытаў ён доўга), я паспеў акінуць поглядам невялікі квадратны пакой. У ім было два акны, на сценах партрэты Маркса, Энгельса і Леніна.

А паўз сцяну злева, як уваходзіш, восем звычайных, з цыратавымі сядзеннямі, крэслаў для наведвальнікаў, пастаўленых шчыльна адно да другога. Мне паказалі на гэты ланцужок крэслаў, і я сеў на адно з іх.

Стаяла ў пакоі таксама высокая шафа. У ёй былі, як потым я даведаўся, асабовыя справы настаўнікаў усяго раёна.

Палажылі ў гэтую высокую шафу і маю асабовую справу з накіраваннем, аўтабіяграфіяй, лістком па ўліку кадраў і загадам аб прызначэнні мяне настаўнікам гісторыі Залескай сярэдняй школы.

Перад гэтым з загадчыкам райана ў нас адбылася нязначная пікіроўка.

— Дык вы прэтэндуеце толькі на гісторыю?

— Дык я гісторык.

— На нямецкую мову ні-ні?

— Не спецыяліст, Андрэй Іванавіч.

— Навошта вы тады пісалі ў лістку, што ведаеце нямецкую мову?

— Я яе ведаю.

— Дык чаму выкладаць не хочаце?

— У лістку я напісаў, што і рускую, і ўкраінскую, і польскую, акрамя беларускай, ведаю. Ведаю так, каб чытаць, разумець гаворку, пагутарыць пры неабходнасці. Але выкладчыкам ні адной з гэтых моў не магу быць.

— Па-мойму, калі ўмееце чытаць, ды разумець, ды гутарыць — што болей яшчэ трэба?

— Факультэт спецыяльны трэба скончыць. А ў мяне яго няма. Я гісторык.

— Гісторыкаў у нас, ведаеце... Многія абы-што выкладаюць.

— Я б не настаўнічаў. Дзяцей калечыць?

— Ну, вы са сваёй званіцы. У нас свая званіца. Вышэйшая. Калі вакуум па некаторых прадметах. Разумееце? Вакуум. Хаця б па той самай нямецкай мове.

— Чаму не разумею? Вакуум — слова лацінскае, абазначае пустату, пустое месца, якое трэба нечым запоўніць. Разумею я.

— Вы, як той Казьма Пруткоў, глядзіце ў корань. Проста паліглот. Вы б нямецкую мову, бачу па вас...

— Не хачу быць коркам, якім затыкаюць дзіркі. А падругое, я хачу быць байцом ідэалагічнага фронту. Дзеля гэтага мяне і рыхтавалі аж пяць гадоў. І яшчэ стыпендыю плацілі. Дэзерціраваць хочаце мяне зрабіць? — пажартаваў я.

— Чаму дэзерціраваць? Вы сказалі: хочаце быць байцом. Баец павінен ісці туды, куды камандзір пашле.

— Загадваеце?

— Не маю права. Прасіць — маю права. Закінеце назад — знойдзеце наперадзе.

— Нічога не будзе. Я не камерсант.

— А я камерсант, па-вашаму? А калі грамадству трэба?

— Грамадству — не.

— Выходзіць, што я раблю неграмадскія ўчынкі?

— Пры чым тут «я»? Не рабіце іх, і не трэба будзе на другіх сердзіцца.

Загадчык райана спачатку нешта хацеў сказаць мне, але запнуўся і злосна кінуў інспектару:

— У Залескую школу. На гісторыю.

Вот так заўсёды ў мяне атрымліваецца. Скажу, а тады і ўбачу: не падабаецца мной сказанае. У загадчыка райана, мне здалося, губы пабялелі.

А можа, не пабялелі? Можа, і былі такія?

Наогул, ён сам быў увесь белы. Занадта белы для мужчыны: як у дзеўкі, валасы, белыя бровы, белы, як у дзіцяці, твар, белая сарочка. Толькі гальштук чорны і пінжак цёмна-сіні. Белы і дасціпны ўвесь, акуратны, як паненка. У нас быў студэнт такі. Некаторыя і клікалі яго так: «Эй, паненка!»

Я не хачу сказаць, што загадчык райана быў чыстаплюй. Не-э. Ён прымаў у сябе ў кабінеце кожны дзень многа інтэлігентных людзей. Яго дасціпная знешнасць — першы яго абавязак.

Інспектар, у акулярах, Сяргей Піліпавіч Піліпчык, некалькі раз пераводзіў свой позірк то на мяне, то на загадчыка райана, пакуль той не сказаў яму надрукаваць загад і аформіць усю маю асабовую справу.

Мы выйшлі з Піліпчыкам з кабінета загадчыка райана ў пярэдні пакой.

— Вы дарэмна...— сказаў ён мне.

— Што?

— Не згадзіліся на нямецкую мову.

— Ну...— Я не хацеў гаварыць на гэтую тэму з Піліпчыкам, і ён зразумеў мяне.

Прадыктаваўшы машыністцы загад аб прызначэнні мяне выкладчыкам гісторыі ў Залескую сярэднюю школу, ён панёс яго на подпіс загадчыку.

Мяне паклікалі зноў у кабінет.

— Вось што, Пётр Фёдаравіч,— гаварыў мне загадчык райана.— Школа добрая, калектыў настаўнікаў стары, вопытны. Дырэктар, можа, чым не спадабаецца, можа, калі чарку вып’е, не зважайце і сквілу не рабіце. Пар-

тызан, перанёс на сваіх плячах многа. Такім людзям мы шмат што даруем. Затое завуч там — о-о-о! Арганізатар. Хай у вас усё будзе як трэба, як у людзей. А то іншы напыжыцца, як вожык, натапырыць усе свае іголкі...

Мне зразумела было, каго разумець пад вожыкам. Гэта быў я. Мараль чыталася мне.

— Не буду вожыкам. Вожык, кажуць, вельмі абмежаваны зрок мае.

— Яй-богу, адкуль вы ўзялі? Не пра вас гаворка.

Голас у загадчыка быў ціхі, як замураваны.

З акна загадчыка райана я ўбачыў цудоўны пейзаж: рэчка, луг са стагамі сена, ужо зялёны ад маладой атавы, сасновы лес за лугам, як бы трошкі задымлены, і над усім гэтым — сіняе жнівеньскае неба.

## 4

Залессе было недалёка ад раённага цэнтра. Па асфальтаванай шашы роўна дзесяць кіламетраў.

Не блага! Яй-права, не блага!

Два разы на дзень ходзіць спецыяльны аўтобус. А неспецыяльных, грузавых — нібы машкары ў паветры. Так і снуюць, так і снуюць.

Я ехаў у аўтобусе цераз той луг, які адкрываўся з акна кабінета загадчыка райана, у той лес, які быў за лугам.

Луг шырокі і роўны. Там-сям на ім былі сажалкі з кустоўнікам па берагах.

Лес! Уй, лес! Я даўно не бачыў такога.

Залессе мне зусім, зусім спадабалася. Глядзі ты! Гэта не вёска, калі сказаць дакладней, курортны гарадок.

Звычайна вёскі выцягваюцца адной сваёй вуліцай. Залессе — не. Тут кварталы, перакрыжаванні, галоўныя вуліцы і паралельна ім негалоўныя. Свой цэнтр з плош-

чай, вакол якой будынкі пошты, некалькі крам, бібліятэка, сельсавет. Ёсць нават культмаг.

Плошча і галоўныя чатыры вуліцы, калі глядзець з плошчы,— брукаваныя. Паўночная вяла на шашу, усходняя на рэчку і луг, за якім быў лес, паўднёвая і заходняя — на палявую роўнядзь.

З захаду да самай вуліцы прымыкаў вялікі і ўжо немалады, увесь пад цяжарам яблыкаў сад. Вуліца, да якой прымыкаў гэты сад, называлася Садовай.

На кожнай сялібе за хатамі і пунямі — таксама сады. Пад кожнай хатай, пад вокнамі — ці бэз, ці рабіна, ці іншае прыгожае дрэўца. Ліпы. Высокія добрыя ліпы на агародах паўз вуліцу. Дзе вы бачылі другую такую вёску?

Я люблю прыроду, і я быў у захапленні, што тут такая прырода.

А школа! Таксама ўся ў зеляніне. Уся яе тэрыторыя, як я потым даведаўся,— тры гектары, была абсаджана ліпамі, клёнамі, таполямі. Тлум шпакоў, вераб'ёў каля шпакоўняў на гэтых дрэвах.

Паўз самы будынак, прысадзісты, доўгі, з вялікімі вокнамі ў зялёных налічніках,— цёмна-сіні, роўным радочкам кустоўнік. Ад яго к вуліцы, амаль да самай алеі — клумбы розных форм з кветкамі.

Усяму хапала цёплага жнівеньскага сонца, святла, над усім было сіняе бяздоннае неба.

Я люблю неба, сіняе бяздоннае неба. Яно заўсёды кудысьці кліча, супакойвае, абяцае, як бы гаворачы: «Будзь чыстым і бяздонна-добрым, як я».

З дырэктарам я пазнаёміўся ў першы дзень майго прыезду ў Залессе. Невысокі, жвавы, апрануты лёгка, палетняму — светлая ў пасачкі тэніска і амаль белыя штаны. Галава голая, загарэлая. Вочы вузкія, чорныя, юркія і зыркія, бяруць у палон, пранізваюць субяседніка наскрозь.

Мне паказалі яго на плошчы, у цэнтры вёскі, каля крам.

5 Зак. 3548

Ад яго моцна пахла табакай. Ён трымаў у левай руцэ паміж пальцамі папяроску, якая дыміла.

Прачытаўшы маё накіраванне з райана, ён закінуў галаву і засмяяўся:

— Во прозвішча! Маё Капач, а тваё Баразна. Ну і прозвішчы, брат, у нас з табой. Я думаў, маладзейшым, сваё перарабіць. Хаця б «Капачоў» які. Але ўжо галава босая — бачыш во, як бубен? — і ён правёў далонню па ёй.— Не буду. Пражыву як-небудзь і Капачом. Ты — малады, твая справа іншая. У цябе ўперадзе, брат...— і ён уважліва, не зважаючы на тое, што я бачу гэта, абмацаў мяне чорнымі калючымі вачыма з ног да галавы.

«Цану вызначае»,— падумаў я, аднак не выдаў гэтых сваіх думак.

— Што ж гэта я, дурань стары, блазнюка з сябе раблю, забываючы на службовы абавязак,— змяніў ён голас, хаця не надта, хутчэй для блізіру.— Па-першае, будзем знаёміцца. Пётр Фёдаравіч? Так напісана ў гэтай паперцы?

— Так,— адказаў я.

— А я Максім Макаравіч,— і ён працягнуў мне сваю руку.

— Я ведаў, што ты прыедзеш. Уласна, не іменна ты. Я ведаў, што да мяне прыедзе выкладчык гісторыі. А які ён — лысы, рагаты — я гэтага не ведаў.

Мне здалося, што дырэктар у гэты час кальнуў сваім чорным вострым позіркам у мой лоб з залысінамі.

— Таму я гэтаму свайму будучаму выкладчыку кватэру добрую абмацаў. Пойдзем. Думаю, што не зганьбіш. Са сталом будзем?

— Са сталом.

— Канешне. Я так, прыблізна, і дамовіўся. Ну! — ён глянуў на мой невялікі чамадан, які я трымаў у руках.

І пакуль мы ішлі, ён паспеў расказаць мне анекдот на тэму гэтага самага «ну».

Відаць, ён любіў анекдоты і расказваў іх як мастак

сваёй справы. Манера пераўвасаблення ў яго была дасканалая, я б сказаў, сцэнічная ў поўным сэнсе гэтага слова.

Недалёка ад плошчы, на вуліцы, якая называлася Партызанская, дырэктар паказаў мне на хату, сказаўшы:

— Тут будзе твая абіцель.

Хата была не новая, шырокая, не раўнуючы квактуха, з расаднічкам пад вокнамі, доўгімі, у зялёных налічніках, з зашклёным акенцам у шчыце. Шчыт быў забіты ў елачку.

Адчыніўшы варотцы-фортку, мы прайшлі па драўляным тратуару на веранду. Яна была не зашклёная, складалася з дашчанага невысокага бар'ера і даху над ёй.

Двор быў падмецены, чысты, не верылася, што гэта ў вёсцы і што па ім калі-небудзь хадзіла жывёла.

Сонца на небе было ўжо недзе на схіле: ад будынкаў двара, платоў і дрэў ляжалі, нібы спалі, доўгія цені.

Пачуўшы нашу гаворку на верандзе, гаспадыня адчыніла з хаты дзверы і запрасіла заходзіць.

Прыемная яна была з выгляду. Невысокая, трошкі як бы згорбленая, у белай хустцы, у каптане навыпуск, у спадніцы доўгай і на складках. Рукі яна трымала сашчэпленымі, наперадзе, на жываце.

Глянуўшы з пярэдняга пакоя хаты, дзе мы зараз былі, я ўбачыў у акне сад, за ім — луг з рэчкай і лес.

Як цудоўна! Можна будзе рыбу палавіць, пакупацца, схадзіць у лес.

Жыццё маё як бы на некаторы час суцішылася і пачало запаўняцца нечым незвычайным, простым і ў той жа час велічным.

Гуркі... Гэта былі не тыя гуркі, супленыя і вялыя, што прадавалі ў горадзе з латкоў і прылаўкаў магазінаў. Пругкія, толькі што з грады, з пахам на ўсю хату, калі разрэзаць або ўкусіць гэты гурок.

І памідоры былі зусім нейкія іншыя — налітыя сонцам, пахучыя.

Укроп, морква, капуста, чырвоныя буракі, рэпка, бручка, вішні, яблыкі і слівы, грушы рознай формы і розных гатункаў, кіёўкі кукурузы, якая расла на градах і якую потым парылі і елі, пажаты і павязаны ў снапы бульбоўнік, які сох дзе-небудзь на сонцы, салома ў ношках, на развазах, у стагах і торпах, грачанка, лён на сцелішчы, разложаны доўгімі роўнымі масткамі — дарожкамі, рыканне кароў, іх сырадойны пах, калі яны неслі з пасты малако ў тоўстых вымях, гагатанне гусей на лузе і хрыпаты крык качак, усплёскі вады на рэчцы ці то ад гульні хлапчукоў, ці ад мыцця бялізны бабамі...

Уночы падалі зоры. Яшчэ задоўга да цемнаты павісаў нізка на небе зусім плоскі, нібы бляшанка, нават нейкага чырванаватага колеру месяц, а потым разгараўся, бялеў і паўнеў, круглеў, і пачыналі падаць зоры. Там упадзе, там упадзе, там упадзе.

Дзіўная была лінія іх падання. Адна пікай прарэжа пасак уніз, другая ледзь чыркане тупую кароткую лінію ўбок, іншая такую выпіша дугу ўправа ці ўлева, аж залюбуешся. У кожнай свой характар, свой почырк.

І, мусіць, свой лёс, як у людзей.

Цераз вуліцу кожны дзень пад вечар, пакуль было цёмна, іграў гармонік. Ціха, для сябе.

## 5

Пайшоў Капач з хаты позна. Ужо наступіла глыбокая ноч.

Правёўшы яго на вуліцу і зашчапіўшы форткі, гаспадыня вярнулася ў хату і пачала прыбіраць са стала — хлеб, талеркі, шклянкі, відэльцы.

Гаспадар корпаўся на кухні за печчу, лажыўся спаць. Там быў палок, як ложак, і гаспадыня з гаспадаром спалі на ім і ўзімку, і ўлетку.

Ён ганяў па пасту. Адбываў за карову радоўку. Стары за дзень нацягаўся і кляваў носам ужо за сталом.

У яго была пышная сівая барада, чырвоныя маладыя шчокі. Сам быў цяжкаваты ўжо, але як збіты, моцны. У ім жыло яшчэ здароўе, і знямогся ён не ад старэчай бездапаможнасці, а ад свайго паўнакроўя.

Гаспадыня цётка Хадора, прыбраўшы са стала і заслаўшы яго крамным, у вялікую шашку абрусам, павяла мяне ў наступны пакой, дзе я павінен быў жыць.

Уключыўшы святло, яна пачала мне паказваць і гаварыць:

— Гэта во вам стол. Чытаць і пісаць будзеце на ім. Калі што трэба, адчыняйце скрынку і лажыце ў яе.— Цётка Хадора высунула і зноў засунула скрынку ў стале, дарэчы, пустую.— А гэта этажэрка кніжкі класці. Галя сюды свае клала.

Галя — настаўніца, якая жыла на гэтай кватэры да мяне. Таксама гісторык. На яе месца прыслалі мяне ў школу.

— Стул вам. Другі, калі хто прыйдзе гуляць.

Стулы былі амаль новыя, з цыратавым сядзеннем.

— Шапа. Адзежу сваю будзеце вешаць. Заўтра я з яе ўсё выберу.

— А можа, жанаты ўжо?

— Не.

— Добра, што нежанаты. Паспееш з козамі на торг. Нажывешся і жанатым. Колькі табе гадоў?

— Дваццаць чатыры.

— Э-э, малады. Вучыўся пакуль. Праўда?

— Вучыўся і на заводзе быў.

— І на заводзе быў?

— Быў.

— Шмат?

— Два гады.

— Ы, не дужа шмат. Добра на заводзе?

— Жывуць людзі, працуюць.

— А табе добра было?

— Не блага.

— Чаго ж ты тады ўцёк адтуль, калі добра?

— Я не ўцёк. Я вучыцца паступіў.

— Усе гэтак: добра, добра, а ў навуку аж пішчаць, лезуць. Каб добра было, не лезлі б. Смярдзіць гарам. Дыхаць няма чым чалавеку. Настаўнікам — добра. Добра жывуць настаўнікі. У чыстаце, у пачоці. А маці ці бацька ёсць дзе?

— І маці і бацька ёсць. У Мінску.

— О, у Мінску. Недалёка. Можаш дамоў, калі захочацца, з'ездзіць. А дзеці шчэ ёсць якія?

— Адна сястра. Меншая за мяне.

— Бач, двое толькі вас. Цяпер няма дужа дзяцей памногу. Даўней, дурні, чародамі пладзілі. Не вучылі, галодныя і халодныя раслі. Ой, гараваў народ даўней. Як падумаеш!.. На гэтай канапе ўдзень калі адпачнеш. Прыйдзеш са школы, паабедаеш, разуешся і паляжыш трошкі. У мяне падушачка маленькая сюды ёсць. Я дам яе табе. Праўда, з курынага пер'я, але мяккая. Я паскубла яго добра. Не гэтак, як у некаторых — з дудкамі.

Канапа была драўляная, самаробная, цёмна-чырвонага колеру.

— Што бацька робіць?

— У гаражы механікам.

— Не на заводзе?

— Не на заводзе. Але гэта тое самае.

— Не гавары: тое самае. Не тое. Ён выйдзе, падыхае, на машыне куды праедзе. Тлум не такі. У нас у саўхозе Ігнат Анікееў механік. Ён мурзаты дамоў прыходзіць, але добра жыве.

— А маці робіць дзе?

— У магазіне тэхнічкай.

— Ну, ведаю: памые, падмяце. Высокая?

— З вас, такая.

— А мой жа кажа, што я малая. Малая я, Пецю?

— Чаго вы малыя? Не малыя вы. Самы рост. І мама мая такая.

— Нос у бацькі, як у цябе? З костачкай?

— З костачкай (так цётка Хадора называла гурбячок на носе).

Цётка Хадора адхінула ў дзвярах шырму і шчоўкнула выключальнікам у спальні.

Паказала на ложак.

— Тут будзеш спаць. Ложак табе на аднаго. Матрац на пружынах. Халера яго, я дык не люблю такога. Пружыны пад бокі падпіраюць. А не кранucца, пішчаць, скрыпяць. Які іх дурань выдумаў! Галя спала тут. У яе свая была пасцель. І падушка свая, і прасціна, і капа. Вядома, нашай, бабскай пароды. А ты як хочаш. Хочаш, вязі сваю, а хочаш не вязі. Цягацца яшчэ будзеш з гэтай пасцелей.

— Магу прывезці.

— Прасціну і адзеяла прывязі. А падушку не трэба. Дочкі мае ўжо ўсе замужам. Аж тры. У сваім сяле ўсіх пааддавала. Сын быў адзін — забілі ў вайну. Самы большы быў. От, і ўсе мае дзеці. Гадуй, мядзведзь, дзеці, каб было за кім сядзеці. Пагадавала, а сядзець і няма за кім. Удваіх, як пні, старыя засталіся. Яму семдзесят гадоў, Ёсіпу майму, а мне семдзесят адзін. Я на год за яго старэйшая. Але дармо: жывём. Ён пенсію палучае і мне за сына даюць. Бачыў, Пецька, які ён?

Я здагадаўся.

— Дырэктар?

— Ага.

— Вясёлы.

— Вясёлы,— паўтарыла гаспадыня.— Усе яго любяць. У канпаніі ўмее сябе весці. Ён песню спяе. Нікдот раскажа. А што чарку любіць... хай. Абы ён чалавек быў.

— А як пад плотам валяецца?

— Не, Пецечка, не. Ён не валяецца. А чарку любіць. Нашто я буду маніць, любіць. А хто і зусім не п'е, такса-

ма не чалавек. Як Розум, завуч. Калі якая бяседа, дык ён надзьмецца індыком і сядзіць: «Не п'ю». Ты падымі чарку як людзі, глыні, колькі можаш. Я сама, халера на яе, не люблю яе дужа. Але ў канпаніі паспытаю і паспытаю. Каб мая чарка не стаяла. Як ты. Ты хітры, Пеця.

— З чаго вы ўзялі?

— Бачыла.

— Не магу ж я...

— Я нічога не кажу. Разумны ты, Пеця. Не дай бог, калі чалавек алкаголік.

— Сям'я ў яго якая-небудзь ёсць?

— Жонка заатэхнікам у саўгасе. Фермай усёй варочае. О-о-о, баба! Разумная! І сыны два ёсць. Ёмкія такія хлопцы. Адзін у нейкай ваеннай школе на некага там вучыцца, а другі за віцінара, як маці, будзе. Яны і раджаліся ў яе адзін за адным, праз год, казала. Падобныя, як блізняты.

Цётка Хадора, убачыў я, умее захапляцца, так расказвае, аж востры птушыны нос яе калоціцца.

— Лажыся, пара. Дзед даўно скапыціўся, а я во, дурная баба, не кладуся,— сказала яна, разабраўшы пасцель.— Калі ж хочацца пра ўсё расказаць. Тут во ў нас ляжанка. Дык як пачнём тапіць, увосень, зімой, валёнкі пасушым, анучы, сам пагрэешся. Табе ў нас будзе, як дома, добра. Спі,— і цётка Хадора пакінула мяне аднаго.

Немалая спальня, пакой побач за дашчанай перагародкай, разы ў два большы за спальню,— усё гэта зараз было маё, маёй кватэрай.

## 6

Першае верасня. Пачатак заняткаў ва ўсіх школах. Свята!

Мне падабаецца гэты дзень. Я любіў гэты дзень, калі хадзіў у школу, быў вучнем. Любіў, калі быў студэн-

там. Новы навучальны год. Новыя падручнікі. Новы клас. Хай настаўнікі тыя самыя, але і ў іх саміх можна заўважыць нешта новае.

Я люблю восень, мусіць, таму, што яна пачынае сабой новы навучальны год. Добра было б, каб, прынамсі, у гэты час людзі віталі адзін аднаго: «З новым годам! З новым шчасцем! З новымі поспехамі!»

Тым больш, я ўжо настаўнік. Прызнацца па-шчырасці, я хвалююся. Здавалася б, чаго? Ці мяне будуць выклікаць да дошкі, апытваць? Не, я хвалююся. Што ні гаварыце, але я хвалююся.

У партфелі ў мяне — квартальныя планы на кожны клас, дзе я буду выкладаць, планы сённяшніх першых урокаў. З чаго пачну? Як я зайду ў клас?

Мне не спалася звечара, я вельмі рана прачнуўся. А што, калі засплю? А калі спазнюся на заняткі? Настаўнік ды спазніўся? На першыя ў сваім жыцці заняткі? Не, гэтага не павінна быць.

І снедаў слаба. Не лезла ў горла, есці ані не хацелася.

Цётка Хадора заўважыла маё хваляванне.

— Нічога, Пецька, нічога... Ты толькі глядзі, каб яны на табе не паехалі. З першага дня не паддайся ім.

Я быццам не разумею, пра каго гаворыць цётка Хадора, гляджу на яе ў здзіўленні.

— Вучні. Вучні, Пецечка. Пра вучняў я гавару.

— Э-э-э,— махаю я рукой перад цёткай Хадорай, быццам са мной нічога не адбываецца і ўперадзе ў мяне гульня, а не праца.— Я не з баязлівых, а прадмет свой я ведаю.

— Не гавары так. Ведаеш. А можа, чаго і не ведаеш? Мне Галя казала.

Галя казала? Я крыху задумаўся. Галя казала... Так, цётка Хадора абы-чаго не скажа. Маладых настаўнікаў вучні правяраюць, канешне. І што ён ведае, і які ў яго характар. Як ён будзе рэагаваць на рэзкія паводзіны па-

асобных вучняў. «Прымуць» вучні новага настаўніка ці «не прымуць»?

Зразумела, трэба набрацца мужнасці.

Я апрануў новы касцюм, нейлонавую белую сарочку, завязаў гладкі, без адзінай камечынкі, гальштук. Яшчэ раз пачысціў шчоткай, пачышчаныя яшчэ ўчора, туфлі, насоўкай павадзіў па залатых запанках у рукавах сарочкі.

І калі, узяўшы партфель, выходзіў з хаты, цётка Хадора абвяла мяне вачыма, як свайго сына, з ног да галавы, і сказала:

— Добра, Пецька, добра. Ідзі. Толькі глядзі...— недагаварыла яна.

Мне ясна было, што яна мела на ўвазе пад гэтым «толькі глядзі».

«Прымуць вучні новага настаўніка ці не прымуць?» — стаяла ў мяне ў галаве пытанне, пакуль я ішоў у школу, на першыя заняткі, і знікла, як толькі ступіў на шумны школьны двор.

## 7

Дамоў я прыйшоў пазнавата, гадзін пад дванаццаць. Яно б было нішто сабе, калі б пavячэраў. А то не вячэраў. Гэта дало права цётцы Хадоры пусціцца ў жарты па майму адрасу.

— Пласцінкі круцілі?

— Адкуль вы ведаеце? — здзівіўся я.

— Дурны ты, Пецечка, гэта ж табе сяло, а не горад У сяле калі кукарэкне певень у адным канцы, у другім ужо і ведаюць, чый певень кукарэкнуў. Даўно ведаю, што к Ніпцы ходзіш, толькі маўчу. Што мне! Хадзі сабе на здароўе. Ты настаўнік і яна настаўніца, пажэніцеся, і добра вам будзе. Адна работа, адзін стол, грошай шмат будзе. Хату сабе паставіце, садок пасадзіце, парсючка

будзеце карміць, а не палянуецеся — і карову прагрымаеце.

Вот табе. Не ў брыво, а ў самае вока. Ідэал майго сямейнага жыцця ва ўсіх дэталях. Духоўная роўнасць: я і яна настаўнікі. Садок, хата, карова, свінні, парасяты, куры...

Тое, чаго я не любіў і не люблю.

Трэба будзе Нінцы сказаць. Вот яна пасмяецца!

А як яна смяецца! Усёй душой, шчыра, па-дзіцячаму забываючы ў гэты час аб усім на свеце. Тады выцірае слёзы і зноў смяецца. Смяецца. Мне падабаецца яе смех!

Я люблю лясы, палі, лугі, рэчкі, дажджы і мяцеліцы. Люблю звяроў, птушак. Люблю коней, кароў. Смяюся з коз, калі яны ідуць і хітра паглядаюць па баках, дзе б каму чым нашкодзіць, абгрызці дрэва або ў агарод ускочыць. Я люблю вёску, бо тут неяк бліжэй стаіш да вытокаў жыцця з яго наіўнай мудрасцю.

Але каб мяне цягнула да зямельнай ці жывёльнай уласнасці — не. Я люблю кнігі, навуку, мастацтва, люблю фізічна папрацаваць, калі гэта выклікаецца якой-небудзь жыццёвай патрэбай, як, напрыклад, на заводзе было.

— Чаго задумаўся? Можа, ужо закруціла галаву сваімі пласцінкамі? А можа, чым другім, Пеця? — і цётка Хадора засмяялася, туды-сюды водзячы сваім птушыным носам.

Ну і перапёлка гэтая цётка Хадора! Перапёлка! Чэснае слова, перапёлка. Жывая, рухавая. Стараецца, усё ведае.

Гаспадар — той пахлапень, як на яго кажа цётка Хадора. О, гляньце, ён ужо даўно спіць. Рана лажыцца спаць, разам з курамі. Куры на седала — і ён у пасцель. Ні яму казані, ні яму нагаворы не трэба. Ён адно ведае: прынесці вады, дроў у хату; выгнаць з двара да чарады карову, упусціць у двор увечары; схадзіць у саўгас на такую-сякую работу, калі ёсць якая, не вельмі цяжкая, ста-

рэчая; за яблыкамі ў садзе сачыць, каб не гнілі на зямлі ападкі. У яго ціхія заўсёдныя клопаты па гаспадарцы, праца, звязаная з роўным цячэннем гэтай гаспадаркі.

Цётка Хадора, другая палавіна дзядзькі Ёсіпа, іншага характару, мусіць, была духоўным яго бокам. Яго «апалітычнасць» кампенсавалася «актыўнасцю» цёткі Хадоры.

У магазін яна хадзіла толькі сама, ніколі не пускала гаспадара. Яна сама павінна была бачыць тавар, плаціць грошы, браць здачы.

Купіўшы патрэбную рэч або цукру ці хлеба, яна доўга заставалася стаяць у краме дзе-небудзь збоку, часцей за ўсё ў кампаніі такіх цётак, як сама. Паназіраць, пагаварыць, пачуць навіны, здзівіцца, абурыцца, зганіць або пахваліць... І душа пасцігала тое, што для пісьменнага чалавека давалі газеты, кнігі, радыё, тэлебачанне, кіно, тэатр, усе віды мастацтва. У той жа час гэта была форма ўдзелу яе ў грамадскім жыцці. Як ні кажы, цётка Хадора ўносіла сваю дольку ў агульную думку з поваду жыцця і падзей у Залессі, такім чынам уплываючы на гэтае жыццё.

— Не, не закруціла яшчэ, цётка Хадора. Калі было? Што вы! — адказваю я ёй.— Я смяюся сам сабе ў душы з таго, што вы сказалі: хату, карову, свінню...

Я яшчэ дабаўляю: сабаку на ланцугу, высокі тын, дубовыя вароты, ружжо, не: гармату.

Цётка Хадора смяецца.

— Еш, еш,— гаворыць яна,— а то змарнееш. Няма горшага, калі чалавек адаб'ецца ад яды. Не дай бог тады!

Што, не дай бог?

Гэта ў яе такі стыль гаворкі. Згубіць апетыт? О, што можа быць горшага!

— А з хаты ты, хлопец, не смейся. Вот пажэніцеся. У вас сталі дзеці. Каму вы патрэбны з дзяцьмі? Мне? Навошта мне чужая затлума? Я сваіх даўно пагадавала.

Трэба, каб кватэра была. Ці вы, не ўрокам кажучы, пасварыліся, ці вы пабіліся — мала што ў сям'і бывае! — ніхто вас не бача і не чуе. І-і-і, вы самі сабе гаспадары.

— А калі...

— Што: не жаніцца? — перахапіла маю думку цётка Хадора.

— Ну.

— Ну і ну. Не жаніся сабе, бяды гэтулькі. Плакаць нехта па табе будзе? Не жаніся. Хадзі адзін, бугаём, пакуль прыстанеш. А прыстанеш, зморышся,— захочацца палажыць галаву на сваю падушку, глянуць на сваю жонку. Блуд шчасця не прыносіць. Усе так кажуць, маладыя, а тады ўсе і жэняцца. І ты ажэнішся.

— Я не пра гэта...— я тут адчуў, што зваць гаспадыню «цётка Хадора» проста непрыстойна. Я папраўляю сваю памылку. Я пытаю, як яе па бацьку.

— Хвядосава,— адказвае яна.— Хвядосаўна,— зразумела яна, чаго я ад яе хачу.

— Я, Фядора Фядосаўна, не пра жаніцьбу. Можа, я паеду яшчэ куды.

— А чаго табе ехаць? Што ў нас, не людзі? Сяло гэткае. Гарады блізка. Шаша. Гарадскія ўсе з'язджаюцца да нас улетку. Лясы якія, грыбы, ягады. Хіба дзе на свеце якая ёсць, перацягне? Ёсць? — цётка Хадора сцвярджальна кіўнула ўніз галавой, выпытваючы мяне, як малога.

— Няма.

— Я нічога, хай сабе ёсіка. Толькі Наста казала мне, што ты ходзіш да яе кватарантні.

Цётка Наста, гаспадыня Ніны, нечым падобна да цёткі Хадоры. Толькі вышэйшая трошкі, худзейшая, цішэйшая.

І жывуць яны ўдваіх з гаспадаром, у пярэдняй палавіне хаты. Ніна — у другой палавіне, як я. Толькі спальня яе не адбіта.

І хата трошкі меншая і бяднейшая.

Я павячэраў, лёг спаць. І праз колькі часу заснуў — не глядзеў на гадзіннік, каб не рыпаць матрацам і не пачула гаспадыня, што я не сплю.

Вот так: вёска. Калі ты зайшоў да дзяўчыны — жаніся. А калі ажаніўся, будуйся і заводзь гаспадарку.

З Нінай мы пазнаёміліся адразу, без доўгага выглядання збоку.

Яна падышла да мяне на калідоры 20 жніўня, перад педсаветам, на якім дзялілі, як кажуць настаўнікі, нагрузку, і сказала:

— Прыехалі ўжо? Добры дзень. Будзем знаёмы.

Прызнацца, я разгубіўся, не адразу падаў ёй руку, нешта спрабаваў сказаць накшталт «я вас не ведаю», але яна зрабіла выгляд, што не заўважыла маёй збянтэжанасці, паведаміла мне, што яна ўжо год працуе ў гэтай школе, дружыла з Галяй, на месца якой я прыехаў, што нават ведае, як мяне завуць, у каго я на кватэры, што скончыў.

Разгубіўся я яшчэ і таму, што не чакаў сустрэць у гэтым не надта светлым драўляным калідоры зусім гарадскую, з прычоскай, з густам і прыгожа апранутую дзяўчыну.

Я заўсёды баяўся такіх дзяўчат і ніколі не зближаўся з імі. Мне здавалася, што я не варты іх, што ім трэба ў жыцці нехта большы, чым я, і нешта большае, чым я магу даць, я не паэт, не музыкант, не мастак, чалавек без таленту, вуглаваты ў паводзінах, не фотагенічны з выгляду. У горадзе лацвей было. Там можна было абысці іх, не знаёміцца, а калі па волі абставін і знаёміўся, можна было дзесяткі дарог знайсці, каб не сустракацца, каб саслацца на недахоп часу, што трэба рыхтаваць дыямат ці гістмат, або палітэканомію, першакрыніцы.

У горадзе можна было.

Тут жа я не мог зрабіць гэтага. Тут быў адзін вузкі калідор у школе, адна зусім цесная настаўніцкая, адзін клас, у якім праводзіўся педсавет, адна вуліца, па якой

я мог ісці на сваю кватэру, і абавязкова паўз хату, у якой кватаравала Ніна.

Няпраўда, яна была не такая, якой здалася спачатку. Яна была звычайная, простая, і ніколі не заўважаў я ў ёй імкнення абмежаваць мяне ў чым-небудзь.

— Зойдзем да мяне?

Яна гаварыла па-руску, прыгожа, з чыстым рускім акцэнтам, была сама з-за Смаленска і пераехала ў нашы краі толькі таму, што бацька, геолаг па спецыяльнасці, пераехаў на працу ў Беларусь.

Яна паказала мне ўсе кнігі сваёй бібліятэчкі, — малая яшчэ была бібліятэчка, слоў няма, яна сама гаварыла аб гэтым,— запытала, якія з гэтых кніг чытаў я, ці люблю я паэзію. Не без гонару дадала, што яна памяшана на паэзіі, і большасць кніг з яе бібліятэчкі, як я паспеў заўважыць, былі паэтычныя.

Тады паставіла на стол кардонную скрынку з пласцінкамі прайгравальніка.

— Выбірай, якія табе падабаюцца.

Я адабраў некаторыя, і яна паставіла на стол прайгравальнік і сыграла мне іх.

— Як? — глядзела яна па-дзіцячаму шчыра мне ў вочы, і я падумаў: «У яе ў душы няма ніякай хітрасці, яна зусім-зусім непасрэдная, яна...»

Я гатоў быў сказаць вялікую тыраду добразычлівых слоў, і я сказаў яе ў душы.

Крый божа, калі яна заўважыць ува мне, у маіх паводзінах якую-небудзь фальш!

Ёй трэба была чыстая чалавечая ласка, шчырасць, далёкія моры і акіяны, каханне, якое б спапяліла ўсю мярзотнасць на зямлі, ёй трэба было абняць неабдымнае — аб гэтым гаварылі пласцінкі, якія яна ставіла адну за другой на прайгравальнік, і тое, як яна рэагавала на іх.

Яна ляжыла на грудзі, высока, амаль пад самае гор-

ла, руку з вузкай далонню і доўгімі тонкімі пальцамі і гаварыла:

— Ух, як я люблю!..

Цёмна-сінія вочы яе блішчэлі расінкамі.

Я не здольны быў на такое пераўвасабленне ў сваіх пачуццях, яны ў мяне рэдка калі выходзілі на паверхню, і, мне здаецца, гэта быў вялікі недахоп у маім характары.

Не, я не тое. Не тое, што трэба Ніне.

Мне трэба нейкім чынам аддаліцца ад яе, каб яна не пранікнула ў маю душу, не нарабіла там бяды.

Я не змагу ісці з ёй побач, бухаючы ў зямлю, як таўкачамі, сваімі нагамі. Трэба ведаць урэшце, разумець, чаго ты варты, каму можаш быць парай.

Я ведаю: такія, як Ніна, аднолькава прыгожыя для ўсіх, і спакусіць могуць любога, калі паддацца іх спакусе і падумаць сабе, што яны вясёлыя і прыгожыя толькі з табой.

Яны самі гэта разумеюць, і ім падабаецца такое ўладнае шэсце па сваіх ахвярах — душах людзей. Ім — усё можна.

Замкнуць сябе і не выдаваць свайго захаплення, ні сваіх густаў?

Але што такое? Як адчапіцца ад думак, зусім супрацьлеглых адна адной, і нейкага незразумелага пачуцця, якое запаланіла маю душу?

Шчасце, калі ты ёсць, якое ты?

## 8

З 20 верасня школу распусцілі на тры тыдні. Заняткі спынены, настаўнікі і вучні ходзяць у саўгас капаць бульбу. Ад пятага і да дзесятага класа. Набіраецца вялікая армія! Больш двухсот чалавек.

Весела, яй-права. Надвор'е стаіць цудоўнае, бульбянае. Сонца як улетку. І цёпла, амаль як улетку.

Уранні калідор і школьны двор запаўняюцца вучнямі. Яны ў простым адзенні, з бляшанымі вёдрамі або кошыкамі, у што збіраюць з баразнаў бульбу. Вясёлыя, узбуджаныя, незалежныя і вольныя ў сваіх рухах. Здаецца, яны дамагліся свайго: іх прызналі за людзей і дазволілі папрацаваць ад душы.

Што ж, не ўсё дзецям быць дзяцьмі, хай і яны пабудуць дарослымі.

У палове дзевятай да школы пад'язджаюць фурманкі са скрынямі, у якія дзеці будуць высыпаць свае вёдры, тады трактары з прычэпамі-бястаркамі.

Уся гэтая шумная, гаманлівая, крыклівая працэсія, бразгаючы вёдрамі, рухаецца, як якое анархічнае войска, на поле.

Вырываюцца наперад фурманкі, з поўнымі вазамі тых, хто паспеў на іх ускочыць. Тарахцяць трактары. Паўз усіх, як на авіяпарадзе, праносяцца ліхачы — веласіпедысты, пакідаючы далёка ззаду за сабой не толькі пяхоту, а і трактары і фурманкі. У кожнага на багажніку — вядро або кошык.

Там, на полі, ганятыя наразганялі ўжо баразнаў на ўсю армію, якую мы вядзём. Дзесятыя і дзевятыя класы — два чалавекі на баразну, восьмыя і сёмыя — тры, шостыя і пятыя — чатыры.

Здзельшчына. Хто раней выкапае — раней адпачывае.

Мы з Нінай — як спрэжаныя. Разам ідзём на поле, амаль увесь час на полі разам.

Праўда, я павінен сачыць за працай свайго, дзевятага «А» класа, дзе з'яўляюся класным кіраўніком, а яна — свайго дзевятага «Б». Але ў нас так атрымліваецца: то мы сочым за яе класам, то за маімі, то я іду да яе на дапамогу, то яна да мяне — пацікавіцца, як працуюць старшакласнікі.

Трэба, каб чыста капалі дзеці баразны, да цвёрдага грунту рыючы рукамі зямлю. Нялёгка, але трэба.

Тым, што адстаюць, дапамагаем. Рыем рукамі разам

з імі зямлю, выбіраем з яе клубні і кідаем у вядро ці кошык. Носім накапаныя вёдры і кошыкі на вазы фурманак або к трактарным бястаркам.

Праз гадзіну-паўтары даём дзецям адпачыць мінут дзесяць-пятнаццаць.

— Сядайце і пасядзіце.

Дзе там! Хлопцы шыбаюцца бульбай, бораюцца на раллі, бегаюць наўздагонкі.

У дзяўчынак ёсць свае сакрэты. Яны сядзяць купкамі ці на вёдрах, перавярнутых дном угору, ці так на раллі, галовы ўкучу, кружком. Ім адным ведаць, аб чым яны размаўляюць.

Школай у полі кіруе завуч па вытворчаму навучанню. Вядзе ўлік зробленаму, раніцай і пасля работы ходзіць на брыгадны двор, у канцылярыю да бухгалтара, размаўляе з брыгадзірам, калі той прыходзіць на поле і рые кірзавым ботам бульбянішча, ці знойдзецца якая бульбіна. Брыгадзіру трэба, каб бульба была выкапана чыста.

Працуюць вучні толькі да абеду. У дзве гадзіны — як ручайкі з гары вясной: куды каторы.

Настаўнікі яшчэ стаяць на бульбянішчы. Многа ці мала зрабілі?

Калі і настаўнікі пачынаюць разыходзіцца па сваіх сцежках і дарогах, якія карацей вядуць іх да сваіх хат, мы з Нінай павольна ідзём да рэчкі.

Яна блізка. Прайсці з поля крыху пожнямі — і рэчка.

Па берагах яе кусты вербалозніку, вольхі, бярозкі.

Некалькі часу мы стаім на беразе, азіраючы наўколле. Яно незвычайнае.

Чыстае сіняе неба, спакойнае, нерухомае. Сонца схілілася на захад.

У тым баку, куды яно павінна зайсці, відаць дымы з труб прадпрыемстваў раённага гарадка, невялікага, зусім прыстойнага, на беразе ракі.

На поўдзень — сасновы лес, на ўсход — таксама лес,

і таксама сасновы, таксама сіні, ці то ад неба, ці неба сіняе ад яго. На поўнач — шаша, абсаджаная немаладымі ўжо бярозамі. Па шашы няспынна ідуць машыны — проста грузавыя, кантэйнеры, высокія і доўгія «Калхіды» з кузавамі-прычэпамі, легкавыя ўсякіх марак.

Па полі пайшлі ў далёкі лес бетонныя апоры лініі высокага напружання.

— Любата, Пецька, а? — гаворыць мне Ніна.— Як ты думаеш? Добра, будзем мыцца.

Ніна распранае ватоўку, кідаючы ўбок на мураву, развязвае хустку і папраўляе валасы, светла-русыя, крыху злямчаныя пад хусткай.

— Здзяры мне, Пеця, боты,— седзячы на мураве, яна працягвае мне адну нагу, тады другую. Яна ў спартыўных штанах-трыко.

Я здзіраю ёй боты. Яна глядзіць у сярэдзіну аднаго бота, выкалачваючы з яго, калі што ёсць якое, тое самае робіць з другім ботам. Адкруціўшы ад ног бумазеевыя анучы, яна, устаўшы, ходзіць па траве босая. Ступае туды, сюды, назад. Ёй гэта прыносіць асалоду.

— Люблю быць босай,— гаворыць яна мне.— Чаму гэта людзі не ходзяць босыя? Ты любіш, Пеця, босым хадзіць?

У мяне кірзавікі. Я купіў іх спецыяльна хадзіць на поле. Халявы ў іх высокія, пясок не засыпаецца. Падэшва не размякае, вады на баіцца. Цяжкаватыя крыху, ды зручныя. Што зручныя, то зручныя.

Я хвалюся ў гэтым Ніне.

Яна садзіцца тварам да рэчкі, абхоплівае рукамі калені і глядзіць у ваду.

— Я жартую, Пеця. Няўжо ты не разумееш? — гаворыць яна праз некаторы час. У голасе яе — нейкі сум.

Я маўчу, не хачу парушаць яе задуменнасці, якая часамі находзіць на яе.

— Ведаеш, Пеця, як я люблю рэчку! Бяжыць і бяжыць. Колькі ні глядзі ў яе, вочы не баляць, галава не

стамляецца. Гляджу ў яе, і нібы сама з ёй па свеце іду.

Бачу перад сабой лясы, вёскі, гарады, стэпы, моры, акіян. Ну, павер мне: усё гэта бачу я перад сабой, калі гляджу ў рэчку.

Чаму мне шкада ў такія часы Ніну? Не ведаю.

Яна, як хто яе спалохаў, скаланулася плячыма, ускочыла на ногі:

— Пайшлі.

Зняла з сука вербалозіны анучы, абулася, апранула ватоўку, падняўшы здолку.

— Ну?

— Ну,— спрабую я жартаваць. Але гэта толькі дзеля прыстойнасці.

...Цётка Хадора заўважыла ўва мне перамены і сказала мне аднойчы:

— Чаго ты стаў гэткі?

— Які, Фядора Фядосаўна?

— Утупіўся сам сабе, маўчыш.

— Думаю, Фядора Фядосаўна,— жартую.

— А чаго табе думаць? Дзеці абселі? Хлеба на стол няма?

— Не дзеці. Работа такая.

— Пець і скакаць трэба. Во якая твая работа.

Лажуся спаць і доўга не спіцца мне: праходзіць перад вачыма кадр за кадрам увесь дзень. Прыгожа. Усё прыгожа і добра.

## 9

На педсаветах, на прафсаюзных сходах настаўнікаў, на палітзанятках мы сядзім цяпер з Нінай побач.

— О, як спарышы,— пажартуе той-сёй з настаўнікаў, а часцей — настаўніцы. Жарт — звычайны, без з'едлівасці і зайздрасці, спагадлівы, бацькоўскі, і яго можна су-

стрэць сярод добрых старэйшых людзей. Мы прывыклі быць разам, прывыклі да нас, што мы разам, і я сам, прызнацца, ніколі не думаў, што так добра мець у сябе каго-небудзь побач. Ты паўней успрымаеш рэчы, звяраеш свае думкі з думкамі другога, глыбей пранікаеш у падзеі — глядзіш на свет двума вокамі, а не адным.

Пацехай быў для нас Розум, Сысой Сцяпанавіч, завуч.

— Сысой — падыходзіць яму. Розум — не,— шэпча мне Ніна на вуха на педсавеце.

Ён сядзіць за сталом, побач з дырэктарам. Па школьнаму закону, старшыня педсавета — дырэктар. Але Розуму закон не пісаны.

Ён, мусіць, адчувае, што мы гаворым пра яго.

Час ад часу ён кідае на нас свой позірк.

— Зараз ён будзе выступаць,— шэпча мне Ніна.— Я ніколі не чула, каб пісьменны чалавек гэтак гаварыў. Пеця, чаго ты маўчыш?

Я ціхенька кранаю Ніну локцем: ён сочыць за намі.

— Слова рускае, слова беларускае. Сваё, абы-якое. Жаргонам нейкім. Па-руску «ряд» у яго «рад», «шофёров» у яго «шафярэй»,— як камар у цемрадзі ноччу пад вухам, не дае мне супакою Ніна.

Назола, адчапіся ты ад мяне.

— Пец-ця, ты разумееш? Калі б ён быў вучань, я б яму во тут, адразу, паставіла б два і ніколі б больш не выклікала і не перавяла б ні ў адзін клас... Хай бы мяне вешалі, вялі на эшафот, лажылі галаву маю на гільятыну...

Ніціны словы ўзялі верх у паядынку са словамі прамоўцы, і я — на яе баку. І гільятыну, і эшафот, і вісельню — усё гэта я ўявіў адразу, хоць ніколі сваімі вачыма не бачыў. Слоў прамоўцы няма, няма ніякага сэнсу, нават гучанне згубілася.

Я цісну пад партай Ніну за руку: не натвары ты абычаго.

— Пішы... Занатоўвай. Не трэба будзе Гогаля чытаць, калі не чытаў.

Я так сціснуў Ніціны пальцы, што яна ледзь не войкнула.

Знясілены прамовай, Розум сеў побач з дырэктарам, прыткнуўшыся к канцу стала.

Быць большым, чым ты ёсць, цяжка. Немагчыма. А Розум хацеў быць большым, чым ён быў на самай справе. Гэтае жаданне яго вылузвалася ў кожным яго руху, у кожнай драбніцы паводзін.

Адкуль гэта ў людзей?

І ўсё ж я гавару Ніне:

— Ніна, не трэба так жорстка.

— А што ж!— не згаджаецца яна са мной.

— Чалавек ён?

— Чалавек.

— Ну і паважай яго па-людску.

— За што?

— У кожнай прафесіі не ўсе аднолькавыя. Два полюсы: ад вялікага да смешнага. І наадварот.

— Не гавары мне. Хай ідзе вуліцы брукаваць або коміны чысціць, калі не можа валодаць элементарным — мовай. Выхоўваць можна толькі на прыгожым. Прыгожыя думкі выказваць прыгожай мовай. Форма і змест. Разумееш? Калі б табе ў рэстаране паставілі на стол у брудным чарапку...

— Бр-р-р. Надзвычай натуралістычна.

— Я хачу, каб ты зразумеў.

— Я разумею. Але калі не можа чалавек.

— Хай не бярэцца.

— Жорстка, Ніна. Жорстка,— стаю чамусьці на сваім, хоць адчуваю, што няма ў чым пярэчыць ёй.

Педсавет канчаецца. Апошнім выступае дырэктар. У сваёй невялікай прамове ён усіх мірыць: і тых, каго Розум хваліў, і тых, каго ганіў. Вочы яго — бегаюць па радах парт, за якімі, на вучнёўскіх месцах, сядзяць настаў-

нікі. Спагадлівыя, разумныя, добрыя вочы. Бурая голая скура галавы блішчыць пад электрычнай лямпачкай, і, нягледзячы на тое, што няма на ёй ні воласа, яна робіць зусім прыемнае ўражанне.

Лёгкі жарт, нешта накшталт анекдота, трапная прымаўка, зусім добрая мова, мова культурнага чалавека...

Людзі павесялелі, ажывіліся, пайшло лёгкае перашэптванне, усталяваўся зусім неабходны кантакт паміж прамоўцам і аўдыторыяй. Той-сёй устаўляў рэплікі ў прамову Капача, але яны яму не толькі не перашкаджалі, а, наадварот, дапамагалі: Капач іх падхопліваў, разгортваючы іх сэнс, і слухаць яго было лёгка і, галоўнае, ані-ані не боязна.

Я заўважыў: Розум глянуў на Капача знізу ўгору. І зноў утупіўся ў паперу, на якой ён нешта крэмзаў алоўкам. Ясна, прамова Капача яму была не па душы. Не павінна быць, каб адміністрацыйная асоба размаўляла з падначаленымі як з роўнымі. Розум ніколі гэтага не рабіў і не зробіць. За час свайго знаходжання ў Залескай школе я ніколі не чуў, каб ён сказаў: «Я думаю» або: «Я гавару». Займеннік «Я» ён наогул выкінуў са сваёй лексікі, замяніўшы яго словам «завуч». «Вам гаворыць завуч». «Распараджэнне завуча не выконваецца?» Слова «завуч» у яго не сыходзіла з вуснаў.

...Выходзіць са школы мы з Нінай не спяшаліся. У настаўніцкай пачакалі, пакуль засталіся на вешалцы толькі нашыя паліто.

— Табе трэба вусы адгадаваць, Пётр Фёдаравіч. От пабачыш, што прыгожа будзе. Хочаш, маленькія пад носам, як дзве кляксачкі, а хочаш — вузенькай паскай над усёй губой.

— Ты б была ў тэатры мастаком-грымёрам.

— Цябе б я адразу — пад Мефістофеля.

— Не атрымаўся б з мяне Мефістофель. Душа, Ніна Адамаўна, не падыходзіць.

— А з выгляду.

— Вучыла філасофію? Форма і змест павінны быць у адзінстве.

На двары на ўсім ляжала святло месяца. Электралямпачкі на слупах здаваліся смешнымі і непатрэбнымі, выглядалі шкадлівымі падробкамі пад сапраўднасць.

Месяц вісеў над Залессем у тым баку, дзе была мая кватэра, пышны, расквечаны яркімі фігурамі Каіна і Авеля. І мы, пацяху перастаўляючы ногі, пайшлі яму насустрач.

— Люблю месячныя ночы. Млечны Шлях, зоркі, сузор'і. Трапечацца ўсё, як жывое. Я проста п'янею ад хараства, якое разліта ў прыродзе ў такія ночы. А пах, чуеш, які? Чуеш, як пахне лес?

Ніна спынілася і глыбока ўдыхала ў сябе пахі восені, калі яшчэ мароз не ўладны быў над імі і яны плылі ў паветры, перамешваліся, і нельга было сказаць, чым пахне, і людзі казалі: «Пахне лясамі» або: «Пахне зямлёй».

Я сабе спыніўся.

— Ведаеш, Пеця. Мне часам так стане сумна, што я сама не ведаю, куды б пайшла і што рабіла б. Вось мы канчалі з табой інстытуты.

— Я, Ніначка, універсітэт,— хацеў я перавесці гаворку на жарт.

Яна палажыла мне сваю халодную руку на рот.

— Пачакай, смеху тут ніякага няма. Гэта ўсё роўна: універсітэт ці інстытут. Я хачу сказаць: як мы ўсе мала ведаем! Ну, месяц. Ну, зорку. А далей што?

— Мілая, песімізм. Адкуль ён у цябе? Дэкадэнцтва!

— А ты не песіміст? Ты ўсё ведаеш? Якое ж гэта дэкадэнцтва, калі я ведаць хачу? Дэкадэнты сумавалі таму, што ў іх не было мэты. А ў мяне ёсць мэта: я хачу ведаць. А ты што: гусь? Нічога не хочаш ведаць?

— Я не гусь...— пачаў я выкручвацца, каб не здалося Ніне, што я абыякавы да намаганняў людзей пранікнуць у таямніцы незразумелага і загадкавага.

— Добра, гусь, не выкручвайся. Я ведаю, што ты ска-

жаш. Я ўжо гэта чула. Ад прафесараў, акадэмікаў. Чалавеку ад прыроды так суджана: ён вельмі баіцца прызнацца ў сваёй бездапаможнасці. Пайшлі.

Яна ўзяла мяне пад руку.

Паміж школай і цэнтрам вёскі была значная прагаліна — злева быў саўгасны сад, адгароджаны ад дарогі штыкетам, справа — чыстае поле, і мы зараз ішлі гэтай прагалінай, адны ў белым свеце.

— Можа, і добра, што чалавек баіцца прызнаць сваё бяссілле. Так, Фёдаравіч? Ты таксама хаваеш ад мяне сваю душу. Угадала? — Ніна павярнулася мне наперад, загарадзіла дарогу, і я павінен быў даваць ёй адказ.— Ну? — патрабавала яна.

— А ты? — сустрэў я яе контрпытаннем.

— Я? — здзівілася Ніна.— Хіба ты не бачыш?

— Не,— быў несур'ёзны адказ мой.

Ніна штурхнула мяне ў плячо.

— Слухай, Адамаўна: мне няма чаго хаваць ад цябе. Ну, скажы: што я магу ад цябе схаваць? Дзеля чаго?

— А для мяне ты, прызнаюся, сцяна цагляная. Яе бачу, а што за ёй...

— І халодны?

— Амаль. Хаця, можа, не зусім так? Як толькі я цябе ўбачыла, ты мне здаўся такім нейкім сваім, нібы я цябе даўно-даўно ведала. Ну, усё роўна, як мы з табой вучыліся ў адной школе. Ну, як аднакласнікі. А ты?

— Прызнацца?

— А як жа.

— Спалохаўся, як убачыў.

— Сур'ёзна?

— Фіфа, думаю.

— За фіфу мяне прыняў? Ну і ўмора. Якая ж я фіфа?

— Хай не фіфа, але мне так здалося. Ведаеш, прычоска гэтая твая, узбітая, бабетай, плацце такое нейкае, нафарбаваныя губы. Бровы падведзеныя...

— Хлопчык мой, немаўлёначак. Во як ён падумаў:

фіфа. Хіба ж я павінна быць бабулькай? А мода? Ведаеш, чым яна дыктуецца? Моду не абыдзеш, не абмінеш.

— Ну, ведаю. Не маралізуй. Ад моды церпяць двое: хто яе не прызнае і хто яе падхоплівае, ловячы, апякаючыся, у лёце.

— Добра, драбяза гэта ўсё, Пеця. Сафізмы трэба ведаць, толькі жыць па іх было б вельмі цяжка. Як зараз ты на мяне глядзіш? Гэтак, як тады?

Словы, словы... Іх многа, іх не перагаворыш усе, і можна падбіраць адно да аднаго, па-рознаму вымаўляць, прыдаючы ім іншы сэнс, чым яны маюць. Замест слоў, якім наўрад ці паверыла б Ніна, як бы ні былі яны мной вымаўлены, я тут жа, на дарозе, на вачах усяго зорнага неба, месяца, абняў яе за шыю, прытуліў да сябе і пацалаваў.

Першы раз у жыцці я пацалаваў дзяўчыну вось так ад душы, шчыра, не просячы ў яе дазволу.

Я не бачыў пры святле месяца, якой зрабілася ў твары Ніна. Яна падняла на мяне яго, свой твар, і пагрозліва, не сваім голасам, я такога не чуў яшчэ ў яе голасе, прагаварыла:

— Ты што гэта?..

Я не паспеў адказаць Ніне. Па небе пакацілася і знікла зорка. Ды так жа неяк буйна, як жывая, нібы ведаючы, куды ёй і чаго трэба спяшацца.

Ніна скаланулася і войкнула.

— К шчасцю,— сказаў я, але адчуў, што ў мяне ў грудзях не хапала духу.

Мы не ідзём, мы ледзь кратаемся па дарозе, але хаты растуць перад намі, набліжаючыся, увачавідкі. Дзе наша падзелася гаворка?

Каля варот двара, дзе кватаравала Ніна, мы спыніліся, можа, на адну толькі хвілінку. Яна ўзяла мяне абедзвюма сваімі халоднымі пахучымі рукамі за далонь маёй рукі і сказала стомлена, глуха:

— Ідзі. Спі.

Як дзіцяці. І знікла за веснічкамі.

Я не пайшоў дамоў, не. Я не павярнуў на вуліцу ўправа, мяне пацягнула Школьнай вуліцай да рэчкі.

І я не спяшаўся, хаця мог пайсці вельмі хутка і прайсці вельмі многа. Я ішоў як на шпацыр, стрымліваючы ў сабе парыў да бурнага дзеяння.

І чамусьці ўсплылі ў памяці вершы Маякоўскага пра каханне. Усе, якія я памятаў.

Паэта цягнула каханне, падымала і ў той жа час палохала,— асабліва сямейнае шчасце. Паэт баяўся сямейнага шчасця. Чаму? Перашкода для натхнення?

## 10

У школе ў нас было ўведзена сярод настаўнікаў дзяжурства ў вячэрні час па вёсцы. Два настаўнікі павінны былі пахадзіць па вуліцах, заглянуць у клуб, зайсці на кватэры асобных вучняў — адным словам, пацікавіцца, хто чым з дзяцей займаецца. Прыдумана быццам нядрэнна, і я, напрыклад, як настаўнік, з ахвотай ішоў у такі «сакрэт».

Сакрэтам я яго называю таму, што для вучняў было невядома, хто калі з настаўнікаў дзяжурыць, з якога боку, з якой вуліцы пачнуць свой абход дзяжурныя, у які час.

Якраз мне выпала дзяжурыць з настаўніцай рускай мовы Верай Данілаўнай Жук. Сама яна мясцовая. І муж яе, выкладчык матэматыкі Міхей Арцёмавіч, мясцовы. Тут яны нарадзіліся, тут бацькі іх жылі. Мне з гэтага была тая карысць, што Вера Данілаўна ведала ўсіх людзей сваёй вёскі і дзе які жыве вучань. Ну і ведала, з якімі бацькамі пра што гаварыць.

Абход мы ўмовіліся пачаць ад клуба роўна з дзесяці гадзін, дзе і павінны сустрэцца з ёй.

Калі я пачаў збірацца з дому, гаспадыня мая цётка Хадора, як і заўсёды яна рабіла, запытала ў мяне:

— Куды?

Я адказаў ёй, што іду дзяжурыць.

— Пецечка, надзень валёнкі старога. Мароз на дварэ, акалееш. Гэта ж па вуліцах трэба хадзіць, а можа, дзе і пастаяць давядзецца, у акно чыё трэба будзе паглядзець. Я ж ведаю, як настаўнікі дзяжураць. З кім ты?

— Што?

— Дзяжурыць будзеш.

— З Верай Данілаўнай.

— Верай Данілаўнай? — і цётка Хадора як бы лізнула языком.— О-о-о, як на яе мужчыны заглядаюцца! — і цётка Хадора лёгка засмяялася.— Не-э, я так, Пеця. Я пажартаваць люблю. Абы было смешна. Мы ж бабы сельскія, няпраўда? Збяромся во так і морым бакі абы з чаго. Вера Данілаўна — не. Яна баба прыстойная. Чыстая. А прыгожая, Пецька, няпраўда? Праўду кажу, прыгожая. Ідзе — дык ух, хоць ты глядзі. Міхей яе — не, не той. Спусце сваё галіфэ на калені і чэпае, як год у пасцелі ляжаў. Не пара ён ёй, мы ўсе, бабы, так гаворым. Як ты думаеш?

Я, прызнацца, ніколі не думаў над тым, пáра настаўнікі Жукі ці не пара, як, напрыклад, не рашаў такога пытання: роўніца месяц сонцу на небе ці не роўніца? Я прывык іх бачыць мужа і жонку, як прывык бачыць дзень і ноч, і мая думка ніколі не працавала ў адваротным напрамку. Праўда, Вера Данілаўна апраналася з густам, па апошняй модзе, фарбавала губы, падводзіла бровы, рабіла модныя прычоскі, пераабувалася ў настаўніцкай, каб не ісці ў клас у тым абутку, у якім ішла па гразнай або замеценай снегам вуліцы, не прапускала добрых кінакарцін, выступала з дакладамі, рыхтавала з вучнямі вечары адпачынку, вучачы іх не толькі дэкламаваць вершы і іграць ролі ў інсцэніроўках, але і танцам.

Міхей жа Арцёмавіч хадзіў у ботах, у вялікім галіфэ

і кіцелі, заплікнутым на ўсе гузікі да самага гарляка. Шапку насіў чорную, са стаячым аколышкам, з нацягнутым, як скура на бубне, верхам. Зімой надзяваў вялікія, без галёш (гаворачы, што галёшы цягаць на нагах яму цяжка), валёнкі, шыю некалькі разоў абкручваў доўгім шарфам, спасылаючыся на ангіну, якая хлупіла яго (так ён сам гаварыў), калі ён прастуджваўся. Не хадзіў у кіно, не рабіў ніколі нідзе ніякіх дакладаў, не чытаў газет і дзівіўся, калі хто-небудзь чытаў мастацкую літаратуру, у той жа час смеючыся са сваёй жонкі, што спаць лажыцца ў гадзіну ночы, калі можна лажыцца, як ён, у дзевяць, а то самае вялікае — у дзесяць.

Што я мог адказаць цётцы Хадоры, калі я больш нічога не ведаў пра Жукоў? Бог з імі, пара яны ці не пара. Тым больш што ім было пад сорак ці за сорак, а такі ўзрост рэдка хто ўжо судзіць, кахаюць адзін аднаго муж з жонкай ці не кахаюць. Хутчэй будуць гаварыць, ці добрыя яны бацькі, калі ў іх ёсць дзеці, таксама ці добрыя яны людзі, а пра іх інтымныя справы — нешта я не ведаю.

Аднак гавораць. І такія, як цётка Хадора, якім за шэсцьдзесят.

Гэта, мусіць, толькі жанчыны. Мужчыны ў такім узросце пра гэта гаварыць не будуць. Вунь гаспадар мой: ляжыць сабе на печы і слова не ўставіць у такія размовы цёткі Хадоры. Яму, у такім узросце, абы жонка была гаспадыняй добрай, о. Яму нічога болей ад бабы і не трэба. Каб яна памыла, наварыла. У хаце каб чыста было. Улетку карова каб нядоеная на пасту не пайшла. Каб гарод лебядой, асотам ці макрыцай не зарос. А што баба языком мэнціць? Хай мэнціць. На тое бабам і языкі дадзены, каб яны імі сабе ў роце чысцілі і зубы, калі ў каторай яшчэ які застаўся, вастрылі. Забава адна іх — гаворкі!

Я і адказаў так цётцы Хадоры:

— Не ведаю.

— Адкуль табе, хлопчык, ведаць. Ты ж не жыў тут. Але баба яна не круцяшчая. Усе ведаюць, і я сама гэта магу пацвердзіць. Я ж яе во гэтачкую ведаю. На вачах у мяне расла.— Цётка Хадора паказала рукой вышыню ад падлогі.— Яна была замужам. У яе быў ужо жаніх, во.

— А дзе ён?

— Вайна.— Цётка Хадора нізка схіліла галаву, і я прачытаў у яе голасе сум, што вайна загубіла шмат добрых людзей.— За гэтага яна выйшла ўжо пасля вайны. Мужчын не было, кідаліся бабы, на каго каторая ўзбрыдзе. Абы шапка на галаве. Не-э-э, я не кажу, што ён нягадзяшчы. Ён гаспадар. У яго, брат, і сена, і салома, і дроў, можа, на тры гады. Сядзе на гэты свой цыкл з каляскай і, брат, шнуруе і шнуруе на ім цэлае лета. Ён прамысловы чалавек. Усё дабудзе і дастане, каб яно за морам ці за сямі замкамі было. Ёй добра за ім. На, надзявай.

Цётка Хадора крутнула шырокай доўгай спадніцай і палажыла перада мной сівыя, самаробныя валёнкі, дастаўшы іх з брыжа над комінам, дзе яны сохлі. Я чамусьці, не задумваючыся, хуценька расшнураваў цёплыя свае чаравікі і насунуў на свае жоўтыя безразмерныя шкарпэткі прасторныя, да самых калень, валёнкі. Цётка Хадора крычыць:

— Анучы трэба было абкруціць.

Я махнуў рукой, бо ў гэты час мільганула ў галаве думка, што складкам маім на штанах каюк і заўтра ўранні трэба будзе іх прасам наводзіць.

— Галошы ж не забудзься надзець,— і цётка Хадора дастала з таго ж брыжа і паставіла доле ў парозе з шырокімі заднікамі, чырвоныя ўсярэдзіне, бліскучыя, з глыбокімі насамі галёшы. «Як у Розума»,— падумаў я, надзяваючы іх. Мне не хапала толькі шырокіх штаноў, каб схаваць халявы валёнак.

Я глянуў на свой наручны гадзіннік і аж сумеўся:

я пазніўся на цэлых пятнаццаць мінут. От гэта цётка Хадора! Загаварыла.

Ісці ў шырокіх валёнках было нязручна, ногі ў іх туды-сюды хлямалі, і я ўжо пачаў у думках каяцца, што іх надзеў, як пачуў за сабой порсткае і частае скрыпенне хады на марозе.

Дзякуй богу і Вера Данілаўна спазнілася.

Яна! Яе хада, яе фігура.

Мы пайшлі цішэй. Зусім побач, нібы выйшлі на шпацыр.

Мы каля клуба, доўгай драўлянай будыніны, з мноствам заштораных высокіх акон. Трашчыць, чутна, кінаапарат, там ідзе кінакарціна.

— Чаго цяпер сюды заходзіць? Не пойдзем,— гаворыць Вера Данілаўна. Голас прыемны, выходзіць з грудзей вольна, нідзе не затрымліваецца: гукі чыстыя, круглыя, ніякай пісклявасці.— Якая карціна ідзе?

Я не ведаў, не пацікавіўся, бо знаў, што ў кіно ісці сёння не давядзецца.

— Эх, малады чалавек! — пасароміла мяне жартам Вера Данілаўна.

Яна была са мной на «ты». Як з вучнем. Як з хлапчуком. Ну, што ж, можа, гэта было і правільна. Яна старэйшая, у яе ўжо дзеці, большая дачка ў восьмы клас ходзіць.

Пад нагамі паскрыпваў снег, за шчокі шчыпаў марозік, але нагам маім было цёпла, як на печы. Я быў у цёплых мяккіх чосанках дзядзькі Есіпа, які ў гэты час недзе ляжаў у сябе на печы і якому нічога не трэба было, акрамя цеплыні.

На ўсіх вуліцах Залесся гарэлі на слупах электрычныя лямпачкі, і было такое адчуванне, што і яны грэюць, таму, нягледзячы на мароз, нам не надта было ў гэты вечар сцюдзёна.

Неба было чыстае, зорнае.

— Зойдзем да каго ў хату?

— Такой ноччу? Чаго? — адказаў я Веры Данілаўне.

— Праўда. Пайшлі ў зоркавае падарожжа! Згодны?

— Згодзен.

— А неба вы добра ведаеце?

— Так, збольшага. Дарогу не згублю.

— А можа б, і згубілі, каб з маладзейшай? Не?

— Вы таксама не з тых, ад каторых уцякаюць.

— Што вы, Пётр Фёдаравіч. Баба. Можа, яшчэ не ўцякаюць, але ўжо і не ліпнуць.

— Я не сказаў бы.

— Нашто мне гаварыць. Я сама ведаю.

— Навошта вы гаворыце такое?

— Што я гавару? Я нічога лішняга не гавару. Гэта праўда.

— Ніколечкі. Дункан за Ясеніна была ў два разы старэйшая.

— О-о, калі б я была Дункан! Мы жывём з вамі ў такім свеце, дзе лічуць гады. Не зроўніце ж вы мяне з якой-небудзь вашай Нінкай або...

— Маёй Нінкай?

— Усе так думаюць.

— Можа, ранавата было б аб гэтым гаварыць?

— Хібы вы сапраўды думаеце перабегчы?

— Да каго?

— Ну да гэтай самай... як яе... дзесяцікласніцы. Зоя яе завуць.

Я ўвесь чырванею. Добра, што Вера Данілаўна не бачыць гэтага.

— Не разумею. Адкуль гэта пайшло?

— Паважаны Пётр Фёдаравіч, дыму без агню не бывае. Так? Недзе нешта нейкае выткнулася.

— Вера Данілаўна, вы паверце мне: з майго боку — нічога.

— Можна паверыць. Але вы, можа, глянулі калі на яе неяк па-свойму цёпла? Позірк у вас, сказаць вам па-шчырасці, цёплы.

— Бацюхны! Мне здаецца, я на ўсіх аднолькава гляджу.

— Ну, а ёй здалося, што вы толькі на яе так глядзіцё. Маладое. Разумееце?

— Вось так зусім невінаваты чалавек можа ў гісторыю якую-небудзь уліпнуць. І яму могуць падшыць што хочаце.

— Падшываць вам пакуль што нечага. А калі б што і разгарэлася, дык яна канчае школу, і вы маглі б пажаніцца.

— З вучаніцай?

— Яна б не была ўжо ёй. Я ж вам кажу: яна б ужо скончыла. У нашай школе пасля вайны было: дырэктар хадзіў з вучаніцай сёмага класа. А ўлетку, як толькі яна скончыла сямігодку, ажаніўся з ёй. Добра жывуць. Дзеці ўжо вялікія.

— Як іх запісалі?

— Гэта было пасля вайны, і ўсе вучні былі пераросткі. А запісаліся яны пазней ужо. Мы са сваім таксама доўга няпісаныя жылі. Тады неяк не звярталі ўвагі на гэтую афіцыяльшчыну.

— А як жа: рэгістрацыя шлюбу.

— Непрыгожа гучыць.

— Нічога не зробіце, трэба.

— Я ведаю, што трэба, але мой язык не варочаецца гаварыць: рэгістрацыя шлюбу. І само слова «шлюб» і «рэгістрацыя» — нешта не тое.

Мы, вось так размаўляючы, абышлі амаль усе вуліцы Залесся, пабываўшы толькі ў адной хаце.

Ідучы паўз клуб, убачылі, што кіно ўжо скончылася і агонь у ім быў патушаны. Жыццё ў вёсцы аціхла.

Неўзабаве я павінен быў ісці ў свой бок, Вера Данілаўна — у свой. Я прыпыніў яе на хвіліначку і, без усякіх хітрыкаў і падыходаў, запытаў у яе:

— Вы ўжо былі замужам?

— Была.

6 Зак. 3548

— За кім?
— Не чулі?
— Не.
— Ні ад каго?
— Ні ад каго.
— За паліцаем.
Я прамаўчаў.
— Чаго вы маўчыце?
— Гаворыце нешта...
— Паслухайце. Іх было чалавек пяць. Дамовіліся з атрадам Баранава, што пойдуць у паліцыю, атрымаюць зброю, а тады — у партызаны. Так і зрабілі. Ідучы ў лес, трапілі на хлопцаў з атрада Крыварота, тыя і скасілі іх усіх пяцярых.
— Ну і што?
— А тое.
— Што «тое»?
— А во што: што быў у паліцыі — запісана. А што ішоў у партызаны — нідзе.
— Але ж на душы ў вас чыста?
— На душы і было чыста. Але ж душу людзям не пакажаш. Некаторыя адразу пасля вайны так і казалі на яго: паліцай. Цяпер ужо пачалі разбірацца.
— Ну і правільна.
— Канешне, правільна. Але ж трэба было перажыць.
— Трэба было. Згодзен.
Дома цётка Хадора запытала ў мяне:
— Былі ў каго ў хаце?
— У Канашка.
— У карты гулялі?
— Ага.
— І стары з імі?
— І стары.
— Э-э-э, як я помню, дык у іх гуляюць. Не хата — клуб.

## 11

Мароз адваліўся. Неба зацягнулася смугой, сонца знікла. Гукі акругліліся, усё стала бліжэйшым, а што было далёкім, як бы прапала, перастала існаваць.

У лёце сталі відаць вароны, чародкі вераб'ёў, сініцы.

Я сказаў перад канцом заняткаў Ніне ў настаўніцкай:

— Я сягоння еду на лыжах. Хочаш са мной?

Яна папраўіла мяне. От гэтыя мовазеды! Ім здаецца, што ўсе гавораць няправільна, акрамя іх саміх, моваведаў.

Я гавару разумнай маёй Ніне:

— Ніна Адамаўна! — Гавару так, каб усе чулі.— Я разумею, што я гавару няправільна. Ведаю, што трэба гаварыць не «ехаць на лыжах», а «ісці на лыжах». Але я, менавіта, буду ехаць, не ісці на лыжах. Ісці — значыць перастаўляць ногі. Адну нагу падняць, а тады паставіць, тады другую падняць і паставіць. Я буду слізгацца на лыжах, імчацца, вецер будзе ў вушах свістаць.

— Пётр Фёдаравіч, усё роўна трэба казаць «хадзіць на лыжах». Мы кажам: машына ідзе, цягнік ідзе. Дык што яны, па-вашаму, толькі ногі перастаўляюць? Вы не дагоніце іх на сваіх лыжах, а мы кажам, што яны ідуць.

Пасля заняткаў мы ўзялі ў нашага фізкультурніка Данілы Гаўрылавіча лыжы і панеслі іх з сабой. Я — большыя, з кійкамі па свайму росту, Ніна — меншыя, з кійкамі па свайму росту.

Сустрэнемся на лузе каля моста.

Ем я хутка, нават гаспадыня мая цётка Хадора заўсёды здзіўляецца, што я ем так хутка. Але не паспеў я паабедаць, пераапрануцца, падвязаць лыжы (я знаю, Ніна сказала б: стаць на лыжы) і выехаць на луг, як убачыў, што Ніна мая цвіла ўжо трыма колерамі каля рэчкі: сінімі штанамі, чырвоным світэрам і зялёнай вастраверхай шапачкай з махорчыкам на самым вяршку. Яна чакала

ўжо мяне і рада была, што з'явілася на ўмоўленае месца першая, і рада была, мусіць, таму, што стаіць на доўгіх, з задранымі насамі лыжах, што трымае ў руках, усунутых у скураныя рукавіцы, точаныя кійкі, рада была, мусіць, змене надвор'я, якое і ўдзень нагадвала ціхі, трошкі сумны і ласкавы прыцемак.

Мы паехалі паўз рэчку, правым яе берагам, насупраць яе цячэнню, на поўнач. Рэчка пятляла, і мы пятлялі на лыжах, не надта разганяючыся.

Колькі мы ні ехалі, усё не знаходзілі месца, дзе можна было б пераехаць на той бок: рэчка ішла, толькі на буках быў лёд, ды і то каля якога-небудзь аднаго берага, другі бераг абмываўся вадой. Не зважаючы на снежаньскія і студзеньскія марозы, рэчка цякла, бруілася прыемнай вадзіцай, як улетку, хоць ты было стань на калені і напіся колькі табе трэба, уволю, гэтага крынічнага эліксіру.

На мялейшых месцах на дне яе былі відаць каменьчыкі, зялёныя лісточкі рачной травы, карчавежынка якая-небудзь, вымытая, як на свята. Не відаць было толькі печкуроў, якія любяць улетку дурасліва гуляць на мелкаводдзі.

— Слухай, Пеця, я нап'юся.

— Напіся, ну. Хто табе не дае. Вады поўная рэчка.

Яна глянула на лыжы, якія перашкаджалі ёй легчы на жывот. Выбраўшы зусім плоскі бераг, яна лягла на снег бокам, не адвязваючы лыж, павярнула твар да вады і глынула яе разы са тры, з перапынкамі, смакуючы.

— Смачная, чэснае слова,— сказала Ніна і лёгка стала, з лыжамі, зноў на ногі.

На другі бок рэчкі мы так і не перабраліся. Але, уехаўшы ў лес, убачылі, што і на гэтым баку ён ніколечкі не горшы, чым на тым. Зараз мы трымаліся не берага рэчкі, а лесу, які ішоў паўз луг. Алешнік уперамешку з бярэзнікам, часамі з тонкастволай лазой і вербалознікам, у нас быў злева.

Справа за рэчкай ландшафт быў амаль той жа. За нізіннай расліннацю, чарналессем, віднеўся сасновы бор, прыгожа вырысоўваючыся сваімі кронамі, намаляванымі ў густой фарбе, на фоне рэдкай сіні зімовага неба.

На самым лузе там-сям былі раскіданы адзінокія кусты лазы або алешніку, відаць была то беластвольная бярозка, то з каравым ствалом вербалозіна.

Не, яны не проста рассыпаліся па лузе, як жывёла, якая ходзіць самапасам. Яны раслі на беразе рэчкі. Але так як рэчка была вельмі пакручастая, то і здавалася, што на лузе рассыпаны адзінокія дрэвы. Дрэвы ж над рэчкай, хай гэта быў луг, дзе павінна была расці трава, ніхто ніколі не ссякаў.

Сена з лугу было звезена даўно, бо адонкі вакол сцежараў былі роўна прысыпаны снегам і амаль не было прыкмет таго, што тут стаяў стог.

Спачатку я ехаў хутка, далёка пакідаючы Ніну, але потым пачынаў ехаць цішэй, і цяпер мог сказаць усім, не толькі Ніне, але і любому, што я іду. Кійкамі не адштурхоўваюся, а перастаўляю іх, як бы мне стала вельмі цяжка і я абапіраюся на іх.

— Што, выдыхаўся? — жартуе Ніна, дагнаўшы мяне і едучы побачкі са мной.

— Выдыхаўся. Увесь выйшаў, і сілы — хоць сядай на лыжы і сядзі. Ні кропелькі. Дыхаю і набіраюся сілы. А ты?

— Яшчэ б гэтулькі ехала.

Я спыніўся. Ніна, крыху праехаўшы, таксама спынілася.

Мы былі на лузе, у лесе, далёка ад людзей, пад мяккім зімовым небам, ледзь зацягнутым смугой, якая хавала сонца, але не пазбаўляла неба яго натуральнай прывабнасці.

— Якая раскоша, Ніна, а?

— Цудоўна.

— А ты ж ехаць не хацела.

— Во выдумаў: не хацела. Ты, можа, не хацеў.

— Каб я не хацеў, дык я б не паехаў. Добра ведаеш, што лыжы я люблю і часта езджу. Праўда, тут яшчэ не быў. Поле каля школы ўсё скалясіў.

— Ну, мяне браць не хацеў,— і Ніна, вяртаючыся на тое месца, дзе быў я, стала перада мной твар у твар.

Мне было прыемна глядзець на яе, вузкаплечую, кволую, крыху са схіленай, як макаўка, галоўкай, і нечага трошкі смешна, як бывае трошкі смешна з дзіцяці, якое нам падабаецца.

Прыгажосць, мусіць, акрамя гордасці, хавае ў сабе і рысы наіўнасці.

Ніна заўважыла гэты мой бяскрыўдны скептыцызм у адносінах да яе і з усмешкай запытала ў мяне:

— Скажы, калі ласка, чаго ты смяешся?

— З цябе. Скажу табе праўду.

— Чаго?

— І сам не ведаю. Смешна стала. Нейкай ты дужа кволенькай выглядаеш. Лілея. Ды яшчэ на снезе?

— У ты, цюлень крываногі. Мядзведзь. Сабакевіч. А ты не смешны ў сваім лыжным касцюме? — І яна пачала тыкаць мне ў жывот вострым металічным канцом кійка.

Я стаў адступаць перад зброяй Ніны і, смеючыся, папрасіў прабачэння.

— Думаў, што я слабая? Мы з вамі, жанчыны, што хочаш зробім. Ведаеш, што калісьці быў матрыярхат? Ведаеш, колькі нас сярод людзей з вышэйшай адукацыяй? Шэсцьдзесят працэнтаў, во. Больш за палавіну. Дэградацыя пасцігае вас, мужчыны, во. Чуў?

— Маніш, паважаная Ніна Адамаўна. Мне, як гісторыку, вядома гэтая лічба. Не шэсцьдзесят, а пяцьдзесят два. Не падымай свой пол занадта і не зневажай мужчын.

— Але ўсё роўна больш за палавіну.

— Калі акругліць па ўсіх правілах матэматыкі, дык і не больш. Затое вас больш, чым мужчын.

— Было! Было! У тым пакаленні, што вайну перажыло. Зараз дзяўчынак раджаецца менш, чым хлопчыкаў.

Мы яшчэ колькі хвілін пасвавалілі з Нінай словамі, шпурляючы іх, нібы снежкі, абы-куды і абы-як, балазе не было сведак, і я сказаў ёй:

— Мір, Ніна. Мір. Здаюся,— і нават падняў угору лыжныя кійкі.— Ёсць сур'ёзнае пытанне. Луг, рэчка, лес, неба. Цудоўны пейзаж, праўда? Як бы ты яго перадала на палатне, калі б табе сказалі намаляваць яго?

Ніна доўга глядзела вакол, прыжмурваючы то адно, то другое вока, краталася з месца на лыжах, праязджаючы туды-сюды, робячы круг, і сказала мне, пад'ехаўшы і абапіраючыся на кійкі:

— Вось так бы і намалявала, як ёсць. Тут, бадай, і мяняць няма чаго. Хіба б варону якую дадала ў лёце? Каб пейзаж быў не мёртвы.

І ў гэты час амаль над намі праляцелі адзін за адным, хутка, як ракеты, круглацелыя, тупаносыя чорныя глушцы. Я нават не паспеў схапіць вокам, колькі іх было.

— Пяць,— адказала Ніна.

— Ты лічыла?

— Так мне запомнілася. Ой, якія яны імклівыя! Галоўкі маленькія, а самі тоўстыя, як качкі. Вот я б і намалявала іх у небе над гэтым пейзажам. Усіх пяць. Лепш і не прыдумаеш. Ды якія птушкі! Гэта не вароны табе.

— Так. Кожны чалавек у нейкай меры мастак. Ну, калі не мастак, дык ва ўсякім разе мастачок. Ёсць жа ў яго ўрэшце душа, розум, вочы, вушы. Густ, пачуццё асалоды. Ды і не ў гэтым справа. Я хацеў у цябе запытаць, калі б ты, скажам, пераносіла на палатно гэты малюнак прыроды: якім бы ты намалявала неба?

Ніна пачала ўзірацца ў неба па той бок рэчкі, зноў прыжмурваючыся, звужаючы то адно, то другое вока.

— Сінім.

— Сінім?

— Сінім. Хаця яно сёння не зусім сіняе.

— Чаму?

— Таму што неба сіняе. Удзень, уночы, узімку, улетку. Гэта яго заўсёдны колер і, трэба сказаць, самы прыгожы. Сіняе неба — гэта колер жыцця. А я так люблю жыццё!

## 12

Што робіць гэтая Зоя, ну? Вот жабянё! На ўроку яна сёння цвіла. На твары сонца, у вачах шчасце. З чаго?

Увесь клас быў сёння нейкі святочны, не такі, як кожны дзень, хаця надвор'е без сонца, хмурае, і радавацца, здавалася, няма чаму. Вучні на ўроку не перашэптваліся, не займаліся нічым пабочным. Уважліва слухалі адказы выкліканых да дошкі, мяне, калі я тлумачыў новы матэрыял.

Я ў сваю чаргу, нібы зачараваны ўвагай вучняў, так павёў гутарку па новай тэме, што пасля званка, ідучы па калідоры з класа, сам здзіўляўся: як добра атрымалася! Я адкрываў у сабе новае, я пазнаваў сябе.

Я адкрываю ў сабе майстэрства — магу! — і мяне гэта радуе і падбадзёрвае. У настаўніцкай я нікога не заўважаю, знаходжуся пад наркозам уласнай думкі і, калі хочаце, уласнага самалюбавання. Першы раз у сваім жыцці я даў урок, якім задаволены сам, і адчуваю сябе занадта шчаслівым. Дзеля такіх шчаслівых хвілін варта жыць на свеце. Вось гэта, мусіць, і значыць: быць настаўнікам.

— Што з табой? — пытае Ніна, калі мы ішлі па калідоры, кожны з настаўнікаў у свой клас, на наступны ўрок.

— А што са мной?

— Пытаюць — нічога не чуеш і не адказваеш.

— Я даў сёння, каб ты ведала, добры ўрок. Выдатны ўрок! І рыхтаваўся слаба, а ўрок выйшаў — я ніколі не даваў яшчэ такога.

— У якім класе?

— У адзінаццатым «А».

— Там, дзе Зоя Шукан?

— Там,— механічна адказаў я і тут жа спахапіўся: — Чаму ты нешта мне пра яе кажаш?

— Яна сёння са мной не павіталася. Ты разумееш, як нахабна! Я па калідоры іду, і яна насустрач: памаленьку, як пераможца, глядзіць мне ў вочы сваімі булатымі зенькамі і ўхмыляецца. Такога яшчэ не было. Мяне аж закалаціла ўсю... З чаго б гэта? — падумала я.— Як яна на тваім уроку сядзела?

Мне некалі было расказваць, як Зоя сядзела на маім уроку. Усе настаўнікі зайшлі ў свае класы, адны мы з Нінай стаялі на калідоры, а ад настаўніцкай, пазваніўшы, на нас глядзела тэхнічка Дар'я. Я даў Ніне знак рукой: «Пасля» — і юркнуў хутчэй з журналам пад пахай у адзінаццаты «Б», дзе быў па раскладу мой урок.

Я павітаўся з класам, сказаў вучням: «Сядайце», палажыў на стол журнал і абвёў кожнага вачыма. Нармальна. Усе і ўсё на сваім месцы, адзначаць не трэба, хто адсутнічае. Потым дэталёва агледзеў класны пакой, як усё роўна ніколі не быў у ім: два вялікія, кожнае ў тры пралёты, вокны з двайнымі рамамі, тынкаваныя сцены з табліцай Мендзялеева, рудую падшыўку столі, высокія двайныя рыжыя дзверы, чорную дошку на сцяне, павешаную жалезнымі вушкамі на цвікі без плешак.

Падлога, пафарбаваная ўвосень, згубіла свой бляск, была цёмная, лепш бы яе і не фарбавалі.

А якой бы ты зрабіў падлогу, калі б быў дырэктарам?

Правільнае пытанне. Сотні ног пратупаюць за дзень па гэтай падлозе. І не ў тэпцях якіх-небудзь, а ў звычайным вулічным абутку.

Не, урок у мяне, калі сказаць шчыра, не атрымаўся. Мне нечага не хапала, на некага я быў не тое што злы, а быццам у нейкай крыўдзе — не то я яму не дагадзіў, не то ён мне. Апытваў вучняў па тэме мінулага ўрока

вяла, як кажуць, інертна, не ўнікаў грунтоўна ў іх адказы, і былі мінуты, калі ўвага мая зусім адключалася, і я пасля спахапліваўся: правільна гаварыў вучань ці няправільна?

Што гэта? Шок? Гультайства думкі?

Была ж у мяне энергія? Была, бясспрэчна. Каб толькі было яе куды падзець.

Я згубіў мэту, ясна. У тым класе ў мяне была мэта — добра правесці ўрок — а ў гэтым, у адзінаццатым «Б»...

Чаму яе няма ў мяне ў гэтым класе? Куды яна падзелася? Ніна сапсавала настрой, успомніўшы імя Зоі?

А можа, проста немагчыма ўсе ўрокі даваць добра, такімі, якімі б ты хацеў іх бачыць? Можа, шчасце добрага ўрока рэдкае, рэдка спускаецца да настаўніка?

Назваўшы тэму новага ўрока, які я павінен быў растлумачыць, я сказаў:

— Прачытайце самастойна па падручніку. Каму што будзе незразумела, задавайце пытанні.

Гэта значыць мне.

Вучні зашасталі лістамі падручнікаў. Сцішыліся, чытаюць.

На некаторых партах чыста, няма кніг перад вачыма вучняў.

— Што? — пытаю.

— Не ўзялі.

Яны не вінаваты. Падручнікі па гісторыі насіць у школу было неабавязкова. Новы матэрыял я заўсёды тлумачыў.

Шукаем падручнікаў для гэтых вучняў, бяскніжнікаў. Дзе на парце дзве кнігі, бяром адну і перадаём на парту, дзе няма ніводнай.

Урэшце ўсе вучні ўтупіліся ў кніжкі — хто па двое ў адну, хто, у каго былі, па аднаму.

Я зноў аглядаю даўно знаёмы мне клас: вокны, дзверы, столь, падлогу, рудую пашарпаную табліцу Мендзялеева.

За акном бачу голы, пасаджаны алеяй рабіннік. Гонкі, вынослівы, такі ў лесе не расце. На яго садзяцца вялікія, як камякі, чырванагрудыя снегіры. Вучні мае таксама ўсе павярнулі галовы ў вокны.

— А чытаць? — жартую я.— Якія ў каго ёсць пытанні? Што незразумела?

Ухмыляюцца. Дзе яны табе будуць чытаць! Падручнік дома чытаюць, не ў школе.

Аднак я ведаў, што некаторыя настаўнікі такія ўрокі практыкуюць. Нават падымаюць на шчыт, выхваляюцца імі. Новы метад. Самастойнасць.

У мяне ж такі ўрок не атрымаўся. Хай даюць іх, такія ўрокі, лайдакі.

Я не буду даваць іх больш. Даруй мне яго, адзін такі ўрок, маё сумленне!

Заварыла ўсю кашу, як я пасля ўведаў, Зоя. Вот жабянё, ну! Яшчэ ўвечары аббегала ўсіх сваіх аднакласніц і расказала ім, што быццам мы з Нінай пасварыліся. З якіх крыніц яна гэта ўзяла, не ведаю. Мусіць, бачыў нехта, калі не яна сама, як мы паехалі з Нінай на лыжах разам, а вярнуліся па аднаму. Хто дзяліў Зоіну радасць па-сапраўднаму, а хто падрабляўся, але клас быў цалкам на яе баку. І яна ўявіла, што яна перамагла, і не палічыла патрэбным павітацца з Нінай.

Пасля ўжо, дзён праз некалькі, улучыўшы момант, калі вакол нікога не было, я запытаў у Зоі, чаму яна так зрабіла.

— Пётр Фёдаравіч, што вы! Я заўсёды з усімі вітаюся. Мне цяжка? Язык цяляты ад'елі?

— Чаму ж яна так сказала?

— Яна абы-што можа вам на мяне нагаварыць. Як вас не было, мы добра з ёю жылі. А як вы прыехалі, яна пачала да мяне чапіцца. Чаго яна да мяне чэпіцца?

— Табе, мусіць, Шукан, здаецца. Чаго яна будзе да цябе чапіцца? Што ты ёй? А можа, нагаварыў хто табе на яе?

— Вы што, Пётр Фёдаравіч, маленькай мяне лічыце? Быццам вы нічога і не ведаеце.

Глянула на мяне, усміхнулася і пайшла па калідоры школы. Мяне нешта аж скаланула.

З Нінай не павіталася? Няпраўда, кажа. Хай нават праўда, дык гэта адзінкавы нязначны выпадак. А можа, Ніне здалося, што Зоя з ёй не павіталася? Так бывае, калі чалавек павітаецца, а той, да каго гэта адносіцца, не заўважыць па нейкіх абставінах, пакрыўдзіцца і пачынае ставіць пасткі на першага. Бывае!

І, трэба сказаць, мы, настаўнікі, занадта шмат патрабуем ад дзяцей. «Нельга, нельга, нельга і нельга...» «Павінен, павінен, павінен, павінен...» Гэта адносіцца да вучня. То ён павінен, то яму нельга. Дарослыя жывуць трошкі вальней.

## 13

Усё быццам бы стала на сваё ранейшае месца. З Нінай у нас — як і не было нічога. Я ёй нічога пра рэўнасць Зоі, і яна мне ні слова. Я хадзіў, як і раней, да яе на кватэру.

Мы гутарылі, часамі што-небудзь чыталі, а бывала — пілі чай, слухаючы па прайгравальніку яе любімыя пласцінкі.

Некалькі разоў яна заходзіла да мяне на кватэру — то ўзяць якую кніжку, то пагрэцца, калі чаго трэба было ў краму, а крама была яшчэ зачынена (я жыў зусім блізка каля крамы), часамі — проста паглядзець, як я жыву, тым больш што ў хаце, дзе я жыў, яна і раней часта бывала, калі тут кватаравала настаўніца — гістарычка, на месца якой я прыехаў у школу.

Гаспадыня тады мая, цётка Хадора, несла на стол усё, што ў яе было з далікатэсаў: пчаліны мёд (у гаспадара было ў садку некалькі калод пчол), варэнне розных гатункаў — малінавае, вішнёвае, з агрэсту, са сліў, брусніч-

нае, са «смуроданi»,— смажыла каўбасу, пускаючы прыемны чад на ўсю хату, цягнула за стол, садзячы на самы кут Нiну, тады мяне. I ўжо калi мы згаджалiся прыняць яе пачастунак i сядзелi за сталом, яна ставiла перад намi чаркi i чарку перад сабой i налiвала ў iх з вялiкага бутля цягучай цёмна-чырвонай настойкi. Сабе — ледзь дно закрывала, гаворачы, што i на вяселлях, i на хрэсьбiнах яна п'е трошкi, затое спявае i танцуе за траiх.

Частавала нас i ўсё прыгаварвала:

— Ежце ды жанiцеся во хутчэй. Дакуль вы будзеце глядзець адзiн на аднаго? Пара ўжо. Не ў тваiх руках дзеўка — не твая, Пецька. Ты ведаеш, дзе яна ходзiць, з кiм гаворыць? З дзеўкай так трэба: спадабалася — хапай аберучкi i валачы дамоў, як той воўк авечку ў лес. Не любяць дзеўкi нясмелых, ой не любяць. Што з яго, такога, нясмелага? Качан капусты. Хочаш рэж, хочаш еж — нi паху, нi соку. Э-э-э, Пецька, ты Пецька...

— Фядора Фядосаўна, што гэта вы ўсё на мяне ды на мяне? Можа, яна не хоча за мяне iсцi? Можа...

— Можа... га? Можа... Можкаеш? Здаецца, i вучоны, а як дзiця. Хочаш, каб дзеўка сказала: «Бяры мяне». Дзе ты знойдзеш такую дурнiцу? Ссiвееш, а не ажэнiшся, калi такiм будзеш. Дзеўка хоча цi не хоча, а чачэнiцца. Дзеўцы i трэба чачэнiцца. Праўда, Нiнка?

Нiна ўсмiхнулася, схiлiла галаву i адказала:

— Не ведаю.

— У мяне можаце жыць. I дзяцей буду гадаваць вашых. Унукаў пагадавала ўжо, што мне рабiць, старой? Старому трэба занятак. Мне — каб гаварыць з кiм. Я не магу, каб адна ў хаце. Галавой аб сцяну бiцца? Вашы гаспадары ваўкаватыя,— сказала цётка Хадора да Нiны.— Людзi яны неблагiя, але патупяцца i маўчаць. Што чалавек думае, калi маўчыць, хто яго ведае! Можа, ён i не любiць, што ты з iм? Ваўкаватыя. А я не люблю ваўкаватых людзей. Мой во, вазьмiце: ён жа маўчыць i маўчыць. Калi хто не ведае, «што гэта за чалавек?» —

падумае. А як я ведаю, дык з такім яшчэ жыць можна. Што я ні раблю, слова не скажа. Не, мой стары добры. Маўклівы толькі, у кампаніі толькі не ўмее паказаць сябе, каб думалі пра яго, што ён не абы-які. А так ён не ваўкаваты, не. Ты хадзі, Нінка, да нас. Часцей хадзі. Мы рады. І я, і мой стары. І ты, Пеця, калі што якое, не туліся ў куток. Стары мой да цябе — нічога. Я ж кажу, і дзяцей вашых буду гадаваць.

— Фядора Фядосаўна...

Цётка Хадора цап за руку мяне.

— Не заві мяне так, Пецька. Не трэба. Не люблю я так: Хвядора Хвядосаўна. Што я: бог ведае якая? Я даўно табе хацела сказаць, а цяпер во пры Ніне кажу, не трэба. Не заві. Ніхто мяне ніколі так не зваў, і ты не заві. Каб я была якая настаўніца ці дакторка... А то — баба цёмная.

— Савецкая ўлада...— пачаў я, але цётка Хадора зноў мяне за руку.

— Уласці дзякуй. Накарміла і напаіла яна нас. Дарогу людзям дала. Маладым занадта добра стала жыць. Але як з лапця не зробіш бот, так і з нас ужо нічога. Аджылі ўжо мы сваё, зжылі свой век. Толькі і радасці, што паглядзіш во на вас, на маладых. Ды на гэткіх вучоных , як вы. Не трэба ўзвелічаць нас, і не заві мяне, кажу, гэтак.

— Ну, а як вас зваць?

— Заві мяне, як усе завуць: цётка Хадора.

— Добра,— я хацеў сказаць: Фядора Фядосаўна.— Добра, цётка Хадора. Помніце, вы сказалі мне, што калі я ажанюся ды ў мяне будуць дзеці, вы не будзеце трымаць мяне на кватэры? Помніце?

— Я?

— Вы. Забыліся?

— А ты наперад ажаніся, тады паглядзіш, ці выганю я цябе. Гаворыш нешта абы-што. Ты казаў, што настаўніку хата не трэба. А я казала, што трэба. І цяпер кажу,

што трэба. Пажывеш на кватэры, а тады ўбачыш, што свая хата трэба. Я ж не буду сто гадоў жыць, памру. А людзі не роўныя. Адзін на кватэру бярэ, каб чалавек жыў, а другі — каб самому лепш стала жыць. Што вы, калекі якія? І хату пабудуеце. Саберыцё грошы і пабудуеце.

Усё быццам наладзілася і стала на сваё месца, калі глядзець збоку, так сказаць, знадворку, вонкава.

Але і не ўсё. Мяне мучыла: што ў яе на душы? Я ёй нічога, і яна мне. Не, так нельга.

Я ёй і кажу аднойчы:

— Ніна, я не магу так. Усякую ісціну я павінен убачыць да канца. Я... Ты... Вунь пра тое самае. Ты разумееш мяне?

— Чаму не разумею. Я адразу ўсё разумею, не то што ты. Мяне здзіўляе: які ты тугадум. Толькі цяпер да цябе дайшло? Ну, брат, і ход у цябе. Колькі б, скажам, спатрэбілася табе гадоў, каб дайсці пешкам да Масквы?

Я, не доўга думаючы:

— Слухай, даедзе гэтае кола да Казані ці не даедзе? А да Масквы?

Ніна шчыра рассмяялася.

— Усё ж такі не такі ты ўжо тугадум, як я пра цябе думала. За словам у кішэню ты не палез. Так разважалі гогалеўскія мужыкі, я ведаю, пазіраючы на брычку Чычыкава. Так? Іх ты маеш на ўвазе? Я хацела сказаць: чым адправіцца ў якое-небудзь падарожжа, ты гадоў з дзесятак будзеш думаць. Угадала я твой характар? Так? Ты ўсё думаў і думаў, як конь над аўсом. Падабаецца табе гэтае параўнанне?

— Не зусім. Але, калі б не пра мяне, трапна.

— Іменна табе яно і прыстае. Думаеш, я не бачыла тваіх танталавых пакут? Бачыла. Але, думаю, маўчаць буду. Хай чалавек паварыцца ў сваіх пакутах, можа, толк які выйдзе.

— Чаму з мяне толк павінен выходзіць? Я сам у ім маю патрэбу. Я не конь над аўсом і не тугадум, Ніна. Ты проста зневажаеш мяне. Успомні Гамлета. Ён павінен быў праверыць, упэўніцца, пераканацца. Быць ці не быць... Гэта не так проста.

— Маштабы праблем? — і весела рассмяялася...

Мне стала зусім-зусім лёгка. Я стаў шмат чытаць. Асабліва мастацкую літаратуру на гістарычную тэматыку. Я чытаў у вольны час дома, чытаў на перапынках у настаўніцкай тамы «Севастопальскай страды», «Цусімы», «Степана Разина» насіў на ўрокі і там вычытваў з іх вучням, з натхненнем, голасна, цэлыя старонкі.

— Пеця, глядзі, здурнееш, нешта ты ўлёг у гэтыя кніжкі, пагаварыць, калі б што і трэба было, няма калі з табой. У нас быў тут у Залессі адзін такі. Здурнеў. Прысягаю госпаду богу, што здурнеў. Чытаў, чытаў во так, як ты цяпер, і... крануўся. Хай стары во скажа, што не мана, а праўда была.

Стары, як назвала яго цётка Хадора, мой гаспадар дзядзька Ёсіп, упершыню, мне здаецца, умяшаўся ў нашу з цёткай Хадорай гаворку.

— Праўда,— пацвердзіў дзядзька Ёсіп.— А ты ведаеш, што ён чытаў? — звярнуўся ён да цёткі Хадоры.— Святыя кніжкі. Ад іх чалавек не разумнее, а дурнее. Вучоная кніжка розум чалавеку дае, а святая — апошні забірае. А ў яго і так, у Барыса таго, розуму як у вераб'я было. А ты кажаш — здурнеў.

— Не ўсё роўна кніжка? Адзін чорт з іх, ці святая, ці не святая. Там буквы, і там буквы — шэрае ўсё. Як утупіцца чалавек у іх, як пачне ўглядацца, дык яны і заскачуць у яго перад вачыма, як тыя чэрці. А вочы што, яны ж у галаву ідуць? І ў мазгах гэтак усё замітусіцца, закруціцца, і пачынае чалавеку здавацца абы-што.

Усё станавілася на сваё месца.

— Ніна, як цяпер з табой Зоя? Вітаецца?

— Нічога. Вітаецца.

— Адказвае як?

— Здольная. Чытае шмат. Сачыненні добрыя піша.

— На залаты медаль ідзе.

— Канешне. Толькі, мне здаецца, зрабілася яна трошкі як бы пакрыўджаная. А ў цябе як на ўроках?

Мне не хацелася гаварыць з Нінай больш пра Зою. Няма эксцэсаў? Няма.

Зоя змянілася, я гэта добра бачыў. У класе, на калідоры, на вуліцы, у клубе яе як бы і не было. Не чутно было яе голасу, не відаць ухмылкі. Усё будзе задуменна глядзець у кніжку, у часопіс, у газету.

Яна ўзяла сябе ў рукі, пасталела ці гора асядлала яе?

Мне зараз неабходна было адно: хутчэйшы канец навучальнага года. Каб Зоя скончыла школу і не было больш яе ў класе. Мне шкада было яе. Хаваць жа сваё пачуццё ад другіх я мог з вялікімі пакутамі для сябе.

Ніне — ні,ні. Я не думаю, што ў яе прачнецца рэўнасць і яна затоіць да мяне нядобрае. Я так мяркую: у чалавека часамі ўзнікаюць такія пачуцці і погляды, з якімі ён павінен разбірацца толькі сам. Сам! Навошта каму тваё няшчасце? Ніна будзе хвалявацца і не паверыць таму, што я тут ні пры чым. Звычайную маю спагадлівасць да Зоі яна можа ацаніць як пачуццё кахання.

А ці каханне гэта было?

## 14

З першых жа месяцаў работы ў школе я пачаў з вучнямі рабіць наглядныя дапаможнікі па гісторыі. Матыка? Якая яна? Гледзячы на малюнак, рабілі матыку. Саха? Давайце зробім саху. Вось вам і саха. Доўга стваралі макет трактара. Гусенічнага і калёснага. Тады плугі да яго, бароны, розныя акучнікі.

Скарыстоўвалі ў сваёй рабоце дрэва, пласцілін, гліну, вапну, цэмент, мел, розныя фарбы.

Зброя ад лука да танка з самалётам і падводнай лодкі.

Азоў? Рабілі макет крэпасці Азоў.

«Аўрора»? Давайце зробім крэйсер «Аўрору». І рабілі Зімні, і рабілі Крэмль.

Што нельга было паказаць у сваім макеце, пісалі ў ярлыках да іх. Да кожнай прылады або макета мы прымацоўвалі ярлык — своеасаблівую біяграфію, ці, іначай гаворачы, пашпарт рэчы.

Аднойчы прыязджае ў школу загадчык райана Андрэй Іванавіч Крыцкі, а з ім інспектар Піліпчык.

Настаўнікі перапалохаліся камісіі! Аднак дарэмна. Не было чаго баяцца і не было чаго палохацца. Ніякай камісіі.

Андрэй Іванавіч сказаў дырэктару ў настаўніцкай услых, каб усе чулі:

— Пакажыце-тка нам усё гэта.

Дырэктар, як відаць было, ведаў ужо, што такое было гэтае «гэта». Мы ж, настаўнікі, не ведалі.

— Пётр Фёдаравіч,— і дырэктар кіўнуў мне галавой, каб і я ішоў разам з ім, загадчыкам райана і Піліпчыкам.

Я не разумеў, у чым справа, пакуль мы не прыйшлі ў школьную майстэрню і дырэктар не падвёў мяне да паліц з маімі вырабамі і не сказаў:

— Паказвай і расказвай. Начальства цікавіцца.

Празвінеў званок з вялікага перапынку (у мяне якраз была ўперадзе «фортачка»), а я ўсё паказваў і расказваў пра свае самаробныя прылады матэрыяльнага і духоўнага развіцця гісторыі.

— Не радуйцеся, не канец. Яшчэ ёсць,— сказаў дырэктар начальству, і мы ўсе пайшлі ў бакоўку ў канцы калідора, дзе хавалася тое-сёе з аджыўшай дробнай школьнай маёмасці.

Калі мы выйшлі з бакоўкі, загадчык райана надзвычай цёпла глянуў на мяне і запытаў.

— Усё? Ці яшчэ ёсць, Пётр Фёдаравіч?

Не, мяне чамусьці праняло гэтае «Пётр Фёдаравіч». Я не прывык, каб старэйшыя за мяне людзі, з большым жыццёвым стажам, чым ён у мяне, не гаворачы ўжо пра іх пасады, хай нават на словах, ушаноўвалі мяне. Мне падабаецца простае вучнёўскае або студэнцкае «ты», проста імя, проста прозвішча. Тут усё ад душы, па-свойму, па-таварыску і па-брацку. У тактоўным «Пётр Фёдаравіч» я не навучыўся яшчэ разгадваць, дзе яно шчырае, а дзе — наадварот. Але такі школьны этыкет, каб называлі настаўніка не толькі вучні, але і настаўнікі і ўсё начальства настаўніцкае поўным тытулам — па імю і па бацьку. Я прывыкаю да гэтага этыкету і ўсё не магу прывыкнуць, быццам вось-вось павінна вярнуцца да мяне студэнцкая або вучнёўская воля.

Я адказаў загадчыку райана, імкнучыся быць тактоўным, добра памятаючы, што калісьці, пры прызначэнні мяне ў Залескую школу, мы з ім быццам пацапаліся:

— Будзем рабіць больш, Андрэй Іванавіч, калі мала.

— Я не кажу, што мала. Не мала. Нароблена дай бог. Я кажу, каб мы чаго не прамінулі паглядзець. Так, Максім Макаравіч? — звярнуўся ён да дырэктара, як бы заклікаючы яго ў сведкі.

— Канешне,— пацвердзіў дырэктар. Тады, як бы папраўляючыся: — Не прамінулі, Андрэй Іванавіч. Дзед чэсны.

Глянуў на мяне і ўсміхнуўся.

— Ведаеце, я часамі жартам называю яго дзедам. Малады, між намі гаворачы, а такі сур'ёзны. Але ён на мяне не крыўдзіцца. Не, Пётр Фёдаравіч?

— Чаго я буду сердзіцца?

— Мы як свае з ім.

Загадчык райана і Ціліпчык паціху пайшлі па калідоры, уважліва разглядаючы, што было на яго сценах: насценныя газеты, стэнды, расклады, аб'явы, партрэты правадыроў і пісьменнікаў.

Я пакуль што пайшоў у настаўніцкую, дзе было ціха. Настрой у мяне быў няпэўны: я яшчэ не ведаў, з якой мэтай глядзеў загадчык райана мае паробкі. На раённую выстаўку каторыя адабраць, як наглядныя дапаможнікі, зробленыя самімі вучнямі?

Вось і яны заходзяць у настаўніцкую — мажны Піліпчык, голагаловы Максім Макаравіч і няпрослы, вельмі акуратны ў вопратцы загадчык райана Андрэй Іванавіч.

Расселіся хто дзе.

— У вас урок ёсць? — глядзеў на мяне Андрэй Іванавіч.

— Ёсць.

— У якім класе?

— У дзевятым.

— Сходзім, Сяргей Піліпавіч? — і ён перавёў свой мяккі погляд на інспектара.

— Трэба, мусіць, паглядзець. Чаго ж мы ехалі?

— Сходзім, Пётр Фёдаравіч, да вас на ўрок.

Па голасе Андрэя Іванавіча я зрабіў вывад: гэта ім неабходна. Не ведаў толькі дзеля чаго.

А пакуль не было званка з урока, перакідваліся такімі-сякімі выразамі, як гэта заўсёды бывае, калі нечага чакаюць.

— А вы настойлівы,— гаварыў мне Андрэй Іванавіч.

— З чаго вы ўзялі?

— Дзед у мяне працавень,— пахваліў мяне дырэктар.

Я адчуў дзяціны сорам, што мяне ў вочы хваляць.

— З чаго я ўзяў? Памятаеце, як я хацеў паслаць вас на нямецкую мову?

— А я не згадзіўся?

— Заўпарціліся.

— Правільна, я не паехаў бы.

— А вы б і нямецкую мовы выкладалі.

— Выкладаць можна. Толькі як?

— Як? Ведаеце, якія ў нас ёсць выкладчыкі нямецкай мовы?

— Дык не даваць ім...

— Не даваць! Зусім не выкладай прадмет?

— А што! Можа б, прыслалі.

— Усяк спрабавалі. Не прысылаюць.

— Няма іх,— сказаў Пілiпчык.— Не едуць у вёску.

На ўрок да мяне пайшлі загадчык райана, Пілiпчык, дырэктар і Розум.

Розум з тоўстым сшыткам, куды ён запісваў аналізы ўрокаў, якія наведваў. Увесь урок час ад часу ён нешта пісаў у сшытку — касабочачыся і трымаючы вочы на ненатуральна далёкай адлегласці ад паперы, на якой пісаў. Быў ужо дальназоркі, як мог я заключыць. А што запісваў? Я ўяўляю схему гэтага запісу, старую і звыклую, як сам свет. Гэта: арганізацыя ўрока, апытванне вучняў, формы гэтага апытвання, тэма новага матэрыялу, тлумачэнне яго, замацаванне і хатняе заданне; вывад: добрае і дрэннае на ўроку.

Астатнія тры чалавекі нічога не запісвалі, толькі слухалі, нават не збіраліся запісваць, бо не лажылі на парты перад сабой нічога з таго, на чым і чым пішуць.

Загадчык райана слухаў дзіўна: падпёр бараду сашчэпленымі рукамі і так прасядзеў увесь урок.

Разбора ўрока не рабілі. Загадчык райана на развітанне цёпла пацiснуў мне руку і сказаў:

— Раскрываем карты, каб вы гатовы былі да таго, што мы для вас рыхтуем. Мы думаем правесці ў вашай школе семінар гісторыкаў. Дасце адкрыты ўрок і выставіце для агляду сваю нагляднасць, зробленую вашымі вучнямі. Толькі не ведаю: яе трэба было ўсю сабраць недзе ў адно месца, можа, размясціць па раздзелах ці эпохах, як лепш — самі падумайце. Ясна, Пётр Фёдаравіч?

— Ясна, ды не зусім. Чаму, Андрэй Іванавіч?..

Андрэй Іванавіч не даў мне выказацца, мусіць, добра разумеючы, што я скажу.

— Лірыка, Пётр Фёдаравіч. Я ведаю, усе аднекваюц-

ца, калі што трэба зрабіць, і вы ў гэтых адносінах не выключэнне. Вось дырэктар, дайце месца нагляднасці. Аб даце дамовімся, калі ў вас тут выйдзе. Тэма ўрока каб не худая выйшла. Адным словам, сплануйце. А за сёняшні ўрок дзякуй. Думаю, што і Сяргей Піліпавіч, і Максім Макаравіч, і Сысой Сцяпанавіч адной са мной думкі.— Глянуў на кожнага з іх, нібы знаёмячы мяне з імі.

— Наадварот, я павінен вам дзякаваць, што вы наведалі мой урок. Так сказаць, усё начальства.

Пры гэтым я глянуў і на Піліпчыка, і на Капача, і на Розума і заўхмыляўся, даўшы зразумець, што я жартую.

— Жартаваць можна, я разумею. Але і не магу я пабываць на ўроках ва ўсіх настаўнікаў раёна. Армія — семсот чалавек! Бываю толькі ў асобных.

— Каго трэба падняць або апусціць. Так, Андрэй Іванавіч? — кіўнуў галавой, ухмыляючыся, дырэктар.

— Бывае так і бывае не так. Бывае чыстая выпадковасць.

— Затое ў вас вочы і вушы: інспектура, школьная адміністрацыя.

— Вочы і вушы, ды чужыя. Лепш сваіх два вокі і вухі, чым чужых сотня.

Калі яны паехалі, дырэктар павёў мяне ў свой кабінет і паказаў:

— Стол Розума — вон. Стол мой — вон.

— Куды? — здзівіўся я.

— У настаўніцкую. Э-э-э, гэткая бяда: кабінет. Я ў ім, можна сказаць, ніколі і не сяджу. А Розум не вялікі пан. І ў настаўніцкай пасядзіць. Тут,— ён паказаў рукой на сцены,— паробім паліцы, і будзе ў нас нешта накшталт гістарычнага музея. Толькі, можа, міні. Вы згодны з маёй ідэяй?

— Не блага, чэснае камсамольскае. Толькі кабінета ў вас не будзе. І Сысой Сцяпанавіч пакрыўдзіцца.

Дырэктар рэзка ўніз махнуў рукой і адказаў:

— Робім.

А Сысой Сцяпанавіч, седзячы за сваім сталом у настаўніцкай, не то ўсур'ёз, не то жартам, але, як мне здалося, прыбеднена, выгаварваў мне дні праз два:

— Пётр Фёдаравіч, гісторыя — гэта казкі. Чытай або слухай, што было,— і ўсё тут табе. А вы выдумалі нешта. З кабінета во выселіў! Дзень у тлуме і тлуме.

Я, крыху счакаўшы, адказаў яму:

— Не я ж вас выселіў. Дырэктар.

— Я ведаю, што не вы. Але каб не вы?

— Фармальная логіка, Сысой Сцяпанавіч. Так можна дайсці да абсурду.

— Ну, да абсурду. Лёгка ў вас, у маладых, усё атрымліваецца. Я толькі пажартаваў з вамі ад душы, а вы на вывады ўжо кінуліся. Вы думаеце, я не разумею, што такое перадавое? Я быў у вас на ўроку. Добры вы ўрок далі, ніякіх пярэчанняў не можа быць. Толькі я вам скажу (вы не крыўдуйце): маладыя думаюць, што яны — разумныя, а ўсе старыя — дурні.

Дома праз дзён колькі цётка Хадора зрабіла мне праборку.

— Добра, Пецька, не кажаш мне нічога, а? Кармлю цябе, паю. Сарочкі твае мыю. Пасцелю сцялю. А ты, як ваўчок, а?

Спачатку я аж сумеўся. Якую непрыстойнасць, калі і дзе дапусціў я ў сваіх паводзінах? І не разумеў нічога.

Я паціснуў плячыма і гавару цётцы Хадоры:

— Здаецца, я, цётка Хадора, чысты перад вамі. Што я павінен быў сказаць вам?

— Што сказаць? А прыязджалі да цябе?

Думаю: хто да мяне прыязджаў?

— Калі? — кажу цётцы Хадоры.

— А з раяна? Не ведаю, думаеш?

Вось у чым справа! Мне аж весялей зрабілася, што за далёкімі захадамі цёткі Хадоры няма для мяне ніякай небяспекі.

— Дык ці яны да мяне? Яны ў школу, цётка Хадора, прыязджалі!

— Не дуры галавы мне. Да цябе! Адкрыты ўрок будзеш даваць. І музей з дзярэктарам будзеце рабіць. Розума з кабінета выгнаў. І свой стол у настаўніцкую вынес. Усё ведаю!

— Усё роўна яны ў школу прыязджалі. А я ламлю галаву: хто ж гэта калі да мяне прыязджаў?

— Ты, як будзеш даваць адкрыты ўрок, не бойся, Пеця. Смела трымайся, як туз. А то, казалі, як прыйдзе хто чужы на ўрок да Аладкі, дык яна ўся калоціцца. І не выходзіць тады ў яе нічога.

— Я, цётка Хадора, не буду калаціцца.

— Во-во, не бойся. А як будзеце музей рабіць, дык я пакажу табе і сваю прасніцу, і верацяно. І самапрадка ёсць у мяне. А на столі і ставы ляжаць яшчэ. Усё: навой, панажы, сучапкі, ніт, бёрда. Толькі ніт мышы пастрыкалі. Ой, як успомню, як даўней бабы пралі і ткалі — ні дня, ні ночы не ведалі. Вот гаравалі людзі! А цяпер і ткаць і прасці не трэба, і насіць ёсць што. Рай настаў людзям. Рай!

## 15

Я з ахвотай узяўся са сваім класам за складанне альбома «Яны загінулі за Савецкую Радзіму». Трэба было абысці ўсе хаты Залесся, перапісаць прозвішчы загінуўшых, запісаць такія-сякія біяграфічныя звесткі аб іх і папрасіць у бацькоў ці радні іх фатаграфіі.

Калі мы сабралі неабходны матэрыял, я жахнуўся. З франтоў Вялікай Айчыннай вайны не вярнуліся ў Залессе чатырыста чалавек. Гэта на тысячу сучасных жыхароў Залесся.

Многа. Вышэй той статыстычнай лічбы, якая гаво-

рыць, што ў Беларусі загінуў у апошнюю вайну кожны чацвёрты. Былі такія хаты, дзе не вярнуліся дамоў усе тры або нават усе пяць сыноў (у Залессі трыста двароў).

Калі я афармляў альбом, дадаткова звяртаючыся то да паасобных людзей, то ў сельскі Савет, чалавек, якому было пад шэсцьдзесят, старшыня сельсавета Хапок, дастаў са свайго стала і падаў мне ўжо зрудзелую, вельмі даўніх гадоў фатаграфію, сказаўшы:

— Прысавакупі.

Я паглядзеў.

На адваротным баку карткі было напісана: «Убіт кулакамі в 1929 годзе».

— Хто ён? — глядзеў я на чорнавалосага з маленькімі чорнымі вусікамі пад носам старшыню, які раскрывае перада мной нешта невядомае мне («убіт кулакамі»).

— Наш, тутэйшы.

— Хто яго бацькі ці радня?

— Нікога няма з іх. Тры браты ў вайну пагіблі. Ён — тады. А бацькі паўміралі. На іх дворышчы цяпер жыве акушэрка Сінякова. Ведаеце яе?

— Ведаю.

— Вуліца тады гэтая называлася Маставая. Вымашчана была дошкамі, таму і Маставая. Гэтая, што цяпер завецца Школьнай.

Значыць, ніякіх слядоў не засталося ад сям'і, акрамя вось гэтай фатаграфіі, на якой быў юнак з віхрастым чубам, з трошкі скуластым тварам, у расплікнутай на горле цёмнага колеру касаваротцы.

— Сясцёр не было ў іх?

— Не.

— І нежанатыя?

— Гэты нежанаты і тыя два, меншыя, нежанатыя. Большы, Гарасім, быў жанаты, але ён жыў на Данбасе і яго там застала вайна.

— Дык, можа, жонка жыве?

— Яна і двое дзяцей іх пагіблі ў бамбёжку.

— А ён?

— Ён на фронце. Паэт быў. Я і цяпер помню адзін яго верш:

Шахта, шахта, колдунья немая!
Я пою о тебе не спроста:
Ты Россию мою согреваешь
И гоняешь по ней поезда.

— Добра. Ён друкаваў дзе іх?

— А як жа. У газетах. Выразкі мне прысылаў з газеты. Падпісваўся Піскун — Қахоўскі.

— Іх такое прозвішча?

— Не. Прозвішча іх Піскун, а ён чамусьці яшчэ прысавакупіў Қахоўскі. Ці таму, што дзекабрыст быў Қахоўскі, ці што жыў там недзе не дужа далёка ад Қахоўкі.

— Қім ён быў?

— Радавым шахцёрам. Быў у мяне яшчэ адзін яго верш, як шахцёры ў клеці спускаюцца ў забой. На памяць не помню ўжо. І з гэтага, што я вам расказваў, частачку толькі помню. Ой, вершы!

— Вы асабіста яго ведалі?

— Разам раслі. Адну ячэйку праходзілі. Тады камсамольскія нізавыя арганізацыі называліся ячэйкамі. Гэты, што на фатаграфіі, Мікола... Запішыце: Піскун Мікола Ільіч. Гэты быў за мяне на год маладзейшы. А Гарасім — гады на чатыры старэйшы. Я 1910-га, а ён 1906-га. Сярэднія былі паміж імі.

— Дзе яго забілі?

— У акне ў хаце. Зімой было. Вячэраць яны селі. Раней жа ў вёсках вокны ніхто не завешваў.

— Хто? Уведалі?

— Чаму не ўведалі. Чалавечая кроў, як кажуць, не прападзе. Уведалі і забралі. Қостка тут адзін у нас быў. Во, у вас у школе яго дачка бухгалтарам.

— Мар'я Іванаўна?

— Ну.

— Што вы гаворыце?

— Толькі яе зараз прозвішча Абадок. Па мужу.

— Дык Мар'я Іванаўна — дачка кулака?

— Як вам сказаць. Я не хачу сказаць, каб вы пра яе думалі абы-што. Яе муж быў партызан, камуніст, як і я. Ён працаваў тут у нас механікам МТС. Добры работнік. У вайну нічым сябе не скампраметавала. Ну, і цяпер... гадуе дзяцей. А бацька яе які быў кулак? Меў паўвалочку зямлі.

— Як гэта паўвалочку?

— Валока дваццаць дзесяцін. А ў яго была палавіна валокі, па-нашаму, тутэйшаму, паўвалочку. Пара коней было. Рагацця некалькі — кароў, авечак. Працаваць любіў. Быў, калі меркаваць па гаспадарцы, звычайны серадняк. Парабкоў не трымаў і, прысавакупі, наёмнай сілай не карыстаўся. А як пачалі калгас арганізоўваць, звер зверам стаў, не чалавек, о.

Невялічкі кабінет старшыні сельсавета быў натоплены, і Хапок сядзеў у ім у адной гімнасцёрцы з накладнымі кішэнямі.

— Ну, не забудзьце, што Маня, як яе бацька страляў, была яшчэ малая. Гадоў восем ёй было, не болей.

Звычайная нескладаная гісторыя, расказаная мне старшынёй сельсавета, а я доўга над ёй думаў. Людзі стралялі ў людзей з-за нежадання жыць так, як жадаў народ, і мы называем іх кулакамі, а іх барацьбу з намі — класавай. Якая трапная назва!

— Цётка Хадора, вы добра ведалі Костку?

— Манінага бацьку? Крый божа, заядлы быў. Разец, казалі.

— Мар'я Іванаўна яго дачка?

— Яшчэ адна была. Тая нейдзе ў Мінску. І маці з ёй жыве.

— Ну, і як?

— Што як? Жывуць, дзякуй богу. У гэтай мужык памёр — рак у жываце быў, а ў той дужа добры. Нейкім галоўным начальнікам на заводзе.

Я з нечым не згодзен, мне нечага млосна. Чужых забіваў, а свае жывуць. І добра жывуць. Не як кольвечы, а жывуць добра.

Нешта мне не па сабе, я нечага хацеў бы, а чаго — і сам добра не разумею, не магу выказаць словамі.

Я доўга хадзіў збіты з панталыку, уражаны тым, што ў школе, дзе я працую настаўнікам, працуе жанчына, бацька якой забіў камсамольца.

## 16

Падзьмуў сакавік густымі вятрамі, закрычаў грачынымі галасамі, пацёк па вуліцах мутнымі ручайкамі.

Вясна.

Як я рад ёй! У класных пакоях з вялікімі вокнамі колькі сонца! Пясок на падлозе, пылінкі ў слупах праменняў — усё гэта нішто ў параўнанні з тым, што прынесла з сабой сонца.

На тварах вучняў акрэслена сталі відаць у каго рабка, у каго радзімка, у каго сляды колішняй драпіны, а ў каго дык пачынаў ужо лупіцца нос.

Абутак — і ў настаўнікаў, і ў вучняў — просты, абы не набраць вады, не вымачыцца. У большасці боты: кірзакі, гума, юхта.

Я ўлез у свае кірзакі, у якіх хадзіў увосень з вучнямі на поле на бульбу. Вымазаў іх ваксай, халявы блішчаць.

А як добра хадзіць у такіх ботах! Ступаеш смела, не выбіраеш месца, куды паставіць нагу. На школьнай алеі вераб'і аж вар'яцеюць ад радасці, круцячыся і натапырваючы пер'е. А неба! Сіняе, сіняе, блізкае і глыбока-бяздоннае.

Вясна. Чалавек забывае сваю скруху, калі што было

з ім такое, і становіцца зноў добрым, ва унісон прыродзе: ласкаваму сонцу, цёпламу волкаму паветру, вадзе лужын на сенажацях, сіняму небу.

## 17

З усіх дакладаў на педагагічных чытаннях нечым вылучаўся даклад Васіля Мікітавіча Рака. У ім была душа, чаго нельга было сказаць пра астатнія даклады, якія звычайна чыталіся па напісанаму, з кніжнай інтанацыяй, без спадзявання на тое, што прачытанае каму-небудзь спатрэбіцца.

За час свайго знаходжання ў Залескай школе я ўбачыў і пераканаўся, што Раку ўсе вераць. Вераць вучні, калі ён гаворыць, вераць настаўнікі, вераць сяляне, калі ён робіць даклад на бацькоўскім сходзе ў школе або ў клубе на юбілейную, міжнародную або навуковую тэму.

Чым ён браў?

Па-першае, ён ніколі не чытаў па паперцы. Паперку ён клаў перад сабой, калі перад ім была кафедра, або трымаў у руцэ, калі не было навошта пакласці, але каб чытаць з яе, утупіўшыся вачыма, як робіць большасць дакладчыкаў,— не.

Ён не проста гаварыў, каб слухач тужыўся, імкнучыся зразумець, што значыць сказанае. У гэты час, калі гаварыў, ён сам рабіўся нейкім празрыста-адухоўленым, то звужаючы вочы, пазіраючы кудысьці ўдаль, то пераводзячы іх, цёплыя, з аднаго слухача на другога, злёгку ўхмыляючыся, шчыра, з глыбіні душы. А калі рабіў рукой жэст, дык гэта быў жэст чалавека. Таму слухаць яго было проста прыемна і ані не цяжка, наадварот, можна было слухаць яшчэ і ані не стаміцца.

Потым: відаць было, што чалавек вельмі добра ведае, пра што гаворыць. Тэма яго выступленняў ніколі не была «чыстай», ізаляванай ад другіх тэм і пытанняў. Яна закранала іншыя тэмы, працінаючы іх асобнымі думка-

мі, як дзідамі, наскрозь, станавілася побач з імі, і было відаць, вялікая яна, трэба яе асвятляць, ці карлікавая, не вартая ўвагі, а калі ў нечым і вартая, дык вельмі маленькай увагі. Васіль Мікітавіч Рак вельмі шырока і глыбока бачыў жыццё, быў чалавек начытаны, сапраўды вельмі эрудзіраваны і, трэба сказаць, меў моцную памяць. Тое багацце ведаў, якое ён дэманстраваў у адным сваім выступленні, нельга было атрымаць за адзін год, і за пяць нельга было атрымаць, скажам, за час знаходжання ў вышэйшай навучальнай установе.

...Артыст некалькі гадзін знаходзіцца на сцэне, настаўнік жа — усё жыццё. Нават тады, калі ён дома, калі адпачывае за трыдзевяць земель. Артыст толькі іграе роль, настаўнік не можа іграць роль настаўніка, ён проста павінен быць ім.

...Тыя людзі, якія думаюць, што можна выхоўваць словамі — брак у нашым асяроддзі. Выхоўвае толькі прыклад, і калі вы хочаце выхоўваць, паказвайце прыклады.

...Пазнанне — не самы лёгкі спосаб жыцця, як некаторыя думаюць, ідучы ў навуку. Пазнанне — цяжкі спосаб жыцця, затое самы надзейны, самы эфектыўны, і ад яго ўсім цёпла, як ад сонца.

...Самы вялікі мастак у свеце — гэта настаўнік. Скульптар лепіць халоднае падабенства чалавека, а настаўнік — жывога чалавека. Таму кожны момант яго работы — творчы, новы, яго нельга паўтарыць у наступную хвіліну, у наступны дзень, у рабоце з наступным вучнем, тым больш з наступным класам і з наступным пакаленнем. Гэта адносіцца як да выхавання, так і да навучання. Нельга, ходзячы па адкрытых уроках, навучыцца даваць добрыя ўрокі, як нельга, ходзячы на канцэрты добрых спевакоў, стаць добрым спеваком, як нельга, чытаючы добрых пісьменнікаў, стаць пісьменнікам. Самае страшнае ў жыцці — калі чалавек толькі пераймае некага, капіруе. Два вялікія чалавекі — гэта не дзве кроплі вады. Гэта, калі хочаце, два полюсы, у многім антыподы.

Макаранка не прызнаваў Вікніксора, Вікніксор працаваў зусім не так, як Макаранка. Аднак і кніга Вікніксора, праляжаўшы ў архівах выдавецтва паўстагоддзя, хутка пабачыць свет, і мы будзем мець магчымасць пазнаёміцца з яго поглядамі на навучанне і выхаванне.

— Васіль Мікітавіч, вы ў сваім дакладзе гаварылі пра Вікніксора. Хто ён такі? Нешта нам ва універсітэце пра яго як педагога нічога не гаварылі,— запытаў я дзён праз некалькі пасля даклада ў Васіля Мікітавіча.

— І не маглі гаварыць. Ён як педагог да гэтага часу быў нібы апальны.

— За што?

— У свой час ён быў дырэктарам школы імя Дастаеўскага ў Ленінградзе. Запомні: школа імя Дастаеўскага. Скарочана шкід.

— Ну, шкід.

— Шкід, так. Два вучні школы, калі скончылі школу, напісалі кнігу пра гэтую ж школу, назваўшы яе, кнігу, «Рэспубліка Шкід». Я чытаў яе. І вам раю пачытаць. Яна ёсць у нашай бібліятэцы. Чытаў, праўда, не цяпер, а тады, у трыццатых гадах, у першым выданні, як толькі была напісана. Адным з герояў кнігі з'яўляецца Вікніксор. Віктар Мікалаевіч (па-руску Нікалаевіч) Сарока. Адсюль — Вікніксор. Поўнасцю яго прозвішча было — Сарока-Расінскі. І, як гэта бывае, вучні заўсёды знойдуць у сваім настаўніку што-небудзь смешнае. Знайшлі яны і ў Вікніксоры. Гэтага хапіла, каб добры педагог Сарока-Расінскі на доўгія гады застаўся ў апале. Людзі зблыталі жывога чалавека з літаратурным героем. Прачытайце кнігу. Абавязкова прачытайце. Вы зразумееце, якая гэта была школа. Які ў ёй быў рэжым. Хто ў ёй вучыўся. Трошкі адчуеце тэмперамент Віктара Мікалаевіча Сарокі.

У маёй памяці то ўзнікалі, то зноў знікалі паасобныя кадры з даклада Васіля Мікітавіча, і я прыходзіў да вываду: чалавек меў шчаслівы талент педагога.

Я аднойчы запытаў у Васіля Мікітавіча:

— Васіль Мікітавіч, вы напішаце што-небудзь пра школу?

— Што?

— Я маю на ўвазе капітальнае нешта. Кнігу, скажам. У вас такі багаты вопыт, такія цікавыя думкі.

— Дзякуй, Пётр Фёдаравіч. Я шчыра рад за вас, што ў вас таксама ўзнікаюць добрыя думкі. З самай вайны я вяду дзённік сваёй работы ў школе. Вы ў лепшым становішчы, чым я. Вы можаце пачаць гэты дзённік значна маладзейшым, чым я. Ужо можаце пачаць. У мяне ладны кавалак адцяпала вайна.

Значыць, Васіль Мікітавіч піша.

— Мусіць, вострыя вуглы будуць? У кнізе, я маю на ўвазе.

— А як жа. Толькі, ведаеце: для аднаго — гэта вострыя, для другога — звычайная дыялектыка развіцця. Гледзячы хто і з якой вышыні глядзіць на гэтыя вуглы. Я як пагляджу на нашу настаўніцкую работу, дык у нас усё вуглы і вуглы. Вуглы з вучнямі. Вуглы з бацькамі. Вуглы з праграмамі. Адным словам, вуглы і вуглы. Выходзіць так, што жыццё любіць вуглы і падсоўвае нам іх на кожным кроку. Паспрабуй гэты. Наткніся на гэты. Абыдзеш ці прама на ражон палезеш? Хто абыходзіць — спакойна жыве. Хто не любіць абыходзіць — у ранах і сіняках. Атрымліваецца карыда. «Тореодор, смелее в бой»,— заспяваў і засмяяўся Васіль Мікітавіч.

І потым зноў сур'ёзна працягваў:

— Чорт яго ведае, чалавек, мусіць, сам увесь з вуглоў. Як пагляджу на сябе, дык яны ўсё жыццё не даюць мне спакою. Адны — большыя, другія — меншыя. Адны нават не вытыкаюцца на паверхню, застаюцца калоцца недзе глыбока ў душы. Другія — во, як ягіпецкія пірамiды тарчаць. Паспрабуй падысці да яго, не тое, што зробіць што-небудзь з ім. Слухай, Пётр Фёдаравіч, я ў школе з тысяча дзевяцьсот трыццаць першага года, і ўся яе

трыццацігадовая гісторыя прайшла ў мяне на вачах. Ды і не проста на вачах. Можна сказаць, праехала сваімі коламі (дубовыя, брат, абады з шынамі) цераз мае грудзі. Пачаў з пачатковых класаў, як і трэба пачынаць настаўніку.

— Што вы канчалі?

— Канчаў Мсціслаўскае педвучылішча. Тады яно называлася педтэхнікумам. Між іншым, я хвалю такую сістэму: педтэхнікум, работа ў пачатковых класах, потым педінстытут, калі хочаш далей вучыцца, і — работа ў старэйшых класах. Чалавек пройдзе ў пачатковай школе добрую стажыроўку, у інстытуце паглыбіць свае веды, ужо разумеючы, што такое школа і што яму трэба дзеля работы ў ёй, і прыходзіць у старэйшыя класы спецыялістам. А гэта — школа, інстытут, і ён ужо выкладчык старэйшых класаў. Салдатам не быў, пораху не нюхаў і ўжо генерал. Толькі не прыміце за крыўду, бо гэта ў пэўнай меры датычыцца і вас.

— Што вы, Васіль Мікітавіч. У пачатковай школе я не працаваў. Гэта праўда.

— А было б куды лепш, калі б папрацавалі. Для вас саміх, як спецыяліста. Я ўжо не гавару аб дзяржаўнай карысці. Вы згодны са мной? Ну, і вот, прыязджаю я пасля сканчэння педвучылішча, гаворачы сучаснай тэрміналогіяй, у адну школу. Чавускі раён, вёска Усушак. Вялікая вёска, цікавая. З рэчкай, млынам. Жыў у агульнай хаце з гаспадаром. Спаў за сталом на лаўцы. Уранні пасцелі з лаўкі прыбіралі. Цяпер вам рай: настаўнік займае палавіну і жыве сабе панам — у прасцінах, спружынах, з люстэркамі, з радыё. А я ўсю зіму параную мякіну нюхаў, свіную тоўчаную бульбу. Тады гаспадар, учэпісты, злы такі дзед, маленькі, як клешч, кажа: «Жыць жыві, а карміць не буду». Як жа мне жыць без стала? У сталоўку не сходзіш, не паабедаеш, не наш час, што ты можаш, калі б табе твая цётка Есіпіха адмовіла ў стале, хадзіць у сельпоўскую сталоўку. Знайшлася адна ўдава.

«Хадзі, кажа, да мяне. Я кабана забіла, сала ёсць, пасцелю табе сваю ўступлю». Спадабалася мне. Нікога няма, ціха, чыста. Чытай, пішы. Пажыў я так дні са тры. Тады што? Уночы з печы і да мяне на ложак. Пад коўдру да мяне.

— Во мядзведзь мёд скінуў,— засмяяўся я.

— Каб же мёд. Баба. Старэйшая за мяне ўдвая.

— І што?

— Уцёк я з той кватэры. І да аднаго настаўніка. Ён жыў пры школе, у настаўніцкай. На перапынку мы ўсе (нас было шэсць настаўнікаў, школа развівалася ў сямігодку, былі ўжо пяты і шосты класы) збіраліся ў гэтым пакойчыку, дзе стаяў звычайны драўляны ложак, засланы шэрай байкавай коўдрай, а на вузкай доўгай ляжанцы — самавар. Часта пілі ўсе кагалам чай. Толькі без цукру, проста з нейкай рудой заваркай. Доўга мы жылі разам з Арсенем Макаравічам (так звалі старога адзінокага настаўніка), пакуль Арсень Макаравіч не знайшоў мне новую кватэру, з харчаваннем, праўда, не ў самой вёсцы, а ў пасёлку за рэчкай. Зноў пачаў я спаць за сталом на лаўцы, і так сумаваў па сумеснаму жыццю з Арсенем Макаравічам.

## 18

Пасля абеду, калі прыйшоў са школы, я быў расчулены.

Цераз вуліцу жыў трактарыст, яшчэ хлопец, Бусел Міша.

І вось сёння, уладкаваўшыся на прызбе свайго двара (я гэтае месца вызначыў па гуках гармоніка, якія да мяне даносіліся), ён пачаў памаленьку іграць.

Ён іграў вельмі доўга, без перапынкаў, пераходзячы з аднаго танца на другі, з песні на песню, і я ўвесь час

не мог не ўпівацца прыгажосцю яго іграння. Гукі былі чыстыя і кволыя, якія можа знаходзіць сваімі пальцамі на інструменце толькі мастак, збіраючы ўсё, што ён чуе і бачыць, і перадаючы прыгажосць жыцця праз іх.

Я не вытрымаў у хаце і выйшаў на двор.

На двары Мішава ігранне стала ўспрымацца яшчэ больш чуйна, бо над галавой у мяне была не столь, а бяздоннае неба, у якім ужо, з прыходам вясны, пелі жаўранкі, і мне так чамусьці зрабілася шкада нечага, што я ледзь не заплакаў.

Я люблю гармонік, і ён заўсёды кранаў мяне, калі я чуў яго ігранне.

Мне ўспомнілася вёска Бычча, маё дзяцінства, дзед, баба, і мне чамусьці захацелася пабачыць іх.

Напісаўшы планы ўрокаў на заўтра, я пайшоў да Ніны. Гармонік мне нагадаў тое, у чым мне захацелася пабыць яшчэ хоць трошачкі.

— Ніна, у цябе ёсць што-небудзь з народнага? Круці.

— З народнага?

Яна шукала ў сваёй фанатэцы, а я глядзеў на яе, галаногую, галашыюю, уквяцістым халаціку, з прычоскай — стабунчыкам, якая імпанавала ёй. Ніна папрыгажэла, неяк памаладзела, нешта адкрывалася мне ў ёй занадта кволае і дзяцінае, простае і непасрэднае, у той жа час сваё, чаго нельга было ўбачыць ні ў адным чалавеку. І гэта сваё ў ёй — падабалася мне.

— Ірма Яунзэм. Падыходзіць? — сказала яна сваім чыстым, грудным, трошкі нараспеў голасам.

— Клас. Люблю Яунзэм.

Пра коней і кароў на ўлонні прыроды, пра пастухоў, якія пасвілі жывёлу, пра птушак і расу спявала Яунзэм, пра тое, чаго мы не ведаем, але павінны ведаць, каб зразумець і адчуць жыццё. Не толькі ў тым, якое ёсць, але ў яго мінулым і наступным. Голас спявачкі з яго сотнямі адценняў і пераходаў апавядаў больш, чым словы песні.

— Ніна, сёння іграў на гармоніку мой сусед Міша Бусел. Ты ведаеш яго?

Ніна кіўнула галавой.

— У музыцы ён непісьменны, самавучка. Не ведае ніводнага нотнага знака. А Яунзэм? Спявачка шырокай вядомасці. Тым не менш, ігранне на гармоніку мяне кранула зусім гэтак, як песні Яунзэм.

— Душа народа,— не доўга думаючы, адказала Ніна.

Душа народа... Бадай, у гэтым была праўда.

— Ніна, калі б табе сказалі: «Пабудзь мужычкай». Той, якія былі да рэвалюцыі.

— З вялікай ахвотай.

— Канешне, гэта цікава. Але я, мусіць, не згадзіўся б.

— Ты баязлівец. Працы баішся. Помніш, што ты казаў, як мы былі ў Жывуцкіх?

— Якой працы?

— Звычайнай.

— Ну, гэта гледзячы якая праца. І мужыком згадзіўся б быць, калі б трэба было.

— Ты?

— Я. А што ты думала. Не верыш? Баўкун ты, Ніна.

— А што такое баўкун?

— Не ведаеш? Мая баба, бывала, як усердзіцца на дзеда, дык гаворыць: «Баўкун ты». А што значыць гэтае слова, я і сам добра не ведаю. У каго не пытаў пасля, ніхто не ведае. Ты ж філолаг. Распрані мне яго, каб я ўбачыў яго голым.

— Баўкун. Канешне, гучанне ў ім славянскае, нагадваецца нешта надзвычай знаёмае, а што канкрэтна — хто яго знае.

— З'езджу ў сваё Бычча (не выпадае ўсё неяк), і прафесар дзед ці прафесар баба раскрыюць мне яго сэнс.

— Пры чым тут прафесар ці не прафесар. Усіх слоў нельга ведаць гэтак, як усіх людзей у твар. І гэтага не трэба. Ведаць трэба адно: словы ўзнікаюць і знікаюць. Як людзі, якія нараджаюцца і ўміраюць. Як прадметы,

якія называюцца тымі ж словамі. Слова — падзёнка, вобразна гаворачы.

— Добра, Ніна, я гэта, мусіць, не горш цябе ведаю. Ведаю, што ўсяму, чаму ёсць пачатак, ёсць і канец. Але я гісторык, і калі б я ўбачыў ці, скажам, патрымаў у руках той прадмет, які называўся словам баўкун, я б лепш ці горш ведаў гісторыю? Быт народны.

— У нечым лепш. Трэба ведаць законы гісторыі.

— Законы, мілая, канкрэтныя.

— Давай пакінем сафістыку. Які твой дзед?

— Добры. Толькі адзін раз капнуў мне. Кордавай дзягай калі пацягнуў цераз плячо, дык думаў — не вытрымаю.

— Праўда? Не слухаў дзеда.

— Дзеда я слухаў. Я каля яго быў як лакей, заўсёды гатовы да паслуг. Матку не паслухаў. І дзеду гэта не спадабалася. От тады баба, шкадуючы мяне, і сказала на дзеда «баўкун».

— А баба?

— І баба добрая. Як маці.

— Я чаму пытаю. Я не помню ні дзеда, ні бабы. Я расла без іх. Зайздрошчу, у каго ёсць дзед і баба. Мне здаецца, я б іх от любіла!

— Я зважу цябе да сваіх. Добра?

Ніна прамаўчала. Але гэта была згода. Па твары яе, заўважыў я, прабегла ледзь улоўнае святло задавальнення.

## 19

— Праўда,— успомніў я.— У іх жа сваё віно. Як у нас капусту квасяць або яблыкі мочаць, у іх віно гэтак у бочках.

— Ну-у,— пацвердзіла Ніна.— Аляксандра Паўлаўна казала, што і закускі сваёй прывезлі.

— Быццам мы тут галодныя сядзім.

— Ты ж гісторык, Пеця. Спраўляюць у нас памінкі па нябожчыку? Спраўляюць. І яны хочуць справіць свой абед па нябожчыку. З некаторымі сваімі нацыянальнымі традыцыямі.

— Разумею. Вы ж, жанчыны, таксама сваё што-небудзь збярыце. Каб не было сорамна.

— Гэта мы ўжо як-небудзь прыдумаем. Няўжо ж у нас галоў ці рук няма.

Назаўтра ўдзень, калі ўсе нашы арганізацыі і ўстановы — школа, бальніца, пошта, лясніцтва, кантора саўгаса, сельсавет сельпо — палажылі свае вянкі з чорным крэпам вакол абеліска і прамоўцы з ордэнамі, якія пераліваліся бляскам на сонцы, пачалі гаварыць свае прамовы, я ўбачыў у натоўпе жанчын і цётку Хадору. Ражком хусткі яна выцірала свае вочы.

Калі ж госці ўсе ўтраіх упалі на зямлю, пачалі цалаваць і паліваць яе слязамі, Ніна, закрыўшы вочы далонямі рук, так расплакалася, так пачала ўздрыгваць, што я нічога не мог зрабіць, каб хоць крыху супакоіць яе. Ды і сам я, бадай, быў у такім утрапенні, што не памятаю, каб дзе якая жалоба гэтак кранула мяне.

Увечары, калі я з абеду прыйшоў дамоў, цётка Хадора запытала ў мяне:

— Ну як, Пецька?

— Усё добра было.

— Ну і добра, што добра. Дай бог, каб не было толькі вайны. Бачыў, як яны плакалі?

— Бачыў.

— А мае ж два дубы не вярнуліся. І не ведаю, дзе паляглі. Думаеш, не шкода мне?

Яна зноў, як і ўдзень каля абеліска, пачала выціраць ражком хусты вочы, сёння, як ніколі, як я паспеў заўважыць, дужа чырвоныя.

Каля цаглянага будынка сельсавета стаяў высокі мураваны абеліск, на якім былі прозвішчы салдатаў, што

загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны ў баі з фашыстамі за Залессе.

А бой тут быў. Не малы быў бой. Я мяркую не па прозвішчах на абеліску. Сведкі і ўдзельнікі гэтага бою мне расказвалі, што ўся шаша ад Залесся на ўсход была завалена нямецкай тэхнікай і што само Залессе было выпалена — хаты заставаліся толькі на ўскраінах. Варонкі ад бомб і снарадаў можна і цяпер сустрэць на ўзбочынах дарог, у лесе і на ўзлесках, праўда, хоць у іх, у гэтых варонках, растуць ужо не малыя дрэвы. Сустракаюцца пустыя міны, гільзы ад снарадаў. Захавалася назва мясцовасці: Бункер.

Немцам трэба было трымаць у сваіх руках Залессе — апошні фарпост перад ракой Бярозай, дзе была ў іх пакуль што пераправа на захад.

Пад абеліскам былі клумбы, і на іх раслі кветкі. Гадавалі кветкі на іх школьнікі. Калі пачынала ўграваць красавіцкае сонца і на вербалозніку бдзынкалі пчолы, яны з'яўляліся сюды з рыдлёўкамі, матыкамі, вёдрамі, граблямі. Прыводзіў дзяцей сюды то які-небудзь класны кіраўнік, то старшая піянерважатая, то настаўнік-біёлаг, усімі паважаны Васіль Іванавіч, былы воін.

Яшчэ задоўга да майго прыезду ў Залессе школа актыўна ўключылася ў пошукі радні тых, чые прозвішчы былі на абеліску. Гэтаму садзейнічаў і дапамагаў райваенкамат.

І не без вынікаў. У школу прыходзілі пісьмы з розных канцоў Савецкага Саюза. З Урала, з Украіны, з Сібіры, з Сярэдняй Азіі, з Каўказа.

Некаторыя прыязджалі. Бацькі або дзеці забітых. З Урала былі. З Украіны былі. З Новасібірска былі.

Прыезды гэтыя часцей за ўсё прыпадалі на Першае мая, на Дзень Перамогі і на верасень месяц.

Сустрэчы былі шчырыя, выліваліся ў сходы і школьныя мітынгі. Школьнікі выстрайваліся, бралі піянерскі горн і барабан, падымалі над калонай чырвоны сцяг і

вялі гасцей на брацкую магілу, дзе быў пастаўлены абеліск.

Адтуль-адсюль сыходзіліся людзі. Асабліва шмат збягалася жанчын, якія, звычайна, да ўсякага чалавечага гора больш спагадлівыя і больш чулыя, не гаворачы ўжо пра іх прыроду ўсё бачыць і ўсё ведаць.

На гэты раз прыехалі грузіны. Не з самога Тбілісі, а з яго ваколіц, калгаснікі. Жонка забітага, яе спалены сонцам да чарнаты, як і сама маці, сын і яго жонка, таксама смуглая ад паўдзённага сонца. Маладыя былі чарнавалосыя, а маці сівая-сівая, нельга было сказаць, калі б не сын, якія валасы былі ў яе ў маладой.

Маці была ў доўгім адзенні, нявестка ў кароткім, прытрымліваючыся моды, а сын — у звычайным мужчынскім касцюме.

Мы іх чакалі, ведалі, што яны прыедуць, бо яны яшчэ ў красавіку прыслалі ў школу пісьмо, каб паведамілі нашы піянеры ім, якім маршрутам дабрацца да нашага Залесся.

Дзень Перамогі 9 мая, а прыехалі яны 7-га, яшчэ не скончыліся ўрокі першай змены.

Высаджваліся з таксі на вуліцы, ужо сухой, падмеценай, перад фасадам школы, і ў вялікія школьныя вокны відаць было, як шафёр вымаў з багажніка дарожныя клумкі і нават адзін чамадан.

Таксіст паехаў, а яны стаялі каля сваіх рэчаў на вуліцы, паглядаючы ў адзін бок яе, тады ў другі, на школу і на супрацьлеглыя ад яе будынкі.

Неўзабаве я ўбачыў праз акно аднаго з класаў, дзе я быў на ўроку, дырэктара каля іх, старшую піянерважатую і Жывуцкую. Яны ўзялі іх рэчы і павялі гасцей у памяшканне школы.

Канец урока здаўся марудным і непатрэбным. Вучні і я, настаўнік, чакалі званка, быццам ён клаў мяжу паміж сучасным і наступным, а наступнае — цікавае.

Вучні на калідоры, калі я ішоў з урока, не выкрыкваючы, ціха, з затоенай радасцю абменьваліся навіной:

— Грузіны прыехалі.

— Грузіны...

Яны сядзелі ў настаўніцкай паўз сцяну, на якой быў расклад. Іх хатулі і чамадан ляжалі з прыходу пад вешалкай.

Настаўнікі заходзілі з урокаў у настаўніцкую і ціха, несціпла, як на жалобе, віталіся з імі, і я ціха схіліўся перад імі, і яны ўтрох ціха схіліліся мне. Я разумеў, прыехалі людзі не на вяселле.

Аднак дырэктар наш, добры псіхолаг і калектывіст па прыродзе, спакваля раскратаў і нас, настаўнікаў, і гасцей, паступова разгаварыўшыся з намі і з імі, і я падумаў: як хораша, што ў жыцці ёсць такія людзі, як Максім Макаравіч. Яны ўмеюць патушыць гора і цяжкі настрой у чалавека, падбадзёрыць яго, як бы гаворачы: «Жыць трэба. Жыць. Чалавек склееены так, што ўсюды за ім гора, а ён вылузваецца ад яго і жыве. Мы павінны жыць».

Начавалі госці ў Жывуцкіх. І праводзіў іх туды і хадзіў па іх назаўтра дырэктар.

Пасля першай змены на школьным двары была выстраена вучнёўская лінейка.

Дзень ціхі, светлы, сонечны. Дрэвы зелянелі ўжо маладымі лісткамі.

Гарніст пратрубіў у піянерскі горн: «Слухайце ўсе, увага!»

Насупраць лінейкі стаялі ўсе настаўнікі і госці.

На тры крокі ўперад выйшаў дырэктар. На лацкане пінжака сёння ў яго быў пасак калодак ордэнаў і медалёў. Прамова яго была кароткай, але ўсіх працяло нібы токам.

— Да нас прыехалі з далёкай Грузіі маці і сын разам са сваёй супругай аднаго з тых байцоў нашай слаўнай Савецкай Арміі, якія палажылі свае гало-

вы за шчаслівае ваша жыццё ў барацьбе з лютым ворагам.

Не ведаю, чаму часамі, здавалася б, зусім простыя словы так дзейнічаюць на людзей? Я глянуў на Ніну — у яе сыпаліся з вачэй слёзы.

Многія вучні выціралі далонямі вочы.

Расплакаліся і госці.

Але час шчырых слёз цягнуўся нядоўга.

Выступіла маці і сказала, што яна ганарыцца сваім мужам, і падзякавала школьнікам, што яны знайшлі яе адрас, і яна цяпер ведае, дзе пахаваны ён.

Сын, без паспешлівасці выцершы насоўкай вочы, невысокі, каржакаваты, ступіў крокаў некалькі ў набліжэнні да вучняў і сказаў ім на добрай рускай мове, праўда, не без акцэнту:

— Я скончыў, як і канчаеце вы, савецкую школу. Упэўнены, што мы не здрадзім сваёй зямлі, багата палітай крывёю нашых бацькоў. У гэтым во мяшочку,— ён падняў яго ўгору, каб усе бачылі,— я прывёз вам, мае юныя сябры, жменю сваёй грузінскай зямлі і перадаю яе вашай піянерскай арганізацыі на захаванне. Я вазьму з сабой гэтульні ж вашай, беларускай, зямлі і перадам яе ў школу, у якой вучыўся я і мой бацька. Вазьміце,— ён шукаў вачыма ў калоне, каму аддаць мяшочак.

Прыняла яго ў свае рукі старшая піянерважатая, сказаўшы, каб усе чулі:

— Дзякуй, будзем захоўваць.

— І яшчэ прывёз я вам,— ён дастаў з кішэні пінжака, падняўшы ўгору, другі амаль такі ж мяшочак,— насенне нашых, грузінскіх, кветак. Пасейце яго. Хай цвітуць яны ў вас як сімвал нашай з вамі дружбы.

І гэты мяшочак узяла старшая піянерважатая Рая, у белай блузцы, у новым чырвоным піянерскім гальштуку, з белымі валасамі, звязанымі ззаду блакітным капронавым каснікам.

Сустрэча выйшла не такой цяжкай, як здавалася спа-

чатку. Дзеці голасна загаварылі, забегалі, шчыльна таўпіліся каля Раі. Ім хацелася бліжэй глянуць на мяшочкі, якія трымала ў руках Рая.

Настаўнікі смялей пачалі размаўляць паміж сабой, уцягваючы ў гаворку гасцей.

Па дарозе дамоў Ніна сказала мне:

— Яны хочуць заўтра, пасля таго, як сходзім да абеліска, паабедаць разам з намі.

— З кім?

— З усімі настаўнікамі.

— У каго?

— У школе. А што там! Сталы паставім у класе. Яны віна свайго прывезлі.

— Віна? — здзівіўся я.

— Са свайго вінаграду робяць,— растлумачыла мне Ніна.

## 20

Жывуцкія жылі на канцы Школьнай вуліцы, каля самога, можна сказаць, поля. За імі стаяла яшчэ адна хата, і там ужо было поле.

Раман Аўсеевіч выкладаў хімію, а яго жонка Аляксандра Паўлаўна беларускую мову і літаратуру. Самі яны мясцовыя, канчалі гэтую ж Залескую школу, займаючыся ў адным класе, амаль адначасова вучыліся завочна ў адным і тым жа, праўда, на розных факультэтах, педінстытуце.

Былі яны адносна маладыя, і зблізіўся я з імі і пазнаёміўся даволі хутка.

Мяне здзівіла ў іх цяга да ўсяго сучаснага, новага, чым жылі людзі іменна сёння. Калі б я ні пайшоў у кіно, абавязкова сустракаў іх. Калі не дваіх, дык каго-небудзь аднаго — яго ці яе, часцей за ўсё яе.

Ужо вясной я ўведаў, што Раман Аўсеевіч рыбак.

Тое, што ён паляўнічы, я ведаў яшчэ зімой. Ведаў, што ён б'е лісоў, бачыў не раз, як ён ішоў са стрэльбай на плячы на паляванне і як уперадзе яго бегла падхлябістая, з падгарэлым падпуззем, віславухая сучка, з мордай доўгай, як цясак. У руках нават трымаў яго стрэльбу — бескуркоўку, шкадаваў, што ў мяне няма такой, іначай бы і я пайшоў бы з ім высочваць зайцоў. Забіць ці хапіла б сілы волі, а пайсці пайшоў бы, бо наогул люблю таптаць зямлю нагамі.

Да палявання я не быў гатовы. Тут і стрэльба, і патронная гаспадарка, і вопратка, і... Адным словам, ісці на паляванне — тое самае, што ехаць у экспедыцыю на полюс: трэба доўга рыхтавацца.

А рыбу лавіць — адна вуда, і ты ўжо рыбак.

Я купіў дзве вуды — з вудзільнамі, з запаснымі кручкамі і з цэлым матком запасной лёскі — і папрасіў Рамана Аўсеевіча, каб, калі будзе ехаць на рыбу, і мяне ўзяў з сабой.

Я спрабаваў ужо свае вуды за гаспадаравым агародам, у сваёй рэчцы. Ды акрамя бліскучага печкура, у лепшым выпадку — маленькай чырвонапёркі — пločкі, нічога не мог злавіць.

Дзе тут табе будзе тая рыба! Гусі, качкі, дзеці — імі рэчка кішыць, плыве пер'е, палкі, шчэпкі, муць.

Прыйду дамоў, а гаспадар жартуе:

— Налавіў рыбы?

Цётка Хадора сабе:

— Я думала, сёння на вячэру насмажу.

Рана ў нядзелю, на шэрай гадзіне, затарахцеў пад акном матацыкл. Скрозь сон у мяне мільганула ў галаве: Жывуцкі.

Я хутчэй усунуў, басанож, свае ногі ў кірзавікі, на галаву — шапку, на плечы — ватоўку, схапіў у сенечках — верандзе падрыхтаваныя яшчэ ўвечары вуды і выскачыў на вуліцу.

Люлька матацыкла калацілася ад тарахцення нявыключанага матора.

Я, мусіць, нават не павітаўшыся з Раманам Аўсеевічам, улез хутчэй у яе, і мы ў дарозе.

Мы ехалі лесам, тады праз ладную вёску, зноў лесам і полем паўз маленькую вёсачку, нарэшце выехалі на досыць шырокі і гладкі луг, на якім паравала злёгку пакручастая, немалая рэчка.

— Брусята,— сказаў Раман Аўсеевіч, злезшы з матацыкла, на якім мы пад'ехалі да самага берага.

— Суха,— сказаў я яму, здзівіўшыся таму, што мы пад'ехалі на такім вялікім цяжкім матацыкле да самай вады.

— Не ўсюды,— адказаў Раман Аўсеевіч.— Ёсць стругі. Але я ведаю, дзе яны, і выбіраю такі пад'езд, дзе іх няма.

Гаворачы, ён адначасова разматваў і наладжваў вуды, даставаў з глыбіні люлькі матацыкла і правяраў банкі з чарвямі, нарыхтаванымі яшчэ ўчора.

А я так паехаў на рыбу, не думаючы, з якой насадкай буду лавіць яе, не падрыхтаваўшыся, спадзеючыся, як дзіця, на нейкую шчаслівую выпадковасць.

Раман Аўсеевіч, зыбаючыся (у яго была такая хада), хутка пайшоў па беразе рэчкі, узмахваючы ў некаторых месцах рукой і штосьці дастаючы з кішэняў прасторнай ватоўкі, сыплючы ў рэчку.

— Што вы рабілі? — запытаў я, калі ён вярнуўся назад, да стаянкі нашага матацыкла, і тут жа здагадаўся: ён сыпаў прыманку рыбе. Я паспеў папраўіцца, пакуль ён яшчэ нічога не адказаў мне:

— Чым вы яе падкармліваеце?

— Гароху паранага сыпнуў. Хай збіраюцца ў кучу, пакуль мы тут тое-сёе. Насаджвай,— зняў ён накрыўку з адной бляшанкі.

— Можа, я пашукаю сабе.

— Пакуль будзеш шукаць, некалі будзе рыбу лавіць.

Наесца і пойдзе ў свае схованкі. Паспрабуем пакуль на гэтага чарвяка.

Гэта былі звычайныя дажджавыя чэрві. Я раздзяліў аднаго такога чарвяка на два кручкі, а Раман Аўсеевіч кажа:

— Не скупіся, цэлага ўздзявай, тут рыба ладная, і ёй трэба добра хапнуць, а не ўпрыглядку. У мяне яшчэ насадка ёсць.

І праўда: у яго яшчэ былі ўшыткі ў слоіку з вадой, вялікія мухі і «зялезныя бабы», як у Залессі называюць стракоз, потым хлебныя шарыкі з нейкай прымессю для паху і смаку і якіясь прадаўгаватыя, у форме тоўстых кароткіх чарвячкоў, кацюлькі, прыгатаваныя па невядомаму мне рэцэпту.

Шарыкі і кацюлькі Раман Аўсеевіч называў «далікатэсам» і насаджваў на вуды тады, калі рыба ні навошта ўжо не бралася. «Далікатэс», мусіць, сапраўды для рыбы быў смачны і заманлівы, і клёў пачынаўся спачатку.

Нягледзячы на тое, што мы лавілі ў адной рэчцы, з аднаго берага і на адну насадку, я палавіны не налавіў таго, што налавіў Раман Аўсеевіч. Кручок з насадкай ён закідаў адразу куды патрэбна было, а я — рэдка калі з першага разу, усё вадзіў яго за вудзільнам, часта вяртаючы назад на бераг. Раман Аўсеевіч працей і спрытней падсякаў рыбіну, проста і хутка знімаў яе з кручка. О, для мяне было праблемай утрымаць слізкую рыбіну ў руцэ, а другой — дастаць з яе рота кручок.

Потым: у значнай меры маю ўвагу да рэчкі адрывала само наўколле. Тут усё для мяне было новым і незвычайным. Роўны лугавы дыван з зялёным покрывам і розныя краскі на ім! А лес паабапал лугу! Бярозы, сосны, дубы густа тоўпіліся ўздоўж яго.

Малюнак зрабіўся яшчэ больш велічны, калі ўзышло сонца. Яшчэ больш голасна і дружна заспявалі птушкі. У адным месцы браў дзве-тры ноты чорны дрозд і зноў

рабіў перадышку. У другім месцы разоў дзесяць-дваццаць паспрабуе сваё «ку-ку» шэрая зязюля. І кожнае «ку-ку» не такое, якім было ранейшае. У трэцім, пераадолеўшы густы зялёны кардон лясоў, праравецца балбатанне цецерукоў і адхлыне назад, адкуль данеслася.

Пакружыўшыся, зусім недалёка ад нас сеў бусел. Ківаючыся ў такт сваім крокам, спакваля абследаваў вялікі кавалак лугу і пераляцеў на новае месца. Месцы гэтыя ён, мусіць, ведаў, дзе можна было пажывіцца, таму абміноўваў вялікія прагаліны прырэчча і садзіўся там, дзе нешта можна было знайсці на сваё птушынае снеданне.

А над усім гэтым стаяла чыстае сіняе неба.

Я сказаў Раману Аўсеевічу:

— Вы едзьце, а я пабуду тут.

Раман Аўсеевіч здзівіўся:

— Як гэта вы пабудзеце тут? Чаго?

— Тут так прыгожа!..

— Дык вы ж пабачылі ўжо гэтае прыгожае. А тады дамоў будзеце пешкам ісці? Далёка і ў такім выглядзе?

— Колькі?

— Кіламетраў з пятнаццаць будзе.

— Дык давайце хоць пакупаемся.

— Не буду. І вам не раю.

— Чаму.

— Рана. Сярэдзіна мая. Вада сцюдзёная.

Я ўсё ж такі пакупаўся. Вада, праўда, была сцюдзёная, але затое як яна смачна пахла!

Калі ўжо мы разабраліся і ўпакаваліся з рыбай (я нічога з сабой не ўзяў, і Раман Аўсеевіч пазычыў мне нейкую сваю запасную торбу), Жывуцкі вярнуўся да нашай ранейшай размовы.

— Я калі-небудзь прывязу вас сюды на маёўку. На цэлы дзень. Возьмеце абед і — купайцеся, загарайце. Краскі збірайце,— тут Раман Аўсеевіч усміхнуўся сам сабе.— А ўвечары прыеду па вас. Праўда, тут прыгожа.

Мне — дык некалі. Гаспадарка. Трэба жонцы памагаць.

Тое, што ў Рамана Аўсеевіча гаспадарка і яму заўсёды некалі, я пераканаўся ўвечары, калі мы прыйшлі да яго з Нінай Адамаўнай.

— Вы ж не пачаставалі Ніну сваёй рыбай?

— Не.

— Ну, я так і ведала. Хай хоць у мяне пакаштуе,— жартавала Аляксандра Паўлаўна.

— А я і не ведаю, як я мог пачаставаць сваёй рыбай Ніну Адамаўну.

— Звычайна.

— Зайчанё. Нічога не ведае. А як мой мяне частуе? — і Аляксандра Паўлаўна ад душы рассмяялася.

У Жывуцкіх была вялікая гаспадарка. Новы, з чатырох пакояў дом. Столь высокая, з падшыўкай. На двары вялікая двухтабольная пуня, дзе стаяла карова, рохкаў кабан, начавалі ў асобных загародках куры і гусі. Была таксама стопка і павець для дроў. Да пуні быў прыбудаваны з добрых дошак гараж для матацыкла, каля гаража — сабачая будка, каля якой сядзелі два сабакі: сучка, ужо вядомая мне, з якой гаспадар хадзіў на паляванне, і маладое худое шчаня, віславухае, з тоўстымі лапамі.

— Навошта яны вам? — запытаў я.

— Як навошта? З гэтай хаджу на паляванне, а гэта — змена, пагляджу, які будзе. Кажуць, дужа добрай пароды.

— Зжаруць жа яны колькі! — сумысля некалькі груба заўважыў я.

— Усіх трэба карміць: і карову, і свіней, і курэй, і гусей — усіх кормім. І сабак кормім. Але ж і яны нас кормяць,— нібы зрабіўшы адкрыццё, адказаў Раман Аўсеевіч.

Так, гаспадарка была ў Жывуцкіх. Аднак у двары была чысціня і парадак.

— Як вы ўсё гэта пабудавалі? — здзівіўся я.

— Ы-ы-ы, чалавек не гэта можа зрабіць. Абы не ляніўся. Што ўночы, а што ўдзень. Дзе лобам, дзе горбам. Каго наняў, а каму сам адпрацаваў.

І ў хаце ў Рамана Аўсеевіча многаму можна было здзівіцца. Сервант, паўнюткі рознага посуду, кніжная шафа і этажэрка з кнігамі, тэлевізар, радыёпрыёмнік, прайгравальнік і магнітафон, рэпрадукцыі карцін класічнага жывапісу. Сталы, крэслы, дарожкі на падлозе — прыемныя для вока, чыстыя, акуратныя.

І калі мы сядзелі за сталом, п'ючы маленькімі кілішкамі каньяк і закусваючы добра прыгатаванай свежай рыбай, і калі «круцілі» пласцінкі на прайгравальніку і слухалі на магнітафоне галасы дзяцей, гусей, дзікіх качак, лягушак, спеў салаўя, рыканне кароў — усю сімфонію і какафонію летняга вясковага жыцця, я не пераставаў думаць: «Паспяваюць людзі, усім цікавяцца, усё ўмеюць, ніякай працай не грэбуюць, шмат ведаюць, добра выкладаюць у школе свае прадметы, і дзеці паважаюць іх...»

Калі Аляксандра Паўлаўна паставіла на стол талерку з сушанымі жоўтымі сыркамі, я запытаў у Рамана Аўсеевіча, дзе ён бярэ карове сена, бо начуўся ад настаўнікаў, што трымаць карову хацелася б, ды няма дзе сена браць.

— Кашу,— адказаў Раман Аўсеевіч.

— Пацяроб які ёсць?

— Дзе вы возьмеце той пацяроб? Хто вам дасць яго, калі б вы нават дзе-небудзь расцерабілі ў балоце? Прывязваю да матацыкла касу і еду. У субалаціне, у лясной лагчыне, на ўзбочыне дарогі... Словам, кашу, дзе зялёна. Напхаю поўную люльку травы і вязу дамоў сушыць. Глядзіш, за месяц, можна сказаць, гуляючы, у мяне і ёсць тона сена. А там — канюшыны сотак восемдзесяць на агародзе сеем. Карову трымаць можна, калі быць трохі ўпраўным.

— Каб жа толькі можна. Трэба! У мяне вунь дзве

красулі. Як іх пакінуць без малака? — сказала Аляксандра Паўлаўна.

У хаце каля кніжнай шафы гулялі з цацкамі дзве белагаловыя дзяўчынкі.

— Свеце ў жніўні пяць будзе, а Тані тры скончылася. Зачахнуць без малака.

На вуліцы зарыкалі каровы, ідучы з пасты.

Аляксандра Паўлаўна пайшла сустракаць сваю рабую.

— Ты б жыла так? — запытаў я на вуліцы, па дарозе дамоў у Ніны.

— Як хто?

— Як Жывуцкія жывуць.

— А чаму? Жыла б. Яны добрыя людзі.

— Я не кажу, што яны благія людзі. Я кажу: ты карову даіла б?

— А чаму ж не даіла? Даіла б. Я люблю жывёлу.

— А катоў?

— Што?

— Не любіш? — пажартаваў я.

Ніна паглядзела вакол, каб не было сведак, як яна будзе даваць мне кухталя ў бок, але я на ўсякі выпадак аддаліўся ад яе.

На вуліцы было ўжо шэра, спускалася велічная летняя ноч. Мы ішлі паўз саўгасны сад, які ўвесь быў у квецені.

Неба міргала чыстымі зоркамі, і пакуль мы ішлі, не спяшаючыся, іх запальвалася ўсё больш і больш. Затрубілі ў полі мядзведзікі, закракталі хорам у нізкіх месцах і сажалках жабы.

Многагукая ноч пачыналася.

Мы селі на лавачку каля Ніністага двара.

— Я сур'ёзна, Ніна, пытаю ў цябе: ты б жыла так, як Жывуцкія?

— Я сур'ёзна табе адказала: жыла б.

— І такую б гаспадарку завяла?

— А што тут страшнага? Ты, я бачу, вялікі гультай.

— Брут, і ты на мяне? Які я гультай, Ніна! Што гэта ты гаворыш? Я — вол, я гатоў варочаць, калі...

— На месяцы? Іх там, кажуць, няма.

— Чаму на месяцы? Не на месяцы. Тут, на зямлі. Дубы з карэннем, калі б трэба было.

— А Жывуцкім трэба ці не трэба?

— Ніна, дарагая, не трэба. Ні нам, ні ім гэтага не трэба. Аднаасобнікам толькі, кулакам такая гаспадарка патрэбна.

— А жыць як?

— Ісус Хрыстос сказаў: «Будзе дзень — будзе і страва».

— Кінь свае кепікі. Я сур'ёзна табе гавару: жыць як? Духоўны свет Жывуцкіх шырэйшы, чым наш з табой. Магчымасці пазнання свету ў іх большыя. Хіба толькі яны менш спяць за нас з табой.

— Ты мяне пхаеш, Ніна, у нейкае сярэдневякоўе, на сто гадоў, а можа, і тысячу, назад.

— Я цябе нікуды не пхаю. Ты будзь ультрасучасны. Сядзі ўзімку ў лесе, пальцам не кратай, мерзні, пакуль не прыйдзе нехта, не наломіць дроў, не развядзе касцёр і не адагрэе цябе. Што твае голыя прынцыпы?

— Людзі ішлі ў турмы, на вісельні за прынцыпы, умiралі.

— За ідэі, не за прынцыпы. Наша ідэя несці людзям навуку, мастацтва, вучыць іх вялікай праўдзе. А гаспадарка — сродак, каб мацней трымацца за зямлю, на якой мы жывём. Пакуль нам не прадае саўгас малака, мы вымушаны сваіх трымаць кароў. Я не сцвярджаю, што так павінна быць вечна. Слухай, я нядаўна чытала пра адну пару вучоных. Як ты здагадаўся, пра мужа з жонкай. Яны іхціёлагі. Разумееш, што такое іхціёлагі?

— Што вывучаюць жыццё рыб?

— Ведаеш, добра. Яны прыехалі на таёжнае возера маладымі, як мы з табой зараз, пасля інстытута. Глуш,

і нічога няма. Чакаць, пакуль створыць нехта поўны камфорт? Яны не чакалі. Пабудавалі хату, нажылі карову і каня, расцерабілі агарод. У іх стала сваё малако, гародніна, усё неабходнае, каб нармальна карміцца і займацца навуковай работай. Зараз яны дактары навук, іх даследы ў навуцы аб жыцці рыб маюць сусветнае значэнне. Дык хто яны, па-твойму, кулакі ці сучасныя вучоныя? І з гаспадаркай сваёй не разлучаюцца. Чарнейшыя з чорных хатніх работ выконваюць. І ён, і яна. І дзяцей пагадавалі.

— Не ведаю,— толькі і мог адказаць я.

— Гараджанін?

— Не, я ў вёсцы рос. У дзеда. І бацька вясковы. Праўда, школу канчаў і універсітэт у горадзе. Але няма ў мяне, Ніна, цягі да гаспадаркі. Не вабіць яна мяне.

— Не трэба яна табе пакуль што. А людзей не зневажай.

Пераканаць Ніну ў чым-небудзь, асабліва, калі яна ўжо мела пра гэта сваю думку, цяжка было. Яе ўпартасць мяне заўсёды смяшыла, і я на гэты раз не забыў нагадаць ёй анекдот пра жаночую ўпартасць.

Ноч ужо была ў сваёй сіле, калі не толькі жабы адчуваюць сябе поўнымі гаспадарамі, але і сама цемень як бы становіцца адухоўленай і нешта нібы гаворыць табе.

Я пачаў успамінаць і паціху дэкламаваць паасобныя радкі Блока. Ён мне так зараз патрэбен быў!

Ніна схіліла галаву мне на плячо і не гаварыла ні слова.

Сутонілася ноч, вялікая, неабдымная, шчырая і без усякіх сакрэтаў.

— Хадзем, Ніна, у хату.

— Чаго? — прашаптала яна, калоцячыся, нібы яе працяў холад.

— Каб быць заўсёды з табой. Я хачу быць з табой, Ніна. Ты верыш мне?

Яна ўстала з лавачкі і, упёршыся рукамі мне ў грудзі, адказала:

— Ідзі дамоў, позна ўжо.

Не Ніне, Ніна была ўжо дома, сам сабе мурлыкаў я Блока, ідучы на кватэру па бязлюднай начной вясковай вуліцы. Не віно, якое п'юць людзі чаркамі, працяло ўсе куточкі маёй душы.

## 21

З дырэктарам суседняй васьмігадовай Поплаўскай школы, з Уладзімірам Іванавічам Кнышам, я пазнаёміўся на вясновых канікулах на так званых педагагічных чытаннях у нашай жа Залескай школе.

Пасля майго даклада «Выкарыстанне мясцовага матэрыялу на ўроках гісторыі» быў абвешчаны перапынак. У гэты час і падышоў да мяне на калідоры Уладзімір Іванавіч.

Чамравы, невысокі, трохі каржакаваты, у гумавых высокіх ботах (яму трэба было ісці шэсць кіламетраў па раскіслай красавіцкай дарозе), але ў добрым пінжаку і ў белай сарочцы з гальштукам, ён неяк вельмі сціпла, нібы саромячыся і просячы прабачэння, прыемным ціхім голасам сказаў мне:

— Давайце пазнаёмімся. Я вас ведаю. Нашы дзеці мне расказвалі пра вас,— і працягнуў мне загрубелую, як у звычайнага мужчыны, руку, назваўшыся і назваўшы сваю школу.

— Рад. Дзякую,— адказаў я і ад душы пацісну́ў яму яго шырокую далонь.

— Наша школа ў вашым школьным раёне, і нашы вучні ідуць вучыцца ў ваш дзевяты клас. Так што, праз сваіх вучняў мы і ведаем вашу школу, ну і настаўнікаў. Яны хвалілі вас.

— Стаж у мяне яшчэ, ведаеце, першы год. Можа, што і не гэтак.

— Дармо, яны хвалілі. І Ніну Адамаўну хваляць. Калі дзеці настаўніка не ўзлюбяць, усё, нічога не будзе. Налета ў нас адкрываецца дзевяты клас. І новы будынак школы будзе гатовы. З жылым домам, кватэрамі для настаўнікаў. Давайце да нас з Нінай Адамаўнай. Удваіх. Вот будзе добра! Дзеці абы-каго не пахваляць, я — ведаю.

Я не разумеў, дзеля чаго рабіўся мне гэты закід, і дзеля прыліку адказаў Уладзіміру Іванавічу:

— Мне здаецца, я яшчэ тут не паспеў ні з кім пазнаёміцца.

Мы глядзелі на школьны двор: на фізкультурную пляцоўку з высокімі слупамі, змацаванымі ўгары моцнай шапкай, з якой звісалі дзве рухомыя жэрдкі з кальцамі, на турнік, на «кабылу», на шмат іншых слупоў, валейбольных, футбольных і баскетбольных; на дашчаны гараж для аўтамашыны, на вялікую драўляную пуню, на другую пуню, дзе стаяў конь і ляжала для яго сена.

Мы жылі ў гэты час адным, бачылі перад сабой адно, адчувалі адно — што прыйшла вясна, вечна маладая, заманлівая, простая і шчырая, якая нічога не хавае, усё распранае, лашчыць і саграває, а потым зноў апранае, цудоўнейшы з цудоўнейшых на зямлі лекараў.

І мы б прастаялі так каля акна доўга, нам было зусім-зусім добра, калі б з класнага пакоя, у якім прахо-дзілі нашы чытанні, не адчыніліся дзверы і не пачуўся голас Розума:

— Таварышчы, што вы. Пачынаем. Уладзімір Іванавіч, вы ж дырэктар.

Уладзімір Іванавіч паспеў сказаць мне:

— Што гэта мы: давайце сустрэнемся як-небудзь бліжэй. Ну?

— Як?

— Як? Прыедзьце да мяне на рыбу.

— А вы рыбак?

— Я не рыбак, але тады-сяды спрабую з вудамі на беразе пасядзець. У вас тут, я чуў, няма рыбы, акрамя печкуроў. А ў нас, калі збочыць ад сяла на які кіламетр управа ці ўлева, то можна на юшку злавіць.

Забягу наперад, скажу: Уладзімір Іванавіч, пакуль мы былі на рэчцы, ні разу не прысеў каля вуды. То стаяў згорбіўшыся, то апускаўся на кукішкі або проста на калені, то пераходзіў ад вуды да вуды, або пераносіў вуду ў другое месца.

— Толькі прыязджайце нанач. Я ўдзень не хаджу на рыбу. Раніцай.

Я падзякаваў Уладзіміру Іванавічу за яго ўвагу да мяне і паабяцаў недзе ў канцы мая, як толькі пачнецца добры клёў, наведаць яго. Што тут: шэсць кіламетраў. Дзве свае вуды ў рукі і пайду.

— Вуды не бярыце,— нібы ўгадаў мае думкі Уладзімір Іванавіч.— У мяне ёсць.

Пасля 25 мая, калі мы распусцілі перад экзаменамі старшакласнікаў, я, апрануўшыся як на рыбу і ўзяўшы ў свой рукзак кірзакі, пайшоў нанач у вёску Поплаў, да Уладзіміра Іванавіча.

Сонца было над лесам не гарачае, але яшчэ і не халоднае, неба чыстае, і не было ветру, штыль стаяў, здавалася, на ўсёй зямлі, і ўсё ў прыродзе было на сваім месцы, і не было прычыны, каб не радавацца.

Па адзін бок дарогі бяскрайняе мора жыта, па другі бок — толькі нядаўна засеянае ярыной поле, дзе з гусцейшымі, а дзе яшчэ зусім з рэдзенькімі ўсходамі.

Птушкі прытаміліся за дзень, і калі дзе якая ляцела, дык павольна, цяжка, а калі сядзела — моўчкі.

Лес, у які я ўвайшоў, хоць і быў ужо ў сталай зелені, пах яшчэ густой сырасцю, якая ішла ад зямлі, добра насычанай снегавымі водамі.

Паабапал дарогі цвіло разнатраўе і разнаквецце — белым, сінім, жоўтым цветам.

Елкі — цямнейшыя, сосны — святлейшыя, вольхі і бярозы — светлыя стваралі такую гаму фарбаў, якая злівалася ў нешта адно, і воку было прыемна бачыць нагэта, і колькі ні глядзі на лес, яно не стамляецца, а, наадварот, супакойваецца, як і ўся душа чалавека, калі ты ў лесе.

Дарога, як і ў лесе, да самай вёскі нікуды не збочвала, не круцілася па-гадзючаму, як гэта звычайна круцяцца лясныя і палявыя дарогі, была простай, праведзенай пад лінейку і, мусіць, не надта даўно, бо і тут, на полі, як і ў лесе, канавы паабапал яе не зраўняліся яшчэ з зямлёй, а толькі замуражэлі.

Уладзіміра Іванавіча я знайшоў хутка. Ён быў каля новага будынка школы, будаўніцтва якой зацягнулася і заканчвалася ў гэтым годзе, не ў мінулым, як ён хацеў гэтага.

Школа была — і старая і новая — па той бок рэчкі.

Раней я прайшоў нядаўна заселенай, шырокай, новай вуліцай і выйшаў на старую, вузейшую вуліцу, якая ішла паўз поплаў паралельна рэчцы. Цераз поплаў мяне перавёў ладны насып і даволі ладны драўляны мост над рэчкай Клявой, надта, як мне здалося, шырокай і мнагаводнай у гэтым месцы, не наша залеская яе дачка Клявіца. На вадзе і на берагах паўз рэчку было шмат гусей і рознага колеру свойскіх качак.

Гэта не проста была новая школа. Гэта быў новы школьны гарадок. Акрамя чатырохпавярховага будынка самой школы было шмат іншых надворных збудаванняў і двухпавярховы дом пад кватэры настаўнікаў.

— На колькі сямей?

— На дваццаць,— адказаў Уладзімір Іванавіч, без шапкі, з роўнымі сіваватымі валасамі, з загарэлым да чарнаты тварам, без пінжака, у сарочцы з кароткімі рукавамі.

Мы абышлі вакол з Уладзімірам Іванавічам будынак школы некалькі раз, я — усё са сваім невялікім рудым

рукзаком на плячах, у якім былі кірзавыя боты і яшчэ тое-сёе з дробязей, неабходных, калі ідзеш у лес або на рэчку. (мала якія выпадкі могуць быць наперадзе!), і ўсё гаварылі, усё гаварылі, і толькі аб школе. І не аб тым, што бачылі, а аб тым, што было схавана за гладкімі белымі сценамі і ўжо ўстаўленымі бліскучымі вокнамі.

У памяшканні нядаўна апошні раз была пафарбавана падлога, і ход у яго сярэдзіну быў пакуль што забаронены.

Тады Уладзімір Іванавіч вывеў мяне за межы комплексу школьных будынкаў і паказваў рукой, які вялікі будзе школьны зямельны ўчастак, на якім можна будзе разгарнуць біёлагам усе неабходныя сельскагаспадарчыя доследы, і што на гэтым участку, не скупячыся, яны маюць магчымасць зрабіць футбольнае поле — сто на семдзесят, як самае звычайнае футбольнае поле, на якім трэніруюцца і гуляюць сталыя футбалісты.

— Зямлі хапае, і я рад, што ў мяне ўрэшце будзе сапраўднае футбольнае поле.

Потым мы селі з Уладзімірам Іванавічам проста на зарослую трошкі травой зямлю, і Уладзімір Іванавіч сказаў мне:

— Ну, хваліцеся, як у вас там што. Я ўсё вам паказаў і расказаў. Праўда, аднаго не сказаў: я пераеду таксама сюды на кватэру.

— У вас свая хата?

— Свая, але ўжо старая.

— Будавалі, ці як?

— Каб будаваў, яна б яшчэ была моцная. Старую купіў.

— У нас гэтага не будзе, Уладзімір Іванавіч. Што ў нас! І настаўнікі жывуць па кватэрах. Будынак стары.

— Не гаруйце, Пётр Фёдаравіч. Не, не гаруйце. Будзе! У Залессі будзе будавацца новая школа. А з ёй — увесь комплекс школьных будынкаў. У тым ліку шмат-

кватэрны дом для настаўнікаў. Цяпер такія праекты: школа і дом для кватэр настаўнікаў. Добра, праўда?

— Добра.

— Каб малады спецыяліст, прыехаўшы ў вёску, не ламаў галаву, дзе яму і з кім жыць.

— З якіх гэта крыніц, калі не сакрэт, Уладзімір Іванавіч?

— Ніякіх сакрэтаў. Я быў на бюро райкома, калі разглядалі перспектыўны план раёна. Вы малады, і для вас якіх пяць год нічога не значыць.

— Тады няма сэнсу мне і пераводзіцца да вас, калі мець на ўвазе толькі кватэру? — пажартаваў я.

— Бадай. Толькі мне, як дырэктару, хацелася пахваліцца, што ў мяне ўжо настаўнікі маюць кватэры. Што датычыцца гісторыка і літаратара, дык я даў на іх заяўку ў райана. Тут не зманіў я вам, і ад вас з Нінай Адамаўнай не адмовіўся б.

— Дзякую. Колькі вы перамянілі школ?

— Пакуль што ні адной.

— Бачыце, з каго ж мне прыклад тады браць, калі не з вас?

— Я, шчыра кажучы, сам не люблю, калі чалавек бегае з месца на месца. Лічу, што не так важна, дзе жыць, важна, як жыць.

— Як жыць, правільна.

— Ну і казаў мне Капач, што хоча рэкамендаваць вас завучам. Не гаварыў з вамі?

— Мяне, Уладзімір Іванавіч?

— Вас, вас, Пётр Фёдаравіч.

— Што вы, Уладзімір Іванавіч. Які ў мяне стаж?

— Ёсць ужо ў вас стаж. Школу ведаеце. Настаўнікаў сваіх ужо ведаеце. Гэта важна.

— Не, не, не. Калі б і праўда, дык, мусіць, не стаў бы.

— Чаму? Мала ў нас маладых і дырэктараў, і завучаў? І нічога, працуюць. Яшчэ лепш, чым якія з вопытам.

— О-о-о, вопыт!

— Я не кажу, што вопыт нічога не значыць. Зараз у нас сфармаваўся, як вам сказаць, новы тып кіраўніка. Ён павінен не гнаць, а весці за сабой сваіх падначаленых. А як павядзе Розум, калі адабраць у яго пугу? Кажуць, ані нічога не чытае.

— Не, не чытае.

— Дык што Капач — дурны? Не бача?

— Капач шмат чытае, ведаю.

— І мы ведаем, што Капач галавасты хлопец. Толькі ў яго часамі выяўляецца... Як вам сказаць? Як бы дзяцінная гарэзлівасць. Непасрэднасць такая. Разумееце?

— Можа, якраз і добра, што ён такі непасрэдны.

— Так, так! Непасрэднасць, я лічу, самая каштоўная рыса ў чалавеку. Канешне.

Вялікая чырвоная кружэлка сонца садзілася за лес. У гэты час зусім недалёка ад нас, ці то не заўважаючы, ці то не баючыся двух мірных людзей, мяне і Уладзіміра Іванавіча, зусім ціха, як на шпацыры, пракуляўся шэры, з белым падпуззем заяц.

Мы не крыкнулі і не свіснулі, нават не ўскочылі з зямлі, каб спалохаць яго, хай бяжыць звярок, куды яму трэба.

Уладзімір Іванавіч толькі пажартаваў:

— Кажуць, што заяц баязлівец. Гэта няпраўдна. Бачыце? І ў вус не дзьме.

Ужо ідучы з Уладзімірам Іванавічам да яго на кватэру, я запытаў у яго:

— Скажыце мне, Уладзімір Іванавіч: вы не ведаеце, што значыць слова баўкун?

— Баўкун? — пачаў думаць ён, шукаючы ў сваёй памяці адказ на маё пытанне, нікуды не пазіраючы, не размаўляючы.

Я б не задаваў яму такога пытання, калі б не ведаў,

што ён, біёлаг па спецыяльнасці, добра разбіраецца ў лінгвістыцы, мае густ у мастацкай літаратуры і дасведчаны амаль ва ўсіх асноўных літаратурных выданнях.

## 22

Заняткі ў школе, можна сказаць, скончыліся. Праўда, вучні прыходзяць у школу, але ўрокаў няма. Пятыя, шостыя і сёмыя класы адбываюць так званую сельскагаспадарчую практыку: працуюць або на школьным агародзе, або ідуць у саўгас на якую-небудзь работу. Часцей за ўсё ў садова-агародную брыгаду.

Любяць дзеці такую працу. Воля!

Хлопцы — дзевяцікласнікі з раніцы і да абеду на двары каля школьнай аўтамашыны. Яны рыхтуюцца быць шафёрамі. Стары матор, розныя часткі аўтамабіля, пачынаючы ад колаў і канчаючы шасі — рамай,— усё гэта трэба ведаць, разабраць, скласці. Яны стукаюць, звоняць малаткамі. У камбінезонах, рукі мурзатыя.

Дзяўчатам — дзевяцікласніцам горш. Іх практыка не на двары. Цэлы месяц ім трэба прасядзець у класе за швейнымі машынамі, за рознымі выкрайкамі і абшыўкамі. Трэба каб не толькі сукенка атрымалася, трэба каб кожны рубец у ёй, кожная закладка гаварылі аб тым, што яе шыў майстар. А дзяўчаты рыхтуюцца быць майстрамі па шыццю сукенак.

Не заспяваеш уголас, не засмяешся, а званкоў няма, каб выскачыць талакой на двор і там хоць развесяліць сваю душу.

Васьмікласнікі і адзінаццацікласнікі здаюць экзамены. Ім і горш, ім і лепш: яны не кожны дзень прыходзяць у школу.

Для мяне рай. Не трэба даваць урокі, пісаць рабочыя планы.

Найгоршае, што ёсць у рабоце настаўніка,— гэта пісанне рабочых планаў. Нудная работа. Пішы даты, вытрымлівай, хочаш — не хочаш, форму. «Ваш рабочы план!» — так пачынаецца праверка работы ўсякага настаўніка.

Дзень вялікі, усё тоне ў зеляніне, у сіні бяздоннага вялікага неба. Якая прыгажосць у гэты час у вёсцы!

Тут яшчэ прыслалі ў школу з райкома камсамола адносіну: арганізаваць са старшакласнікаў лагер рацыянальнага адпачынку, спалучыўшы апошні з працай у саўгасе.

Завуч па вытворчаму навучанню Васіль Мікітавіч ткнуў мне ў рукі курыцельную паперу, дзе вельмі цьмяна надрукавана было тое, аб чым я сказаў, і кажа:

— Падумай. Калі не збіраешся ў вясельнае падарожжа.

І глянуў на Ніну Адамаўну, якая была тут жа ў настаўніцкай.

— Мы збіраліся ехаць, Васіль Мікітавіч. На Каўказ. Так, Пётр Фёдаравіч? — перахапіла мой адказ Ніна.

— Я дзеда ведаю. Нікуды ён не паедзе. Вам, Ніна Адамаўна, можна. Вам улетку ў вёсцы няма чаго рабіць. Дзед хай робіць і зарабляе сабе хлеб духоўны.

Гэта гаварыў Капач. У яго была звычка пры ўсіх і заўсюды называць мяне дзедам.

У душы я быў трохі загарэўся: што мяне называеш мянушкай? Ведаеш ты дужа мой характар: дзед я ці не дзед. Ды лепш парашыў сабе аджартавацца.

— Максім Макаравіч, дзед з бабай. Куды баба, туды і дзед. Як баба задумае, так дзед і зробіць.

— Пачакай, я ведаю, што ты майстар на слова. Але ж яна яшчэ не твая баба. Не піў я на вашым вяселлі.

— Можа, вас не паклікалі? — умяшалася Ніна.

— Нехта б выпіў, калі не я. Дзед чэсны, без гарэлкі ён не ажэніцца.

Так, я пачаў думаць пра брыгаду. Якая яна павінна

быць? Дзе жыць? Што есці? Якую работу ў саўгасе мы можам узваліць сабе на плечы? Як праводзіць вольны ад работы час?

Любая справа пачынаецца з думкі аб ёй.

## 23

Я не буду падрабязна расказваць пра брыгаду, якую мы з Васілём Мікітавічам стварылі. А раптам што-небудзь атрымаецца?

Чаму з Васілём Мікітавічам — таму што ён быў завуч па вытворчаму навучанню.

Спачатку я абвясціў у дзевятых і дзесятых класах, што ствараецца брыгада. Брыгаду буду ўзначальваць я. Жыць будзем у школе. Есці хадзіць дамоў. Працаваць будзем як дарослыя. Рукі не падымаць. Падумаць добра і ў апошні дзень заняткаў прынесці, хто захоча ўдзельнічаць у брыгадзе, пісьмовыя заявы. Брыгада будзе толькі хлапечая.

На наступны дзень пасля скончэння навучальнага года дваццаць тры хлопцы з чатырох дзевятых і дзесятых класаў і я аблюбавалі клас, вынеслі з яго парты, памылі падлогу і заставілі ложкамі з пасцелямі.

Пасцелі і ложкі ў школе былі — школа мела інтэрнат.

Наступнае ранне мы ўжо касілі на лузе каля рэчкі.

Спачатку не ўсіх роўна слухаліся косы.

Я ішоў то ўперадзе, то заходзіў назад, падчышчаў, як кажуць, паказваў і раіў тым, якія адставалі, хоць і з мяне, адчуваў я, касец быў не першага класа. Прыязджаючы да дзеда ў вёску Бычча ў летні час, я сяды-тады браўся за касу, адзін раз нават зусім самастойна выкасіў лажок у агародзе, і дзед нават пахваліў маю работу, калі зграблі сена, сказаўшы, што скошана гладка, толькі трохі прыземіста, звычкі касіць у мяне не было.

Авалодалі мы майстэрствам касьбы, і я, і вучні, не скора. Але авалодалі. Недзе ж у сярэдзіне ліпеня (пача-

лі мы яе першага ліпеня) нас пачаў хваліць брыгадзір за нашу работу.

Касіць ішлі рана, на шэрай гадзіне. Уранні не душна і трава лёгка рэжацца. Не дурань выдумаў: «Раса далоў — каса дамоў».

Пакасіўшы ў ахвоту ранне (а яно цягнулася, прыкладна, у нас гадзін з трох да васьмі), мы канчалі свой працоўны дзень.

Потым мылі ў рэчцы косы. Тады распраналіся, як маці радзіла, і мыліся самі.

Вылезшы з рэчкі, абсыхалі — хто стоячы, хто седзячы на мураве, падстаўляючы сонцу, якое было ўжо недзе над лесам, то плечы, то твар і грудзі, слухаючы ледзь улоўны звон сіняга-сіняга неба.

Паснедаўшы, збіраліся на школьным двары і кляпалі косы на заўтрашні дзень. Кожны меў сваё месца — калодачку або кінутую на зямлю драўляную плашку,— і такі звон падымаўся, як у якой шматгалосай металічнай майстэрні.

Першыя дні я правяраў, як хто накляпаў, а пасля і правяраць перастаў, бо хлопцы зразумелі, што няклёпанай касой доўга не накосіш, і, трэба сказаць, злаўчыліся, як і касіць, косы кляпаць.

Пасля кляпання кос хлопцы займаліся хто чым: гэта ў нас была пара для душы. Адны гулялі ў шахматы, другія рашалі красворды, трэція нешта пісалі ці рашалі задачы, хто чытаў.

Калі ўвечары ў клубе была добрая кінакарціна, мы ішлі калектыўна ў кіно, а тады, лежачы ўжо ў пасцелях, доўга спрачаліся, што да чаго ў карціне.

У выхадныя дні, па нядзелях, калі не ішлі касіць, мы рабілі доўгія паходы па лясах, рэчках, азёрах. Мы аддаваліся лесу, сонцу, вадзе, зялёнай траве і сіняму небу.

...Да нас прыехаў сакратар райкома камсамола Габец. Завочна, як я пераканаўся пазней, хлопцы называлі яго Жэня.

Выйшаўшы з памяшкання школы, я ўбачыў яго сярод двара ў гурце хлопцаў, якія пасавалі на валейбольнай пляцоўцы ручны мяч, і пайшоў туды.

Я ведаў яго з зімы, калі ён прыязджаў у нашу школу па камсамольскіх справах.

Без шапкі, русыя валасы аж пабялелі, нібы ад пылу. Высокі, вышэйшы за мяне. Вочы вялікія. Нос з гарбінкай, але невялікай, якая не псавала агульнага добрага ўражання ад шырокага твару. Простыя турысцкія штаны, на нагах кеды. Сарочка з рукавамі, ладнымі нагруднымі кішэнькамі, таксама, мусіць, турысцкая, такога ж попельна-сівага колеру, як і штаны.

На грудзях не было універсітэцкага значка, які ён насіў зімой на лацкане пінжака, калі прыязджаў да нас у школу.

— Косіце?

— Косім.

— Вы з імі?..

— Кашу таксама.

— Мне расказвалі ў саўгаснай канторы.

— Прызнацца, я не спадзяваўся, што так добра ў нас атрымаецца. Толькі з харчаваннем...

— Чаму вы нас не папярэдзілі? Можа б, саўгас авансам перавёў грошы на сельпо, і елі б у сталоўцы.

— О, каб мы ведалі, што ў нас атрымаецца!

— Нічога, першы блін. Ён, як вядома, рэдка калі ўдаецца.

Гаварыў Габец глуха, трошкі ў нос.

Гаворка такая адбылася паміж намі, калі ішлі па доўгай шырокай Школьнай вуліцы, якая з абодвух бакоў патанала ў зеляніне, на абед. Я — да гаспадыні, Габец — у сталоўку.

Я запрашаў яго да сябе, але ён сказаў:

— Ты сам ясі ў людзей.

Я сабе быў памкнуўся ў сталоўку, так сказаць, за кампанію, але падумаў, што цётка Хадора, чакаючы мя-

не, нікуды не зможа пайсці з-за мяне, сапсуе сабе дзень і нервы, а ўвечары апраўдайся перад ёй — пайшоў у сталоўку!

Калі ж я сказаў ёй, што хацеў ісці разам з прадстаўніком з раёна на абед у сталоўку, яна спачатку запытала ў мяне:

— А чаго ён прыехаў? Хто ён такі?

— З райкома камсамола. Брыгаду нашу правяраць.

— Вот зварыла галава: у сталоўку чалавека адправіў. І кошкі душу не шкрабуць? Памыі тыя адправіў чалавечыя есці. Ідзі па яго! — настойвала цётка Хадора.— Які ты ваўкаваты! Што ён пра цябе падумае? Напіша абы-што.

Я даў цётцы Хадоры абяцанне, што прывяду гэтага чалавека на вячэру, а зараз ужо позна, пакуль я ішоў дадому, ён дзе-небудзь ужо купіў абед і есць яго.

Пасля ціхай гадзіны, калі хлопцы гулялі ў футбол, ён стаяў варатаром у адной з каманд і ўзяў, на здзіўленне ўсіх, пенальці.

На школьным двары сабралася людзей, як на якім стадыёне.

Я сказаў: людзей. Гэта былі, у асноўным, вучні, пачынаючы, можа, з пятага класа і вышэй. Занадта малых не было, не.

З некаторага часу я пачаў заўважаць, што ў Залессі вельмі любілі футбол.

Калі вучні гуляюць у футбол, гледачоў — як нідзе, часамі прыходзілі нават дарослыя, тыя, якія рана ці позна скончылі гэтую ж школу.

У любы час дня і ночы запытай у любога школьніка-хлопца, дзе і калі гулялі футбалісты мінскага «Дынама», з якім лікам прайгралі або выйгралі, скажа. Прозвішчы нападаючых, варатароў, абаронцаў ведалі лепш, чым урок самага патрабавальнага настаўніка. Ведалі і Пеле, і каго хочаце, я таго не ведаў пра футбол, што ведалі яны, хоць лічыў сябе далёка не апошнім балельшчыкам

гэтага віду спорта і не прапускаў па радыё або тэлевізары ніводнага рэпартажу або перадачы.

Пасля футбола хлопцы і ўсе балельшчыкі пачалі разыходзіцца на вячэру.

Вячэраюць улетку ў вёсцы позна, пакуль не прыйдуць з пашы каровы, не асядзе пыл, які падымуць яны на вуліцы.

Я, як і абяцаў сваёй гаспадыні, прывёў з сабой госця.

— Думала, калі не прывядзеш, выганю. Самога, як сабаку таго, выганю. А падумаць, адправіў куды чалавека есці! Сядай, хлопчык,— звярнулася яна спагадліва і лагодна да Габца.— Я ў сталоўках гэтых вашых...

— Горш, чым у цябе? — пажартаваў гаспадар, мусіць, каб распячы цётку Хадору.

— Ух і ён, стары, нос свой куды не трэба тыча. Перад смерцю гаварыць во, калі хочаце, навучыцца. Ён жа ў мяне, хлопцы, нямы. А гэта ж во возьме і пад'ялдыкне мяне. Глядзіце, якая ў мяне жонка дурная. Думае, што я не здагадваюся,— ставіла на стол вячэру і адначасова гаварыла цётка Хадора.— За стол, хлопчыкі. Цяпер ноч малая, спаць некалі будзе. Госць — на кут. Садзі яго, Пеця. І ты, стары, садзіся. Аддзельнай вячэры для цябе не будзе.

Ставіла на стол талерку з нарэзаным каўбухом.

— У мяне кнак, а не каўбух,— любіла хваліцца яна.

— А што такое кнак? — пытаў я.

— Добры, вот і кнак,— адказала яна.

— Сапраўды, што такое кнак? Можа, гаспадар ведае?

— У тую вайну шмат хадзіла падробленых грошай. Калі ж былі не падробленыя, а добрыя, дык на іх казалі кнак. А гэта ж каўбух, а не грошы, які гэта кнак,— тлумачыў гаспадар.— Ведае яна, што гаворыць...

Калі мы ўжо амаль пад'елі, гаспадыня пачала больш блізкае знаёмства з госцем.

— Адкуль ты, хлопчык?

— З Ядліны.
— З нашай Ядліны, што за Бярозай?
— Ага.
— Родненькі мой, зезюлёнак ты мой міленькі! Чаму ж ты мне наперад не сказаў? З Ядліны! Я ж ведаю там усіх. Чый ты?
— Барыса Габца.
— Барысаў... Ну, як твой бацька: здаровіцца яму?
— Нічога,— і Габец паглядзеў на гаспадара.— Во як яны.
— Мой? О, мой яшчэ корч добры. Смалновы.
— Які гэта ты ўжо?
— Меншы. Апошні.
— Колькі вас было?
— Пяцёра.
— Дома з бацькамі хто ё?
— Не.
— Адны?
— Адны.
— Во свет настаў. Выведуцца, абрастуць і паляцяць на свет, як птушкі. Пенсію ж, можа, даюць бацькам?
— Даюць.
— Дваім ці аднаму?
— Дваім.
— То і добра. Вясёлы твой бацька быў, ой, любіў кампанію. Як ён цяпер? Гэткі?
— Гэткі.
— Які ў люльцы, такі і ў магілцы. Праўду людзі кажуць. Мы ж кумы з тваім бацькам. Там сястра мая, Наталля, замужам за Харытонам Ігнатавым была, дык мы ў яе з бацькам тваім дзяцей трымалі. Зараз яны хату сваю прадалі і ўсе ў Мінску. З меншай, з Ганяй, жыве. Ён жа памёр. Можна сказаць, радня мы з табой, сынок. А ты ў сталоўку ідзеш. На Пецевай пасцелі будзеш спаць.
— Не, мне трэба з імі.

— З вучнямі?

— Ага.

— На голым?

— Не на голым, Фядора Фядосаўна. Мы яму там ложак адвялі. Хлопцы культурныя.

— Культурныя, кажаш. Нехта ж, казалі, у Цмока кляты ўсе парваў. Не яны?

— Што вы, Фядора Фядосаўна. Я ж начую з імі. Калі?

— Ты заснеш, а яны пойдуць. Ой, не вер цяперашнім дзецям. Цяпер дзеці!

— Не, я чуйна сплю. Ад мяне не ўкрадуць.

— Гэта добра, што чуеш. Я так гэта гавару. Думаю, што ты скажаш. Чорт яго бяры, з Цмокам. Ён дужа халерны. Я чула, што нехта ўлез і ўсе кляты яго патаптаў, парваў і пакідаў.

Цётка Хадора ўжо гаварыла Габцу:

— Двор і гарод абцягнуў калючкай, дротам такім, што салдаты загараджэнне робяць. Нікуды не вылазіць, як барсук, з дзіркі сваёй. Нікому нічога не дасць, не пазыча. Не гаворыць ні з кім. Во, хлопчык, якія людзі бываюць.

Я растлумачыў Габцу, што Цмок — настаўнік-пенсіянер.

— А ты вучыўся дзе? — запытала цётка Хадора ў Габца.

— Як я, універсітэт скончыў,— адказаў за Габца я цётцы Хадоры.

— І значок ёсць? О-о, дык ты вялікі чалавек. А я думала, ты так. Маладзец. Нежанаты ці жанаты, можа, ужо?

— Не.

— І мой во ходзіць, як бык, адзін. Жаніцца, хлопцы, пара. Перастарэеце, і ніхто тады за вас не пойдзе. Кажуць, не кайся, што рана ўстаў або маладым ажаніўся. Як цябе завуць? Я ўсё «хлопчык» ды «хлопчык», а як за-

вуць і не пытаюся. Калі разабрацца, дык ты ўжо і не хлопчык.

— Жэня.

— Ага, Жэня. Дык вот, Жэня, дурны мой Пеця. Была ў яго дзеўка, добрая, настаўніца тут адна наша, яна б і пайшла за яго, дык ён узяў ды дамоў адправіў яе. А сам з вучнямі гэтымі во дзяцініцца. Хай бы другі хто вадзіў іх касіць, або дома начавалі б, і не трэба было б пільнаваць іх у гэтай школе. Дык яму трэба! Вот убачыш, замуж пойдзе.

Гэта ўжо было сказана мне.

— Гэтак хутка?

— Дзеўка так: калі не пойдзе, за каго хоча, абы на каго кідаецца. Абы пайсці. Не думаючы.

Габец пераначаваў у нас у школе, назаўтра пакасіў з намі ранку,— а касіць ён умеў, лепш за мяне касіў,— і паехаў.

Праўда, пахваліў нас.

Добра, ну і добра, што добра. Хлопцы рады, і я рад. Хвала — чалавеку не навіна, але калі пахваляць, быццам і жыць ямчэй і працаваць лягчэй.

Але, як кажуць, не было бяды, дык чэрці наклікалі.

Толькі сабраліся мае хлопцы з вячэры і ўжо хацелі спаць, як нехта з іх прыглушаным шэптам, але так, каб усе, у тым ліку і я, чулі, кажа:

— Братцы, Сысой Сцяпанавіч.

— Трэба было ўстаць, калі заходзіць настаўнік,— пачуўся ў змроку хрыпаваты яго голас.

Хлопцы, хто ўжо сядзеў на сваіх пасцелях, рыхтуючыся спаць, падхапіліся, і Розум, зняўшы з галавы свой саламяны капялюш:

— Распусцілі вы іх тут, Пётр Фёдаравіч. Уключыце святло.

І пачалася рэвізія ложкаў, сцен класа, нават столі.

— Дзе ваш рэжым дня, Пётр Фёдаравіч?

Я спачатку смыкнуў плячыма, нібы мяне злавілі за непрыстойным заняткам, а потым адказаў, як думаў:

— Навошта ён нам? Мы працуем і адпачываем як хочам.

— Як навошта?

Ён зрабіў на твары міну здзіўлення.

— Значыць, няма рэжыма дня ў вас? Так і запішам.— Ён дастаў у момант аднекуль блакнот (я нават не заўважыў адкуль) і праспяваў, запісваючы ў яго: — Ня-а-ма.

— А план?

— Які план вы маеце на ўвазе? Касьбы ці?..

— Які план? Вы што, Пётр Фёдаравіч: не педагог? План мерапрыемстваў на ўвесь перыяд і план на кожны дзень.

Я глядзеў вакол сябе на хлопцаў і недаўменна ўсміхаўся ім, як бы гаворачы гэтым самым: «Братцы, ратуйце, іначай сок з мяне пацячэ».

Яны штучна закашлялі, загаварылі паміж сабой.

— Сысой Сцяпанавіч, у нас быў з райкома камсамола Жэня Габец. Паначаваў з намі, у футбол пагуляў, пакасіў ранку і ні пра якія планы не пытаў,— нечакана для мяне загаварыў Коля Гарбуз, чорнагаловы, чарнавокі, з бурым колерам скуры, за што сярод сваіх аднагодкаў быў вядомы пад мянушкай Вэнджаны. Вясёлы выдумшчык, пранырa, здольны, як я яго разумеў, на ўсё, нават у вучобе, хлопец.

— Гарбуз, я ведаю, што быў. Калі б ён не наведаў вас, і я б да вас не пайшоў. А раз нашай работай цікавяцца, яна павінна быць на належным узроўні.

— І Васіль Мікітавіч нічога нам пра планы не казаў.

Гэта гаварыў белагаловы Косцік, высокі, гібкі, трошкі шапялявы — дзе трэба было вымаўляць «Л», у яго атрымлівалася «Р».

— Васіль Мікітавіч? Рак?

— Быў.

— Раку трэба праца. Каб вы добра касілі. І нічога

больш яму не трэба. Ён завуч па вытворчаму навучанню. А я намеснік па вучэбна-выхаваўчай рабоце. Той самы дырэктар, можна сказаць.

Я маўчаў.

— Няма, значыць? — глядзеў ён на мяне.— Добра. Далажу дырэктару. А можат, даже і вышэ. У районо ілі ў райком парціі.

І пайшоў, нават не пажадаўшы нам добрай ночы.

Хлопцы спалі, як забітыя, а маё вока ўкучы не было. Акно, каля якога стаяў мой ложак, свердзіў і свердзіў мядзведзік сваім турканнем.

Слухаў я яго да рання, і нібы быў не пад дахам школы, а ў полі, і паміж мядзведзікам і мной не было ніякіх перагародак. Я адчуваў і бачыў цяжкое зорнае летняе неба, чуў, як на траву і дрэвы садзіцца кроплямі раса і зеляніна дранцвее пад ёй.

З турканнем мядзведзіка лілося ў маю душу нешта вельмі значнае, перад чым сон — звычайная будзённая дробязь.

Ніна, чаму я не паехаў за табой на поўдзень? Можа, ты сапраўды пакрыўдзілася на мяне, і я згубіў цябе назаўсёды? Не пішаш, і я не ведаю, калі б і хацеў, куды напісаць табе. Можа, і сапраўды мае рацыю цётка Хадора: была дзеўка і — лаві ў полі вецер? Я нават не правёў яе на шашу, не пасадзіў на аўтобус. Я быў з хлопцамі на сенажаці, а яна паехала.

Можа, я сапраўды ў балоце, дзе, як не асцерагайся, усё роўна запэцкаешся? Не сам, дык нехта на цябе пырсне граззю.

## 24

Я ішоў пасля абеду ў школу, як каля аднаго з магазінаў, на плошчы нашага Залесся, мяне затрымаў Зоін бацька. Ён гаварыў чуць трошкі прыціскаючы язык:

— Хоча паступіць туды, дзе вы вучыліся. Я кажу ёй: папытай у Пятра Фёдаравіча — як, што. Можа б, памог чым. Хай бы вы пагаварылі з ёй. Я прашу вас, Петр Фёдаравіч.

Зоя скончыла школу з залатым медалём. Ёй трэба здаць на пяць адзін прафіліруючы прадмет.

— Дзе яна зараз? — пытаю ў дзядзькі Сяргея.

— Дома. Месяц нікуды з хаты не вылазіць. Чытае.

Праўда, пасля выпускнога вечара я не бачыў нідзе Зою і забыў, можна сказаць, пра яе існаванне.

Жылі яны недалёка ад плошчы, і я пайшоў з дзядзькам Сяргеем, побач, памаленьку. Ён быў з мяне, але худзейшы, дужа, як мне здалося, спрацаваны. У брызентавых туфлях на босую нагу, у рудым салдацкім галіфэ.

Хата адступала ад вуліцы, паміж ёй і штыкетнікам была добрая сотка град, абсаджаных вішняком.

Вокны вялікія, не такія, як у майго гаспадара, у зялёных налічніках.

Убачыўшы, што я пільна ўглядаюся ў хату і ўсе астатнія будынкі, якія былі ў двары (стопка, павець, высокая пуня), дзядзька Сяргей, як бы ўгадаўшы мае думкі, сказаў мне:

— Папрацаваў, дзівача. Не было ж нічога — адно цяпелішча. Добра, што сам усё ўмеў рабіць. А калі б давялося наймаць... Цяпер што жыць! Цяпер і дзіця будзе жыць, на гатовым на ўсім. На хлеб зарабіў, дзівача, і сядзі, як малы, у хаце, ні за каўнер не цячэ, ні асколкі над галавой не свішчуць.

Перад ганкам жалезная рашотка выціраць ногі, над ганкам на слупах двухскатны дах, як і на хаце, гонтавы.

Сенечкі нам насустрач адчыніла Зоіна маці, жанчына высокая, вышэйшая за свайго гаспадара, поўная, крышку смуглявая, з вялікімі маршчынамі пад вачыма і каля вушэй. Яна была без хусткі, з укладзенымі кружэлкай косамі на патыліцы.

Амаль уся сцяна сенечак была шкляная, з дробным пераплётам рам, падлога была белая, як у хаце.

Хата складалася з дзвюх палавін. З увахода быў пакой, дзе стаяў стол з чырвонай драўлянай канапай за ім, злева — кухня, абшытая высокай, да самай столі, перагародкай.

Наступная палавіна мяне здзівіла: тры ложкі з высокімі белымі пасцелямі, адменная шафа з люстранымі дзвярыма, дарожкі на фарбаванай падлозе, стол з точанымі ножкамі, канапа з нізкай спінкай, некалькі карцін у добрых рамачках — рэпрадукцыі класічнага жывапісу і ладны фікус на покуце, амаль да самай светлай столі.

Зоя паставіла мне і бацьку крэслы, і мы селі на іх, я — на сярэдзіне хаты, ён — з канца стала.

— Во, Зоя, Пётр Фёдаравіч,— сказаў гаспадар, быццам яна не ведала, хто я такі.— Я прывёў яго, каб ты пагаварыла з ім: можа б, ён што памог табе.

Маці, сеўшы на канапу, сказала Зоі, паказаўшы рукой месца каля сябе:

— Сядзь. Чаго ты стаіш на хаце адна, як ражон.

Зоя села каля маткі, нацягваючы на голыя калені кароценькае паркалёвае, летняй размалёўкі плацце. І рукі яе былі ўсе голыя (плацце было без рукавоў), і шыя, і да палавіны грудзі былі голыя (плацце было з вялікім выразам).

Маці, у доўгай спадніцы, якая даставала ёй загарэлыя ступні ног, калі яна сядзела, у блузцы з рукавамі і каўняром, не вытрымала, убачыўшы, што дачка трохі разгубілася, адвярнулася ад яе.

— Сучкі. Надзяюцца, аж глядзець не хочацца. Во ўжо мода цяпер!

— Не глядзі на яе, Марына. Тут дзела не ў гэтым. Тут вот пагаварыць з чалавекам трэба. Хто брэша на радню, таго чужы пакарае. Як, ці можна што памагчы, я ў чалавека пытаю. Ён-ткі ж там вучыўся. Настаўнікаў тых ведае, яго, можа, яны ведаюць.

— На мой факультэт падала? — пачаў я гаворку з Зояй.

— Ага,— адказала яна, сціскаючы крыху бурыя калені.

— Чаму, выкладчыкаў я ўсіх там ведаю.

— І яны вас? — даходзіў свайго бацька.

— Ведаюць, канешне.

— Во, чуеш, Марына? А ты сварыцца. Дзеўка трэба каб паступіла. Што ёй — кароў разам з намі даіць?

— Дужа ты доіш.

— А не памагаю? Слухайце, Пётр Фёдаравіч, сваю работу, якую брыгадзір скажа, зраблю, а тады да яе бягу. І гэта нясу, і тое падаю. Ты б без мяне...

— На тое ты мужык.

— Бабскую работу рабіць?

— Не адзін жа ты такі.

— Не гавары: не ўсе.

— Хочаш, каб грошай у хаце болей было.

— А і хачу. Што, мне ад іх мулка?

— Я, Пётр Фёдаравіч, сто дваццаць рублёў палучу, а ён калі пяцьдзесят, а калі саўсім дваццаць. Дык ён і баіцца, каб я кароў не кінула даіць.

— На тое і памагаю табе. У нас, Пётр Фёдаравіч, обшчыя работы. Добра, калі касіць ці хаця б стог кідаць. Дык там відаць твая работа. А калі гной накопваць? Пакуль прыйдзе той трактар з прычэпам. А тады пакуль завязе. Больш стаіш, чым робіш. Тону накапаць пяцьдзесят капеек. Я б накапаў пяць тон, найменш, калі б капаў і капаў. Больш бы накапаў. Бывала, як самі, да калгасаў яшчэ, жылі: вазоў дзесяць за дзень накапаеш і на поле завязеш. Ёй лацвей на кароўніку: у яе свае каровы, і яна доя іх. Што надаіла, так і відаць. А тут ты не сам сабе гаспадар.

— Брыгадзіра муштрануў бы. А ты маўчыш, як маўмыра.

— Сварыцца з чалавекам?

— А як? Абяспеч мяне работай. Каб я рабіў, а не стаяў. А вы раты паразяваеце і слухаеце ў гурце свае байкі, рады, што работы няма.

— Праўду яна кажа, Пётр Фёдаравіч: бывае. Вы б, можа, павезлі тады Зою нашу на ікзамінт, а? Я б вам аплаціў усё. Я папрашу вас, калі можна. Можа б, зрабілі ласку такую. Большы мой — той інжынер. Ух, рэзаў хлопец навуку! Хай бы і яна стала якой вучонай. Хоць настаўніцай. На вялікае дзе ўжо нам дужа замахвацца.

— Добра падрыхтавалася? — загаварыў я з Зояй.

— Рыхтуюся.

Я глянуў на стос кніжак, які ляжаў на стале. Некаторыя з іх мне былі знаёмы па вокладках.

— Ну, рыхтуйся. Добра толькі рыхтуйся. Каб не сорамна было мне перад сваімі выкладчыкамі.

Я паабяцаў Зоі везці яе на экзамен. Маці засталася рада, бацька быў рад.

А пасля ўжо, ідучы ў школу, падумаў: навошта я абяцаў? Якія ў мяне ёсць на гэта рэальныя шанцы? Мне будзе не па сабе, Зоі, бацькам.

І ўсё ж такі я павёз яе ў Мінск. Сенакос у саўгасе канчаўся, і брыгада мая разышлася па сваіх хатах. Я сказаў хлопцам:

— Хадзіце на работу з дому, без мяне.

Коля Гарбуз махнуў рукой у паветры і адказаў:

— Армія без палкаводца? Не хочам. Усякія будуць чапляцца...

Я глянуў на яго, сапраўды «вэнджанага». Якая юначая незалежнасць!

На шашу нас праводзіў Зоін бацька. Ён нёс яе чамадан, а яна на левай руцэ адзін лёгкі зялёны плашчык. Чамадан цяжкі, бо галоўнай паклажай у ім былі кніжкі. А яны — як жалеза. Я спрабаваў падмяніць дзядзьку Сяргея (у мяне быў з сабой адзін, амаль пусты, партфель), але дзядзька Сяргей падняў цяжкі чамадан сабе на плячо і пайшоў.

На вуліцы знаёмыя ўголас жадалі нам поспеху, і я падумаў: калі Зоя не паступіць, мне хоць уцякай з Залесся.

Аўтобус Магілёў — Мінск узяў нас, але народу было поўна, сто кіламетраў мы ехалі стоячы. Зоя не губляла добрага настрою, шчыра ўсміхалася, калі чула ад пасажыраў які-небудзь жарт, і даверліва пазірала на мяне, як бы чакаючы сваім усмешкам маёй падтрымкі.

За час дарогі я зрабіў вывад: Зоя сярод людзей — прыгожая сціпласцю.

На вакзале я ўзяў таксі, палажыў у яго Зоін чамадан, і мы паехалі ка мне дамоў, на кватэру да маіх бацькоў.

Нам адчыніла маці.

Мама разгубілася трохі, убачыўшы мяне з незнаёмай, такой прыгожай, як яна пасля казала, дзяўчынай.

— Прыехалі? — не сказала, а быццам выпаліла яна таропка, папраўляючы на галаве валасы, якія былі крыху распусціліся. Быццам яна ведала, з кім і калі я павінен быў прыехаць, і вось зараз прыехаў, і перад ёй тая, якую яна не бачыла, але павінна была прыняць, бо яна, гэтая невядомая,— мая жонка.

— Мама, гэта Зоя, мая вучаніца... Яна прыехала паступаць, і хай пажыве ў нас, пакуль будзе здаваць экзамены. Будзьце знаёмы.

Зоя падышла да маці і, ледзь схіліўшыся, падала ёй руку.

— Хай жыве, сынок. Маі дома няма. На яе ложку спаць будзе.

— Дзе яна?

— У нейкі лагер камсамольскі паехала. Аж у Малдавію.

— Значыць, працуюць. Як мы са сваімі хлопцамі.

— Робяць нешта. Пачытаеш яе пісьмы.

— Тата ў гаражы?

— У гаражы.

Пасля абеду (мы абедалі ўтраіх: мама, Зоя і я; баць-

ка абедаў заўсёды на рабоце) мы паехалі з Зояй ва універсітэт.

Ехалі ўжо тралейбусам, з перасадкай на плошчы Якуба Коласа.

Да экзаменаў заставалася два дні, але ў вялікім фае абітурыентаў было поўна.

Мы знайшлі спіс, дзе было прозвішча Зоі, і я павёў яе па калідорах усіх паверхаў, адчыняючы паасобныя аўдыторыі, у якіх правёў пяць год.

Пакінуўшы Зою на калідоры, я заглянуў у пакой прыёмнай камісіі, дзе былі адны сакратаркі, у амаль пустую прафесарскую гістфака.

Аднак я ўведаў, што экзамены будуць прымаць знаёмыя выкладчыкі гісторыі, толькі невядома, хто пойдзе ў Зоіну групу.

Зоя была ў захапленні ад будынка універсітэта, і калі мы выйшлі з яго на вуліцу, сашчапіла рукі на грудзях і, глыбока ўздыхнуўшы, сказала:

— Калі б я паступіла сюды!..

Наступныя два дні яна прасядзела ў маленькім пакойчыку маёй сястры Маі над праграмай па гісторыі для паступаючых у ВНУ і над падручнікамі, якія з сотні бакоў і ў розных аспектах разбіралі гэтую праграму. Я пытаў у яе, можа, ёй што незразумела, я б мог растлумачыць, але яна толькі крутнула галавой, сказаўшы, што ёй усё ясна, і працягвала ўдумліва працаваць над кнігай.

І — малайчына Зоя. От малайчына! Як я рад быў, калі яна атрымала на экзаменах тую запаветную пяцёрку, якая неабходна была ёй, каб паступіць на гістфак, не здаючы астатнія тры прадметы. Гэта быў і для мяне нейкі экзамен.

Не тое што рэпутацыя мая ў Залессі ўмацуецца, хоць і гэта нешта значыла ў цяперашнім маім жыцці. Перш за ўсё я — выкладчык гісторыі, і мае лепшыя вучні ідуць на гістфак і паступаюць. Значыць, я — выкладчык.

Ну, і рад быў за Зою. Мне хацелася ёй шчасця. Вялікага сапраўднага шчасця, на якое маюць права маладыя.

Здаўшы лісток у прыёмную камісію, мы пайшлі на гарадскі сквер, які быў амаль побач з універсітэтам.

— Усё, Зоя. Ты студэнтка,— сказаў я ёй, калі мы селі на адну з лавачак.

— Студэнтка. Скажы, ты рад, што я здала?

— Во пытаеш!

— Як ты рад?

— Ну, як і ўсякі чалавек. Не ведаеш, як людзі рады?

— Я не хачу такой радасці, як у людзей. Мне трэба свая і твая радасць. Ты ж ведаеш, што я цябе люблю. І ты мяне любіш. Я ведаю, што любіш. Толькі ў цябе ёсць фурыя, і ты яе баішся. І каб не гаварылі, баішся. Трус ты, Пеця.

— Адкуль ты ўзяла, Зоя, што я трус?

— А без сведак нельга? Я так думаю.

Скрозь густое лісце дрэў прабіваецца сонца. Па вуліцы праплывалі тралейбусы, мільгалі легкавыя машыны. Па дарожках сквера спяшаліся людзі.

— Цяпер, Пеця, можаш жаніцца.

— Чаму ты так гаворыш? Ты не любіш, Зоя, Ніну. За што?

— Ненавіджу.

— Яна добрая.

— Няпраўда. Яна была добрая, пакуль не прыехаў у школу ты. Як прыехаў ты, яна пачала мяне есці.

— Прыдзіралася?

— Захацеў чаго. Яна ела маю душу.

— Так ты думаеш?

— Гэта было. І, пакуль буду жыць, будзе. Ты жаніся сабе. Я не перашкоджу табе. Любіць можна і жанатага. Мне цяпер добра будзе жыць. Я буду вучыцца. Убачыш, як я буду вучыцца!

Два дні, акрамя ночы, мы былі з Зояй разам. Аб'ез-

дзілі на тралейбусах, трамваях і аўтобусах Мінск, пахадзілі па магазінах, наведалі цырк і музей.

Ні ў кіно, ні ў тэатр не хадзілі. Зоя сказала, што яна паспее пабыць у іх зімой.

— Я не буду настаўніцай, Пеця,— сказала яна мне, калі мы выходзілі з музея.— Зраблю ўсё, каб адразу ўзялі ў аспірантуру. Пайду ў Акадэмію, у Інстытут гісторыі, раскопкі буду рабіць, буду разгадваць старадаўняе пісьмо.

— Чаму табе школа не падабаецца?

— Зусім няма сярод настаўнікаў добрых людзей. Не.

— А Васіль Мікітавіч?

— Адзін.

— А Жывуцкія?

— Ферма.

— А калі трэба?

— Тады, як мая мама: у даяркі.

— А што б ты мне параіла?

— Вучаніца свайму настаўніку? Добра. Будзеш царом.

— Царом я не буду...

— А над Нінкай? А тады над каровай, над свінёй, над курамі. Над хатай сваёй, над стопкай. Над пуняй. Над гародам. О, якое вялікае царства!

— Ясі, Зоя, як шашаль дрэва. Малюеш маю перспектыву. Рэж мяне, рэж. Маж маслам і еж. Знішчай, як сказаў бы Райкін.

— Пазавеш на хрэсьбіны Жукоў, Аладку, Розума, Капача. Во будзе канпанія, як кажа мая мама. Данілу Гаўрылавіча, фізкультурніка нашага. А ад яго — цыбуляй, часнаком, дзёгцем нейкім, сабачынай. За кіламетр не падысці. Во будзе выкручвацъ, выламвацца, як нап'ецца. Уй, а як яны гавораць? Ніводнага слова не скажуць правільна. Ні па-руску, ні па-беларуску. Ты разумееш, дзе ты? З кім?

— Ты шукаеш, Зоя, эліты. Няма яе ў прыродзе.

— Ёсць.

— Няма. Трэба самому быць толькі добраму, набліжацца нейкім чынам да гэтай эліты.

— Сярод смецця?

— Хаця б і так. Золата, кажуць, і ў смецці блішчыць.

— Устарэла. У вялікай кучы смецця золата век ніхто не заўважыць.

— Я забыў табе сказаць. А Дубовікі? І ён, і яна. Васіль Іванавіч і Марына Лявонаўна. Цудоўныя людзі! Спецыялісты, ведаюць сваю справу. Карэктныя, справядлівыя. А дзеці іх? Валерык і Света. Якія ў іх чыстыя вочы!

— Васіль Іванавіч боты надзене, а жонка — пінжак мужчынскі.

— Форме вопраткі я наогул не прыдаю значэння. Абы яна была па свайму класу, так сказаць, на ўзроўні. Вазьмі, як апранаўся Леў Талстой, Хемінгуэй. Проста.

— Няважна. Чэхаў сказаў: у чалавеку ўсё павінна быць прыгожым: і душа, і твар, і вопратка. Да таго ж, і Талстой і Хемінгуэй, як былі маладыя, апраналіся як людзі. Моднічаць сваёй абыякавасцю да вопраткі яны сталі пасля, калі сталі вядомымі. Так заўсёды бывае.

— Дык, па-твойму, прастата — таксама мода?

— У вопратцы — канешне.

— Вот чаго не ведаў, і не згаджуся: што Талстой моднічаў.

— Чаму адзін Талстой? І Хемінгуэй. Многія. А Бальзак з залатымі гузікамі і папірачкай з залатым набалдашнікам? Хто чым. Адзін — багаццем, другі — убоствам.

— Зоя, ты косіш мяне. Пад корань.

— Навошта мне цябе касіць? Ты сам завянеш. На корані.

— Ну і ну. З чаго б гэта?

— З Нінай жыцця не ўбачыш. Якая яна!

— Зноў Ніна.

— Гэта не абы-што. Паступай у аспірантуру. Прымуць. Толькі экзамен здай. Я ведаю, што здасі. У цябе

ў Мінску кватэра, бацькі. Хаця, казалі, ты завучам будзеш. Рад?

— Што ты, Зоя. Так нехта ўзнёс. Гаворкі нідзе ніякай не было.

— Ідзе гаворка. Людзі не выдумаюць. Прызнайся: рад? На ўрокі да настаўнікаў будзеш хадзіць, як Розум. Жураўля будзеш у вучнёўскія сшыткі запускаць — што ён там напісаў, як. На лінейках будзеш прамовы нейкія піхаць.

— У начальства мяне не цягнула і не пацягне, мусіць.

— А калі пацягнуць? За вушы?

— Не. Я настойлівы.

— А я якая?

— Настойлівая.

— Няпраўда. Калі б я была настойлівая!.. Я сама ведаю, што мне нечага не хапае.

— Не прыбядняйся, Зоя. Ты — натура моцная.

— Не люблю слова «натура». Камяк гліны? Бервяно?

— Я ў сэнсе характару.

— Усё роўна не люблю. Натурлівыя коні бываюць. Дзеці. Ты бачыш мяне няправільна. З крывога боку.

— Можа.

— Чаму так выходзіць? Людзі пра цябе думаюць адно, ты — другое.

Калі аўтобус, на якім паехала Зоя дадому, схаваўся за вуглом вялікага, на цэлы квартал, дома, мне здалося, што ў горадзе зрабілася зусім ціха.

І цішыня гэтая цікавала мяне, пакуль я не паехаў з Мінска. Цікавала дома, калі я заставаўся адзін (бацька — на рабоце, а маці ішла па гаспадарскіх справах на рынак або ў магазін), цікавала, калі ішоў па людных вуліцах або ехаў у тралейбусе, цікавала ў кіназалах і ў тэатрах, цікавала на скверах, на возеры, куды спрабаваў ездзіць пакупацца і пазагараць, уночы ў пасцелі.

Я ўвесь час чуйна прыслухоўваўся, шукаў вачыма, чакаў нечага.

Чаго?

То раптам мне здавалася, што нехта за мной сочыць, свідруе сваімі зенкамі мне патыліцу, каб дабрацца да маіх думак, то ўзнікаў у галаве вобраз Ніны, і я спахопліваўся, пачынаў азірацца кругом, ці сапраўды няма дзе яе тут.

— Ты яе, сынок, любіш? — заўважыла маці маю, нават незразумелую мне самому, скруху.

— Не, мама. Што ты! Хто табе сказаў? У мяне ёсць дзеўка. Настаўніца. Разам са мной настаўнічае. Нінай завецца.

— Дзе яна?

— Паехала да бацькоў. У Мозыр.

— Чаму ты нам паказаць не прывёз яе?

— Я з брыгадай застаўся, а яна дамоў паехала.

— Гэтую ж ты прывёз?

— Яна вучаніца, нічога яшчэ ў горадзе не ведае.

Маці не паверыла мне. Я ўбачыў, што не паверыла.

А я і сам не ведаў: было ў мяне што-небудзь глыбокае да Зоі або не было? Не ведаў, ну і ўсё. Я толькі ведаў, што калі я ішоў на ўрок у адзінаццаты «А», дзе займалася Зоя, мне рабілася нечага боязна, і я вельмі нечага асцерагаўся. Чаго асцерагаўся, я і сам не адказаў бы, але асцерагаўся. Гэта я добра ведаў.

Зараз — гэтае самае яе прызнанне. Зусім як у рамане. Добра, што я ёй нічога не паабяцаў. Бываюць людзі з нейкім дзівацтвам, але чаму і ў маёй душы штосьці здрыганулася?

Не, яна гэта заўважыла. Я пачынаю верыць, што разумець адзін аднаго людзі могуць без слоў.

## 25

Мы вярталіся з Нінай з трохтыднёвага падарожжа па Чарнамор'і.

У Мінску, у маіх бацькоў, нас сустрэлі слёзы. Плака-

ла мама. Плакала і ледзь трымалася на нагах баба, якую мы і не думалі сустрэць тут, у Мінску.

Памёр дзед. А мы з Нінай нічога не ведалі, бо нашы не ведалі, дзе мы, каб паведаміць нам аб яго смерці тэлеграмай, выклікаць нас на яго пахаванне.

Не маглі ўтрымацца і мы з Нінай, хоць я мужчына, а Ніна, здавалася б, чужая. Такая бяда, такое гора!

Мая была ў доме адпачынку на Нарачы і не бачыла агульнай нашай скрухі. Але яна была на дзедавым пахаванні ў Быччы і перажыла, мусіць, не меней, чым перажывалі зараз мы.

Крыху разважыў нас і падняў наш настрой, вярнуўшыся ўвечары з работы, бацька.

— Што ў яго было, тата? — запытаў я пра дзеда.

— Нічога ў яго не было. Памёр раптоўна. Хадзіў, працаваў, ні на што ніколі не крыўдаваў, не войкаў. Я думаю, ці кровазліццё ў мазгі ці сэрца.

— Не ўскрывалі?

— Навошта? Стары чалавек. Памёр сваёй смерцю. Каб мы хаця пажылі столькі.

— Колькі яму было?

— Семдзесят дзевяць.

Я падумаў: бацьку, можа, і лягчэй, дзед яму, як ні кажы, толькі цесць. Разважаць лягчэй, чым самому цярпець гора. Для нас дзед — мамы, бабы, мяне — частка нас саміх. Я толькі зараз па-сапраўднаму зразумеў, што вайну перажыў я іменна ў дзеда. Ён мяне карміў, апранаў і абуваў, як мог, настаўляў на розум. І яго няма. І ніколі больш не будзе, і я яго не ўбачу.

І яшчэ я зразумеў, што і бабы, можна сказаць, няма ўжо ў мяне, чаму так зайздросціла ў маім лёсе Ніна. Фізічна яна яшчэ лічыцца жывой. Але што яна без дзеда! Без шырокага дзедавага двара, па якім хадзілі куры. Без пуні, у якой стаяла карова і рохкаў кабан. Без вялікіх сянец, застаўленых кадзямі, дзежкамі, ліпавачкамі, скрынямі. Без дзедавага садка, гарода, пчол, без град,

якія трэба было цэлае лета палоць і даглядаць. Што баба без вясковага прастору і сваёй гаспадаркі!

Яна яшчэ жыве, але так, як палявая кветка, перасаджаная ў хатні чарапок. Чым яна цяпер пачастуе, калі да яе наведаецца хто-небудзь з радні? У яе былі свае яечкі, масла, сыркі, густое малако, смятана, кіслыя гуркі, квашаная капуста, мочаныя і сушаныя яблыкі, мёд. Пра што яна будзе гаварыць з ім?

— Усё прадалі. Усю гаспадарку,— гаворыць бацька.

— А навошта яно мне? Мне ўжо многа не жыць. Здароўя няма,— згаджаецца з тым, што зрабілі, баба, прылёгшы бокам на руку на Маіным ложку.

Мы ўсе сядзім за круглым сталом, які стаіць пасярэдзіне пакоя,— мама, тата, Ніна, я.

— Заказаў нагробію і абгародку. Абгародку — на дваіх. Мама хоча пахавацца побач з татам,— гаворыць тата пра дзеда і бабу.— Хай будзе агульная абгародка.

— Як памру, мяне хавайце побач з бацькам. У Быччы,— дае наказ баба, паўтараючы яго, як я зразумеў, ужо не першы раз.

Проста ўсё выходзіць: гавораць пра смерць як пра якое перасяленне або пераезд на новую кватэру.

— Ложак маме новы трэба купіць. Прыедзе Мая, не будзе дзе спаць,— працягвае бацька свае гаспадарчыя разлікі.— Во тут паставім,— ён паказвае паўз сцяну, дзе стане бабін ложак.

Мы ехалі ў Залессе з Нінай не ў настроі. Мы збіраліся наведаць дзеда з бабай у Быччы, і іх не наведаем. Ніколі. Бычча стала для мяне чужым, як і не быў я там ніколі, як і не было там у мяне ніякай радні. Смерць дзеда абарвала тую нябачную нітку, якая звязвала мяне з ім.

Цётка Хадора, пачуўшы, што памёр мой дзед, некалькі дзён не пераставала бедаваць, недаўменна ставячы перада мной і перад сабой пытанне, з чаго б гэта ён, хоць я і сказаў ёй, што памёр дзед раптоўна.

А пра бабу заключыла:

— Не дай бог заставацца ўдавой,— быццам бабе трэба было пражыць яшчэ адно жыццё, толькі ўжо адной, незамужняй.

* * *

Не спіцца і не ляжыцца мне. То ўстаю, сяджу на ложку, то хаджу ціхенька, каб не чула цётка Хадора, па хаце, то іду на двор, быццам маю ў гэтым неадольную патрэбу. Тады цётка Хадора «засякае» мяне на яе палавіне хаты, дзе яны спяць з гаспадаром дзядзькам Есіпам, і гаворыць:

— Гора, Пецечка, вялікае гора. І я во не сплю. Чую, як ты мардуешся. Не перанесці і не пеpaжыць. Каб закапаць у зямлю чалавека. Ой-ёй-ёй! — пачынае яна цягнуць свой голас.

Яна, цётка Хадора, становіцца мне яшчэ бліжэйшай, нейкай, я б сказаў, зусім-зусім роднай, як маці, або сястра, або як баба, хоць цеплыню яе душы і ласку я паспеў даўно ўжо адчуць, жывучы ў яе на кватэры. Ёсць людзі такія вось, надта чалавечныя.

Гаспадар не ўмешваецца ў нашу гаворку. Мы гаворым упацёмку, не ўключаючы святло. Цётка Хадора пачынае ўсхліпваць, плача. Я нібы бачу, як яна далонямі рук выцірае на шчоках слёзы.

Мне становіцца нядобра, нешта сціскае горла, як якімі абцугамі, і я не магу ўтрымацца — з вачэй маіх пацяклі слёзы. Не хачу гаварыць, каб не пачула цётка Хадора, што я плачу. Голас мой выдасць мяне. Іду ў свой пакой і зачыняюся ў ім.

А думы плывуць і плывуць, і канца ім няма, як няма канца хмарам у глыбокую нудную восень.

Колькі дум можа прапусціць цераз сябе чалавечая галава! Калі б можна было іх зважыць! Або змераць, расцягнуўшы ў адзін ланцужок.

Толькі зараз, пасля яго смерці, я па-сапраўднаму зразумеў, кім быў і застаўся для мяне мой дзед. Губляць роднага — губляць нейкую частку самога сябе. Было яно ў душы — і раптам няма. Гэта не рука, не нага, не вока і не вуха, яго не памацаеш, але адчуваеш, што няма. І яшчэ страшней становіцца, калі даходзіш да розуму, што і не будзе. Звонку, для другіх, быццам ты такі самы, як і быў, а ў душы тваёй (гэта адчуваеш толькі ты сам) нешта зрушылася, утварылася якоесьці пустое месца.

Зорка гарыць-гарыць, міргае-міргае людзям, а тады пакоціцца па небу, выпіша свой незвычайны пасак і патухае. Ці не гэтак і з чалавекам? Далёкая, халодная, мы да яе не дакраналіся, нічога, можна сказаць, аб ёй не ведаем, а шкада. Чалавека тым больш.

Няпраўда, зоркі не падаюць. Падаюць і згараюць у атмасферы метэарыты. Засталася ў народзе такая метафара: падаюць зоркі.

Думкі і душа мая зноў вяртаюцца ў маленства, у тыя гады, калі я жыў у дзеда або прыязджаў з горада на вучнёўскія ці студэнцкія канікулы.

...Мне ніколі не даводзілася бачыць, калі дзед уставаў. Калі лажыўся — бачыў. А калі ўставаў — не, не бачыў. Рана падымаўся і ўвесь дзень што-небудзь рабіў. Баба лажылася днём трошкі адпачыць, дзед — не. Нібы яму было лягчэй жыць вось так, заведзенаму з рання і да вечара.

Я з цікавасцю любіў назіраць за любой яго работай.

Паўз стопку ляжала доўгая, уся здзяўбаная і ў насечках дубовая калода. Дзед заганяе ў яе бабку — маленькую накавальнечку на вострай ножцы — і пачынае кляпаць касу. Ён вывязаў яе з касся, сеў на калодку, як садзяцца верхам на каня, і клепіць. Малаток-клявец рытмічна, некалькі раз у секунду, пачынае, як на спружыне, падскокваць угору — уніз, угору — уніз, і разня-

сецца ў наўколлі так-так-так-так, песня з песень, з якой наўрад ці зможа паспрачацца птушыны кароль салавей. І так доўга будзе чуцен яе звон, пакуль нястомны і мудры клявец не адцягне джала касы ад пяткі і да наска. Я доўга не мог зразумець, як у дзеда не млела рука і як ён на такой хуткасці пападаў кончыкам малатка іменна туды, куды трэба было.

У дзеда не адна каса была. На мяккія нізінныя травы — васьміручка, на сухадольную сенажаць, асабліва дзе прыкідаецца драцяной цвёрдасці сівец,— карацейшая коска, шасціручка ці пяціручка якая-небудзь, затое з больш высокім звонам, гэта значыць мацнейшай загартоўкі, чым васьміручка. Бульбоўнік касіць — стары зрэзак, які і трымаўся толькі тоўстым кружком. Вядома, бульба расце на раллі. Які гаспадар будзе тыкаць добрай касой у пясок? Асобная была каса касіць грэчку. Не кароткая, не новая, тонкая ў палатне, з лучком (дужкай такой драўлянай, пераплеценай аборачнай сеткай). Лучок адным канцом трымаўся за кассё, а другім упіраўся ў прут касы.

На вышках у пуні ляжала ў яго старая-старая, як мне здалося — вельмі старая, сталюга. Дзед здымаў яе, як я памятаю, адзін раз, калі рабіў сабе крыць хату гонты. Кожную гонціну, выкаланую з асінавага або ялова-га гарбуля, мала апрацаваць тапаром. Трэба выстругаць. Дзед садзіўся на сталюгу, адціскаў «галаву» яе назад, клаў пад адзін бок гонціну, тады націскаў нагой на понаж (у наш час сказалі б «педаль»), заціскаючы яе намёртва, тады стругаў яе стругам. А які востры быў у яго струг!

Калі гонтаў было нароблена (некалькі тысяч!) і хата была накрыта, сталюга зноў вярнулася на сваё месца, хоць вядома было, у тым ліку і самому дзеду, што дах з такіх гонтаў прастаіць не менш сарака гадоў, колькі наўрад ці давядзецца пражыць самому гаспадару.

Накрыўшы пасля вайны хату і сенцы гонтамі, дзед

не пражыў столькі. І пражыць не мог! Людзі не з каменя, а маюць свой век, хоць і камень з цягам часу пад дажджамі і сонцам трушчыцца. І ўсё ж, здаецца мне, дзед са сваімі прыладамі і інструментамі адчуваў сябе на зямлі бессмяротным. Іначай навошта б была яму зямля, ён — зямлі? Навошта б нараджаўся чалавек?

Іначай навошта б было так шчыраваць у рабоце, так выслíжваць, выстручваць, даводзіць? Клёпка да клёпкі падганяецца на спуск, каб не свіцілася паміж імі і вада не працякала.

І ператвараў ён дрэва ў посуд, здавалася б, з уласцівай толькі яму адданасцю. Скабёлкі, цёслы, якімі выбіраюць начоўкі, стругі, пілкі трымаліся ў такім стане і гатоўнасці, што без якога-небудзь асобнага напружання выконвалі задуму свайго гаспадара. Дакранешся пальцамі да такой толькі што зробленай пасудзіны, або нават вокам глянеш, і адчуваеш: люба, нібы ты глянуў ці дакрануўся да гладкага аркуша белай паперы.

Асобнае месца на «гары» хаты займалі прылады пчалярства. Накрыты векам лубяны «ўскрой», у які дзед клаў пасценкі мёду, калі падглядаў пчол. На поясе крокви вісела акуратна складзеная каўбаскамі плецъ — доўгая, плоская, сплеценая з трох вяровак вяроўка, на якой падглядалі пчол у лесе на дрэве. Дома ў дзеда стаяла ў садку толькі двое пчол. Са трое было ў лесе. Лясная пчала мае большую волю. Ляціць куды хоча. Бярэ мёд, з чаго ёй зручней. Там і верас, там і ліпа, там і розныя кветкі. І крушына, і цярэмшына, і рабіна, і клён. А калі зацвіце на полі грэчка, пчала і на грэчку ляціць. Лес ёй у лёце не перашкаджае.

«На гары» ў дзеда ляжала і дзіўна вялікае кола. Драўлянае, без ніякай акоўкі, але са спіцамі, з трубкай, якая надзяецца на вось.

— Вуллі на дрэва цягаць,— сказаў дзед і растлумачыў мне, як недзе высока на дрэве круцілі надзетае на сук кола, а на яго трубку намотвалася памаленьку «лі-

па», на якой падымаўся ўгору вулей (дзед казаў «вуль»). Там для яго было ўжо падрыхтавана месца: два ўбітыя ў дрэва растапыркай даўбяжы і кароткая шырокая дошка на іх.

Рамкавых вулляў дзед не прызнаваў. І мёд, выкачаны з рамак, не лічыў за мёд.

— Тут я бачу, у маім вуллі, як цягнуць пчолы валішчыну, які ў якой мёд, буры, чарнейшы, светлы або ліпавы, беленькі, як сама ліпа. Бачу, што падрэзаць, а што пакінуць на зіму. Памірае пчаліная сям'я больш за ўсё ад чаго?

Вуллі — калоды дзед рабіў сам. Асабліва інструментаў тут і не трэба было. Сякера, пешня, долаты, невялічкая скобля, ну і праца, праца, праца. Ляток для пчол дзед называў «вокам». Сукаватая жэрдка, па якой ён лез на «стоіла» (дрэва, на якім стаялі вуллі), называлася ў яго «астроў».

Араў і баранаваў гарод толькі босы. Штаны закасае невысока, амаль да калень. Закаскі далёка свяціліся белымі споднікамі. Баразну прагоніць роўненька, як пад лінейку. Я спрабаваў араць ужо ў даволі сталым узросце. Так у мяне не атрымлівалася. Плуг нырне то глыбей, то выслізнецца амаль на паверхню, убок чорт ведае чаго матнецца. Моц у руках ці ўменне адчуваць зямлю? Што тут такое?

Аднойчы мы абганялі бульбу. Запрэглі каня ў акучнік. Дзед закасаў ужо свае штаны, агаліўшы амаль да калень лыткі. Я, як па якой камандзе, верхнюю сарочку з сябе, штаны — таксама і, застаўшыся ў трусах і майцы, узяў за повад каня, каб вадзіць яго па барознах.

— Ты што? — уставіўся на мяне вачыма дзед.— Голы? Так ты можаш купацца на рэчцы, загараць.

Я зноў апрануўся. Навошта выстаўляцца? Ды і чым? Ва ўсім трэба быць разумным і прыстойным. Так я, ва ўсякім разе, зразумеў дзеда.

Запрагаць і адпрагаць каня я навучыўся ў дзеда.

Хамут, супоня, хамуціна, клешчы, гужы, дуга, сядзёлка, церассядзельнік, падбрушнік, падгузы, аброць, лейцы, атосы... Усе гэтыя словы прыйшлі ў мой лексікон ад яго, дзеда.

Прычым, апрацоўваючы гарод, бачыў я, дзед імкнуўся, каб не засталося ніводнага кавалачка зямлі, не закранутага плугам ці бараной. Не даставаў плуг ці барана — прыходзілі на дапамогу рыдлёўка або капаніца, як ён называў матыку.

Скваплнасць? Не. Дзед не быў скупы. Жаданне працаваць чыста, без браку. Мне здаецца, калі б яго дзяцінства, маладосць перанесці ў наш час, з яго выйшаў бы чалавек, пра якога гавораць: ён на сваім месцы. Мне так і думаецца: дзед быў на сваім месцы. Жыццё такіх людзей запоўнена вялікім духоўным сэнсам.

Што ж гэта я: дзе ўвесь яго такі багаты інструмент? Каму бацька аддаў яго? Няўжо занядбаў ім, прадаўшы хату з усім яе панадворкам і з тым, што было на гэтым панадворку?

Во, праўда: была ў дзеда яшчэ адна прылада працы. Называлася яна «сахары». Зараз, у наш час, гной накопваюць жалезнымі віламі — чатырохрожкамі, трохрожкамі. А быў час, калі капалі гной сахарамі — драўлянымі двухрожкамі з жалезнымі наканечнікамі. Я пачаў думаць, шукаць: адкуль такая назва? Знайшоў адказ. Сахар — адростак, тое, што тырчыць. Вось вам і сахары. Ад гэтага ж кораня і слова «саха». І адсюль «сахаты» (лось з рагамі; гэта значыць рагаты).

Школьны мой музей, які ў мяне ў задуме, не блага мог бы папоўніцца дзедавымі экспанатамі.

Дзядзька Есіп, у якога я жыву, у нечым падобны да дзеда. Тым не менш, не хаваю: побач ставіць мне іх не хочацца. Актыўнасць не тая. Дыяпазон не той. Вось таму і не хочацца. Гэта мая ўласная думка.

Захавалася фатаграфія часоў грамадзянскай вайны: дзед у абмотках, з вінтоўкай на плячы, з чырвонаармей-

скай зоркай на пакамечанай шапцы-казырку. Я закрываю вочы, хоць у хаце і так цёмна, ноч, і бачу дзеда-салдата, з вінтоўкай на плячы, які шырока крочыць кудысьці ўдаль. Я адкрыю вочы. Я разумею, што гэта мроіва. І ўсё ж мне прыемна глядзець на дзеда-салдата, хай гэта нават мроіва. Дзед усё жыццё, здаецца мне, быў салдатам і памёр ім. Яго мылі дажджы, збівалі з ног вятры, ціснулі марозы, засцілі неба хмары, білі над галавой перуны, а ён ішоў. Ён быў салдат, не меў ніякіх правоў крыўдаваць на свой лёс, і ён ішоў.

Э-э-э, каб толькі свая работа, пра якую тут гаварылася! Свая работа для яго была так сабе, між іншым, каб толькі збавіць час пасля асноўнай работы — работы ў калгасе.

Што ж, цётка Хадора, можа і праўда, што патрэбна свая хата, свой гарод, свой невялічкі садок?

...Горад чысты. Увесь снег растаў і падсохла. На скверах і вуліцах павесялелі дрэвы, цягнучыся сукамі ў чыстае блакітнае сонечнае неба.

Дома я гавару маме:

— Мама, з'езджу да дзеда. Як ты думаеш?

— Хочацца?

— Дужа.

— Грошы ведаеш дзе,— адказвае мама, дазваляючы мне з'ездзіць у Бычча.

Гарадскі тралейбус, міжгародны аўтобус, і гадзіны праз дзве я высаджваюся на ўзбочыне шашы.

Кругом лес. Паваротка ў блізкую мне вёску.

Ехаць было прыемна, а тут, у лесе, яшчэ больш радасна. Вясна, вядома. Святлейшай зрабіласяігліца на елках, соснах. Асабліва на соснах. Паветра з кіславатым пахам, дыхаць лёгка. Ціўкаюць дробныя птушкі.

Іду паціху, не спяшаюся. Прыемна ступаць чаравікамі на зямлю, якая нядаўна вызвалілася з-пад снегу. Відаць на ёй кожны каменьчык, кожная выпадковая тут, на дарозе, галінка, нават сянінка.

У сумцы-партфелі ў мяне ніякай такой паклажы — кілаграмы са два селядцоў. У дзяціных ласунках дзед не меў патрэбы, яды хапала сваёй, а селядцы любіў і заказваў мне іх, каб прывёз, калі ў наступны раз буду ехаць да яго.

Сонца было ўжо на апошняй чвэрці свайго паўкруга, асабліва добра гэта было відаць, калі я выйшаў на поле, тым не менш жаўранкі з вышыні сыпалі і сыпалі на не зусім яшчэ ўгрэтую зямлю медзь сваіх галасоў. Азіміна, заўважыў я, пачала ўжо з карэньчыкаў зелянець.

Дзед быў дома. Сядзеў на лаўцы за сталом, у руках трымаў нажніцы, а на стале перад ім стаяла люстэрка. Я зразумеў: дзед толькі што прыйшоў з лазні (лоб, нос, шчокі яго былі чырвоныя) і падстрыгае сабе бараду і вусы. Як і валасы на галаве, яны былі ад вялікага дамешку сівізны шэрыя.

— Дзе баба? — запытаў я, бачачы, што ў хаце няма яе.

— Сабе пайшла мыцца,— адказаў дзед, ложачы на стол нажніцы і пераварачваючы люстэрка тылам угору.

— А-а, сягоння субота,— сказаў я і глядзеў на дзеда.

— Сыбота, сыбота,— паўтарыў дзед, гаворачы замест «субота» «сыбота».

Паўз перакавую сцяну лаўку дзед выкінуў, паставіўшы за стол самаробную кушэтку, паўз падоўжную — пакінуў. «Хай,— гаварыў ён.— Тая выгода. Шырокая, гладкая, моцная». Так, праўда: як выліты, асінавы плашчак.

Неўзабаве прыйшла з лазні баба.

— Як вы там? — было першае яе пытанне.

— Усё добра. І бацька, і маці, і Мая. І я во, як бачыш, баба.

— Дзякуй богу, што ўсе здаровенькія. Я адно кажу.

І яна пачала часаць свае, ужо даволі рэдзенькія, валасы, апранацца як след, не так, як у лазні, і тое-сёе рабіць па гаспадарцы.

За вячэрай дзед удакладняў цераз мяне, нібы там, у Мінску, былі якіясь непоўналетнія яго ўтрыманцы:

— Бульба яшчэ ёсць ці паелі ўжо? А то на машыне прыехалі б ды забралі,— быццам бульба гэтая яму ў стопцы замінала.

— Не ведаю. Ёсць яшчэ, мусіць.

— А капуста?

Потым: гуркі, цыбуля, часнок, мёд, журавіны, мочаныя слівы. Дзедава гаспадарка была падсобнай нашай гаспадаркай. Калі мы часамі ад чаго-небудзь дзедавага адмаўляліся, ён гаварыў: «Што я прадаваць яго павязу?»

— Бульбу бяры. Свежанькая, цёплая. Сопкая. Каўбух толькі што пачалі. Пахне, смачна. Малако густое. Свежае во ў гладышыку. Сам налівай. Сваё ўсё, вядомае,— настаўляў мяне дзед, што і як есці.

Што гэта? Сон? Сон. Я быў у гасцях у дзеда, у Быччы. Ды як жа выразна бачыў дзеда! Дзед мой, дзед. Чаму ты так блізка стаіш каля мяне? Бацька мой, здаецца, стаіць далей, чым ты, ад мяне? Чаму? Не ведаю. Не ведаю!

На чым абарвалася мая думка? На сваёй хаце. Так, на сваёй хаце. Дзедава хата была для мяне сваёй хатай. Сваім домам. Я жыў недзе на свеце, а адчуваў дзедаву хату ў Быччы, быў звязаны з ёй якімісь нябачнымі ніткамі. Можа, гэта і ёсць тое, што называецца адным кароткім словам: радзіма?

## 26

Вось і скончылася мая аповесць.

Не, аповесць не скончылася. Скончыўся год працы ў Залессі. Паслязаўтра — пачатак новага навучальнага года. Першае верасня! Свята. Не спазніцца б. Урэшце, самае галоўнае для чалавека — праца.

Я ўстаў з валуна і яшчэ раз агледзеў наўколле.

Злева стаялі вялікія торпы саломы. Поле ж, на якім яны стаялі, было ўзарана трактарам.

Справа сеялі азіміну — трактар цягаў у шчэпе аж тры сеялкі.

Бывай, Бычча!

Мне яшчэ трэба прайсці кіламетры чатыры да шашы, там сесці на якую машыну. Да вечара, можа, і буду ў Залессі. Буду, бясспрэчна. Цяпер машыны ходзяць. Самы іх сезон.

Дырэктар не паверыць, што я за дзень з'ездзіў у сваё Бычча. Так атрымалася. Бывае так: гляне чалавек адным вокам, як я на магілу дзеда, і хопіць. Ці ж я яго падыму?

## ЗМЕСТ

**Ермаловіч Я.**

Е 72 След на зямлі. Аповесці. Мн., «Маст. літ.», 1977.

256 с.

Пісьменнік Якуб Ермаловіч доўгі час настаўнічаў у сельскай школе. Ён і зараз жыве ў вёсцы і не парывае сувязі з былымі калегамі. Таму зусім не выпадкова як «Зазімак», так і «Валуны» прысвечаны паказу рознабаковай дзейнасці і ўзаемаадносін людзей, якія выводзяць на светлы працяг жыцця сучасную моладзь.

Можна спадзявацца, што новая кніга пісьменніка знойдзе шырокага чытача.

Е $\frac{70303\text{-}069}{М\ 302(05)\text{-}77}$ 9-77 Бел 2

Яков Сидорович Ермалович

СЛЕД НА ЗЕМЛЕ

На белорусском языке

Рэдактар Я. І. Курто. Мастак А. Г. Званароў. Мастацкі рэдактар А. І. Труханава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Л. С. Мануленка.

ИБ № 6

АТ 10561. Здадзена ў набор 24/VIII 1976 г. Падп. да друку 21/II 1977 г. Тыраж 14 000 экз. Фармат $70 \times 108^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 11,2. Ул.-выд. арк. 11,88. Зак. 3548. Цана 94 кап. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4.
Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.